Вітаўтас Місявічус



# МЯДЗВЕДЖАЯ АКАДЭМІЯ



**РАМАН**

*Пераклаў з літоўскай Міхаіл Грынблат*

**МІНСК**
**«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»**
**1988**

ББК 84 Ли 7
М 65

Пераклад зроблены з выдання:
Misevičius V. Čičinskas Mešku Akademija
Kryžinočio Kapas Apysakos. Romanas.—
Vilnius: Vaga, 1978.— 254 c.

Рэцэнзент і аўтар пасляслоўя
кандыдат філалагічных навук
АДАМ МАЛЬДЗІС

Роман «Медвежья академия» известного литовского писателя В. Мисявичюса (род. в 1924 г.) вызывает особенный интерес среди белорусских читателей. События происходят в Белоруссии в XVIII веке (Сморгонь, Несвиж). Роман написан в стиле традиций европейской приключенческой прозы — здесь и невероятные события, и семейные тайны, и совсем неожиданная развязка.

М $\frac{4702360200-091}{М\ 302(03)-88}$ 143—88

ISBN 5-340-00143-1

# Хроніка аднаго дня

Анёл быў зусім маладзенькі, ружовашчокі, з пазалочанымі крыламі белага лебедзя. Сваімі далікатнымі выпешчанымі пальчыкамі ён схапіў пурпурную шаўковую стужку, што звісала з неба, і, упёршыся ружаватымі, пухлымі, як у дзіцяці, нагамі ў пышнае разнатраўе лугу, аж прысядаючы, пачаў раз-пораз торгаць яе. Лёгкі ветрык надзімаў кашульку анёлка, як блакітны ветразь, агаляў і прыемна студзіў яго ножкі. Неўзабаве там, высока, у нябесным царстве, пачуўся мілагучны райскі звон.

Анёлак так разышоўся, што разгойдваў звон ужо з усяе сілы, аж лобік яго спацеў. А срэбны звон, нібы ад дарагога крышталю, чуўся высока ў небе. Удары яго то плылі па зямлі, то ізноў, узняўшыся ўгору, калыхалі купал неба... Але скора анёл стаміўся, ротам пачаў глытаць паветра, а пот буйнымі жамчужынамі пакаціўся па яго ружовых, як райскія яблыкі, шчоках. Знямоожаны, ён жаласна зірнуў на мяне. Я заўважыў, што яго вочкі, колеру нябеснага блакіту, такія самыя, як у ласкавай панны Зосі з Варніне.

Маўклівая просьба кранула мяне. Я адштурхнуўся ад зямлі, узняўся ў паветра і, як птушка, зграбна залунаў да яго на помач. Але анёлак з цнатліва-чыстым тварам нечага напалохаўся. Ён знянацку выпусціў з рук шаўковую стужку нябеснага звона, і яго голыя чырванаватыя ножкі паспешна мільганулі над палямі.

Звон аціх. Мяне бязлітасна схапілі за каўнер учэпістыя жалезныя пальцы, балюча сціснулі плечы і пачалі трэсці, як грушу.

Звон перастаў гудзець, заглушаны рэзкім, пранізлівым голасам:

— О неба! О ўсявышні!

Я млява прадраў зліплыя ад сну вейкі, страсянуўся, як сабака пасля купання. Ачомаўшыся, ускочыў як апараны: перада мною стаяла мая пані матуля. Непадалёку ў драўлянай званіцы ў касцёле ў Варніне сціхалі апошнія ўдары звона. Пад ранішнім сонцам выпаралася раса, падымалася ўгору і ўтварала вільготны празрысты туман.

Пакуль я атрэсваў сена з галавы і плеч, маці падбегла да растрыбушанага стога і нема закрычала:

— А каб цябе цмок праглынуў, бессаромнік! О святы мучанік, заступнік Фларыян! Вось так ты пасвіў уночы авечкі, мой пане сыне!

У мяне запалалі вушы: маці выцягнула з сена ружовую хусцінку — такую насіла ў Варніне толькі ласкавая панна Зося, пляменніца ксяндза-пробашча... Поруч з паважнай маці стаяў крывы Ёзапатас, адзіны наш слуга. Ён занадта ўжо засяроджана біў крэсівам па крэмені, раздзімаў трут, з якога паказаўся дымок, каб раскурыць сваю кароценькую, з клёну выдзеўбаную люльку. Краёчкі яго моцна сціснутых вуснаў падрыгвалі, а падбародак курчыўся, нібыта стрымліваючы смех...

Але не Ёзапатас быў цяпер у мяне ў галаве. Я праціраў свае вочы: дзе нашы авечкі? О багі бацькоў! Я скалануўся, нібыта абліў хто мяне сцюдзёнай вадой: замест авечак я ўбачыў толькі іх сляды ў стаптаным аўсе. Шырокаю сцежкаю сляды, пятляючы, цягнуліся ў пушчу, у пражэрлівай пашчы якой незваротна праваліліся, як на той свет, нашы кучаравенькія авечкі. Ля разварушанага стога маркотна тырчалі старая стрэльба і даўгая рагаціна — усё маё паляўнічае ўзбраенне. З ім у гэтую цёмную

ноч я павінен быў бараніць маіх бедных аслабелых авечак, да якіх панадзіліся ваўкі і цягалі іх, як кажуць, не выбіраючы.

На галаве ў матулі ваяўніча тырчаў жмут валасоў, сцягнуты моцным гусарскім вузлом. Яе зычны голас, як труба на страшным судзе, абуджаў, падымаў са сну ўзлахмачаных птушак, людзей і лясных звяроў.

Я ўжо памкнуўся разявіць рот, каб апраўдацца, але маці ні на хвіліну не сунімалася:

— Пане сыне Габрэлюсе! Ну, падыдзіце бліжэй. Не закрывайце твару. Не хавайце баязліва вачэй.

Засмучаны цяжкаю віною, атрасаючы з каптана нацярушанае сена, я нязграбна ступіў наперад. Тым часам Ёзапатас, пасмоктваючы сваю люльку, падняў мой зялёны суконны капялюш, мокры ад расы:

— Вазьміце свой капялюш, панічок, ён жа змок, бедны.

Я выцягнуў руку да капелюша, як да выратавальніка.

— Пане сыне! — паўтарыла маці, зусім не зважаючы на гэтую сцэну.

Насоўваючы на галаву мокры капялюш, я пачціва пакланіўся ёй.

— Слухаю, шаноўная.

Маці пагрозліва трасянула сваім гусарскім вузлом на галаве, са злосцю кінула вобземлю дзівосную хусцінку варнінеўскай Зосі:

— Пане сыне! Габрэлюс-неўдаль! У старых мудрых кнігах я чытала, што ў такой самай беднай удавы, як я, ваўкі пачалі хапаць авечак. Тады яна папрасіла ў суседзяў сабак, каб вострыя зубы абаранілі яе апошняе багацце. Але прагныя суседзі запрасілі за сабак такія грошы, што бедная ўдава мусіла б прадаць больш авечак, чым маглі б паесці паганыя ваўкі... Пачуўшы гэта, адна авечка са слязамі на ва-

чах сказала гаспадыні: «Лепш загінуць ад сапраўднага ворага, чым ад прадажніцкага абаронца».

Расказаўшы сваю сумную і павучальную прытчу, маці на хвіліну сціхла. Ёзапатас і далей заўзята пастукваў крэсівам так, што іскры ўзляталі амаль да самага неба.

Прыклаўшы руку да сэрца, прызнаюся: страта авечак для нас вялікае няшчасце... Мая пані мама нездарма звярнулася да святога Фларыяна, бо зарэзаныя ў гэтую ноч ваўкамі авечкі аказаліся той апошняй кропляй, якая перапоўніла чашу нашага сямейнага гора. Адно за адным няшчасці вялі да пагібелі нашага старога шляхецкага гнязда. Даўгі і галеча ўжо даўно прыціснулі горам, скрышылі наш род. Цяпер у нас засталіся толькі сядзіба, невялікі кавалак зямлі ды пахіленыя з прагнутымі стрэхамі будынкі, і яшчэ адзіны наш слуга Ёзапатас, які быў і аканомам, і майстрам на ўсе рукі. І жыў ён у нас толькі таму, што гэтага старога і крывога прыгоннага ўскінуць на сваю шыю не захацеў нават рандар, нехрысць барадаты Абрам Пёнсцер.

Не страцілі мы толькі свайго шляхецкага гонару... Laus Deo — дзякаваць богу, у касцёле ў нас яшчэ была сямейная лаўка з гербам. Нам кланяліся, зняўшы шапкі, з намі віталіся бязродныя мужыкі. Аднак, калі маці ступала на цвінтар, а ў яе над галавою Ёзапатас трымаў раскрыты чырвоны парасон, яны за нашымі спінамі кіслі ад смеху. Фыркаючы ў жменю, яны падміргвалі адзін аднаму: «Зірні! Басанож, але з шабляю...»

Іншыя прыгонныя былі намнога багацейшыя за нас, гаспадароў Варніне. У нашым убогім доме найбольшай раскошай лічылася толькі дашчэнту выцертае, цяжкае плюшавае крэсла з вышытым на спінцы родавым гербам. Але трэба было бачыць, як, змятаючы з яго пыл, матуля трымала высока ўзня-

тую галаву! Калі не лічыць заганы — дзе трэба і дзе не трэба крычаць на ўсё горла — мая маці была сапраўдная пані. Толькі я пачаў на глінянай падлозе рабіць свае першыя крокі, як яна ўзялася вучыць мяне вытанчаным манерам, элегантнасці, пачцівасці, прыдворным паводзінам і танцам. Не дазваляла інакш сябе зваць — толькі: «Пані мама!» Як вы ўжо заўважылі, да мяне яна звяртаецца: «Пане сыне» або «Пане сыне Габрэлюсе».

Так я ўсё абдумваў, слухаючы справядлівыя папрокі маці, ад адчаю і сораму кусаючы свае пазногці. Бедныя авечкі! Набіў порахам і шротам стрэльбу і ўжо дзве ночы пільнаваў драпежнікаў, што кралі авечак... А тым часам, нібы іх хто папярэдзіў,— яны і носа не вытыкалі з лесу... Сённяшняя ноч павінна была быць вырашальная і ўдачлівая... Паглядзець, як я буду распраўляцца з ваўкамі, да мяне на ўзлесак крадком прыйшла ласкавая панна Зося, пробашчава пляменніца. На досвітку яна пабегла дадому, а я раптам заснуў у стагу сена. А пакуль я сніў анёла з залацістымі крылцамі, што тузаў пурпурную шаўковую стужку і званіў нябесным звонам, лясныя разбойнікі не пакінулі ніводнай авечкі. «Без штук лесуна і д'ябла тут не абышлося»,— думаў я, калоцячыся ад страху і пазіраючы на кульгавага.

Адчуўшы мой погляд, Ёзапатас неяк дзіўна згорбіўся і адвярнуўся.

— У майго пана сына Габрэлюса,— ізноў пачуўся віскlівы голас маці,— пад носам ужо жоўты ячмень спее, а ён...

Мімаволі кончыкамі пальцаў я дакрануўся да нікчэмных сваіх вусікаў на верхняй губе. Яны такі трохі нагадвалі ячменны колас. Калі ж у мяне вырастуць сапраўдныя шляхецкія вусы?

Раптам маці балюча стукнула Ёзапатасу па гарбе:

— Божа пакутлівы! Чаго ты стаіш як пень?

Ёзапатас здрыгануўся. Яго маленькая люлька вывалілася з разяўленага рота і ўпала долу. Шызы дымок пацягнуўся ўгору.

— Ёзапатас, каб цябе немач! Стаіць як камень на магіле,— хвалявалася маці, ураз забыўшыся на мяне.— Ну, сляпундра, глядзі! Бачыш?

Аслупянеўшы, Ёзапатас нават забыўся на сваю люльку, што валялася на зямлі, недарэчна таптаўся на адным месцы і, як гусак, варочаў галавой на ўсе бакі.

У маці ад гневу нават адняло мову.

— Глядзі, цяльпук! На ўсе вочы глядзі! Туды!

Ёзапатас прыкрыў далоняй ад сонца свае падслепаватыя вочы: няшчасны стары не толькі кульгаў, але быў і блізарукі.

— А на што мне глядзець, міласцівая пані? — заікаючыся, запытаўся знянацку аглушаны стары.

Маці больш нічога не сказала, схапіла за руку Ёзапатаса, памчалася з ім да ўзлесся. Там у аўсе нешта бурэла.

— Бачыш, разява? — вішчала яна.— Чужы конь у нашым аўсе. Госпадзі памілуй! Ёзапатас, хутчэй прагані гэтую погань!

Я абцёр пот з ілба, уздыхнуў: «Дзякуй табе, божа, што адвёў ад мяне буру!»

Ёзапатас, знайшоўшы на краі дарогі добры кол, адважна падняў яго над галавой і па аўсе напрасткі грозна закандыбаў да злашчаснага каня... Падышоўшы зусім блізка, замахнуўся калом. Я затаіў дыханне: ці пацэліць гэты сляпун?

Пацэліў! Пане каралічку, яшчэ як пацэліў! Век не забуду. А ў Варніне гэта нечуванае здарэнне і сёння яшчэ то з жахам, то са смехам успамінаюць.

Як лупянуў Ёзапатас каню калом, дык пошчак панёсся па ўсім полі. О святое неба! Як жа зароў страшным голасам спуджаны конь! Зароў, кажу, а не заржаў. I сапраўды: чаго бураму мядзведзю ржаць па-конску, калі ён па-мядзведжаму раўці ўмее.

Памылілася на гэты раз мая паважаная пані матуля: не конь, а мядзведзь, забыўшыся пра ўсё на свеце, бляваў у аўсе, раней ужо здратаваным авечкамі. I нечакана зарабіў кала, няўклюда гэты касалапы.

О святы Рохас, заступнік жывёлы! Што рабілася на аўсяным полі! Нават самы дасціпны гаварун не раскажа і самы лепшы паэт каралеўскага двара не апіша ў сваіх паляўнічых одах.

Мядзведзя, так знянацку ахрышчанага калом, адразу ўзяла мядзведжая хвароба, і ён, запаскудзіўшы авёс, уцёк у лес... Ёзапатас жа, убачыўшы замест клячы мядзведзя, аслупянеў ад страху, падскочыў угору, павярнуўся і, абганяючы разбуджанага ў полі зайца, як вецер, шугануў у другі бок, увесь час высока адкідаючы ўлева сваю крывую нагу.

Я, бачачы гэтую незвычайную сцэну, ледзь не кончыўся ад смеху, паваліўся на зямлю і пачаў трэсціся, як прыпадачны.

Калі сціх гэты выбух дурнога смеху, ізноў пачаў мучыцца ад сораму і злосці, што праспаў і празяваў такога вялізнага мядзведзя. А я ж ва ўсім наваколлі славіўся не толькі як зухаваты коннік, але і як удалы паляўнічы, спрытны, як кот. Мая старая стрэльба ніколі не ржавела, паляўнічай здабычай — зайцамі, казулямі, ласямі — не раз аб'ядаліся, ажно жыватамі качаліся, ласаваліся свежынаю госці. У гэтую ноч сам усявышні, няхай будзе пахвалёна імя яго, паслаў нам такую здабычу, а я...

— Эх,— не стрымаўся і горка ўсміхнуўся,— напэўна ж, не ваўкі, а мядзведзь нашых авечак парэзаў... Каб не панна Зося, такога вялікага мядзведзя я б застрэліў.

Тут мая маці ўкленчыла і, насуперак сваёй завядзёнцы — лаяцца, пачала ўголас маліцца.

— Божухна, цар нябесны! — лямантавала, узнімаючы рукі ўгору, мая пані мама.— Прымі пакорны паклон пяшчотнае маці. Кланяюся тваёй усёвідушчай боскай волі. Як мора, невычэрпная твая літасць. Дай доўгае жыццё і здароўе панне Софіі.

Я натапырыў вушы: ці не зблытала тут матуля?

— Каб не прыйшла пробашчава пляменніца ды не забалакаліся абое,— радавалася пані матуля,— ты, Габрэлюс, можа, замест авечкі трапіў бы ў лапы гэтаму страшнаму мядзведзю. Памаліся, Габрэлюс, госпаду за яго дабрадзейства.

Я ўголас прамармытаў:

— Дзякую табе за ўсё, госпад бог, і дзякуй табе, мой апякун Габрыэль! — А ў думках дадаў: «Лепш сутыкнуцца з мядзведзем, чым мець справу з раззлаванай пані маткай».

Высока ў небе жаваранкі ўслаўлялі творцу свету. У званіцы Варніне ізноў загулі званы: у касцёле скончылася ранішняя імша. Я ўбачыў пробашча, ксяндза Мацеюса, які па дарожцы ішоў да сябе ў плябанію. У руцэ ён нёс тоўсты кій. Побач, схіліўшы голую галаву, ступала ласкавая панна Зося, гадаванка ксяндза Мацеюса.

Рука ў маці здрыганулася: у ёй яна трымала хусцінку панны Зосі. Я зразумеў, што ў доме пробашча не мінуць размовы пра хустку. Ад гэтага маё сэрца зашчымела — старога ксяндза я вельмі паважаў. Ён навучыў мяне чытаць і пісаць. Латынь, дзякуючы яму, я лускаў не горш за свайго цярплі-

вага настаўніка. Не чужыя мне сталі і французская і нямецкая мовы і іншыя навукі нашага часу: тое, што вучылі ўсе мае равеснікі — сынкі шляхты.

Невысокага росту, але з вялікім розумам пастыр нашага Варніне, як кажуць, justum et tenacem propositum virum...[1] У маладыя гады святчэннік Мацеюс мог высока ўзняцца па слізкіх прыступках касцельнай іерархіі. Аднак перашкодзіў яму яго характар, востры, калючы язык. Яго праасвяшчэнства ксёндз Мацеюс быў не толькі адукаваны чалавек, ён напісаў і некалькі багаслоўскіх кніг. Таму фанабэрыстыя невукі яго не любілі, заўсёды стараліся пакпіць з яго, укалоць у самае сэрца. Аднойчы на балі ў пана Кшаніцкага з яго малога росту пачаў насміхацца мажны тоўсты палкоўнік каралеўскай гвардыі Масціцкі.

— Ніколі не змагу прыняць ад цябе прычасця, ваша праасвяшчэнства,— зарагатаў ксяндзу Мацеюсу ў вочы захмялелы палкоўнік.

— Чаму? — здзівіўся той.

— А таму, што, нават у тры разы сагнуўшыся, я не дастаў бы прычасця, якое ты раздаеш,— кпіў Масціцкі.— Хіба толькі сам сабе зэдлік пад ногі падставіш.

Ксёндз Мацеюс не разгубіўся, толькі ўсміхнуўся і адказаў:

— А нашто мне зэдлік, палкоўнік? Калі я стану на свае кнігі, буду намнога вышэйшы за цябе. Дарэчы,— спахапіўся ксёндз,— ці зразумеў ты, што я сказаў? Ці ўяўляе твая міласць, што такое кніга?

Усе весела засмяяліся, а палкоўнік вылаяўся: кожны ведаў, што ён ледзьве накрэмзвае свой подпіс пад пазыковай распіскай ліхвяра.

---

[1] Мужчына правільных і цвёрдых перакананняў *(лац.)*.

Такі вось быў пастыр Варніне і мой шматгадовы настаўнік. Ніколі ксёндз Мацеюс не наракаў, не жаліўся, што яму дасталася бедная парафія з драўляным замшэлым маленькім касцёлікам, што пастаянна жыве ў нястачы.

Аднойчы біскуп — ці нехта яго падбіў, ці па сваёй наіўнасці,— скончыўшы візіты да заможных плябанаў суседніх парафій, паведаміў ксяндзу праз пасланца:

— Я скончыў падарожжа... Да цябе, плябане, з'яўлюся на munducare Pascha [1].

Гэта быў намёк біскупа на апошнюю вячэру Хрыста са сваімі вучнямі — дванаццаццю апосталамі [2].

Ксёндз не збянтэжыўся. Ён адказаў пасланцу біскупа:

— Паведамі яго высокапраасвяшчэнству, што я пакорліва чакаю міласцівага пана біскупа, але sine discipulis [3].

На гэты раз гэта азначала тонкі намёк на тое, каб ён з'явіўся без сваёй шматлікай світы, якую не здолелі б участаваць сціплыя запасы ежы і пітва ў доме пробашча Варніне.

Яго высокапраасвяшчэнства зразумеў — на вячэру міласціва прыслаў ксяндзу Мацеюсу падгадаванае цяля, масла, сыру, яец, шынку і іншага дабра. Разам з гэтым сваёй рукой напісаў і паслаў кароткую пісульку: «Do ut des» [4].

Ксёндз Мацеюс, убачыўшы ўсё гэта, пачырванеў і аж падскочыў, як гарох, калі яго пражаць. Яго твар

---

[1] Есці велікодныя прысмакі.
[2] Так званая тайная вячэра, паводле евангельскага апавядання, апошняя перад смерцю Хрыста.
[3] Без вучняў *(лац.)*.
[4] Я даю, каб і ты даў *(лац.)*.

скрывіўся, нібы ён воцату глынуў, сціснуўся і зрабіўся маленькі, як кулачок, спаласаваны дробнымі маршчынкамі.

Калі паважны біскуп з велізарнай світаю прыбыў у Варніне на munducare Pascha — апошнюю вячэру, яго здзівіла чарада жабракоў — кульгавых, у больках, бяззубых, сляпых і глухіх. Усе яны прагна жэрлі, жавалі прысланы біскупам пачастунак. Гучна чмякаючы, яны віталі касцельнага князя, які з жахам пазіраў на гэту жудасную карціну. Прыкрыўшы твар пахучай насоўкай, біскуп абурана спытаўся:

— Што гэта значыць, свяшчэннік? Чаго яны тут сабраліся?

Пробашч варнінеўскага касцёла пакланіўся пакорліва біскупу і сказаў:

— Ты казаў, ваша праасвяшчэнства, do ut des. Так я і зрабіў. Пасылаючы воз з міласцінай, ты ж не палічыў мяне жабраком...

Біскуп глянуў на баляванне натоўпу басякоў, не сказаў больш ні слова і торкнуў вазака. Той адразу сцебануў коней пугай, і ўся кампанія, горда задраўшы насы, рушыла назад. Толькі праехаўшы з паўдарогі і апамятаўшыся, біскуп ціха прамармытаў:

— Tantaene irare, tantaene irare?..[1]

Памаўчаўшы, падумаў яго высокасць (а не дурань быў!), павярнуўся да генеральнага вікарыя і дадаў:

— Qualis vir, talis oratio...[2] Ксёндз Мацеюс — парастак старадаўняга шляхецкага роду, а яму воз з міласцінай паслаў!

Выцер біскуп свой нос дарагой батыставай на-

---

[1] Адкуль такая злосць, адкуль такая злосць?.. *(лац.)*
[2] Які мужчына, такая і размова... *(лац.)*

соўкай, выкінуў яе праз акенца з карэты і раптам зарагатаў:

— Шчыра кажучы, пан вікарый, гэты шэльма ўцёр мне нос маёй насоўкаю...

Сваімі байкамі пра бравага ксяндза Мацеюса я крыху адышоўся ад тых здарэнняў, якія напаткалі нас у тую раніцу.

Засланяючы вочы ад сонца далоняю, ксёндз Мацеюс убачыў нас і пачаў энергічна махаць нам рукой.

— Пане сыне,— торкнула мяне маці кулаком,— бачыш, яго праасвяшчэнства кліча да сябе.

У той час да нас прывалокся і Ёзапатас. Ён быў разгублены, вочы яго бегалі, шукаючы люльку. Стрэльба брава вісела ў яго на плячы.

— Ёзапатас, вунь дзе твая люлька,— я паказаў на авёс.— Відаць, здорава ты спалохаўся мядзведзя, калі яна ўпала ў авёс. Бяры!

Кульгавы сарамліва сагнуўся і пачаў шукаць у аўсе. Я павярнуўся да маці.

— Хадзем, пані матухна,— я ссунуў капялюш на патыліцу.— Бачыш, яго міласць нецярпліва чакае.

Ёзапатас ішоў ззаду і пыхкаў, пастукваючы сваім непаслухмяным крэсівам. Промні сонца ўпіваліся ў спіну. Як вокам скінуць відаць былі дробныя сялянскія палеткі, на якіх калыхалася жыта ў самай красе. Рыкала скаціна на пашы. Некалькі вясковых жанчын з бялізнай ішлі на рэчку праць. Услед за маткамі дробненька тупалі галапузыя замурзаныя дзеці. Над званіцай кружыліся крыклівыя гракі. Але іх перавышаў матулін голас.

— А ты чаго сапеш і куды ідзеш, Ёзапатас? — нечакана віскнула яна.— Жальве вунь рыкае нядоеная, з поўным вымем. Можа, думаеш увесь дзень бегчы навыперадкі з мядзведзямі?

І маці пачала лаяць бедалагу Ёзапатаса на ўсё

Варніне без усякай ашчаднасці да некаторых падрабязнасцей. Аглушаны слуга пабег дадому, як ветрам гнаны.

Калі падышлі да Варніне, вузкаю сцежкаю павярнулі да касцёла.

— Пахвалёны Езус Хрыстус! — павіталася маці, прачыняючы дзверцы ў пробашчаў двор.

— ...in saecula saeculorum! [1] — адказаў ксёндз Мацеюс.

Яго вочы з-пад кустоў сівых броваў так зірнулі на мяне, што падкасіліся ў мяне ногі. Не вытрымаўшы яго позірку, я апусціў вочы...

Але ў гэтую раніцу я яшчэ не ўсё выбраў поўным чарпаком міласці гасподняй: на двары пачуліся важкія няроўныя крокі. Гэта, засопшыся, прыбег Ёзапатас. Нечым напалоханы, ён міргаў вачыма. Нахіліўшыся да маці, Ёзапатас з выразным намёкам пастукаў пальцам па дайніцы, якую прынёс з сабою: яна была пустая. Ён дастаў з зубоў сваю абкураную люльку і залапатаў:

— Міласцівая пані, я прыйшоў сказаць, што карову падаіў вуж. Ён высcаў вымя ў Жальве да крапелькі.

Вясковыя жанчыны, якія сачылі за намі за парканам, з жахам залямантавалі, вымольваючы заступніцтва ўсіх святых. Ксёндз Мацеюс схапіў драўляны чарпак, што быў каля калодзежа, і пачаў паліваць маці вадою, бо яна самлела...

І не дзіўна: з'яўленне вужа заўсёды прадракала нашаму дому няшчасце і бяду.

---

[1] ...на векі вякоў! *(лац.)*

# Baўкалакі

Як толькі маці апрытомнела і абцерла з твару кропелькі поту, пробашч, не зважаючы на цікаўных вясковых цётак, што тоўпіліся каля плябаніі, увёў яе ў свой халаднаваты стары чысцюткі дом.

Мне тут усё было добра знаёмае: паліцы, на якіх, як салдаты, пасталі важкія, у скураных пераплётах кнігі, абразы, пацямнелае ад часу срэбнае распяцце, а ў святліцы, над канапай,— квяцісты грубы персідскі дыван, адзіная каштоўная рэч у пробашчавым доме. На ім вісяць пустыя даўнейшыя ножны ад мяча, абабітае бліскучымі цвічкамі воінскае саф'янавае сядло і срэбныя шпоры. Гэта сямейныя рэліквіі ксяндза Мацеюса, напамінак аб маладзецкіх подзвігах яго нябожчыка бацькі, баярына з Шлекіне, улана яго вялікасці караля Аўгуста II [1], Еранімава Карыбутаса. Ад іншых рэчаў пробашча Варніне патыхала пастырскім аскетызмам.

Калі мы паселі, яго праасвяшчэнства сам пайшоў у камору і прынёс высокую, лыкам аплеценую лапаўку з мёдам, паставіў на стол рэшата свежых агуркоў.

— Калі ласка, калі ласка, частуйцеся,— запрашаў ксёндз, нервова паціраючы рукі.

Пасля ночы я такі добра зегаладаў. Таму не чакаў, каб мяне доўга прасілі: узяўся за яду. Са смакам хрумстаў агурок, а з яго сцякаў густы ліпкі мёд; усё ж, уздыхнуўшы, падумаў — аддаў бы ўсе прысмакі за кавалачак вэнджанага кумпяка. Гэта хто што любіць. Вось пробашчава пляменніца часта гаворыць, аблізваючыся: «У роце рай — маліны з узбітай смятанкай». Так думаючы, я незнарок ускінуў вочы. Ру-

[1] Польскі кароль у 1697—1706 і 1709—1733 гг.

ка з адкусаным агурком апусцілася, я анямеў: а божа, апроч мяне, ніхто больш да пачастунку не дакрануўся...

Ксёндз Мацеюс сядзеў папуры, як засмучаны Хрыстос, рукою падпёршы галаву. Ласкавая Зося кончыкамі белых пальцаў тармасіла махры вышыванага палатнянага абруса. Маці, нібыта праколваючы вострым шылам, упілася ў мяне сваімі вачамі. Па халаднаватым пробашчавым пакоі, сцяўшы вусны, лунаў анёл цішыні.

— Так, так, та-ак,— нарэшце вымавіў пробашч Варніне.

Як хорт, я натапырыў вушы.

— Так, так, так,— паўтарыў, усё больш распальваючыся, яго праасвяшчэнства. Тыцнуў пальцам мне ў грудзі і, не здолеўшы стрымаць гнеў, закрычаў: «Можа, паніч Габрэлюс Твірбутас і мая пляменніца панна Зося будуць ласкавыя сказаць...»

Зося сумелася.

Свяшчэннік захліпаўся ад злосці:

— Можа, скажуць, што ім вядома пра смяротэльныя грахі?..

— Езус Хрыстус назарэцкі! — перажагналася маці.

Полымя сораму лізнула мае шчокі.

— Можа, паважаная парачка скажа мне, свайму духоўнаму айцу,— тупнуў нагою ксёндз,— ці змогуць зладзеі трапіць на неба?!

Не вытрымаўшы больш, маці ўскіпела:

— Зладзеі, зладзеі!

Сваімі ўчэпістымі пальцамі яна ўхапілася за рукаў пробашчавай сутаны:

— Што ойча пробашч сказаў?

Я задрыжаў.

— На жаль, твая міласць, зладзеі,— з вялікім шкадаваннем паўтарыў варніне ўскі пастыр.

— Зладзеі? — віскнула маці.— Зладзеі!

Тут яна ўбачыла збялелую ксяндзову пляменніцу і адразу змоўкла. Я няёмка круціўся за сталом, застаўленым ежай. А Зося, закрыўшы рукамі твар, выбегла з пакоя. Гэта сцэна на нейкі час засмуціла старога ксяндза. Але потым ён падышоў да мяне і паклаў руку мне на плячо:

— А цяпер, баламут, усё аддай!

Маці спакойна назірала. Я ўстаў, прынёс стрэльбу, якую пакінуў у пярэдняй. На краі стала пачаў корпацца ў рулі, закуранай ад пораху. Выцягнуў моцна запхнутую кудзелю — пасыпаўся буйны чорны порах. Нарэшце на стале бразнулі сярэбраныя манеты. Рэшту манет я вытрас са старой рагавой парахаўніцы, якую я насіў, перавесіўшы цераз плячо.

— Матка боская! — аслупянела маці.— Грошы! Адкуль ты іх узяў?

Ксёндз нахмурыў бровы:

— Зараз усё высветліцца. Софія! Софія, дзе ты? Каб цябе д'ябал...

Ласкавая Зося вярнулася, пашморгваючы носам. Ксёндз Мацеюс сваёй маленькай ручкай паказаў на кучку серабра.

— Што гэта азначае, Габрэлюс?! Не дзівіся, паважаная пані, што я так хвалююся. Мне гэтыя срэбранікі даражэйшыя за золата. Яны засталіся мне ад нябожчыка бацькі. Іх я трымаю ў гэтай скрыначцы. А сёння раніцай паглядзеў — пуста. Дарэчы, і паважанай панны я не знайшоў у яе спальні.

Пробашч Варніне сабраў рассыпанае на стале серабро, некалькі разоў яго пералічыў і перасыпаў у скрыначку. Тады прачыніў жаўтаватую камоду і паставіў скрынку ў шуфляду.

Далей маўчаць не было ўжо сэнсу.

— Ласкавая панна Зося не вінаватая,— я рынуўся на абарону Зосі.— Я ў яе выпрасіў прынесці срэб-

ра... Ад ваўкалака я свае авечкі засцерагчы хацеў! Панна Зося і прынесла гэтыя грошы. На ўскрайку лесу, у стозе сена, каб панна Зося не прастудзілася, мы абое схаваліся і цікавалі. А пад ранне абое нечакана заснулі... Прачынаюся — ні панны Зосі, ні авечак.

Як толькі прыпомніў авечак, маці зноў усхліпнула.

— Раніцай звон пабудзіў,— чырванеючы, як каліна, лапатала Зося.— Я так спалохалася... Бегла ўсю дарогу як шалёная, нават хустку недзе згубіла.

Яна збянтэжана паглядзела на ксяндза, чакаючы, што ён пачне сварыцца на яе, але ён маўчаў.

— Вось твая хустка, яна не прапала,— аддала Зосі хустку пані маці.— Як бы там ні было, пробашчу, каб не Зося — Габрэлюс трапіў бы мядзведзю ў лапы.

— Мядзведзю ў лапы? — здзівіўся ксёндз.

Тады ён з вуснаў маці пачуў да канца пра ўсё, што здарылася.

— Гм... гм... — пабялеў ён, калі выслухаў.— Кажуць: калі ідзеш на дзіка — заві лекара, а ідзеш на мядзведзя — кліч свяшчэнніка. А тут, наадварот, я сам цябе паклікаў.

Яго голас ізноў палагаднеў, і я адразу скарыстаў гэта:

— Прашу прабачэння, але я мімаволі расхвалявалў вас. Прыміце маё глыбокае пакаянне, ойча пробашчу.

Яго праасвяшчэнства павесялеў.

— Ну і добра! — усміхнуўся ён.— Вельмі добра, Габрэлюс, што, зрабіўшы памылку, попелам пакаяння галаву сваю пасыпаеш...

У пакоі стала святлей і раскашней. Я вёў распачатую размову:

— І не зладзеі мы, не. Грошы я аддаў бы... А ваўкалака без срэбнага зараду не заб'еш [1].

— Сапраўды, гэта я яму так нараіла, мілы дзядзечка,— перапыніла мяне панна Зося.— Ясна, што авечкі хапаў хітры ваўкалак. Простага ваўка Габрэлюс даўно б застрэліў.

Нечакана такую прыемную майму вуху размову перапыніла галошанне маці:

— Бедны адзіны, бедны мой сын! Дзе ж твая галава? Звязваешся з ваўкалакамі. Страшна нават падумаць. Ды і ў панны Зосі, як я бачу, розуму не вельмі многа.

Маці ведала, што гаворыць. З памяці людзей яшчэ не выпетрылася жахлівае здарэнне ў Руднінкаі. Там, калі пасля жніва талачане спраўлялі дажынкі, раптам з рук у рыжага музыкі вывалілася скрыпка. Зазвінелі струны, здранцвелыя пальцы выпусцілі смычок. Ледзьве жывы музыка, вылупіўшы ад страху вочы, утаропіўся ў куст язміну, што рос каля вугла хаты. У ім сядзеў звер і скрыгатаў вялізнымі ікламі. З яго разяўленай пашчы сцякала крывавая пена. Страшыдла скокнула, выцягнуўшы шыю, у двор. Ад страху ў людзей адняло мову. Страшны звер упрысядку ўскочыў у гушчу талачанаў і схапіў загадзя нагледжаную ахвяру — самую прыгожую дзяўчыну з вёскі Руднінкай. Ускінуў яе на свой калматы карак і шпарка ўцёк праз вароты.

Схамянуўшыся, нібы прачнуліся, мужчыны кінуліся за драпежнікам. Адзін схапіў у рукі вілы, што тут ляжалі, другі — выгінастыя сярпы, трэці пабег па стрэльбу. Гналася вёска за страшыдлам і дагнала, бо цяжка было ўцячы яму з такой ношай. Тады звер спыніўся, злосна ашчэрыўся. Жудасны, нечала-

---

[1] Такое павер'е бытавала і на Беларусі.

вечы яго крык страшэнна спалохаў людзей. Убачыўшы іх замяшанне, звер схапіў дзяўчыну і знік у лясным гушчары.

Прайшло шмат гадоў. У Руднінкаі ізноў спраўлялі дажынкі. Людзі елі-пілі, весяліліся, скакалі. Да талачанаў невядома адкуль прыйшоў сівы дзядок. Ніхто яго не пазнаў, але, як звычайна, ветліва павіталіся, запрасілі за стол, далі ў руку скібу пірага і кубак піва. Перакусіўшы, аддыхнуўшы, ён абтрос з адзежы дарожны пыл і пачаў расказваць дзіўную гісторыю.

«Я,— гаварыў ён,— нетутэйшы. Я з Вярчуная». У Вярчунаі яго, зусім яшчэ маладога Вінцэнтаса Каткявічуса, чараўніца Ядвіга Завішэне абярнула ў ваўкалака. Ён толькі цяпер перавярнуўся ізноў у чалавека. А некалі, пасля доўгіх гадоў блукання па лясах, угледзеў і ўкраў дзяўчыну з гэтага двара.

Людзі, выйшаўшы з-за стала, пачалі паволі адсоўвацца ад страшнага дзеда. А ён, запіваючы пірог півам, расказваў, як тады гналіся за ім цэлай грамадой і як ён уцякаў. А дзяўчына не апрытомнела і памерла ў лесе.

— Ох ты паганец! — пачуўшы такое, закрычаў сівы каваль з Руднінкая Рудзяліс.— Божа! Гэта была мая сястрыца Марта! Нават свечкі ніхто не запаліў ёй пры кананні!

Каваль схапіў сякеру і размахнуўся, каб забіць страшнага старога. Нейкая жанчына охнула і самлела. Але Рудзяліс не паспеў ударыць: ускочыўшы з лаўкі, чалавек адкінуў яго моцным ударам.

— Людзі! — загаласіў стары і дзікімі вачамі азірнуўся наўкола.— Бяжыце адсюль! Як мага далей ад мяне. Я зараз зноў скінуся ваўком. Сцеражыцеся, людзі! Многа зла я магу вам учыніць!

Лямантуючы ад страху, усе забеглі ў хату і там хутка зачыніліся на завалу. Хто смялейшы, пагляд-

ваў у акно: сівы старэча на іх вачах зрабіўся страшным зверам. Па-воўчаму скокнуўшы цераз трухлявы плот, ён па ржышчы пабег у лес. Больш яго ніхто не сустрэў. Невядома, колькі часу прайшло, як аднойчы жанчыны, што збіралі ягады ў лесе, пад вываратнем знайшлі шкілет нейкага дзіўнага звера. Пабялелыя ад дажджу і сонца косці былі падобныя на чалавечыя, толькі чэрап са страшнымі ікламі нагадваў воўчую галаву...

Пробашч паківаў галавою і сказаў, што такія байкі пра руднінкайскага пярэваратня ён ужо чуў. Я пачаў яму расказваць, што з тыдзень таму назад я ўбачыў сляды не то ваўка, не то чалавека на ўзлеску. Там, дзе прапалі нашы авечкі.

Маці здрыганулася, прыклаўшы палец да вуснаў:

— Маўчыце... Паслухайце!

Мы прыслухаліся. На вуліцы, пад самым акном пробашчавага дома, пачуўся пранізлівы голас. Нехта завыў, як воўк. Здрыгануўся нават ксёндз Мацеюс, а ён не верыў ні ў якія пярэваратні, шкілеты і прывіды, ганьбаваў у сваіх казанях тых, хто задурвае свае галовы такім глупствам.

Ізноў нехта завыў жудасна, працягла, надрыўна.

Я мімаволі схапіў стрэльбу, пакладзеную на стол.

— Езус Мар'я! Ці не ваўкалака прывабілі сюды? Габрэлюс, наклікаў ты бяду на нас! — зусім ачмурэла маці і пачала зваць на дапамогу святых: — Святы Юргіс, пераможца дзевяціглаловага змея! Святы Міколас, нябесны волат!

Святыя маўкліва глядзелі са сцяны, панна Зося знячэўку прыхілілася да мяне. Пастыр Варніне, скоса зірнуўшы на вокны, трушком пабег да дзвярэй. Лёгка націснуў на клямку і насцеж расчыніў дзверы. У вочы ўдарыла яркае дзённае святло. Уба-

чылі і вінаватага. Каля дзвярэй на лаўцы, чакаючы маці, сядзеў і, шырока разявіўшы рот, на ўсё горла пазяхаў Ёзапатас. У яго каля ног ляжала перакуленая пустая дайніца.

У мяне з рук выпала і бразнулася вобземлю стрэльба, я ўзяўся за бакі і рагатаў, як вар'ят,— я змалку вельмі смяшлівы. Смяялася і Зося. Нават стрыманы пробашч Варніне скрывіў ва ўсмешцы краёчкі вуснаў — да яго вярнуўся добры настрой. Толькі маці заставалася засяроджаная: ваўкалакаў яна вельмі баялася, верыла ў іх, як у самога госпада бога. Пра пярэваратняў у Варніне з незапомных часоў у цёмныя асеннія і зімовыя вечары бясконца расказвалі аматары страшных гісторый.

Панна Зося, ратуючы маю пані маму, якая апынулася ў даволі смешным становішчы, запыталася ў дзядзькі:

— Значыць, ваша праасвяшчэнства не верыць у ваўкалакаў?

— Не, Зося, не веру.

— А здарэнне ў Гудзяляі? — не сунімалася Зося.

— Гэта выдумка, лухта, я не веру,— пагардліва махнуў рукою ксёндз і, памаўчаўшы, дадаў: — Людзі ведаюць, што бог не мог стварыць такі свет, у якім вадзілася б усякая брыдота.

І дарэмна ксёндз так гаварыў. Тое, што каралеўскага селяніна Гервазаса з Гудзяляя ператварылі ў ваўкалака, ведала кожнае дзіця. Страхотнае паданне гэта ішло з пакалення ў пакаленне, перадавалася з вуснаў у вусны. Баялі людзі, як ён па лясах і ярах ваўкалакам бегаў, як у чалавека перакінуўся толькі праз сем гадоў, у вялікдзень раніцай, пасля таго як з мёртвых устаў Хрыстос. Узрадаваўся Гервазас, што вярнулася да яго ранейшае аблічча, але ізноў бяда — застаўся зусім голы. Галодны,

адубелы ад холаду, бо яшчэ былі веснавыя замаразкі, выбег ён з лесу. Пад босымі нагамі трашчаў, ламаўся і рэзаў ступакі тонкі лядок на балоце. Нарэшце Гервазас дайшоў да хаты, па якой ён так пакутліва тужыў і дзе гэтулькі часу не быў. Дамашнія яшчэ моцна спалі. Гервазас пачаў таропка стукацца ў дзверы. Жонка прачнулася і, пачуўшы стук, сонным голасам запыталася:

— Хто там стукае?

— Гэта, жоначка, я,— адказаў Гервазас,— твой муж і гаспадар. Адчыняй хутчэй.

Жонка чула, як змерзлы Гервазас ляскае зубамі, але стаяла як слуп. І дзвярэй не адчыняла. Толькі спалоханым голасам пачала крычаць:

— Матаўшас! Матаўшас!

Пачулася шлёпанне босых ног, шаптанне, нарэшце асцярожна рыпнулі дзверы. Гервазас убачыў у іх свайго парабка, выкармленага, як парсюка. У руках ён трымаў вілы. За ім паказаўся сонны бялявы хлопчык гадоў пяці.

— Чаго хочаш? — закрычаў парабак і пагрозліва паказаў вілы.

Гервазас анямеў. Ён зразумеў, што ў той час, пакуль ён бегаў ваўкалакам, парабак Матаўшас заняў яго месца ў гаспадарцы. З яго, Гервазасавай, жонкаю яшчэ і дзіця прыдбаў...

Уцяміўшы гэта, Гервазас моцна расхваляваўся, злосць і зайздрасць апанавалі яго. Пачаў Гервазас клясці сваю жонку і з вялікай прыкрасці неяк сам сабе прамовіў:

— Лепей бы я навек застаўся ваўкалакам...

З тымі словамі Гервазас пачаў згінацца, кіпцямі, як звер, драць парог. І ён ізноў зрабіўся ваўком, разявіў пашчу з вострымі ікламі, зароў і кінуўся на парабка.

Пачулі суседзі немы крык Матаўшаса, але не паспелі дапамагчы яму. Калі прыбеглі, то ўбачылі, што на грудзях у гудзяляйскага парабка сядзіць звер; з яго пашчы капала цёплая Матаўшасава кроў.

Хто каменем, хто касой, хто віламі — усе білі і калолі звера. Абступіўшы яго, білі, пакуль не забілі. Канаючы, выпусціў ён свой смуродны дух і зноў абярнуўся ў чалавека — голага, скрываўленага, нежывога. Тады людзі пазналі ў гэтым забітым голым чалавеку свайго суседа і сваяка Гервазаса, які сем гадоў таму назад недзе прапаў.

Пасля спрэчак пра пярэваратняў у пробашчавым доме настаў спакой. Панна Зося пачала прыбіраць стол, ксёндз сеў на канапу, адкінуўся назад і заплюшчыў вочы. Адпачываў. Надышоў час і нам рушыць дамоў. Але ў маці нешта неспакойна было на сэрцы. Ведаючы, што ў той рот, які маўчыць, нават муха не заляціць, яна дакранулася да рукі ксяндза Мацеюса. Яго праасвяшчэнства павольна расплюшчыў стомленыя вочы.

— Прабачце, ксёнжанька,— ціха прамовіла маці.— Не сярдуйце, калі я патурбую вас яшчэ некалькі мінут.

Ксёндз слаба ўсміхнуўся.

— Злосць вылівае жоўць,— сказаў ён і дадаў: — Bile tumet pecur [1].

— Аман! — набожна перажагналася пані маці.

Падбегла да дзвярэй і хутка іх зачыніла. Пасля гэтага павярнулася да нас і таямнічым (але не самым ціхім) голасам сказала:

— Маўчаць, маўчаць! Я шмат гадоў жыла прыкусіўшы язык...

---

[1] Жоўць раздзімае печань *(лац.)*.

— Quid femina possit! [1] — з'едліва ўхмыльнуўся ксёндз.

— Аман! — працягвала маці.— Гэта вялікая тайна. Ці ведаеце вы, ад чаго наш Ёзапатас кульгавы?..

## Нешчаслівая Ёзапатасава доля

Маці ёмка расселася ў дубовым парафіяльным крэсле. Мне гэта зусім не спадабалася: галодны, што з'еў бы каня з капытамі, а пані матка зусім забылася на дом і на сняданак.

— Дык вось чаму Ёзапатас кульгавы? — урачыста запыталася яна.— Пра гэта мне расказаў брат, а твой, Габрэлюс, хросны, пан Мельхіёрас Твірбутас. Вы ж ведаеце, пробашчу, колькі чаго можа нагаварыць Мельхіёрас,— поўны мех.

— Так, так, ведаю,— уздыхнуў варнінеўскі пастыр.

Ён добра ведаў майго вельмі ўвішнага хроснага бацьку — Мельхіёраса Твірбутаса, найпершага выдумшчыка, майстра на ўсялякія штукі, чмута і тарабалку, якіх на свеце не знойдзеш. А маці верыла свайму брату, гэтай малатарні, непахісна,— больш, чым сабе.

Можа, чулі, можа, не, што наш Юзепас, як быў малады, належаў пану з Грыгайцішкеса, шляхціцу Сцяпонасу Каялу. А да панны Ізабэлы з Грыгайцішкеса заляцаўся пан Мельхіёрас,— хітра ўсміхнулася матуля.— Прыгажосцю слаўная была панна Ізабэла.

---

[1] Чаго толькі жанчына не здолее! *(лац.)*

— Гм... Гм... Ведаю я гэтых краляў. Бывае, і на пудзіла якое знаходзіцца ахвотнік,— пад нос сабе муркнуў ксёндз.

— Твой хросны бацька, Габрэлюс, быў тады малады, спрытны, гарачы, як... як спечаная ў прыску бульбіна,— так ні з таго ні з сяго параўнала маці.— На шпагі біўся з такімі самымі маладымі пеўнямі, што дрынкалі шпорамі і круціліся каля красуні Ізабэлы. Ізабэлін бацька, пан Каяла, не дужа мілаваў тваймо дзядзьку Мельхіёраса: наш род ужо амаль занапаў. Пустадомак дзед, каб яго чорт ухапіў, занадта доўга шукаў сабе багатую нявесту і таму пакінуў нашаму бацьку спустошаныя дашчэнту Варніне і Рэньчайскі фальварак. Дзедавы злоснікі гаварылі, што ў яго больш усяго, чым ён сам думае: гадоў, ворагаў, даўгоў і дурасці.

Ксёндз Мацеюс глянуў на мяне.

— Гм... Гм... Не цікаўся, Габрэлюс, што было ў дзеда, а думай, што будзе ў твайго сына,— уставіў ён сваё слова.

А маці не слухала ксяндза, а расказвала ўсё далей і далей і ўсё больш захаплялася:

— Так богам было суджана, а пан Каяла шукаў багатага зяця. А ў той час дзядзька Мельхіёрас упарта дамагаўся рукі панны Ізабэлы. Надышла зіма... Ну і, канечне, як штогод у мясаед, на масленіцу пачалося бушаванне і дурэнне. Як і цяпер: цэлымі днямі і начамі на ўсіх дарогах, ва ўсіх маёнтках, у корчмах шумелі, як на кірмашы, гулялі на ўсю. Гарэлка, віно ліліся ракой, ненажэрныя госці, як саранча, знішчалі поўныя каморы дабра. Гарэзы ўсякія,— тут маці зірнула на мяне,— выдумляюць розныя нечуваныя жарты... Ну, пане ксёндз, вы ж добра ведаеце, што ў мясаед усё можна. А госця трэба і прывітаць, усміхацца яму, часта-

ваць з апошніх сіл. Не дай божа паказаць нейкую непрыязнасць. Навек няславу на сябе ўсцягнеш.

— Гм... Гм... На масленіцу нездарма гавораць: дурэй, Феля, на тое ж зроблена каруселя [1],— не сцярпеўшы, ізноў падтрымаў гаворку ксёндз.

— Вось, вось, праўду кажаш, тваё праасвяшчэнства,— прыладзілася да яго тону маці.— Тыя шалёныя каруселі і намерыўся скарыстаць для сваіх залётаў мой пан брат. Аднойчыранічкай, валочачыся па корчмах, натрапіў ён у Шыліне на вясёлую шляхецкую кампанію. «Панове братове, так і гэтак...» — адразу далучыўся да хеўры. Угаварыў Мельхіёрас уваліцца да грыгайцішкскага пана развесяліць яго дачушку, бязгрэшную панну Каялайце. А тых падпітых шляхцюкоў доўга ўгаворваць не спатрэбілася. Убраўшыся ў камедыянтаў, яны ўкінулі ў сані карчомных музыкаў і, галёкаючы, памчаліся ў Грыгайцішкес.

Міла не міла, а мусіш: пан Каяла па даўнім звычаі сустрэў гэтых гарэзнікаў ветліва, з усмешачкай. Шырока расчыніў дзверы ў склеп з віном, у свірны са смажаным і вэнджаным дабром, як і належыць гасціннаму гаспадару на масленіцу. Пачаўся нястрымны разгул. Толькі мой братка-шэльма, пан Мельхіёрас, адно дакранаўся губамі да чаркі, не піў. Калі гульба ў маёнтку раскіпелася ўжо, як у катле, шапнуў свайму сябру: «Ведаеш што, Тадэўшас, ну, дык ну, а не ну, дык дамоў пайду: якая гэта масленіца без жартаў. Урэжам, пане браце, штуку пану Каялу».— «Я-я-якую?» — ледзь варочаючы языком, запытаўся адурэлы сябручок, вымаклы ў віне, як карась у вялікі пост. «Абы ціха, з мяшком цішком,— спакушае Мельхіёрас,— давай

---

[1] Карусель. На масленіцу ў Літве, як і ў нас на Беларусі, гушкаліся на арэлях, каб рос высокі лён.

украдзем панну Ізабэлу... Ну, і Апалонаса, Каялавага рысака».— «Нашто, пане браце, Апалонаса?» — здзівіўся ледзь жывы сябрук. «Лепш, дарагі мой, пытайся, чаму панну Ізабэлу»,— хіхікнуў Мельхіёрас.

А Апалонас, трэба сказаць, быў самы быстры, самы лепшы конь у пана Каялы. Не было больш такога, хто б апярэдзіў яго. Уся шляхта аж чарнела ад зайздрасці, убачыўшы таго рысака. А пан з Грыгайцішкеса свайго каня Апалонаса так ужо пялегаваў і сцярог, каб без пільнай патрэбы і волас з яго не зваліўся. Сам сядлаў яго, не давяраў і самым верным слугам.

Мельхіёрас ціха шапнуў свайму сябру на вуха: «Ажанюся з паннай Ізабэлаю... ха... ха... Каня ўкраду, каб цесць не дагнаў. Пасля вяселля аддам».— «Ха-ха! — смяяўся Мельхіёрасаў сябрук.— Вось гэта штука!»

Мы ж, уважліва слухаючы расказ маці, ані не здзіўляліся з Мельхіёрасавага свавольства. Здаўна завядзёнка ў нас такая: у мясаед нельга сердаваць, якую б штуку хто ні выкінуў. Інакш страціш сяброў, шляхецкую годнасць, наклічаш на сябе пагарду суседзяў-паноў. Такія нашы звычаі.

— І вось,— прадаўжала маці, усцешаная нашай увагай,— Мельхіёрас, наліваючы кубак, шэпча дружбаку: «Ты, пане браце, загаворвай гаспадару зубы, а я зраблю што трэба».— «Добра»,— адказаў той і, хістаючыся, пайшоў абдымаць гаспадара.

У вясёлай мітусні, калі адны госці пад цымбалы песні гарлапанілі, другія скакалі, а трэція, што захлынуліся ў гарэлцы, храплі пад банкетовым сталом, ніхто не прыкмеціў знікнення чароўнай Ізабэлы.

«Пан! — закрычаў, сапучы, убегшы ў пакой, конюх.— Бяда здарылася! Няма пашага Апалонаса!»

Усе, хто яшчэ трымаўся на нагах, анямелі. Пан Каяла ледзьве не звар'яцеў. Але ўсё праяснілася, калі пачаў рагатаць п'яны шляхціц, сусед твайго дзядзькі. «Ха! Ха! Аплалонаса, пана Меркеліса і бязгрэшнай панны Ізабэлы,— смяяўся сябрук дзядзькі Мельхіёраса.— Давай, панове братове, абвесцім славу паклоннікам Бахуса і браваму яго жрацу пану Каялу!»

Госці, падумаўшы, што ўсё гэта жарт, смяяліся, пляскалі ў ладкі і захапляліся спрытам Мельхіёраса: з чужое бяды часта людзям смех.

— Гм... Гм... Чорт заўсёды аптыміст, ён думае, што можа зрабіць людзей яшчэ горшымі,— пацiраючы рукі, сказаў мой настаўнік ксёндз Мацеюс.

У маці сарвалі думку, і яна разгубілася.

— Што вы сказалі, ксёнжа? — не зразумела яна.

— А нічога, нічога... Прабачце, гм... гм... І што было далей?

Маці крышку сцішыла голас.

— Далей, пане ксёнжа, здарылася самае страшнае. Госці весяліліся, раз'юшаны пан Каяла нешта загадваў Ёзапатасу... А мой брат з нявестай у той час ужо дабраліся да лесу Гудзіне. Толькі глядзіць Мельхіёрас — а іх жа хутка даганяюць. Але не людзі — ваўкі.

Размахваючы рукамі, матуля ўжо гучным голасам расказвала пра тую страшную сцэну:

— Але найбольш, ведаеце, наганяла страху ваўчыца, што бегла спераду ў воўчай гайні, вадзіла ваўкоў за сабой. Месяц асвяціў снежную дарогу, і пры цьмяным святле ўцекачы бачылі вострыя іклы ваўчыцы і яе бліскучыя вочы. Рыпелі палазы, шалёна беглі ў страху коні. Мельхіёрас узвёў куркі пісталетаў. Спуджаны ваўкамі Аплалонас жаласна ржаў, потым раптам ірвануўся, памкнуўся стаць на дыбкі, вырваўся з аглабель і ўцёк прэч. Але далёка

не адбегся: неяк спатыкнуўся аб паваленае дрэва, і найлепшага рысака пана Каялы адразу абступілі галодныя ваўкі. Ах, ксёнжа, потым Меркеліс не раз расказваў: «Найвялікшае багацце стайняў пана Каялы, слаўны рысак на маіх вачах быў умомант разадраны на шматкі і знік у воўчых пашчах».

У вачах у панны Зосі я ўбачыў слёзы. Як зачараваны я слухаў матулін расказ, ад якога стыла кроў у жылах.

— Езус Мар'я! — пачалі дыбіцца валасы ў пана Мельхіёраса.— Ласкавая Ізабэла, зжэрла погань каня твайго бацькі.

Маці якую хвіліну аддыхалася і павяла далей:

— Ашалелыя ад страху коні беглі, аж вецер свістаў у вушах. Панна Ізабэла зайшлася плачам: «Канец нам, Меркеліс. Божа, у смяротны час даруй нашы грахі! Не мінуць нам, Меркеліс, смерці!» — «Не загінем, супакойся, дарагая! — схамянуўшыся, сказаў мой брат.— Вунь глядзі. Ужо адзін толькі іклаты гоніцца за намі... Астатнія, каб д'яблы ўдушыліся імі, Аплалонавымі касцямі ласуюцца. А гэты воўк зараз у мяне ляжа каменем».

Нацэліў Мельхіёрас пісталет на ваўка і стрэліў. Не папаў. Можа, рука здрыганулася. Воўк адскочыў убок і, ухіліўшыся ад кулі, яшчэ шпарчэй пагнаўся за імі. Шугануў агонь з другога пісталета, і гэтая куля са свістам праляцела, не зачапіўшы ваўка... «Бачыш, бачыш! — калацілася як асінавы ліст панна Ізабэла.— Ах, каб ты ведаў, хто ён! Гэта не просты воўк!» І яна пасінелымі губамі ўзялася шчыра маліцца за тых, хто памірае. «Не просты? — сказаў Мельхіёрас.— Няхай ён будзе хоць самім Люцыпарам, я не баюся».— «Меркеліс, Меркеліс, гэта наш слуга Ёзапатас, ваўкалак!»

Ксёндз Мацеюс, панна Зося і я, усе адразу, ні-

бы нас джгнула пчала, паўскоквалі са сваіх месц. Па маёй спіне забегалі мурашкі.

— Што ты сказала, васпані? — глухім голасам крыкнуў пастыр Варніне.— Гм... Гм... Ёзапатас — пярэварацень! Гм... Гм... Пабойся бога, жанчына!

У маці пабялелі губы. Яна змоўкла, толькі ўсё папраўляла непаслухмяныя раскудлачаныя валасы. Раптам пачулася, як з грукатам пакацілася за дзвярыма даёнка. А на пробашчавым двары аддалялася цяжкае Ёзапатасава чыкільганне. Усе зразумелі: ён таксама слухаў расказ маці.

— Absit omen! [1] — перажагнаў нас ксёндз.

Зося, пляменніца пробашча Варніне, на сваім крэсле скурчылася ў камячок. Эфект атрымаўся небывалы, маці трыумфавала. Мы прагна чакалі, што яна раскажа далей.

А прадаўжэнне здарэння, пра якое мая пані матка даведалася ад самога майго дзядзькі, найсправядлівейшага чалавека на свеце (пра дзядзьку ўсе далікатныя падрабязнасці пазней расказаў сам Ёзапатас), было такое. Выстраліўшы, пісталеты мой хросны бацька кінуў. Але ён бачыць, як страшны звер хутка набліжаецца да санак, адчувае ўжо з яго грозна разяўленай пашчы гарачае дыханне, і тады ён выхапіў меч. Панна Ізабэла самлела ў санях... Звер, ашчэрыўшы свае страшныя іклы, скокнуў у сані, тады пан Мельхіёрас з размаху так сekануў, што аж загуло. Звер страшна зароў — меч рассек яму заднюю лапу. Пырснула цуркам цёмная кроў.

«Ой, баліць!» — загаласіў пярэварацень, паваліўся ў снег. І адразу абярнуўся чалавекам.

Мой хросны бацька, у жаху заклікаючы ў заступнікі ўсіх святых, пазнаў маладога конюха пана Каялы. Лежачы на дарозе, ён курчыўся ад болю, хапаў-

[1] Барані божа! *(лац.)*

ся за глыбока рассечаную левую нагу, спрабаваў стрымаць кроў камякамі снегу. А яна, усмоктваючыся ў снег, расплывалася чырванню.

Пан Мельхіёрас замахнуўся мячом, каб адсячы галаву ваўкалаку.

«Ой, не забівай мяне, яснавяльможны пане! — Ёзапатас, галосячы, абняў яго калені.— Злітуйся над няшчасным. Не па сваёй волі я даганяў вас. Гэта пан Каяла, гаспадар, загадаў мне. Па дарозе я далучыўся да воўчай гайні. І ледзь не загінуў... Пане, пане, які я нешчаслівы!»

Пакуль Мельхіёрас перавязваў яму рассечаную нагу, Ёзапатас, стогнучы, расказаў, што гэта мачаха Моніка, сапраўдная вядзьмарка, абярнула яго ў ваўкалака. Упершыню зрабіўся пярэваратнем тады, калі, пасварыўшыся з мачахай, паехаў у лес па дровы. І бачыць, што яго рукі і ногі абрастаюць поўсцю, далоні і ступні ператвараюцца ў лапы з вострымі кіпцямі, галава змяняецца ў страшную звярыную морду... Вось ужо замест зубоў вырастаюць вострыя іклы, хрыбет цвярдзее, з высунутага языка сцякае сліна... Яму зрабілася жудасна. А спуджаныя валы зараўлі і, ломячы воз, пачалі вырывацца. Ён хацеў іх суняць, але замест таго, каб вымавіць слова, жахліва завыў па-воўчаму.

Так пачаў Ёзапатас гойсаць па лясах.

Але нават зусім згаладалы, ён не еў чалавечага мяса. Падпільнаваўшы і напалохаўшы людзей, краў тое, што было ў торбах пастухоў, лесарубаў.

Пасля адной навальнічнай ночы, калі адгрымела ўжо, заснуў ён пад рабінай. І сніў ён, што памерла яго мачаха і ён ізноў абярнуўся ў чалавека. Прачнуўся, глянуў на сябе, аж і праўда — ён чалавек. Вярнуўся дамоў, але там нікога не знайшоў. Бацька памёр ужо. Каханая яго дзяўчына Настазія выйшла замуж і гадуе чацвёра дачок... Не было дзе дзецца,

і Ёзапатас падаўся ў маёнтак Грыгайцішкес конюхам. Аднойчы Ёзапатас пачаў прыгадваць тыя часы, калі ён бегаў па лесе пярэваратнем,— коні ўсталі на дыбкі і жаласна заржалі, нібы пачулі пах ваўка... Ёзапатас адчуў, што варта яму толькі падумаць пра мінулае і ён можа ў любы час ізноў ператварыцца ў ваўкалака. Нічога не ўтойваючы, Ёзапатас расказаў гаспадару. Пан хацеў прагнаць яго, але Ёзапатас нічога благога яго сям'і не зрабіў, а конюх быў дбайны, таму перадумаў і дазволіў яму застацца.

А ў той горкі вечар, калі ў пана Каялы прапаў не толькі самы дарагі яму конь, але і дачка знікла, загадаў Ёзапатасу — хоць выцягніся — вярнуць уцекачоў. А на якім кані дагоніш таго віхурыстага Аплалонаса? Хочаш не хочаш, а мусіў перакінуцца ў пярэваратня...

Пан Мельхіёрас змілаваўся над Ёзапатасам. Самлелую Ізабэлу і параненага слугу прывёз назад у Грыгайцішкес, у маёнтак пана Каялы. А Каяла проста ашалеў. Ёзапатаса за загубленага Аплалонаса высцебаў і загадаў павесіць у стайні. Але конюху ўдалося ўцячы. Неўзабаве яму даў прытулак Габрэлюсаў дзядзька. А раз'юшаны Каяла пабажыўся век помсціць пану Мельхіёрасу.

— А ці апрытомнела, пані матухна,— з глыбокай цікаўнасцю запытаўся я,— цудоўная Ізабэла?

— Панна Ізабэла ачуняла толькі назаўтра рана. Расплюшчыўшы вочы на ложку, не пазнала сваіх. Нядоўга ўжо, бедненькая, і жыла: праз тыдзень памерла. Хто можа апісаць непамернае Мельхіёрасава гора!.. Уладар маёнтка Грыгайцішкес не вытрываў такога ўдару і пайшоў услед за няшчаснай дачкой: раптоўна аддаў богу сваю душу. Пан Мельхіёрас Твірбутас, баючыся адплаты Каялавых сваякоў, уцёк у далёкую краіну нехрысцяў туркаў служыць султану. Калі вярнуўся дамоў, ніхто яго адразу не па-

знаў: у шырокіх шараварах у зборку, на нагах — срэбрам вышываныя туфлі з загнутымі ўгору насамі, паласаты халат на падшэўцы, за шырокім поясам — выгнуты меч, на галаве — чалма з паўмесяцам,— ну проста басурман. Той турэцкі халат і шаўковы пояс і цяпер у яго ёсць. Ад'язджаючы да туркаў, Габрэлюсаў дзядзька пакінуў нам дзедаву шаблю і кульгавага Ёзапатаса.

Такую дзіўную гісторыю расказала мая пані маці ў тую незвычайную раніцу. І дадала: зусім можа быць, што Ёзапатас і дагэтуль часамі знюхваецца з ваўкамі. Ці не з гэтай прычыны і нашы авечкі прапалі? Сын жа мой, Габрэлюс, пасучы авечак, ніколі не засынаў. Не, тут без Ёзапатасавага пераварочвання не абышлося!

Маларослы пастыр Варніне, пачуўшы такое, падскочыў як апараны і пачаў нервова тупацець па таку ў плябанавым доме:

— Гм... Гм... Кінь, васпані! Трэба знаць меру! Гм... Гм... Выходзіць, што нябога Ёзапатас пажраў вашы авечкі.— Пробашч ухапіўся за галаву.— Звар'яцець можна.

Мы з паннай Зосяй не ведалі, чый бок узяць, каму верыць. Ціха сядзелі і слухалі, што будзе далей. А маці зусім раззлавалася:

— То я манюка, пан ксёнжа? — Яе грыва грозна страсянулася.— Я ўсё гэта чула з вуснаў самога пана Мельхіёраса, кажу яшчэ раз: сваімі вушамі чула!

— «Чула»! — тупнуў нагой, страціўшы цярпенне, ксёндз Мацеюс.— Чуткі, паважаная, залежаць ад таго, да якіх дзвярэй вуха прыкладзеш. Гм... Гм... Я ўжо, богу дзякаваць, ведаю пана Мельхіёраса. Не ад кары сваякоў Каялы ўцёк ён да туркаў, а ад лютых ліхвяроў. Уцёк, бо ў карты прайграў апошняе, што засталося ад вашага дзеда. Не прайграў аднаго

толькі Ёзапатаса. Бо гэтага крывога гультая ніхто не захацеў узяць.

— Ксёнжа! Каб мяне чарты парвалі! — захвалявалася маці.— Я ўсё памятаю.

Рэзкім жэстам ксёндз перапыніў яе:

— Ах, добрая пані! Гэта тое самае, што Марэ памерла ад вяснушак. Гм... Гм... Занадта малая дзяўчынка васпані была, каб памятаць. А прыгожую хлусню заўсёды мілей слухаць, чым благую праўду.

Маці ўзняла галаву, надзьмулася і намерылася загудзець ва ўсе арганы.

Зірнуўшы на ласкавую Зосю і адчуўшы яе маўклівае ўхваленне, я сказаў:

— Няхай даруе мне пані маці. У жыцці ж усялякае бывае. Паважаны настаўнік! Васпан не раз гаварыў: і ў драўляным касцёле можаш дастаць цаглінаю. Нашто дарэмна сварыцца? Лепей пойдзем і запытаемся, як там было, у самога Ёзапатаса. Мудрасць чалавечая кажа: коней утаймоўваюць коннікі, коннікаў — жонкі, а жонак — іх дзеці.

Маці, пачуўшы мае такія словы, здзівілася і змоўкла. Пробашч Варніне ўдзячна глянуў на мяне:

— Гм... Гм... А Габрэлюс правільна кажа.

З нецярпеннем я чакаў, што далей будзе. За акном крычалі нечым патрывожаныя гракі.

— Пане сыне! Пакліч Ёзапатаса,— хрыплым голасам загадала маці.

Я ўстаў, каб пайсці, але спыніўся пасярод пакоя: у вёсцы пачуліся спалоханыя галасы, у званіцы бомкнуў звон.

— Гарыць! Божа мілы, Варніне гарыць!

Забыўшыся на спрэчку, усе стрымгалоў выбеглі на вуліцу.

Маці схапілася за сэрца, у мяне ў роце перасох язык: ахоплены агнём, гарэў наш дом. Полымя шу-

гала, уздымаючыся ўгору, у неба, чорны дым ахутаў двор, старыя яблыні, чуўся прыглушаны рык Жальве.

Калі дабеглі да дома, ад якога адно трэск ішоў, праламалася страха іваліліся сцены. Стукаліся адно аб адно вёдры з вадою, што падносілі многія рукі, ляскалі сякеры, галасілі жанчыны. У агульнай сумятні пачуўся адзін зычны голас:

— Дзе Ёзапатас? Шукайце Ёзапатаса!

Гэта крычала мая маці.

Колькі часу прайшло, пакуль людзі знайшлі Ёзапатаса, я не памятаю.

— Вось ён! — нарэшце пачуў я ксяндза.

Я зараз жа падбег бліжэй. Здрыгануўся і стаў. Напалову абгарэлы труп Ёзапатаса, выцягнутага з полымя, неяк дзіўна скручаны, ляжаў пад яблыняй на траве. У руцэ ў яго моцна заціснутае крэсіва. Я пашукаў вачыма: дзе ж яго люлька?

Побач, пабялеўшы, як мярцвяк, стагнала маці. Яна глядзела на абсмаленага Ёзапатаса і шаптала, шаптала тое самае:

— Гэта ж ён знарок... Гэта ён так знарок, знарок. Ён сам спаліў сябе. Ёзапатас усё чуў, седзячы за дзвярыма ў плябаніі... Ён чуў.

Зося стаяла здаля, сярод вясковых жанчын, якія жвава перагаворваліся і абмяркоўвалі няшчасце.

Пастыр Варніне, ксёндз Мацеюс, шаптаў малітву. Азірнуўшыся на ўсхваляваны натоўп, ён ціха сказаў маці:

— Глупства гаворыш, мая пані. Бедалага Ёзапатас тут не вінаваты. Неасцярога з агнём, пані. Гм... Гм... Ёзапатас быў добры чалавек. І слухаць не хачу ўсякую балбатню. І пахаваю я яго як чэснага хрысціяніна, а не як самагуба ці нейкага пярэваратня.

Сурова зморшчыўшы лоб, пагрозліва паківаўшы пальцам, пробашч павучальна казаў далей:

— Зразумей, васпані, такія плёткі старой цёткі, плявузганне бабскае пярэваратняў у людзях і плодзіць.

З гурту жанчын падышла да нас ласкавая панна Зося. Па даўняй дзіцячай звычцы стала поруч са мной. Дым і слёзы душылі яе.

А маці, напалохаўшы ўсіх, раптам з крыкам упала на калені. Ад жаху ў яе як не павылазілі вочы.

— Вуж! Людзі! Вуж! — залямантавала яна.

Здранцвелая ад страху, маці сачыла, як вялікі вуж, што невядома адкуль вылез, віўся вакол няшчасных астанкаў Ёзапатаса і поўз у кусты.

Я дрыжаў як у ліхаманцы, зубы ляскалі з перапуду: мы ўжо ведалі, што з'яўленне вужа прыносіць бяду.

Пра гэта яшчэ раз нагадала папялішча старога шляхецкага гнязда...

## Нечаканая прапанова

Агонь зрабіў сваю згубную справу...

Сціхла гудзенне звана, змоўклі грукатанне вёдраў, крыкі людзей.

Мы стаялі апаломленыя ад гора сярод натоўпу абадраных галодных сялян. Нам здавалася, што мы цяпер бяднейшыя за іх,— без прытулку... Тлелі-курэлі галавешкі, згасала вуголле, рассыпаючыся шэрым попелам. А вецер разносіў яго разам з пахам дыму па ўсім Варніне. Ад старога гнязда Твірбутасаў уцалелі мураваны свіран і высокі мураваны флігель з абымшэлым, прагнілым дахам. Некалі маім прашчурам ён служыў абарончай вежай. Цяпер на яго верхавіне ў шчылінах раслі пасеяныя птушкамі і

ветрам чэзлыя бярозкі, трава. У вузенькіх байніцах выседжвалі птушанят дзікія галубы, ціўкалі задзіры вераб'і. Круглая дзірка, праз якую ў даўнія часы вытыркалася невялікая гармата, была забіта смеццем. Ствол порыстай гарматы валяўся каля падмурка ў зарасніку крапівы і лопуху, у якім утульна грэбліся рабыя куры. Пад флігелем знаходзілася вялікае сутарэнне. У яго Твірбутасы некалі саджалі сялян за непаслушэнства або за якую іншую правіннасць, там хавалі ваенную здабычу і трымалі палонных. Пазней падвал ператварыўся ў сметнік.

Побач з флігелем стаяла капліца з чырвонай цэглы, якая пачала ўжо крышыцца. Там знаходзіўся родавы магільны склеп, у якім тлелі косці маіх продкаў. Дзверы ў капліцы і ў пахавальні былі завалены старым хламам, прагнілымі вялікімі бочкамі, у якіх Твірбутасы ў часы свайго працвітання трымалі піва, мёд і спірт, што, як доўбняй, збіваў з ног. Не раз, гледзячы на капліцу, я думаў, што душы маіх продкаў, пачуўшы трубны голас страшнага суда і выбраўшыся з дамавін, наўрад ці здолелі б прабіцца праз гэтую звалку, каб паўстаць перад грознымі вачыма госпада...

Суседзі спачувалі нашаму жабрацтву. А я з гарыччу ў сэрцы падумваў: «Хай бы лепш зайздросцілі, чым шкадавалі».

Як я ўжо казаў, засталіся цэлыя, не кранутыя чырвоным языком агню толькі флігель і мураваны свіран з глыбокім склепам для хавання харчоў і пітва. Да яго нахіліліся старыя кляны з абвіслымі ад важкай лістоты галінамі. У гэтым свірне мы з маці, сяк-так паслаўшы пасцелі, і перабылі неспакойную ноч.

Назаўтра над невялікімі сялянскімі могілкамі чорнымі чародкамі кружыліся гракі. Сярод вясковых крыжоў на варнінеўскім могільніку з'явіўся яшчэ

адзін маленькі грудок зямлі — Ёзапатасаў. У канцы магілы жаласліва тырчаў уваткнуты ў зямлю непафарбаваны, спехам забіты драўляны крыж.

Калі пасля пахавання ўсе разышліся, панна Зося ціха паклала на ўзгорачак букецік палявых кветак. Гэта былі адзіныя кветкі на Ёзапатасавай магіле. І, мусіць жа, першыя і адзіныя за ўсё жыццё кветкі, якія сарвалі яму пяшчотныя дзявочыя рукі.

Мы вярталіся з паннай Зосяй моўчкі. Я падышоў да халоднага свірна. Мая маці доўга нешта раілася з яго праасвяшчэнствам, потым падышла да мяне і стомленым голасам сказала:

— Габрэлюс! Па маёй просьбе ксёндз Мацеюс паслаў чалавека ў Раньчай, па твайго паважанага хроснага бацьку Мельхіёраса.

Я не разумеў, як гэта мой дзядзька Мельхіёрас, сам даведзены да галечы, дапаможа нам у бядзе? Хіба толькі тым, што, калі прыйдзе, выцісне апошнюю кроплю старога мёду, які мы трымаем у склепе. Я добра ведаў яго «канон»: што можаш выпіць сёння, не пакідай на заўтра! Пан дзядзечка заўсёды гаварыў: у сухім целе душа не ўседзіць.

Астатнюю частку дня мы з маці корпаліся ў старым свірне: парадкавалі. На вячэру нічога не гатавалі — што знайшлі ў свірне, тым і павячэралі. Гледзячы на кучу вуголля і попелу, на замшэлы флігель і думаючы пра маіх бравых продкаў, якія доўгі час тут кіравалі verbo et gladio [1], я адчуў сябе зусім адзінокім у сваёй вотчыне.

Добра не ведаю, ці сніў я ў тую ноч подзвігі сваіх продкаў ці велічныя бітвы, але прачнуўся зусім аглушаны нейкім дзіўным шумам на двары, за сумнымі сценамі свірна. Я хутка ўстаў і прачыніў рыпучыя дзверы. Заспаныя вочы асляпіла яркае ра-

---

[1] Словам і мячом *(лац.)*.

нішняе сонца. Затуліўшы ад святла рукой лоб, я ўбачыў таго, хто ўзняў такі гармідар. На двары стаяў невысокага росту чалавек з паппутай мяккай аксамітнай шапкай на галаве. Тонкія канцы даўжэзных вусоў былі закінуты за вушы, пад доўгім носам дымеў вялізны кальян, напханы, што аж дух займаў, пахучым тытунём. За шырокім выцвілым шаўковым поясам тырчала пістоля, па чырвоных ботах на скрыўленых абцасах ляпалі ножны выгнутай турэцкай шаблі. Чалавек гэты ўсіх зграбаў у ахапак, цалаваў, паляпваў, як утрапёны, па плячах ксяндзу Мацеюсу і крычаў:

— Здароў будзь, танзура!

Так павітаны, варнінеўскі пастыр круціўся, як чарвячок у птушынай дзюбцы.

— Kyrie eleison![1] — крычаў ксёндз, стараючыся вырвацца.— Звар'яцеў ты, ці што, турак! Пусці, басурман, бо задушыш!

Хоць ксёндз Мацеюс і лаяўся, але вочы яго смяяліся: на майго вясёлага хроснага бацьку нельга доўга злавацца.

На двары каля ліпы стаяў стары аднаконны кабрыялет. Конь хрумстаў падкінутае яму сена. Сплёўшы на жываце рукі і расплыўшыся ўсмешкай, маці глядзела на гэтую карціну. З-за плятня высоўваліся цікаўныя галовы. Як жа не паглядзець на такога шумлівага госця — храбрага пана Мельхіёраса!

Паглядзеў хросны на папялішча без асаблівага здзіўлення: паківаў галавой, цмакнуў языком, рукой дакрануўся да абгарэлага бервяна.

— Што тут шкадаваць...— выцер запэцканыя вугалем пальцы аб траву.— Усё роўна развалiліся б гэтыя гнілякі, сточаныя шашалем... А Ёзапа, так сказаць, на могілках закапалі. Гм... Гм...

---

[1] Божа, злітуйся! *(грэч.)*

Гэта было ўсё, што пан дзядзечка сказаў пра наша няшчасце.

Я спусціўся па сходках, каб павітацца з дзядзькам. Стары ўбачыў мяне, надзьмуў вусы, развёў рукі.

— Цмока праглыну! — закрычаў ён з нястрымнай радасцю.— Гэта ж сышоў з вышынь сам Габрыэль!

І я апынуўся ў яго абдымках.

— Здароў, пан пляменнік!

Дзядзечка цягнуўся, каб пацалаваць, але мог дастаць толькі да маёй шыі. Дух заняло ад яго турэцкага кальяна, што няспынна дымеў. Гэтае люлькі, ад якой біла ў нос, ён не выпушчаў з рота ні на хвіліну.

— Цмока праглыну, страшыдла праглыну! — хваляваўся хросны бацька.

Мне здалося, што хросны праглынуў ужо не толькі пачвару, але і карчму рандара Абрама з усімі яго бочкамі гарэлкі. Вось ад чаго так расчуліўся мой дзядзечка.

Калі нарэшце расселіся ў халадку, у садзе ў альтанцы, дзядзька Мельхіёрас знайшоў сваю блазнаватую біклажку. Выцягнуў з яе драўляны корак, панюхаў, перавярнуў уверх донцам: ні кроплі не выцекла.

— Не засталося нават, як камару ўтапіцца,— зарыкаў, нюхнуўшы.— А чалавеку ж болей трэба.

— Nota bene! [1] — ляснуў рукамі ад смеху ксёндз.— Яшчэ нічога не сказаў, а ўжо адразу падавай яму!

Маці замілавана глядзела на свайго браціка.

— І бог на крыжы крычаў «Sitio» — «Хачу піць!» — запярэчыў пробашчу пан Мельхіёрас.

---

[1] Глядзі! *(лац.)*

— Ягамосць, не ўпамінай імя божага без патрэбы,— пасуровеў варнінеўскі ксёндз.— Не трэба забываць, ласкавы пан, тут пагарэльцы. Мы сышліся не дзеля таго, каб весяліцца.

Маці, уздыхнуўшы, апусціла вочы.

Дзень меўся быць спякотны, у садзе гулі пчолы, водар кветак ішоў ад старога куста язміну, спакой ахутаў альтанку. Падняўшыся з лаўкі, маці перарвала цішыню:

— Прашу прабачэння ў паноў. Я зараз, пан браток. Прынясу чаго-небудзь перакусіць.— І, жвава павярнуўшыся, пайшла з альтанкі.

Я глядзеў на старэнькіх. Хросны бацька выціраў пот з ілба.

— Горача робіцца,— прамармытаў ксёндз, бо не было пра што гаварыць.— Добра было б выкупацца.

Пан Мельхіёрас ажывіўся. Па-шляхецку паляпаў ксяндзу Мацеюсу па плячы і радасна ўсклікнуў:

— Давайце купацца ў віне, будзе прыемна высыхаць.

Варнінеўскі пастыр усміхнуўся, пачуўшы гэта, і адрэзаў:

— Ох ты, стары грахаводнік! Ты лёгкі, нідзе не патонеш, усё жыццё ў віне зверху плаваеш.

Пакуль яны так паколвалі адзін аднаго, вярнулася маці са сціплым пачастункам. Раскладваючы яго на абчэсаным камені, які ў альтанцы быў замест стала, яна папрасіла брата прабачыць, што не можа падаць таго, што ён любіць. Мой хросны бацька не стаў дужа фанабэрыцца — на тоўстую скібу хлеба паклаў добры кавалак белага сыру, упхнуў у рот і, спешна малоцячы сківіцамі, адказаў маці:

— Калі няма таго, што мы любім, мы любім тое, што ёсць. Ха-ха-ха!

Падселі да мамусінага частавання і мы з пробашчам. У думках я дзякаваў усявышняму, што агонь

абмінуў свіран: у ім мы трымалі не толькі харч, але і іншыя, хоць і небагатыя, запасы. Пан Мельхіёрас апошні кус хлеба запіў квартаю мёду (маці такі знайшла яму ў склепе), пастукаў па каменным стале і прамовіў:

— Панове, паважаная мая сястрыца! Domine reverende! [1]

Абрыс яго твару стаў урачысты.

— Мы сабраліся тут пасля няшчасця, што спасцігла вас, каб вырашыць,— шматзначна, не выпускаючы з рук кварты, дзядзька паказаў на мяне,— як далей будзе жыць мая пані сястра. Трэба абдумаць таксама, што будзе з гэтым дзецюком.

Дзяцюк — гэта я.

Дзядзька хваляваўся. Можа, захмялела галава ад старога мёду. Ён нечакана стукнуў квартай аб зямлю і закрычаў:

— Страшыдла праглыну, страшыдла! Але цябе, апошняга нашчадка Твірбутасаў, у людзі выведу. Каб ты жыў і звекаваў titulus et vitulus [2].

Пасля такога напышлівага выступлення мой дзядзька Мельхіёрас змоўк, неяк сплюшчыўся і, нешта мармычучы, раптам заснуў. Яшчэ мінута, і ён захроп так, нібы карчы драў.

На гэтым сямейная рада скончылася. Маці збянтэжана ўсміхалася, ксёндз Мацеюс махнуў мне рукой. Выйшлі мы з альтанкі ўтраіх.

— Гм... Гм... Прыгожа б мы спявалі, але ў галасах у нас ладу няма,— не без горычы сказаў яго праасвяшчэнства.

Сонца ўздымалася ўгору, кацілася на поўдзень. У Варніне настала цішыня. Вясковыя жыхары пасля ранішняй працы палеглі ў спёку адпачыць, падра-

---

[1] Духоўны айцец *(лац.)*.
[2] Знакаміты і багаты *(лац.)*.

маць. Стракатая чарада ў халадку ляніва жавала траву, вераб'і, адурнеўшы ад духмені, схаваліся ў хмызняку. На небе павольна збіраліся цёмныя хмары.

— Дык увечары,— пачуў я, як сказаў ксёндз,— увечары скончым раіцца.

— Увечары,— плаксіва згадзілася маці, і яны разышліся.

На сцежцы каля пробашчавага дома на міг мільгануў цьмяны цень панны Зосі. Яна як закаханая дзяўчына ў непакоі чакала, чым скончыцца сямейная рада.

А вечар быў бурлівы. Прайшла навальніца, у небе грукатала калясніца Ільі, скрыжоўваліся вогненныя мячы архангела Міхаіла і князя пекла Люцыпара, вятры згіналі верхавіны дрэў, прыбівалі ракіту да зямлі. У такі пануры вечар пасля доўгіх разважанняў, сварак і слёз у плябаніі ўсё было вырашана, сказана і ўзважана.

Сямейны форум закрыў дзядзька Мельхіёрас, паляпаўшы мне па спіне:

— Я табе, Габрэлюс, раю: самае галоўнае — рабі так, як сам разумееш,— па-змоўніцку міргнуў ён мне.— Я ж добра ведаю, што ніхто не любіць парад, а толькі грошы. А грошы ў тысячу разоў лепей за самую мудрую параду.

Панна Зося сядзела і глядзела на мяне вачамі, поўнымі слёз. Сямейная рада рашыла: мая пані маці, усклаўшы на воз тое, што засталося ў Варніне, перасяляецца ў Раньчай, да пана брата Мельхіёраса. Варніне аддаём у арэнду барадатаму Абраму.

Яго праасвяшчэнства ксёндз Мацеюс сказаў:

— Гм... Гм... Табе, Габрэлюс, гм... гм... давядзецца надоўга развітацца з Варніне.

Зося нізка схіліла галаву. У мяне ў горле засеў камяк, і я доўга не мог вымавіць слова.

— Дарагой пані маці давядзецца расстацца з Габрэлюсам...— Паўзы пачалі паўтарацца ў ксяндза ўсё часцей.— Гм... Гм... расставанне, зразумела, не лёгкая рэч. Але, як павучае нас бог,— disce pati[1].

Матуля моцна сціснула губы. Пальцы рук сашчапіліся ў гаротным спляценні. Я ніколі не думаў, што пальцы ў чалавека, яго рукі могуць быць такія выразныя, што за кароткае імгненне могуць сказаць больш, чым самая даўгая прамова.

Я даведаўся, што вырашана паслаць мяне ў слаўны Нясвіж, у панства магутнага ўладара невыказных багаццяў князя Караля Радзівіла. Гэта мне было нечакана. Якія вятры з гэтай убогай Варніне раптам падзьмулі на Нясвіж, што патанае ў бляску і раскошы? А аказваецца, знакаміты ў Вільні і Варшаве сваёй адукаванасцю ўплывовы пісар князя Радзівіла, слаўны пан Матусевіч — стары сябра і малодшы брат ксяндза Мацеюса. Не раз ён памагаў Мацеюсу Карыбутасу ў ліхую гадзіну. Да таго пана, якога называюць паважна Пісарам, я і павінен буду звярнуцца. Шаноўны Матусевіч, калі будзе яго ласка, паклапоціцца пра мяне наконт службы ў двары князя Радзівіла, службы даволі прыстойнай, якая не прынізіла б годнасці шляхціца.

Дзядзька пасмоктваў люльку. Маці моўчкі ківала галавою. Я не мог надзівіцца — чаго яна так прыціхла? Праўда, яе моцна ўзрушыла трагічная смерць Ёзапатаса. А можа, яе грызла сумленне, адчуванне віны за тое няшчасце, што звалілася на нас, а можа, яе страшыла невядомасць майго жыцця ў княжацкім Нясвіжы?.. Але выбару не было, а там, як гаварыў дзядзька, мяне чакае найлепшая будучыня. Я задумаўся: як зразумець такую будучыню? Дзядзька кажа, што надыдзе такі час, калі мае справы пой-

---

[1] Навучыся пакутаваць *(лац.)*.

дуць вельмі добра: жалезная скрыня ў маім падвале будзе поўная золата, мне паставяць асабістае крэсла за пачэсным каралеўскім сталом, устаўленым найлепшымі стравамі і трункамі.

Першыя крокі да такой будучыні павінна зрабіць пратэкцыя — ліст ксяндза Мацеюса, адрасаваны пану Пісару. Пастыр Варніне дастаў з каморы важкую свінцовую чарніліцу і жмуток прыгожа звязаных гусіных пёркаў. Выбраўшы самае тонкае пяро, акуратна яго завастрыў, паспрабаваў на кавалачку паперы, як яно піша, і прыгожым дробным почыркам пачаў складаць пісьмо:

«Domine delictisime![1] Мой дарагі, высокашаноўны дружа! Ваш пакорны слуга мае гонар звярнуцца да Вашай міласэрнасці, молячы...»

У лісце ксёндз Мацеюс расказаў пра трагічныя падзеі ў Варніне, няўцешнае становішча Твірбутасаў. Пісьмо заканчвалася выказваннем вялікай павагі і вечнай прыязнасці. Ксёндз мудрагеліста падпісаўся: obligatus servus[2] Мацеюс Карыбутас.

За абымшэлымі сценамі плябаніі ўсё яшчэ грымела, дождж паволі капаў на вокны. У медных падсвечніках на стале патрэсквалі запаленыя свечкі, з якіх сцякалі гарачыя плаўкія кропелькі воску. Асмаленыя кнаты свечак зрэдку абшморгвала маленькімі шчыпчыкамі панна Зося. Нашы смутныя позіркі раз-пораз страчаліся.

Задаволены сваім тварэннем, ксёндз паклаў гусінае пяро. Засталося толькі абмеркаваць такія-сякія дробязі, звязаныя з паездкай.

Гэта была наша апошняя ноч у нашым Варніне.

На золку, як толькі развіднела, ад святла, што прабівалася праз вузенькае акенца ў свірне, пачалі

---

[1] Глыбокапаважаны пан! *(лац.)*
[2] Ваш пакорны слуга *(лац.)*.

яснець некаторыя рэчы. Дзядзька Мельхіёрас ужо пацягваўся ў пасцелі. Падняўшыся, ён асабліва ўважліва паглядзеў на недалёка пастаўлены кубак, нахіліў яго і, пераканаўшыся, што ў ім не засталося а ні кропелькі вільгаці, панура шпурнуў яго на падлогу. Сваю злосць хросны бацька спагнаў і на мне.

— Уставай, лежань! — затрубіў на ўсё горла.— Устань на ногі! Свет, пан пляменнік, належыць рухавым. Чуеш, твая мамуся на двары нешта смажыць, аж у носе казыча. Давай паспяшаемся жаваць, бо фартуна часцей хітра падкідвае мігдал таму, у каго ўжо зубоў няма.

Пасля снедання пачаліся апошнія сцэны гэтай дзеі — падрыхтоўка да падарожжа. Маці з усіх кутkоў збірала і складвала свае манаткі. Кожную, хоць чым-небудзь прыгодную рэч клала на воз, а што заставалася — старое гаспадарчае прыладдзе, патрэсканы посуд, рыззё,— панскім размераным жэстам і фанабэрыста раздавала сялянам, якія тут сабраліся.

— Габрэлюс, пане сыне! — паклікала маці.

Голас яе загучаў урачыста, як велікодны арган.

Уваліўшы ў воз апошні пакунак, я падышоў да маці. Дзядзька Мельхіёрас стаяў побач, у руцэ трымаў рыдлёўку, а твар яго быў не менш напружаны.

— Пайшлі,— таямніча махнула рукою маці.

Мы з ёю ціха падышлі да старога флігеля. Праз скрыўленыя дзверы мы прабраліся туды. Маці павярнула да старой нішы, зарослай бур'янам. Азірнулася, тупнула нагой.

— Здаецца, тут. Ну, але, тут. Бяры рыдлёўку, Габрэлюс!

Я здзівіўся: што гэта за чарадзейства? Але моўчкі ўзяўся за працу. Дзядзька Мельхіёрас з цікаўнасцю круціўся тут таксама. Нарэшце стукнула:

рыдлёўка наткнулася на нейкія дошкі. Разабраўшы іх, я ўбачыў у яме века акаванай жалезам скрыні. Мне аж дух заняло — я прыгадаў розныя страхі, паданні пра схаваныя багацці, заклятыя скарбы. Моцна затахкала сэрца: што схавана ў гэтай скрыні?

Калі мы выцягнулі скрыню наверх, маці старадаўнім ключом ледзьве адамкнула заржавелыя замкі. Падняла, таксама заржавелае, акаванае века. Я расчаравана глянуў: у скрыні не было ні золата, ні каштоўнасцей. Нейкія пакі адзення, скрутак дакументаў са свінцовымі пячацямі, падвешанымі да пергаменту. Відаць, каралеўскія граматы, што сведчаць аб шляхецтве нашага роду. Пад усім гэтым — перламутравая шкатулка дзіўнай формы і меч з бліскучым срэбным эфесам, абгорнуты старою парчою. Гэтым мячом трыста гадоў таму назад першыя Твірбутасы грамілі крыжакоў, а іх нашчадкі храбра біліся з татарамі. У гэтых бітвах вызначыўся наш род, і яго запісалі ў шляхецкія кнігі з гербам.

Пан Мельхіёрас Твірбутас, стоячы каля струхлелай скрыні, быў усхваляваны. Ён дастаў сваю біклажку, якую яму пядаўпа наліла маці. Адкінуўшы галаву, ён нібы адным глытком выжлукціў бурштынавую, духмяную вадкасць. Кожная кропелька ўсмоктвалася ў яго горла, як вада ў пясок, высушаны ў летнюю спёку. Раптам вочы яго зрабіліся бялявыя, на шчоках з'явілася густое павуціnne сініх жылак, нос стаў чырвоны, як жар. Раньчайскі пан любіў гаварыць, што яго нос псуе рука: яна падымае кварту віна, а чырванее нос.

Дзядзька Мельхіёрас нахіліўся над скрыняй, узяў меч, раскруціў парчу, выцягнуў яго з ножан, і заззяла не кранутае часам лязо. У вачах заблішчалі старэчыя слёзы.

— Страшыдла праглыну! Дзесяць страшыдлаў. Сто страшыдлаў!

Яго губы дрыжалі. Дзядзька прытуліў меч да сэрца, пацалаваў яго эфес.

— Габрэлюс! Гэты меч з гонарам насілі, а ў бітвах высока падымалі твае продкі. Будзь варты іх... Цяпер меч належыць табе, апошняму нашчадку роду Твірбутасаў.

Я ўзяў сямейную рэліквію ў свае рукі. Язык пана Мельхіёраса кепска слухаўся яго. Мёд быў вельмі стары. Ногі падкошваліся, але дзядзька здолеў закончыць сваю прамову, якая мяне ўсхвалявала папраўдзе.

— Няхай блаславіць цябе бог! Няхай пасвенціць у тваіх руках меч продкаў. Не зганьбі мяне, твайго настаўніка, які навучыў цябе валодаць такой слаўнай зброяй. Падняўшы яго, не апускай без годнасці!.. Амін!

З немалымі намаганнямі дагаварыўшы сваю казань, хросны бацька перахрысціўся, раскірэчыўся, захістаўся і, страціўшы раўнавагу, ледзь не гопнуўся ў скрыню, як у магілу.

Нарэшце мы да драбніцы агледзелі ўсё ў скрыні. Больш часу патрацілі на шаты: яны ў скрыні берагліся як вялікая каштоўнасць, якая засталася ад дзеда. Ядваб, аксаміт, чырвоныя боты з загнутымі ўгору наскамі, пояс на шаблю, стары зухаваты капялюш. Такім чынам пытанне пра мой гардэроб было вырашана. Капялюш я адразу надзеў на галаву. Ласкавая панна Зося, а яна прыйшла са сваім дзядзькам пробашчам, убачыўшы мяне такога, разявіла рот і заляскала ў ладкі:

— А божачка! Ай-ай! Які ты шыкоўны, Габрэлюс! Як табе пасуе гэты капялюш з пяром! Ну проста — прыдворны ў караля!

Я пачырванеў ад задавальнення. Забразгатаў меч у мяне на баку, я адчуў прыліў адвагі і сілы.

— Гм... Гм... Прыгожаму чалавеку ідзе і гаршчок на галаве,— ухмыльнуўся ксёндз Мацеюс.

— Ах, ласкавая пані, які ён цяпер гожы,— ужо не ўтойвала свайго захаплення мілая Софія.

А насмешнік варнінеўскі пастыр па сваёй звычцы прадаўжаў пакепліваць — ліць мне за карункавы каўнерык струменьчык халоднай вады:

— Гм... Гм... Гожы, кажаш, пляменніца? У семнаццаць гадоў дык і чорт жа без зморшчын.

Ксёндз Мацеюс жартаваў, але вочы ў яго былі журботныя.

Нарэшце ўсё гатова. Можна ехаць. Я аглядаў пажарышча бацькоўскага дома, стары свіран з прачыненымі дзвярыма, флігель, запушчаны, зарослы сад. Надышоў час развітвацца. Апошнія мінуты расставання самыя доўгія: не хапае слоў, бо ўсё ўжо выказана, жанчынам не хапае слёз, бо ўсе ўжо выплаканы.

У такім настроі я, Габрэлюс Твірбутас, нашчадак роду Твірбутасаў, пакідаю Варніне, зямлю сваіх продкаў.

Нібы вырваўшыся з невясёлых думак, я пачуў Зосін голас:

— Паважаны пане, ці магу я патурбаваць ягамосця?

Гэтыя словы былі адрасаваныя майму дзядзечку.

— Паважанай паненцы я заўсёды гатоў служыць,— галантна стукнуўшы абцасамі, адказаў мой хросны бацька.

Адважыўшыся, пробашчава пляменніца сарамліва ціха запыталася:

— Скажыце, ваша мосць, гэта ў вас скінуўся пярэваратнем Ёзапатас?

— Ёзапатас? — здзівіўся дзядзька.

— Ну але, ён жа, як быў малады, ваўкалакам

бегаў? У пана Каялы служыў. Разам з ваўкамі гнаўся за васпанам і нябожчыцай паннай Ізабэлаю.

Пан Мельхіёрас зусім сумеўся.

— Ёзапатас, кажаш, пярэварацень? — аж застагнаў ён ад здзіўлення.— Што за глупства... Ха-ха-ха! Ёзапатас пярэварацень?! І Ізабэла — нябожчыца? Адкуль усё гэта, любая панна?

Зося пачырванела, заморгала сваімі густымі вейкамі і незнарок зірнула на пані маці. Я таксама глянуў на яе: мамця ператварылася ў падоўжаны пытальнік. А дзядзька Мельхіёрас усё не мог апрытомнець:

— Адкуль любая Зося ўзяла, што панна Ізабэла Каялайце памерла? Праўда, яна далёка адсюль, але жывая, здаровая, як дубовая хата. Выйшла замуж за грундзішкскага пана Ванагаса. Адзінаццаць дачок гадуе... Ха-ха-ха!

Маці не вытрымала насмешлівага пагляду ксяндза Мацеюса.

— Пане браце! Каб твой язык апух! — да яе вярнуўся вісклівы голас.— Ты ж сам мне гэту ваўкалацкую гісторыю расказваў. Божкаўся, кляўся ўсімі святымі, што, баронячыся, пакалечыў мячом нагу Ёзапатасу.

Бедны пан Мельхіёрас у разгубленасці пашчыпваў канец вуса:

— Далібог, не помню. Мусіць, нямала мёду я тады ўліў у сябе. Ха-ха-ха! Мячом я ніколі Ёзапатаса не крануў. З такой нагой ён прыйшоў ужо на гэты грэшны свет.

— Ох, ох! Які ж ты, братачка, ох, які ты... Лепш бы ты ўжо не разяўляў рота,— завохкала маці, не знаходзячы слоў і закрыўшы ад сораму твар рукамі.

Няёмкае маўчанне перабіў ксёндз Мацеюс. У яго голасе чулася перамога:

— Так, так, так... Хлусня, як пясок. Гм... Гм... Здаецца, мяккі, калі на яго кладзешся, але непрыемна цвёрды, калі ўстаеш.

Я сцяў губы, каб не засмяяцца.

— Каб вы цмока праглынулі з гэтай хлуснёй і з гэтым пяском! Не задавайце пытанняў, не трэба будзе адказваць, не трэба будзе адказваць — не пазнаеце, маню я ці праўду кажу,— раззлаваўся Мельхіёрас.

Як ветрам здзьмула тую дзіўную і жудасную версію пра трагічную смерць Ёзапатаса.

Жаласна зарыкала кароўка, прывязаная да воза. Апошні раз абняўшыся, развіталіся з дарагім варнінеўскім пастырам, які нас благаславіў.

— Габрэлюс, сыне мой,— сказаў ксёндз Мацеюс, і яго хударлявая шчака тарганулася.— Я ведаю, цяжка расстацца з табою і Зосі. Але я не хацеў бы, каб ты ўвесь свой век пражыў у гэтым убогім, богам забытым Варніне. Гм... Гм... Пан Матусевіч у Нясвіжы адзінокі, дзяцей не мае, можа, сэрца яго прыхінецца да цябе. Гм... Гм... Скажу яшчэ, што ён — адзін з самых блізкіх князевых дарадчыкаў. Гм... Гм... Калі павядзеш сябе прыстойна і здолееш яму дагадзіць, шчасце цябе не міне. Гм... Гм... Не губляй годнасці, але будзь ветлівы. Ветлівасць узбагачае чалавека, Габрэлюс. Ведай, што шчасце прыносяць не грошы.

— Але грошы вельмі дапамагаюць без шчасця абысціся,— каварна выскаліўся мой хросны бацька.

Ксёндз Мацеюс не даўся спіхнуць сябе з каляіны.

— Radix malorum est cupiditas! [1] — дрыжачым голасам скончыў ён павучанне.— Бывай, маё дзіця. Гм... Гм...

---

[1] Корань зла — гэта хцівасць! *(лац.)*

Адвярнуўся і, больш не аглядаючыся, знік у плябаніі. Памахаўшы рукой, яшчэ раз пяшчотна глянуўшы на мяне, следам за ім пайшла і Зося.

Праўду кажучы, мы з Зосяю развіталіся ўжо ў мінулую ноч, калі я тайком падышоў да акна плябаніі. Праз яго, пры святле свечкі, відаць быў цень Софіі. Я ціхенька пастукаў у акно. Яно рыпнула, і паказаліся пышныя русыя валасы. Яны ўкрывалі дзівосныя белыя плечы. Месяц пяшчотна залаціў Зосін твар, мне здалося, што гэта партрэт багіні ў залатой аправе.

— Я буду чакаць цябе, Габрэлюс,— шапнула яна.

Я адчуў гарачыя яе губы...

Акно ціха зарыпела і зачынілася. Цемра і ўрачыстая, як у храме, ціша абнялі стары, абымшэлы дом варнінеўскага пробашча. Толькі ў небе ярка ззяла зорка — ранішняя...

Рыпнулі калёсы...

Скасабочаныя, убогія хаціны Варніне... Канавы, зарослыя пыльнай крапівой, маленькія гародчыкі, садкі...

Павеяла прахалодай палёў. Вось ужо ззаду засталіся высокія вербы, журботныя, навіслыя над калодзежамі жураўлі, вузкія сялянскія загоны, мост з бярвення цераз рэчку.

Я ішоў побач з возам, на якім сядзелі мая пані маці і паважаны хросны бацька. За мастком дарога разыходзілася — адна ішла ў Раньчай, па другой я павінен быў звярнуць на Нясвіж.

Тут я развітаюся з матуляю. Дзядзька так нечакана і моцна пацягнуў лейцы, што конь як не выскачыў з хамута.

— Цмока праглыну! — нейкім хрыплым, не яго голасам крыкнуў дзядзька.— Тпррр! Стой, падла!

Конь паслухмяна стаў і, пазіраючы адным вокам на дзядзьку, стрыг вушамі.

— Ну, бывай, Габрэлюс! Ідзі з богам! Усявышні бачыць, як цяжка выправіць у дарогу маладога Твірбутаса пехатой, як нейкага валацугу. Але, шчыра кажучы, і гэтая кляча не мая.— Ён пугай паказаў на каняку.— У суседа Грымзіцкаса папрасіў на які дзень.

— А дзе ж, братачка, твой сівы дзеўся? — здзівілася маці.

Дзядзька плюнуў па-простаму:

— Я хварэў вясной. Лекар той, Лейба, абяцаў на ногі паставіць. І, праўда, зрабіў, як абяцаў, нехрысць. Але за лячэнне сіўку забраў.

Не вельмі я верыў у яго хваробу: відаць, хросны каня прапіў у карчме.

Заўважыўшы маю ўхмылку, ён дадаў:

— Рабі, Габрэлюс, так, як твой дзед Яронімас рабіў.

— А што ён рабіў? — наіўна спытаўся я.

— Ха-ха-ха! А ён у карты прайграў брычку і рысака, вярнуўся дадому пешкі. І хоць пехатой ішоў, але фанабэрыю ў карэце вёз: кожнаму стрэчнаму гаварыў, што каня зладзеі ўкралі.

Трэба было развітвацца. Матуля пакорпалася ў рэчах на возе, дастала тую перламутравую шкатулку. Адчыніла вечка, і я ўбачыў там жаночыя ўкрасы: пярсцёнкі, ланцужкі, каралі. На самым дне пазвоньвалі некалькі талераў [1].

— Гм-гм-гм! — толькі прамыкаў дзядзька Мельхіёрас, убачыўшы такія грошы.

Талеры высока цаніцца ўсюды. Маці палову іх аддала мне:

---

[1] Талер — манета ў Вялікім княстве Літоўскім, якая была роўная 3 злотам або 90 польскім грошам.

— Вось табе, пане сыне, на дарогу. Гэта апошняе наша багацце, якое я доўгі час берагла. Схавай добра, каб не згубіў.

— А галоўнае, пан пляменнік, глядзі на ўсе вочы, каб карчмары не выхітравалі іх у цябе, бо карчмарова вока праз лахманы шэлег бачыць, а то яшчэ які жулік з кішэні можа вымесці,— дадаў хросны бацька, добра дасведчаны ў гэтых справах.

Узрадаваны нечаканым падарункам, я ўдзячна пацалаваў маме руку, а яна зноў пачала капацца ў скрынцы. Яе шчокі зрабіліся чырвоныя, як спелыя маліны.

— Гэта таксама табе, сынок,— пані маці выцягнула тонкі залаты ланцужок.

На ім вісеў плоскі медальён. Ланцужок з медальёнам павесіла мне на шыю.

— Каб ты помніў мяне... І... на памяць бацькі... твайго... Ён мне падараваў гэты медальён.

Дзядзька Мельхіёрас нахмурыўся, сцяў губы.

Маці, скоса паглядваючы на дзядзьку Мельхіёраса, сказала яшчэ:

— Няхай бароніць цябе бог ад смерці, ад ран і няволі.

Нарэшце я вырашыў адгадаць адну загадку. Яна мяне мучыла ўсё жыццё. Сабраўшы ўсю смеласць, але не адважыўшыся глянуць матулі ў вочы, я прамармытаў:

— Пані маці! Пані маці... Ах, прашу прабачыць. Але я вельмі хачу дазнацца — хто ж быў маім панам татам? Я яго ніколі не бачыў, ніколі не чуў, каб пра яго гаварылі. Нават яго... nomen nescio [1],— чамусьці скончыў я на латыні.

Перламутравая шкатулка з усімі бліскаўкамі саслізнулася з каленяў на воз.

---

[1] Імя не ведаю *(лац.)*.

— Быў, дарагі мой хлопчык,— нарэшце ціха прамовіла маці.— Быў такі прыгажун улан... Аднойчы ён праязджаў на кані праз наша Варніне... Ехаў, спыніўся і ў нашым маленькім маёнтку заначаваў...

Маці дрыжачымі рукамі закрыла свой твар.

Заскрыпела сядзенне на возе, дзядзька Мельхіёрас, жадаючы перапыніць непрыемную цішыню, падняў руку, пуга засвістала ў паветры.

— Пара расставацца! Пара. Ну-ооо!..

Конь ірвануў, і воз з матуляю знік у шэрым воблаку дарожнага пылу...

## Бальшакі васемнаццатага стагоддзя

Доўгае падарожжа надакучае страшэнна. А ў такі далёкі паход я пусціўся ўпершыню. Перад маімі вачамі мінаюць узгоркі, гаі, яры, рэчкі, выпаленыя сонцам вясковыя пашы. Шамаціць пад нагамі зялёная трава, з-пад чырвоных ботаў скачуць ва ўсе бакі конікі. А я не такі ўвішны, як гэтыя зялёныя скрыпачы. Стаміўся я, і сонца пачало ўжо заходзіць. Расстаўшыся з паняй матуляй і дзядзькам Мельхіёрасам, я адтэпаў з трыццаць вёрст. Толькі трошкі аддыхнуў у Апмянах, ледзьве жывым ад гарачыні, збяднелым мястэчку. Цікаўныя і даволі непрыязныя позіркі мяшчан на мяне, шляхцюка з пяром у капелюшы, прымусілі паспяшацца пакінуць пыльныя вулкі Апмянаў. Яшчэ пабойваўся я і за свае схаваныя талеры.

Увесь дзень я ішоў усё далей і далей, мокры ад поту і глытаючы дарожны пыл. Хоць я не раз чуў

розныя расказы пра разбойнікаў, якія падпільноўваюць падарожных людзей, але нікога не сустрэў. Толькі невялікае здарэнне сапсавала настрой і пакінула непрыемны асадак на сэрцы.

За нейкім сялом я ўбачыў наперадзе клуб пылу. З яго неўзабаве вынырнулі трое коннікаў. Яны шалёным галопам прашугнулі міма мяне. Я ледзьве паспеў адскочыць убок: яшчэ б зусім крышку і я трапіў бы пад конскія капыты. На сонцы ззяла зброя коннікаў. Першы коннік падняў бізун і-і раз! — адным махам ссек ім аздобу майго капелюша, цудоўнае паўлінавае пяро. Яшчэ імгненне — і коннікі былі ўжо далёка, толькі вецер данёс рогат ваякаў.

Я думаў, што задыхнуся ад злосці, схапіўся за дзяржанне мяча, але толькі паднятымі кулакамі ды пагрозамі я мог выліць свой люты гнеў.

Тут у маёй памяці ажыў адзін выпадак: гэта здарылася напярэдадні майго няўдалага палявання і смерці Ёзапатаса. Зося мне потайкам, вельмі хвалюючыся, перадала срэбныя грошыкі ксяндза Мацеюса, якімі мне трэба было нанач зарадзіць сваю стрэльбу. Хутка павярнуўшыся, нават яе спаднічка надзьмулася, як перавернуты парасон, яна зграбнай хадой пайшла па сцежцы, густа аброслай дрэвамі, да дома пробашча Варніне.

Яшчэ не паспеўшы разгледзець манеты, я пачуў тупат капытоў і адразу ж зычны Зосін покліч:

— Габрэлюс! Габрэлюс!!

У яе голасе чуліся спалох і абурэнне.

Я памчаўся да яе, але, прыбегшы, убачыў ужо толькі спіны коннікаў. І пачуў дружны грубы смех.

— Мы яшчэ сустрэнемся, красуня! — абярнуўшыся, крыкнуў нахабнік-вусач.

Яшчэ не сцяміўшы добра, што здарылася, я схапіў з дарогі камень і шыбануў яго наўздагон кон-

ніку. Камень, праляцеўшы са свістам, трапіў у каня так, што той нават стаў на дыбкі. Вусач ізноў абярнуўся і, угледзеўшы мяне, пагразіў бізуном і паскакаў за сваімі.

Зося стаяла каля дарогі расчырванелая, па шчоках каціліся слёзы ад крыўды і сораму.

— Што, што тут здарылася? — запытаўся я.— Хто ён такі?

— Не ведаю... Грубіян улан. Абганяючы мяне, ён спыніў каня і крыкнуў: «Матка боска! Што за ружачка расцвіла! Добры дзень, прыгажуня!» І, нахіліўшыся з каня, ухапіў мяне...— Зося ўсё больш чырванела.— Падняў мяне і пацалаваў...

— Нягоднік! Паганец! — усклікнуў я, ахоплены неверагоднай злосцю і зайздрасцю.— Я яго заб'ю! Як ён асмеліўся!

— Падняў і пацалаваў,— усхліпвала Зося.— Выпусціўшы мяне з абдымкаў, ён яшчэ крыкнуў: «Цяпер я толькі адзін лісточак сарваў з бутона чароўнай ружы... Калі ружа распусціцца, сарву і ўсю кветку. Мы яшчэ сустрэнемся, красуня!» Ну, гэта ты і сам чуў.

І яна зноў закрыла твар далонямі.

Прыгадаўшы тое здарэнне, прадчуванне мне падказала, што паміж ім і цяпер зведанай крыўдай ёсць сувязь.

Пайшоў далей дарогаю, пакуль нарэшце за полем, нібы аблямаваным густымі зараснікамі палыну, не ўгледзеў невялікі гародчык. Там на градках раслі буракі, зблажэлая моркаўка, тырчалі сухія парасонікі кропу, паніклы жоўты сланечнік. Курная хатка, за ёю плецены з лазы і глінай абмазаны хляўчук і пакрыўленая пунька. Хацелася піць, я быў галодны. Надзеі адпачыць тут, прагнаць смагу ды паесці ў мяне не было: людзі пахаваюцца. Загнаныя мужыкі, як чумы, баяліся чужых людзей.

А ў мяне ж на баку вісеў дзедаў меч, за поясам тырчала выгнутая ручка пісталета. Бедныя, няшчасныя людзі ад рання да вечара рабілі на панскім полі, адбываючы цяжкі прыгон, самі галодныя. Часцяком яны змушаны былі аддаваць апошні кавалак хлеба, апошняе зерне, а то і воўну, сатканае сукно або палатно жаўнерам, збірачам касцельнай дзесяціны, а то і проста разбойнікам, узброеным валацугам... Такое не раз здаралася і ў Варніне.

Я плёўся, ледзьве валочачы ногі: о божа, як жа далёка той жаданы Нясвіж, пра які па свеце ходзяць легенды!

Я ішоў, пакуль не ўбачыў лагчыну. Там густа сінела валошка, далей рос пабялелы ячмень (ах, як смачна храбусцяць на зубах рагалікі з ячнай мукі!). Ямы з жвірам густа параслі лебядой, дзядоўнікам, конскім шчаўем і іншым пустазеллем. О, тут і пакручастая рэчка, зарослая з абодвух бакоў асакой! Дно — бялюткі пясочак, на беразе цурчыць невялікая крынічка, вакол яе зелянее духмяная мята, аер. Я напіўся, абмыў запылены твар і ў празрыстай вадзе даў адпачыць стомленым нагам.

Як добра... Рэчка гамоніць, бяжыць праз зялёныя густыя зараснікі, размываючы сляды маіх ног.

Але колькі ні цешся рэчкай — сыты не будзеш. Галоднай курцы зярнятка на думцы. А ў жываце бурчыць. Пара паклапаціцца пра вячэру — клуначак з харчам зусім палягчэў — дый пра начлег.

Вечарэла... Калі я падышоў да адхону, узышоў месяц. Яр рабіўся нібы глыбейшы, а зорнае неба над галавой — усё вузейшае. Калі я выкараскаўся наверх, за ўзгоркам убачыў невялікія старыя могілкі. Мураваную, месцамі разбураную агароджу густа абляпіў лапушнік. Старыя ліпы ціха і таямніча шапацелі. Непадалёку ад могілкавых варотаў бялела невялікая капліца. «Вось і знайшоў Габрэ-

люс прытулак»,— прашаптаў я. Выбару не было, і я прачыніў брамку могілак. Паміж дрэвамі праносіліся кажаны, палюючы сабе на вячэру. А так мёртвая ціша ахутала гэты мёртвы горад, дзе пеўні не пяюць і людзі не ўстаюць.

Дзверы ў капліцы былі замкнутыя, таму я стаў на лаўку і націснуў на акенца, яно адразу адчынілася. Я ўлез усярэдзіну. Месяц, як удзень, асвятляў схіленую галаву Хрыста на крыжы, выцвілых святых, што віселі на сценах, паказваючы свае раны або трымаючы ў руках свае сэрцы. Раптам я закрычаў ад жудасці: нехта стукнуў мне па галаве чалавечаю косткаю. Калі, ачуняўшы, я азірнуўся, дык ледзь стрымаў смех: гэта зваліліся чэрап і скрыжаваныя пажаўцелыя косці мерцвяка, якія ляжалі над вушаком. Я ўсцешыўся, убачыўшы каля хісткага алтара кучу завялых і засохлых кветак і вянкоў, відаць, сабраных з магіл. Адразу частку гэтай сушаніны, якая крышылася і шамацела ў руках, я паслаў сабе на падлозе. Зняў меч, выцягнуў пісталет і паклаў побач. Лёг на свой жупан, накрыўся рэштай вянкоў і толькі сплюшчыў вочы, як соладка заснуў. Сніў я, што сплю ў келлі, а ў поўнач, як заведзена ў кляштарах, пазванілі на імшу. Але гэта была... навальніца. Лінуў дождж, і пачаў біць град. Калі аціхла і па страсе ў капліцы перастала лапатаць, зрабілася вельмі холадна. Другую палавіну ночы я ўсё прыкрываў сябе сухімі вянкамі, каб хоць як сагрэцца. Не давалі спакою мілыя сэрцу карціны пакінутых родных мясцін: то бачыліся мне пані матуля і ксёндз Мацеюс, то кульгавы Ёзапатас і панна Зося, якая нечага ўсміхаецца, то пан Мельхіёрас, што сядзіць поруч з матуляй і смокча сваю люльку...

Пад ранне ноч растала ў зеленаватай імгле, асветленай месяцам. Я ўстаў з анямелымі сустава-

мі і міжвольна крыкнуў: праз акенца на мяне глядзелі з прывідна белага твару глыбока запалыя, цёмныя і злыя вочы. Рот здані застыў у мёртвай грымасе, якая агаліла чорныя гнілыя зубы. Убачыўшы мяне, могільнікавы прывід сам закрычаў прарэзлівым голасам дзікай птушкі. Праз імгненне пачулася паспешлівая хада: спалохаўшыся не менш за мяне, прывід пастараўся ўцячы. Гэта, відаць, быў такі самы гаротны падарожнік, як і я, або бадзяга, які абраў гэтую капліцу сваім часовым жыллём.

Сну як і не было. Спіну ад перажытага страху калацілі дрыжыкі, яе ўзяў такі сверб, нібы па ёй беглі рудыя мурашы.

Я выбраўся на двор, прагна ўдыхнуў на поўныя грудзі ранішняе паветра. Над роснай пшаніцай спявалі жаўранкі. Сонца, падняўшыся над чорнымі верхавінамі ліп, палымнела.

У дарозе я з'еў усю рэшту ежы, што прыхапіў з сабою і нёс у скураной кайстры. Памацаў, ці не згубіў я свайго самага вялікага багацця, і задаволена ўздыхнуў: талеры пазвоньвалі ў кішэньцы. Неўзабаве я пачуў брэх сабак і ўбачыў вёску. Пастух міма пагнаў чараду кароў, у сяле пахла ежай, што гатавалі ў хатах. Я праглынуў сліну. Вясковыя жыхары, якія страчаліся мне на вуліцы, як звычайна, віталіся са мною, хоць і выгляд мой быў дзіўнаваты: па адзежы — шляхцюк з мячом, а кіруецца пешкі.

Нечакана ўсчалася беганіна. Пасыпаліся з двароў дзеці, раскудлачаныя жанчыны, мужыкі. Шумна гамонячы, людзі павалілі ў канец вёскі. У канцавым двары ўжо тоўпіліся разявакі. Там стаяў вялікі воз, запрэжаны парай мышастых валоў, якія лагодна варочалі сваімі рагатымі галовамі і матлялі хвастамі, ратуючыся ад дакучлівых куслівых сляпнёў. Каля воза, трымаючы свае коні за аброці, стая-

лі два жаўнеры, а на белым скакуне зграбна сядзеў немалады, але яшчэ прыгожы статны капітан. Яго зусім не трывожылі ўсе гэтыя цікаўныя людзі, што сабраліся вакол.

Але вёска сабралася зусім не ўланаў глядзець. Увагу ўсіх прыцягнуў воз, на якім стаяла вялізная, на тры часткі разгароджаная клетка. А ў клетцы той біўся мядзведзь. Буры касалапы мядзведзь злосна роў і, шырока разявіўшы зяпу, высоўваў лапы праз краты.

— Глянь, якое страшыдла! — войкнуў адзін.

— Ды гэта ж незграбоцце вырвалася з Смаргоні. Шукалі яго ўсюды. Злавілі толькі ўчора. Вязуць назад,— выхваляючыся сваёй дасведчанасцю, тлумачыў другі.

— Глянь, як сліна ў яго цячэ,— спалохана ўздрыгваючы, паказваў хлопчык на мядзведзя сваім заквэцаным пальчыкам.

Як можна было разабраць з гаманы вясковых жыхароў, касалапага ўцекача злавілі леснікі недалёка ад Варніне. «Э-э! Ці не той самы гэта мядзведзь, які так напалохаў беднага Ёзапатаса ў аўсе?» — падумалася мне, і я пачаў прадзірацца праз гурт людзей бліжэй да клеткі.

Прабраўшыся да яе, я сапраўды здзівіўся. І не таму, што на возе, побач з мядзведзем, у клетцы, раздзеленай рашоткай, сярдзіта ляскаў зубамі шэры воўк. Больш за ўсё людзей здзіўляла і цікавіла астатняя частка клеткі. Дзеля яе аховы і былі прыстаўлены жаўнеры. Там, як кумпяк, звязаны вяроўкамі, ляжаў чалавек. Змучаны, як з крыжа зняты, ад путаў і ад такога «жылля», якое зусім не хавала яго ад дажджу, сонца і ветру.

На кароткі час на вуліцы і ў клетцы стала ціха. Мядзведзь супакоіўся і пачаў ссаць лапу, воўк улёг-

ся, палонны задраў галаву і заплюшчыў вочы, бо праз рашотку яму проста ў вочы ярка свяціла сонца.

Капітан уланаў крыкнуў:

— Ружавыя калючкі, бычыныя рогі! Глядзі, хлопец!

Нечакана загаварыўшы са мною, ён кіўнуў падбароддзем на клетку і зарагатаў:

— Няволя падружыць жывыя істоты розных парод: чатырохногіх мядзведзя і ваўка і двухногага чалавека.

Мне не спадабаўся ні капітан, ні яго нялюдская сентэнцыя, якая зраўняла чалавека, у якога несмяротная душа, з мядзведзем і крыважэрным ваўком.

— Ваша мосць памыляецца,— запярэчыў я рэзка.— Звяры — драпежнікі, заўсёды толькі лютыя звяры. Яны галодныя раздзіраюць іншых, пакуль іх саміх не заб'юць дзеля забавы або запруць у клетку тыя, хто яшчэ люцейшы за іх...

У капітана заблішчалі вочы. Вакол мяне адразу стала пуста. Мясцовыя людзі, відаць, добра ведалі нораў гэтага задзіры. Але ён толькі агледзеў мяне з галавы да ног, пагардліва ўхмыльнуўся, пацiснуў шпорамі свайго белага каня і сцебануў яго нагайкай...

— Адпачніце і пакарміце коней, доўга не баўцеся! — абярнуўшыся, загадаў жаўнерам.— І не вылуплівайце зекраў на бабскія падолы!..

Вылаяўся брыдка, без патрэбы і паскакаў. Калі нагайка з шыкоўным срэбным дзяржаннем павісла ў паветры, я пазнаў: гэта быў той самы коннік, што ўчора, праскочыўшы паўз мяне па бальшаку, збіў з майго капелюша цудоўнае пяро заморскага птаха. У памяці ўсплыла таксама сустрэча панны Зосі ў Варніне з гэтым нахабным уланам, у якога я намкнуўся трапіць каменем. Не было ніякага сумнення: сённяшні фанабэрысты капітан уланаў і той на бальшаку коннік — адна цаца. Кроў зноў стукнула

мне ў галаву, я схапіўся за меч, але капітан быў ужо далёка...

Мае вочы сустрэліся з поглядам чалавека ў клетцы: ён усё бачыў. Нявольнік усміхнуўся мне. Гэта быў цыган — хлопец маіх гадоў, а можа, і старэйшы крыху, змучаны, увесь у дарожным пыле, з падбітым вокам, акрываўленай шчакой. Відаць, валы і жывая паклажа на возе з'явіліся тут нядаўна, раніцай, і ўсе былі вельмі зморанымя.

Калі капітан знік, жаўнеры павесялелі. Кінуўшы коням ахапак сена, яны разлегліся за возам у цяньку на траўцы. Старэйшы вазак, паляпаўшы валоў па тоўстых карках, сагнуўся перад клеткай.

— Чу, мішка! Чу, чу,— пяшчотна гукнуў да мядзведзя.

Мядзведзь ляніва пацягнуўся ў клетцы, разявіў зяпу: жаўнер сунуў яму кавалак пчаліных сотаў з мёдам. Да невыказнай радасці дзятвы мядзведзь ветліва пакланіўся жаўнеру і пачаў ласавацца. Сяляне, трохі асмялеўшы, пачалі паказваць пальцамі на звязанага цыгана, услых гадаючы, якім чынам ён трапіў у такую шаноўную кампанію.

Маладзейшы жаўнер, рыжы такі, з рабаціннем, са шрамам па ўсёй шчацэ і без двух пальцаў на левай руцэ, павольна прыўзняўся на локці і сказаў, што калі хто мае добрае сэрца, дык можа накарміць і папаіць гэтага валацугу: паказаў на хлопца ў клетцы.

Людзі яшчэ шчыльней пасталі вакол клеткі. Прынеслі хлеба з вадою. Пачалі пытацца, што ён такое зрабіў, за што яго заперлі ў клетку. Малады нявольнік падцягнуўся, колькі далі путы, і, упёршыся нагамі ў краты, сеў. Скоса глянуў на варту, усміхнуўся:

— З-за паганай вяроўкі папаўся я, людзі доб-

рыя.— І, памаўчаўшы, дадаў: — З-за звычайнай вяроўкі, паночкі дарагія. Якраз як гэтая.

— О, Езус! Як жа гэта так?! — здзівілася тоўстая жанчына.— З-за нейкай вяроўкі так змалаціць чалавека.

Сяляне, адпіхнуўшы бабу, папрасілі цыгана, каб ён расказаў толкам, як гэта было.

Хлопца не трэба было доўга ўпрошваць.

— Паночкі мілыя! Людцы добрыя! Было так,— не спяшаючыся пачаў расказваць.— Я прывёў каня падкаваць да бацькі капітана гэтых малайцоў,— ён кіўнуў у бок лежняў-вартавых,— пана харужага Дамініка Кружылкі. А вы ўсе ж ведаеце, які скнара пан Кружылка. Кажуць, што ён нават адбірае ў сабак косці і варыць з іх крупнік.

— Ха-ха-ха! — засмяяліся людзі і слухалі далей, наставіўшы вушы: так, так, не маніць цыганяня! Скнару пана харужага ўсе ведаюць.

— Ну, ну! Давай, цыганок, расказвай, як далей усё ішло,— нецярпліва выпытваў дзядзька ў парваных палатняных портках, якія трымаліся на вяровачцы, падвешанай на шыі.

Цыган сваімі чорнымі вачамі глянуў на сялян і казаў далей:

— Эй, паночкі дарагія! Далей было так. Пан Кружылка скупляваў збожжа. Пасля леташняга неўраджаю цэны на збожжа падымаліся і падымаліся. Таму пан харужы назапашваў і ссыпаў збожжа ў шпіхляр [1], чакаў самай вялікай дарагоўлі.

Раптам цыганчук застагнаў і спыніў свой расказ.

— Ох, развязаў бы рукі, пан дарагі, храбры Ігнат,— папрасіў ён вартавога са шрамам.— Я іх ужо не чую, зусім анямелі.

Жаўнер паціснуў плячамі:

---

[1] Шпіхляр — свіран *(польск.)*.

— Нельга, Квоза! Ты сам ведаеш, калі што — капітан нас жыўцом з'есць. А рука ў яго цвёрдая, за што яснавяльможны князь і даражыць ім.

Сяляне навастрылі вушы.

— Вылюдак гэты твой капітан,— скрывіў рот хлопец.— А паганцы ў палацы самыя патрэбныя людзі.

— Ха-ха! — злосна засмяяўся другі вартавы.— Во будзе плакаць твая скура, калі пан капітан пачуе твае словы.

Сяляне ўстрывожыліся: забіты люд не хацеў быць сведкам сваркі, якая датычыць паноў.

— А ты раскажы пра збожжа, цыганок. Як там яно ў шпіхляры? — папрасіла пажылая цётка. Відаць, вельмі ўжо карцела ёй дазнацца, чым скончылася гэтая гісторыя.

— Панакупляў пан харужы процьму збожжа,— ізноў пачаў расказваць вязень,— і чакае не дачакаецца, калі ўжо ўдасца зграбці кучу грошай. А жыта раптам так падзешавела, што ляснула яго спадзяванка,— аніякага прыбытку не засталося. Пан Дамінік кінуўся ў такую роспач, што схапіў вяроўку, пабег у спальню і павесіўся.

— Ой, ой! — слухачы аж прыселі.— Такі пан павесіўся!

Цыган сцішыў голас, уздыхнуў, памаўчаў, а тады прадаўжаў:

— Я, паночкі мае дарагія, быў недалёка ад таго пакоя, пачуў нейкае скрыгатанне. Убег у панскую спальню, і, ай-ай-ай, што я там убачыў! Убачыў — пан харужы вісіць пад столлю. Ногі целяпаюцца, язык высунуўся з рота на цэлы локаць. Але я галавы не страціў, адразу выцягнуў свой нож і адрэзаў вяроўку, на якой павіснуў вісельнік. І паспеў я. Ён аджыў, ачуняў. Ну, я, паночкі, чакаю аддзякі, выставіў руку. А пан харужы, толькі вярнуўся дых,

накінуўся на мяне, як воўк на авечку, загыркаў, як на быдла якое: «Ах ты, халера! Такую вяроўку зглуміў. Заплаці, цыганішча, за парэзаную вяроўку! Калі ты хацеў любімага пана і свайго дабрадзея ратаваць ад смерці, трэба было далікатна расцягнуць пятлю, а не вяроўку рэзаць. Заплаці!» У мяне, паночкі мае, вядома, грошай не было, адкуль узяць іх беднаму цыгану! Таму, як кажуць, схапіў я ногі ў рукі і наўцёк. Тады пан Кружылка паскардзіўся свайму сыну, гэтаму капітану. І вось капітан разам з тымі дурнямі злавіў мяне, звязаў і вязуць на суд, каб я заплаціў за парваную вяроўку яго бацькі.

Расказчык змоўк, заплюшчыў вочы, і сяляне ад здзіўлення не маглі апамятацца.

Жаўнер са шрамам, Ігнат, плюнуў:

— Маніць, сукін сын! Не слухайце цыгана, ён за свае грахі аддасць душу чорту, ды яшчэ і кульгаваму.

Малады нявольнік, як вугор, выгнуўся ў клетцы.

— Гэй ты, медная галава! — адрэзаў вартавому.— Я яшчэ малады, дык яшчэ невядома, да якога чорта трапіць мая душа. А тваёй шкуры, падранай у корчмах і бойках, сапраўды чакае і не можа дачакацца жывадзёр з капытамі ў пекле.

Усё тое, пра што я гавару, цягнулася не вельмі доўга, сонца ўзнялося над палямі толькі на палавіну цяню чалавека.

Цыган не зважаў на лаянку вартавога і высвістваў нешта вясёленькае. Ён мне ўсё больш падабаўся, гэты маладзец, далібог! Трэба было толькі бачыць, як ён лоўка міргануў дзяўчыне, якая спатольвала яго смагу квасам.

— Ну, хопіць, цыган! Закрый сваю ляпу! — закрычалі раззлаваныя ахоўнікі.— А ты, Амбражэй,— загадаў старэйшы вазаку,— падымай валоў!

Жаўнеры ляніва ўзабраліся на коней, а Амбражэй узлез на воз, цяжка шлёпнуўся на козлы, цмокнуў губамі:

— Но, ноо!

Валы, вільнуўшы хвастамі, неахвотна пацягнулі воз. І мне тут не было чаго рабіць: сяляне пачалі шаптацца, скоса і з насмешкай пазіраць на мяне, нябачаную птушку.

Рушыў і я ўслед за возам. Здарэнне з маладым і адважным цыганом, запёртым у клетцы, мяне вельмі растрывожыла. Але варта было толькі ўздумаць пра нахабнага капітана, як гордая кроў роду Твірбутасаў стукае ў галаву і рука сутаргава шукае рукаятку мяча. Бог з неба ўсё бачыць: я не люблю задзірацца, першы ў сварку не лезу, але калі мяне пакрыўдзяць, свой гонар буду абараняць да апошняга ўдару мячом.

Воз з клеткай памалу аддаляўся. На вузкай няроўнай дарозе засталася выразна выціснутая каляіна. Уланы, якія на конях ехалі за возам, азіраліся назад. Насмешліва паглядваючы на маю асобу, яны пра нешта гаварылі між сабою...

## У карчме

Не давай парад і солі,
пакуль іх у цябе не папросяць.

Англійская прыказка

Страшэнны боль праццяў маю галаву, я аж застагнаў. І балеў не толькі гэты гарачы гарбуз, які называюць галавою; ныла ўсё цела. А як хацелася піць! Здаецца, ахапіў бы ротам дзесяць калодзежаў адразу.

— Піць, піць...— шаптаў я смяглымі губамі.

Недзе высока, над галавою, я пачуў нейкую дзіўную гаворку, перакручаныя, шапялявыя словы:

— А-а, паніч, ужо ачуўся... Добры дзень, ласкавы пане!

Цяжка ўдалося разляпіць нібы склееныя вейкі і крыху расплюшчыць вочы. Нада мной схіліўся доўгі востры нос з гарбінкай. Божа, адкуль у людзей такія насы бяруцца? Відаць, гэты нос бог на сямёх нёс. Ён, як кінжал, высунуўся з гушчэчы барады і пэйсаў, а кучму валасоў на цемі прыціскала круглая ярмолка. З-за носа на мяне глядзелі цікаўныя хітраватыя шэрыя вочкі. Я ляжаў на нейкім гарышчы, аплеценым павуціннем.

— Галава,— я застагнаў, паспрабаваўшы ўстаць.

Нос павіснуў недзе пад столлю.

— «Галава-малава»,— перадражнілі скрыўленыя вусны, зарослыя барадой.— Няважна, ласкавы пане, што ёсць галава. Важней, пане, тое, што ў галаве. А маладыя паночкі часта забываюць на гэта.

— Што са мною здарылася, Ёсель?

Я пазнаў тутэйшага карчмара Ёшку.

— З ласкавым панам нічога такога не здарылася. Калі не лічыць некалькі гузоў на галаве, сінякоў на спіне ці ніжэй...— Мне здалося, што ён усміхнуўся.— Няхай злітуецца над намі айцец усіх нас Аўрам, у пана капітана Кружылкі занадта моцная рука. Вэй, вэй! Але і паночак не дасць сябе за вус крутнуць: такі вялікі збан з мёдам разбіў... Вэй-вэй!

Карчмар Ёшка, паказваючы, як ён засмуціўся па збане, так нізка звесіў свой нос, што, нягледзячы на боль, я міжволі адсунуўся — думаў, праколе мяне.

— Піць...— мяне мучыла смага, як карася на пяску.

— Зараз, зараз, паночак.— Ёшка нечага радаваўся.— Зараз нап'яцеся; нашто паночку цярпець смагу. Хвала богу, што паночку хочацца піць,— ён уздыхнуў, пачухаў свой нос.— Я думаў: такі малады, прыгожы пан на гэтым свеце больш не будзе ўжо ні піць, ні есці. Вэй, вэй, вэй!.. Вельмі цяжкая рука ў пана Кружылкі. Завельмі.

І, яшчэ нешта мармычучы, пайшоў праз пакрыўленыя дзверы. Знізу з карчмы паўзлі смачныя пахі смажанага і варанага. Я чуў, як на рандарскай палавіне сварылася карчмарка са служанкаю, на брукаваным заездзе стукалі падковы коней. Бомкалі кубкі і збаны, госці елі, пілі, смяяліся. Звінелі манеты, бразгалі костачкі, што падкідалі гульцы.

У маёй памяці пачалі ўзнікаць учарашнія карціны. Уздрыгнуўшы, я хутка намацаў рукою патаемную кішэню. Дзякуй богу, раўці не давядзецца, капшучок з талерамі быў на месцы. Кажуць жа: хто губляе грошы, той плача горкімі слязамі. За грошы ўсюды харошы.

Я сеў на край скрыпучага ложка, у галаве зашумела, нібы ў печцы ў ёўні. Аддыхаўшыся, аглед зеўся — ні дзедавага мяча, ні пісталета, ні скураной кайстры з бялізнай і іншай дробяззю не было відаць. Ясна: карчмар Ёшка пакінуў іх у сябе. Тут гэтак: што еў, што піў, а плаціць трэба. На рыпучай лесвіцы пачуліся крокі. Нехта, піхнуўшы нагою, адчыніў дзверы, і я ўбачыў касавокую Вольку, дзяўчыну, што слугавала ў карчмара. У адной руцэ яна трымала збан, у другой была таца [1]. Волька зачаравана скасавурылася.

— А гаспадар казаў, панічык піць хоча.

І паставіла на падлогу збан.

Я адразу аберуч ухапіўся за яго, адкінуўся і па-

---

[1] Таца — паднос *(польск.)*.

чаў прагна піць без перадыху. Кіславаты халодны квас булькаў у маё горла датуль, пакуль у збане не засталося ніводнай кропелькі. Я выцер губы і падзякаваў. Волечка не спяшалася ісці, тапталася на месцы.

— А гэтая птушка таксама панічу. Ласкавая панна пасылае...

Хітра ўсміхаючыся, паставіла смажаную курыцу ў гаршку на хісткі стол. Духмяны пах казытаў нос. Глытаючы сліну, я ўсё ж захоўваў годнасць — не накінуўся на ежу, а паважна спытаўся:

— Нічога не разумею. Што гэта за ласкавая панна?

Служанка фыркнула, прыкрыла рот далоняю і зайграла вачыма:

— А гэта тая, тая... А з-за якой Кружылка паночку даў чосу.

Я вельмі ўзлаваўся на гэтую касавокую балаболку.

— Ніхто мне чосу не даваў, дурніца! Ведай, той яшчэ не нарадзіўся і не народзіцца на гэтым свеце! — Я надзьмуўся.— Цёмны ты чалавек, паважаная.

Карчомная дзяўчына ані не разгубілася.

— Гэта я цёмны чалавек, я? — тыцнула яна сабе пальцам у высокія грудзі.— А ці даўно, панічык, пачаў свяціць такімі ліхтарамі?

Кончыкамі пальцаў я дакрануўся да пасінелых, падбітых і распухлых, як ад пчалінага джала, павекаў.

— А дзе тая панна? — я знарок змяніў непрыемную размову.— Чаму яна мне пасылае дарункі? — Я стараўся, каб голас мой гучаў строга, уладна.

— А яна ж толькі-толечкі паехала. Ад'язджаючы, яна за ўсё заплаціла Ёшку. Так што цапай гэ-

ту курачку, панічык, бо ты надта змарнелы, худы, як вясновы грак. Панна перад ад'ездам сказала, што...

Што сказала панна, я так і не ўведаў, бо знізу, з карчмы, даляцеў да нас Ёшкаў голас:

— Волька! Паны чакаюць сняданку. Чуеш?!

— Я ж чую, чую! Бягу!

Схапіўшы з падлогі пусты збан, яна пабегла па лесвіцы.

«Quod non penitur, non solvitur» [1],— падумаў я.

Хоць і цяжка было мне ўзняць балючыя рукі, але, доўга не чакаючы, як ястраб, прыпаў да курыцы, і мае зубы прагна ўпіліся ў спакуслівую смажаніну.

Раздзіраючы на шматкі птушку, я прыгадваў учарашні дзень.

Прыйшоў я сюды апаўдні. Па выбітым, зусім пустым пляцы ў мястэчку Вашчуны бегла пярэстая свіння, рохкалі, павіскваючы, аблепленыя засохлай граззю парасяты. Угледзеўшы мяне, загагалі і зашыпелі, выцягнуўшы доўгія шыі, гусі. Я вачамі пачаў шукаць касцёл або царкву — так хутчэй знойдзеш карчму, яны заўсёды стаяць побач. Корчмаў было аж дзве: іх пазнаеш па жмуце сена, узнятым над дзвярыма на жардзіне, або па прыбітай хваёвай галінцы [2]. На левым баку стаяла малая, ужо ўрослая ў зямлю карчма з укрытаю мохам саламянаю страхою. Падарожнікі яе празвалі Блышыная, і, відаць, не без падставы. А крыху далей — ужо лепшая. Гэта была Ёшкава карчма, празваная па

---

[1] За што не вінен, за тое не плаціш *(лац.)*.

[2] Так замест шыльды азначалася карчма, у якой можна было падмацавацца самому і дастаць корм каню.

імі рандара Ёшкі. Пакуль я думаў, у якую падацца, нізкі голас, як з бочкі, нечакана гаркнуў:

— Шляхцёнак, заслужыш царства нябеснае...

Я павярнуўся.

На цвінтары пад плотам у засені клёна ляжаў босы, тоўсты, як мех, падпяразаны вяроўкаю манах. Недалёка ад яго неспакойна, як заведзены, хадзіў па крузе высокі чалавек з доўгаю чорнаю барадою. Ён хадзіў і хадзіў, не спыняючыся ні на хвіліну. Нейкі дзіўнаваты, няпэўнага веку.

— Miserere mei[1],— маліў манах, выставіўшы руку.

Яго позірк быў праніклівы, ён адразу пазнаў, што я прыйшоў здалёку. Я стаяў разгублены, не ведаючы, як адкараскацца ад жабрака манаха, які збірае ахвяраванні на манастыр. Няўжо дасі яму талер? Так мала іх у мяне. Манах міргнуў, падбіваючы:

— У раі, шляхцёначак, усё атрымаеш назад у дзесяць разоў болей. Хто дапамагае беднаму, той пазычае самому богу.

І забрынчаў скураною торбаю з грашыма, а яго хаўруснік, як конь у прывадзе, не спыняючыся, упарта ішоў і ішоў па крузе.

Я прыклаў руку да грудзей.

— Хай дапаможа табе бог, браце!.. Я, я...— язык мой пачаў заплятацца ад сарамлівасці.— Я цяпер бяднейшы за цябе. Так ужо выйшла. Дарога ў мяне далёкая, а, пазычыўшы богу, чым жа буду я плаціць за харчы і начлег?

Манах адкінуў галаву і весела засмяяўся, нават яго бруха затрэслася. Потым ляніва махнуў рукою:

— Бачу, шляхцюк, не хочаш ты быць пазыкадаўцам у бога. Няхай блаславіць цябе ўсявышні.

---

[1] Злітуйся нада мною *(лац.)*.

Ідзі сабе далей! Я бачу, што ты хворы на малакроўе. Бо, як вучыць наш айцец гвардыян [1], pecunia est alter sanquis [2].

Яго супольнік, як сляпы конь, усё хадзіў па сваім крузе і мармытаў незразумелыя словы. Манах, глянуўшы на таго дзівака, дадаў:

— Помні, сын мой: грошы — гэта не толькі жыццё, але і самы лепшы вартаўнік ад усякага ліха.

— Каб ты, пане браце, быў здаровы, каб людзі адзін перад адным былі шчадрэйшыя, каб табе ў гэтай дабрачыннай вандроўцы шчасціла,— уздыхнуўшы з палёгкай, пажадаў я манаху.

Пан брат загадкава пачухаў свой падбародак і падкрэслена адзначыў:

— Кожнае падарожжа добрае, калі добра канчаецца, а галава не трапляе на катаву калоду.

Я пацiснуў плячыма ад такога прадракання, а ў думках пажадаў яму: «Каб твой язык апух, крумкач паганы!»

А мяне ўжо заўважылі, і з парога пахіленай карчомкі пачала мне махаць рукою кашчавая старая:

— Чаму так доўга выглядваеш, міласцівы пане? Нашто стамляеш сваю бедную шыю, варочаеш галавой у розныя бакі? Сюды, зайдзі сюды! Перасохлае горла асвяжаць халодненькія трункі, смажаныя галубы ў рот заляцяць... Пачастую цябе, паночак, як родная маці!..

Брыдка выглядала тая карчма, а асабліва яе гаспадыня. Не вабіла і яе гасціннае запрашэнне. Я пачуў, як тоўсты манах бурчыць:

— Сын мой, не смажанымі галубамі, а сушанымі кажанамі накорміць цябе старая ведзьма.— І ён

---

[1] Гвардыян — высокі сан у манаскім ордэне.

[2] Грошы — другая кроў *(лац.)*.

папярэдзіў мяне: — Ідзі адсюль, у старой порхаўкі сваяцтва з пеклам...— Манах шырокім узмахам перахрысціўся.— Няхай сцеражэ цябе святы Мікола ад Блышынай!.. У Блышынай ніхто яшчэ ніколі не падаў бедным манахам нават макавага зярнятка.

Гэта акалічнасць, здаецца, больш за ўсё злавала манаха, як высветлілася, майго земляка з-пад Шырвінтаса.

— Сухая трэска Гунэфа пакорнаму божаму служку ніколі не падала ні глытка мёду, каб змачыць вусны! — гарачыўся квестар[1].— А чаму? А таму, што яна ў пляшцы ад горкай гарэлкі трымае самага большага ворага госпада бога — чорта Кібарта.

Карчмарка падскокнула, нібы яе хто шылам торкнуў.

— Пайшоў вон адсюль, брухач, дармаед! — лаялася яна, ліхаманкава шукаючы, ці няма паблізу каменя.— Ты мне бяду наклічаш.

Кінуты камяк бухнуў і рассыпаўся на манахавай торбе.

Але манах і не думаў пакінуць свой утульны куток пад касцельнай агароджай, а толькі ўголас здзівіўся, што я нічога не чуў пра Кібарта.

Сярод люду даўно жыў погалас, што старая Гунэфа нібыта пасадзіла ў бутэльку, як у астрог, чорта Кібарта. Гэты нячысцік аднойчы ішоў міма яе карчмы і ўбачыў карчмарчыну дачку, прыгажуню Вераніку. Убачыў і закахаўся... Тады ператварыўся ў швабскага зэгармайстра[2] і пасватаўся да красуні. Гаспадыня Блышынай угледзела ў дарожнай швабавай кайстры шмат залатых і адразу згадзілася ад-

---

[1] Квестар — манах — зборшчык ахвяраванняў *(польск.)*.
[2] Зэгармайстар — майстар гадзіннікаў *(польск.)*.

даць дачку за яго. Пасля вяселля, калі зяць мыў у ночвах стомленыя ад скокаў ногі, Гунэфа, праходзячы міма, убачыла замест ступняў расшчэпленыя капыты. «Э-гэ-гэ! — падумала яна сама сабе.— Вось які ты гадзіннікавы майстар!»

Але чорт грозьбаю прымусіў цешчу маўчаць, пабяцаўшы асыпаць яе золатам і навучыць усякім пякельным чарам: вельмі ўжо ўпадабаў той выдуманы швабскі майстар Гунэфіну дачку Вяроню. Гунэфа, хітрая баба, нічога не сказаўшы дачцэ, пачала навучацца ў зяця ўсялякім д'ябальскім штукам. А Кібарт — чорт застаецца чортам — тым часам пачаў на чужых красунь кідаць чартоўскае вока. «А калі якая-небудзь спакусіць майго зяця?» — занепакоілася зайздросная цешча. І яна аднойчы запыталася такім ліслівым галаском: «Кібарцічак, мілы зяцёк, а ці зможаш ты пралезці, ну... праз замочную шчылінку?» Зяць пагардліва надзьмуў лупы: «А гэта мне — як абаранак з'есці, матуля». Гунэфа падбівае: «Дык пакажы!» І стала за дзвярыма. Чарцяка стуліўся, зрабіўся з крупіну і — шмыг у дзірачку! І пралез. А гэта баба, Гунэфа, стаяла з таго боку, трымала прыхіленую да дзіркі адкаркаваную бутэльку. Зяць, як жаба, пляснуўся ў ёй на дне. Гунэфа апырсканым свянцонаю вадою коркам заткнула бутэльку, панесла яе ў свой склеп і глыбока закапала.

Старая спалохалася, што манахава балбатня можа дайсці да святога трыбунала, які паліць ведзьмаў, і пачала гарланіць і клясці:

— Каб тваё, квестар пракляты, горла згніло і язык калодаю стаў за тваю хлусню, што я ўмею вядзьмарыць! Не, не! Не чарую я, не лётаю на мятле і не шмарую сябе мазямі, каб прывабіць на злецішча ведзьмаў. Кацiся адсюль, а не, дык зараз качаргою перахрышчу!

Ад крыку старой манах толькі заткнуў вушы, а яго сябра ні па што не зважаў.

— Fugite partes adversae! [1] — сказаў манах і задзірліва павярнуўся спінай да карчмаркі.

Мне тут не было чаго затрымлівацца. Відаць, даўняя, застарэлая нянавісць паміж імі мела глыбокае карэнне. Праходзячы міма Блышынай, я пачуў, як старая мне ўслед зашыпела:

— Ха! Дык, паночку, ідзеш да Ёшкі! Спіна твая, ох, як плача па кіі... Ха-ха-ха!.. Успомніш словы старой Гунэфы, век не забудзеш...

Я глянуў на злосную ведзьму: у старой з-пад каўтуна, як у дзікай кошкі, бліпічалі вочы, а жоўтая, як пергамент, скура прыліпла да яе скрыпучых касцей...

Спякота зусім знясіліла мяне. Успомніўшы, што таму застаюцца адны косці, хто позніцца, я паспяшаўся.

Ёшкава карчма была не толькі навейшая, прастарнейшая, але і з заездам, заезным дваром. На ім ужо стаялі сялянскія драбіны, брычкі, нават карэта, мітусіліся конюхі. Сытыя, прыгожа адзетыя падарожныя паважна разгульвалі ўздоўж карчмы. Адны курылі доўгія люлькі, другія тонкімі ліпавымі пруткамі калупалі ў зубах, нешта загадвалі слугам. У зіхатлівай карэце, запрэжанай чацверыком коней, на мяккім сядзенні размясціліся маладыя пані з квяцістым шалем на галаве і ўбраны пан. Калі яны ад'язджалі, на двор выбег рандар і, злавіўшы на ляту кінутую яму вялікую залатую манету, многа разоў кланяўся знакамітаму пану. Калі карэта кранулася з месца, пачулася музыка, нібы нехта

[1] Ступай у пекла! *(лац.)*

крутануў старцоўскую ліру. Гэта на восі ў карэце была прыладжана музычная шкатулка, якая, калі круціліся колы, іграла.

У карчме мною ніхто не зацікавіўся. Толькі рандар Ёшка насунуў на вочы ярмолку і ледзь прыкметна прыўзняў брыво. У карчме была прахалода, на важкіх доўгіх сталах стаялі збаны, міскі з ежай. Падарожныя ці заўсёдныя бывальцы сядзелі на лавах, падымалі кубкі, карцы, цмокалі, дымілі люлькамі, расказвалі сапраўдныя і выдуманыя гісторыі. Над галавою ў Ёшкі звісалі падвешаныя тараны; вочы вабілі нацёртыя часнаком смажаныя авечыя кумпякі, рыба, селядцы, курыцы, качкі, вянкі цыбулі, рэдзька, розныя прысмакі, ад якіх у роце не змяшчалася сліна.

А з кухні яшчэ ішоў пах смажанага, скваранага і пражанага, булькала ў гаршках капуста, біліся крыллем без галоў каплуны.

Праз адчыненыя дзверы было відаць, як у кладоўцы каля сцен на моцна збітых дубовых козлах ляжалі бочкі-таўстухі. На паліцах выстраіліся кварты, збаны, гліняныя кубкі, драўляныя карцы і коўшыкі, срэбныя келіхі — у іх па адным кіўку пальца лілося густое духмянае піва, ці янтарны цягучы мёд, ці прывезенае з зямлі мадзьярскай віно, якое падбівае на любы грэх... Але ўсё гэта дзеля тых, у каго пазвоньвалі тоўстыя, туга набітыя грашамі машонкі.

Убачыўшы такія стравы і ласункі, я адчуў воўчы голад, добра-такі выгаладаўся, бо ўсе тыя харчы, што дала мне мая пані матуля на дарогу, даўно скончыліся. Яшчэ раз непрыкметна пальцамі памацаў свой небагаты капшук і сеў каля акна. Маркотна зрабілася на сэрцы, што давядзецца размяняць талер, але іншага выйсця не было. Карчмар, пачухваючы пэйсы, падышоў да мяне і даволі абыякава

запытаўся, чаго я жадаю. Госця, які падарожнічае на сваіх нагах, ён не вельмі шанаваў.

— Есці! Есці і піць! — і, састроіўшы з сябе бывалага карчомнага захаджалу, пляснуў далоняю па стале.

Я сербануў з кварты і ледзь не задушыўся: рот абпаліла кепская гарэлка — ці не свайго рандарскага вырабу? Я прыкмеціў, што ў шляхціцаў за сталом я выклікаю ўсмешку. Не хацелася, каб гэтыя азызлыя п'янчугі падумалі, што піць мне ўпершыню, і я, ледзьве стрымліваючы рвоту, выжлукціў кварту да дна, гэтым яшчэ больш узрадаваў цікаўных насмешнікаў.

Але хутка шляхцюкі кінулі мною цікавіцца, ізноў загаманілі, і здаліся яны мне большымі хамуйламі, чым цёмныя прыгонныя сяляне ў Варніне. Адзін шляхціц з таракановымі вусамі лямантаваў, перакрыкваючы ўсіх:

— Ёшка, богазабойца, хадзі сюды, сюды! Нясі на стол горкую гарэлку, куранят, не забудзься на цыбулю і соль!

Зусім п'яны яго сусед шпурнуў пад стол шапку, блытаўся па карчме з прыжмуранымі вачамі і скардзіўся:

— Лёгка тваёй мосці разважаць пра хрысціянскую дабрачыннасць, калі толькі ўчора ты закалоў свінню і добра наладаваў свой трыбух мясам і каўбасамі.

Атупеўшы ад мёду і яды, яго сабутэльнік неяк прыдуркавата ўхмыляўся:

— Праўду кажучы,— ік! Добры быў парсюк...

— Добры! — з'іранізаваў сіняносы.— Добры быў твой парсюк, але яму яшчэ далёка да цябе.

Па карчме туды-сюды бегала касавокая служанка Волька. Яна з цікаўнасцю аглядала мяне, забрала са стала пустую кварту, памахала сваёй галоў-

кай з уплётамі ў касе. Я адчуў, як у мяне пачынае кружыцца галава, лоб змакрэў ад поту, адольвала дрымота. Пазяханне разрывала сківіцы, мяне агарнуў шум карчмы, падобны на далёкае гудзенне пчалінага рою...

Калі я прачнуўся і пачаў расціраць анямелую шыю, званы недалёкага касцёла ўжо гулі, заклікаючы на вячэрнюю малітву. Дзень хіліўся к вечару.

Ад духаты ў карчме, выпітай гарэлкі мне зрабілася нядобра. Я ўстаў, пацягнуўся. У крэсле драмаў карчмар, але толькі адным вокам, другім ён пільна сачыў за мной.

— Пане рандару,— гукнуў я яго, пастукваючы рабром талера па стале.

Убачыўшы звонкую манету, карчмар ажывіўся, расплюшчыў і другое вока.

— У дарозе я страціў каня...

Урокаў дзядзькі Мельхіёраса я не забыўся.

— Пане рандару,— я не ведаў, як ветлівей звярнуцца да карчмара Ёшкі,— я здарожыўся вельмі, спаць мала давялося, і я хацеў бы да заўтра пагасцяваць у вас.

— Куды, паночку, кіруецеся? — пацікавіўся рандар.

— Я іду ў Нясвіж... Да князя Радзівіла. Можа, параіце, як хутчэй туды дабрацца.

Я змоўчаў, што мяне гоніць туды.

Пачуўшы пра Нясвіж і светлага князя, карчмар адразу заварушыўся.

— Чаму не, чаму не? Паніч заўсёды знойдзе ў дзядзькі Ёселя прытулак і каня.

Я пакінуў пад яго апеку сваю скураную дарожную кайстру і выйшаў прыцемкам у мястэчка. Думкі былі бязладныя, ногі няцвёрдыя — занадта многа выпіў. З асалодай удыхнуў кветкамі настоенае паветра. Нейкая застылая ціша гарадка, востры

пах чабору, лянівае жабінае кваканне ў невялічкай сажалцы, роўныя палеткі за цвінтаром, вербы ўздоўж дарогі, утульны драўляны касцёл са званіцай — усё гэта нагадала мне Варніне...

Нечакана вячэрні спакой мястэчка, якога не парушала нават цвыркание конікаў-скакуноў, прарваў зычны, ажно за сэрца ўзяло, крык, падобны на апошні перад скапаннем енк смяротна параненага звера...

## Уцёкі Квозы

Нейкі звярыны рык раптам спыніў мяне. Я прыслухаўся.

Недзе неспакойна завылі ваўкі, і зноў настала цішыня. Хаты, саламяныя стрэхі, калодзежы, гарачы пыл мястэчка праглынулі трывожныя гукі.

Як у гарадку апынуўся звер?

Я прыгадаў тое, што ўбачыў раніцаю,— уланаў, клетку з ваўком, звязанага нявольніка, мядзведзя. Не было сумнення, што гэта, змораны гарачынёй, цяжка хроп мядзведзь.

Я прайшоў яшчэ некалькі крокаў і ўбачыў рачулку з запрудай, да якой прытулілася глінабітная валюшня, адна з многіх фабрык князя Караля Радзівіла [1]. Сукнавальня і шырокі двор былі агароджаны даволі высокім плотам. За ім стаяў той самы воз з клеткаю, а распрэжаныя валы пасвіліся каля агароджы. Тут памахвалі хвастамі і рассядланыя

---

[1] Караль Станіслаў Радзівіл (1734—1790), празваны Пане Каханку, ардынат нясвіжскі і ваявода віленскі.

ўланавы коні. Не марудзячы я прайшоў паўз запруду па драўляным мастку на двор. У купе векавых вязаў стаяла невялікая будыніна на дзве палавіны, раздзеленая сенцамі. Тут, відаць, была кантора і жыў наглядчык валюшні. Праз адчыненае акно чуліся вясёлыя мужчынскія галасы і рогат. А непадалёку на возе, пакінутым без аховы, разявіўшы пашчу, пыхкаў мядзведзь, а далей нехта ціха стагнаў. Двор быў зусім пусты, значыць, і вартавыя, і вазак бестурботна весяліліся ў канторы.

Сагнуўшыся, як прывык на паляванні, я асцярожна, па-кашэчы падкраўся да воза. Мядзведзь памкнуўся высунуць лапу з клеткі, воўк пагрозліва ляснуў зубамі. У асобным закутку ў клетцы, шырока раскрыўшы пасмаглыя, счарнелыя губы, спаў звязаны малады цыган Квоза. Жаль сціснуў мне сэрца. Думкі змяшаліся і зблыталіся, як вужы ў клубок: і сапраўды, апрача гісторыі, у якой высмейваліся капітан Кружылка і яго сквапны бацька, што расказаў і, мусіць, сам выдумаў Квоза, я не ведаў, што ж такое нарабіў гэты смуглявы хлопец. Цыганоў, як і мужыкоў, наша шляхта лічыць ніжэйшымі за сябе, і таму, дапамагаючы цыгану, якім яны пагарджаюць, я мог не толькі заплямiць сваю шляхецкую годнасць, але і пазбавіцца волі, бо гэта было ўладанне ўсемагутнага віленскага ваяводы, князя Караля Радзівіла. А яму належалі і палкі войска. Я мог пашкодзіць і сваёй будучыні, у пошуках якой якраз і кіраваўся да палаца князя ў дзівосным Нясвіжы. Такая прыгода магла згубна скончыцца для мяне. Але хоць памяркоўна я разважаю, а галава кружыцца... Відаць, з яе і з печані марудна вытыхалася тая кварта гарэлкі. Думаю сабе, а чалавек у гэты час, звязаны ў клетцы, пакутуе.

Раптам праз перасохлыя губы Квоза натужліва захрыпеў:

— Піць, піць...

Коні, шырока захопліваючы мяккімі, аксамітнымі губамі авёс, утаропіліся на мяне круглымі вачыма, нібы пытаючыся: «Чаго тут стаіць, як прыкутая, гэта дзіўная двухногая істота?»

Праз пруты ў клетцы я лёгенька крануў за плячо цыгана. Ён усхапіўся як апараны. Застагнаўшы, прачыніў вочы. Нашы позіркі сустрэліся: яго вочы заміргалі ад здзіўлення.

— Тссс! — папярэдзіў я, прыклаўшы палец к губам.

З канторы, зацененай лістотай дрэў, усё яшчэ чуліся грубыя мужчынскія галасы. Я дастаў стары сцізорык з вострым, але ўжо амаль сцёртым ад шматразовага заточвання лязом. Нахінуўшыся, прасунуў руку з ножыкам у клетку і пачаў перараразаць вяроўкі, перш за ўсё адолеў путы на запясцях. Але Квоза доўга не мог паварушыць анямелымі і пасінелымі рукамі.

Я здрыгануўся — на двары, зусім блізка, пачуўся п'яны голас:

— Ба! Сто чартоў! Сонца ўжо за лес коціцца, а ад нашага капітана ні слыху ні дыху. Зноў давядзецца ўночы валачыцца.

Пазнаў голас: гаварыў той, са шрамам. Я прысеў за возам; забурчаў і заварушыўся воўк.

У акне паказалася кудлатая галава:

— А што яму, капітану Кружылку! У свайго сябрука Зарэмбы ў Стакенішках гасцюе сабе.

— Чаму гэта на возе так ціха? Ці не выпраставў ногі цыган? — пацікавіўся першы.

— Дык ідзі паглядзі,— адказаў кудлаты.

У мяне закалацілася сэрца: папаўся.

Жаўнер са шрамам нехаця ішоў і спыніўся.

— Гэй, цыган, як там маешся? — крыкнуў.

Квоза хуценька адгукнуўся:

— Найлепш, храбры ўлане! Нагамі ўгору!

— Го-го-го! Во гэта язык,— круціцца, як хвост у сабакі.— Плюнуў жаўнер і, бразгаючы мячом, павярнуў назад у кантору, дзе неўзабаве ізноў зазвінелі чаркі.

Я страсянуўся, выпусціў са сціснутай рукі дзяржанне свайго мяча. З усіх пачуццяў, якія аслабляюць чалавека, самым паганым з'яўляецца страх...

Скрозь патрэсканыя вусны цыганчука ва ўсмешцы свяціліся бялюткія зубы. Ён асцярожна паварушыў плячыма, пацціраючы здранцвелыя, вяроўкамі нацёртыя рукі.

— Гэтага я не забуду, добры ты мой збавіцель,— ціха прамовіў ён.— А тут табе больш заставацца нельга. Ідзі, паночку, пакуль гэтыя душагубы Кружылкі не схамянуліся.

— А ты?

Чорныя вочы яго, пакуль ён выслабаняўся ад вяровак, усё заплюшчваліся ад болю. Квоза папрасіў:

— Пакінь мне, паночак дарагі, свой ножык. Я сам зрэжу пару прутоў у клетцы. А ты ідзі, ідзі, добры мой, хутчэй хавайся!

Мне было вельмі цікаўна:

— А чаму яны цябе так звязалі?

Цыган заскрыгатаў зубамі, ашчэрыўся, як раз'юшаны тыгр. З нянавісцю вымавіў толькі адзінае слова:

— Кружылка!..

— Хай бароніць цябе бог, Квоза! — ціха сказаў я, перадаючы яму ў руку нож.

— А, паночак добры! Ці не анёлы цябе прыслалі? — падзякаваў ён.

Адышоўшыся ад воза з клеткай, з якой імкнуўся выбавіцца Квоза, я стрымгалоў прабег міма лянівых

валоў, шумлівай запруды і шчасліва пакінуў двор княжацкай сукнавальні.

Дасягнуўшы калдобістай плошчы мястэчка, я з палёгкай уздыхнуў. Убачыў, што дзверы ў касцёле прачыненыя. «О,— падумаў я,— калі хто запытаецца, скажу, што быў у касцёле»,— і праціснуўся ўсярэдзіну. Рэха ціха адгукнулася на мае крокі. Алтар быў увесь у кветках, над ім міргала запаленая лампадка. Прадаўгаватыя твары святых, здавалася, пераглядаюцца адзін з адным: што тут трэба гэтаму прыхадню?

Я стаў, засяродзіўся, паспрабаваў памаліцца, як раптам у бабінцы пачуўся хрыплы голас.

— Цінцер-вінцер! Хто ёсць цінцер? Цінцер ёсць вінцер,— усплыў над арганам голас.

— Хто ёсць адзін? — пачулася ізноў.— Адзін ёсць пан бог.

— Хто ёсць два? — ізноў прагучала ў пустым касцёле пытанне.

Я асцярожна з-за калоны глянуў на бабінец, дзе адбывалася гэта дзіўная сцэна. Убачыў хударлявага старога, які пабразгваў вязкаю ключоў. Безумоўна, гэта быў закрыстыян [1] і званар. Ён уголас гаварыў сам з сабою. Непадалёк стаялі амаль у рост чалавека пафарбаваныя ў чорнае падсвечнікі, а да сцяны прылягала чорная труна. Закрыстыян падышоў да труны і спыніўся.

— Хто ёсць два? — запытаўся і ўзняў палец угору.— Два ёсць два! Два — святы Пётра, два — пракляты Люцыпар у пекле.

Па маёй спіне прабеглі дрыжыкі: закрыстыян зняў века труны, пашарыў там рукамі і... выцягнуў пляшку. Труна, аказваецца, была пустая, каля яе толькі зрэдку спраўляліся касцельныя абрады. Зу-

---

[1] Касцельны служка.

бамі закрыстыян адкаркаваў пляшку і, адкінуўшы галаву, пачаў ліць вадкасць у горла. Напіўшыся, уздыхнуў.

— Алдадры, алдадра! — задаволена замармытаў.

Праз хвіліну, задуменна наморшчыўшы лоб, уголас запытаўся:

— Што ёсць тры?

І сам сабе адказаў:

— Тры ёсць тры! Тры ёсць бог, тры ёсць сын божы, тры ёсць дух святы.

Пляшка яшчэ раз падскочыла да вуснаў закрыстыяна.

— Хто будзе плаціць за гарэлку? — прагучала пад скляпеннем касцёла.— Нябожчыкі, нябожчыкі, Тамаш.

Закрыстыян далонню выцер губы, паклаў бутэльку ў труну, накрыў векам. Тады дастаў з кішэні жменю медзякоў, падняў да блізарукіх вачэй і пачаў лічыць:

— Адзін, два, тры... Нябожчык Вішнеўскі Конрад на пазвоннае даў тры грошы... Тры грошы — гэта тры разы ўдарыць па зване.

Захіхікаў тонкім, зласлівым галаском.

— Ці пачуе гэтыя нікчэмныя медзякоўскія ўдары святы Пётра? Не, не пачуе. Не адчыніць ён райскіх варотаў. Ха-ха-ха! Каціся проста ў прадонне, у пекла! Не будзь жмінда, душа хрысціянская!

Ад вясёлага настрою стары нават топнуў нагою на драўляпай шмараванай падлозе.

— Алдадры, алдадра! — між пальцаў бліснула сярэбраная манета.— Вось за шчодрую душачку пана Яна Баневіча будзем біць у званы аж датуль, пакуль ключнік нябесны, святы Пётра, не аглухне, не выцерпеўшы, і не адкрые ўсе вароты і форткі... Цінцер-вінцер, цінцер-вінцер, цінцер... Добры нябожчычак, добры, гарэлкі не шкадуе.

Узняўшы абедзве рукі, адурэлы званар уявіў сабе, што ўхапіўся за вяроўку звана, і пачаў падскокваць, то па-старэчы нагнуўшыся, то смешна, як жаба, прысядаючы:

— Бам-бам-бам!.. Блін з маслам, блін з маслам! Хлеб з аўсом, хлеб з аўсом!

Як відаць, выкуранае ў бровары горкае зелле дзейнічала не толькі на мяне... Не стрымаўшыся, я на ўсё горла зарагатаў.

Мой смех у касцёле прагучаў кашчунна. Ключы з рук кашчавага званара бразнулі вобземлю.

— Акыш, акыш! Прападзі, нячыстая сіла!

І ён, збялеўшы, тыцнуў палец у ямку са святой вадой і пачаў пырскаць на мяне. Я кіўнуў яму.

— Добры вечар, пане! Я верны хрысціянін,— сказаў я, супакойваючы.— Я памаліцца зайшоў.

— Цягаюцца тут усялякія,— мукрнуў званар ужо лагадней.

Зразумеўшы, што я ўсё бачыў, ён сагнутым пальцам пастукаў па труне:

— Сербанём у імя бога, ці што?

Я адказаў нерашуча:

— Ксёндз у сваіх казанях вучыць, што гарэлка — вораг чалавеку.

Званар засмяяўся, паказаўшы жоўтыя зубы:

— А ў свяшчэнным пісанні сказана — трэба любіць ворагаў сваіх...

Аргумент быў сур'ёзны, таму я, падзякаваўшы, глынуў пару разоў з пляшкі. Гледзячы, як званар-закрыстыян дапівае, я запытаўся, ухмыльнуўшыся:

— Дык як жа? Нябожчычкі плацяць за горкую?..

Ён траха не захлынуўся гарэлкай. Шчокі зардзеліся.

— Што гэта за выдумкі такія, паніч? Балбатун ты!

Жалобна грукнула века ў чорнай труне: пляшка была ўжо пустая. Званар ледзь стаяў на нагах. Ад яго пачастунку і ў мяне ў галаве нібы здалёк пазвоньвалі срэбныя званочкі. Як старыя сябры, шырока расстаўляючы ногі, выйшлі мы са званаром Тамашом на касцельны двор. Жаночы голас — цып-цып! — клікаў дахаты з вулічнага пылу куранят. Згасалі апошнія промні сонца, нахільна слізгаючы па саламянай абымшэлай страсе старой карчомкі. Яна была побач. З расчыненых дзвярэй тырчаў Гунэфін нос, бяззубым ротам яна жавала нешта такое, што не разжоўвалася.

— Ці праўда, пан Тамаш, што гэтая Гунэфа трымае ў бутэльцы...— я не адважыўся на цвінтары назваць імя нячысціка.

Жоўтыя званаровы зубы агаліліся ў роце:

— Трымае. У такой цёмна-зеленаватай бутэльцы. Старая скнара, каб яна не ўбачыла, добра зарабляе на д'ябле.

Я пацiснуў плячыма, бо нічога не зразумеў.

Ён хітра зірнуў на мяне:

— На свет у карты гуляць выпускае яна таго чорта бутэлькавага. А нячысціку ў карты выйграць — як мне вішню праглынуць. За вялікія грошы пазычае Гунэфа карцёжніку бутэльку з чортам. Той і шэпча іграку, якімі казырамі хадзіць...

Нашу размову перарвала цоканне капытоў. З двара сукнавальні, як у бой, з тупатам выскачылі два ўланы. Яны крычалі і падганялі коней. Шрамаваты раптам заўважыў нас. Ён пазнаў мяне і крыкнуў свайму сябруку. Абодва ўжо былі накіраваліся да мяне, але, мусіць, вырашылі спярша знайсці свайго капітана, і зніклі — аж пыл закурэў. У мяне застукатала сэрца: Квоза вольны! Калі яны ляцяць як апалелыя, значыць, птушка шчаслiва вылецела з клеткі.

— Чаму так грозна глядзеў на нас улан? — нібы сам у сябе запытаўся, пацiскаючы плячыма.

— Эх, бам-бам-бам,— адказваючы, званар так махнуў рукою, што ледзь не паваліўся на спіну.— Ці можа старая малпа састроіць добрую міну?..

— Уланы пана Кружылкі,— я прыкідваўся, што нібы нічога не ведаю,— вельмі спяшаліся, усё роўна як капітан вяселле гуляе.

Тамаш, зусім ап'янелы, пралапатаў:

— Якое вяселле? Няхай да сваёй нябожчыцы цалавацца ідзе,— і паражагнаўся.— Дзве жонкі пахаваў, нягоднік.

— Няўжо?

Пан Тамаш палахліва азірнуўся:

— Аднойчы, гэта было некалькі гадоў таму назад, пан Кружылка застаўся начаваць у Дзягучым, у пакоі, у якім памерла панна Шымалюнчанка, яго нявеста. Толькі ён звёў вочы, як прыходзіць нябожчыца і паказвае каштоўнасці, што прынесла з сабою. Во якое багацце дастанецца капітану, калі ён цяпер ажэніцца з ёю. Кружылка, убачыўшы такі скарб, згадзіўся на ўсё. А раніцай, адыходзячы з дому, нявеста пакінула яму пасаг — скрынку з каштоўнымі рэчамі і пярсцёнак з рубінам. Нябожчыца прыгразіла халодным пальцам і загадала, каб пан капітан не жаніўся з іншай, а калі надумае жаніцца, мусіць вярнуць ёй пярсцёнак у магілу. А пан Кружылка, вядома ж, не раўня свайму тату-скупярдзяю,— вялікі мантач і шалапут. Таму бацька, пан харужы, не дае яму грошай. Капітан пасаг нябожчыцы прайграў у карты, патраціў у шынках. Пазней, забыўшыся на загад нябожчыцы, нават не зняўшы пярсцёнка з пальца, ажаніўся з багатай шляхцянкай, але тая назаўтра пасля вяселля памерла... Жаніўся ён і другі раз, і тая нявеста, Паўтараччанка ■ Мяжунаў, на чацвёрты дзень пасля шлюбу бо-

гу душу аддала. Хто цяпер пойдзе за такога: баяцца помсты нябожчыцы.

— Дык чаму ж капітан не занясе пярсцёнак на магілу? — здзівіўся я.

Званар зморшчыў лоб:

— Хцівец ён. Пярсцёнак, кажуць, вельмі дарагі. Ну, дабранач, ваша мосць!

І, размаўляючы ўголас сам з сабою, знік у бакавой вулачцы.

Што старана — то навіна, падумаў я, усміхаючыся. У Варніне баяцца ваўкалакаў, тут жа запалохваюць сябе чартамі, прывідамі, нябожчыкамі.

Мне не цярпелася дазнацца, што з маім цыганом. У галаве яшчэ шумела, таму я не спяшаўся вяртацца ў душную карчму, павярнуў на крывую вулку. За ёю раскінуліся панскія палі, як на вялікім свяце, у небе блішчаў месяц.

Вяртаючыся, я лепш прыгледзеўся да Ёшкавай карчмы. Месяц высвеціў выбітую дарогу, што расшыралася каля яе. Супраць карчмы ляжала плошча, ад яе патыхала смуродам ад калюжын, якія ніколі не прасыхалі. Тут спыняюцца і прыгожыя фаэтоны паноў, і вазы з таварамі купцоў, што вяртаюцца з далёкіх краёў, сяляне пояць здарожаных коней... Карчма аблеплена шалькамі, скрыўленымі прыбудоўкамі, як ластаўчынымі гнёздамі, каморкамі, бакоўкамі. На ржавыя крукі навешаны вароты ў абору, збоку — драўляная рукаятка званка, якую ў глыбокую ноч пацягваюць падарожныя, што просяць прытулку. Перад карчмою — драўляны ганак з дзіравай стрэшкай і ніколі не мецанымі, аброслымі граззю прыступкамі.

Праз вокны карчмы было відаць міганне газовак, а ў іх цьмяным святле мітусіўся ўсялякі люд, бо кожны, у кішэні ў якога пазвоньваў хоць які грош, мог зайсці сюды.

# Бойка

Месяц сыпнуў пучок халодных промняў проста на карчму. На ганку сядзела двое. Чырвона паблісквала ў іх люльках. Размаўлялі курцы напаўголаса. Маіх крокаў яны не пачулі, таму я, стоячы за бэзавым кустам, падсохлым ад спякоты, пачаў прыслухоўвацца. У нас гэта вялікім грахом не лічыцца — у малым гарадку ўсе вялікія вушы маюць. І я не пашкадаваў, што падслухоўваю, бо адзін з курцоў быў вазак Амброс, той самы, што паганяў быкоў з клеткаю пад аховай уланаў.

— Дык кажаш, уцёк цыганскі хлопец? — запытаўся ў яго другі.

— Знайшліся дабрадзеі, выручылі,— адказаў возчык.

— Матка боска! Пан Кружылка з вас скуру злупіць.

— А мне што да таго? Я адказчык усяго толькі за двух валоў. А то няхай жаўнеры адкараскваюцца.

— Гм...— мыкнуў адзін.

— Вось так,— падтакнуў другі.

Памаўчалі абодва, пасмакталі люлькі.

— А што зрабіў гэты Квоза, што яго вартуюць княжацкія ўланы?

Возчык крэкнуў:

— Гэта доўгая гавэнда, кум. Я сам у ёй не магу дайсці ладу.

— Ну,— падбіў першы,— выкладвай усё па парадку.

Ізноў засвяцілася ў люльках.

— Кажуць, куме: не будзі ліха, калі спіць ціха! Пан Кружылка не любіць балбатуноў.

— Добра ён робіць, куме, добра. Хто ж іх цер-

ціць? Але ж я не чужы табе, куме. Можаш мне ўсё гаварыць.

У возчыка трохі заплятаўся язык, пэўна, ён перабраў у валюшнай канторы, а можа, і ў Ёшкі ўліў яшчэ кварту ў прыдачу.

— Можаш, можаш...— бурчаў ён.— А потым локці сабе кусай.

— Матка боска! Не кусай, зубоў шкада.

— Нашто мне тыя зубы? Робячы ў пана капітана, не аб'ясіся.

Паганяты быкоў выбіў з люлькі попел, стукнуўшы ёю па наску лапця.

— Э-э, куме,— соладка пазяхнуў ён,— у мяне зубы даўно б ступіліся, калі б я мог сядзець у тоўстага пана Багдановіча за банкетным сталом! А я ў яго толькі на стайні служыў. Якія да яго толькі госці не з'язджаліся! Адзін абед, бывала, цягнуўся пяць, а то і сем дзён. Да самай нядзельнай імшы.

— Ну, ну,— ажывіўся кум.— Пяць дзён абедалі! І нічога?

— І нічога. Толькі ад'язджаючы дамоў, ледзьве на коней уздзябурваліся...

Я ўжо сабраўся быў, нічога ладнага не дазнаўшыся, рушыць з-за бэзавага куста ў карчму, як кум паганятага напомніў, што ён усё ж хоча пачуць:

— Куме, ты мне тут зубы не загаворвай з Багдановічавымі стайнямі. Выкладвай усё па парадку пра цыгана.

— Можа, потым, куме,— адбіваўся вазак,— а цяпер пойдзем прамочым горла.

— Пачакай, пачакай,— згараючы ад вялікай цікаўнасці, схапіў ён вазака за руку.— Даражэнькі мой, не потым, а цяпер. Потым часам бывае запозна.

Пасля яшчэ многіх з'едлівых слоў, смактання люлек і перабівання адзін аднаго я пачуў нарэшце

расказ, якога я чакаў больш, чым цікаўны кум з карчмы.

— Квоза,— пачаў вазак,— гэта цыганскі сын ад старадаўняга пня смаргонскіх цыганоў-мядзведнікаў. Яго бацька, як раней і бацька яго бацькі, вучыў дзікіх мядзведзяў усялякаму штукарству, а светлы князь, як вядома, з-за гэтых паганых звяроў, няхай даруе найсвентшая матка боска, проста вар'яцее...

Гэта цыганскае дзіця гуляла з мядзведзямі ўжо тады, як ссала мацерыну цыцку. Не раз у звярынцы бацькі знаходзілі яго заснулага разам з медзведзянятамі. Крывалапыя Квозу — як родныя, ён нават па-мядзведжаму бурчаць навучыўся... Ты толькі паслухай. Гадоў шэсць таму назад Квоза з хлапчукамі ўночы на возера мацаць ракаў адправіўся з паходнямі. Толькі чуюць — недалёка ад іх нехта ў вадзе плюхаецца. «Можа, русалкі бялізну палошчуць?» — спалохаліся дзеці. Аглянуліся, аж гэта мядзведзь касалапы там. Сустрэўшыся з мядзведзем твар у твар, спалохалася і цыганяня.

— Во гэта сустрэча: адзін пасівеў, другі палысеў! Хі, хі, хі! — захіхікаў вазакоў кум.

— Дзеці схамянуліся. Уздымалі вёслы, крычалі на ўсё горла, хацелі адагнаць мядзведзя ад чоўна. Але не так яно выйшла. Мядзведзь падплыў яшчэ бліжэй. Ухапіў за той човен дый высыпаў ракаловаў у возера. У вадзе валтузня, віск, дзеці стараюцца ізноў перавярнуць човен, а мядзведзь недалёка трымаецца на паверхні вады, падпільноўвае... Як толькі хто ўхопіцца за лодку, касалапы — ха, ха, ха! — лапай хвaць і акунае назад у ваду. Нічога сабе жартачкі, га, кум? Квоза даў каманду: «Усім даць нырца!» І схаваліся яны ад мядзведзя пад вадой. Вынырнулі, разявілі раты: дзе крывалапы? Месяц асвяціў возера, дык і бачаць — мішка ўжо на беразе, у кусты лезе. Квоза загадаў усім хлапчукам хут-

чэй бегчы дамоў: «Няхай прыходзяць лавіць мядзведзя!» А сам усю ноч, як шчаня, ішоў па слядах, сочачы за мядзведзем і пазначаючы дарогу, пакуль з'явіліся смаргонскія мядзведнікі. Злавілі яны гэтага маладога гарэзу-мядзведзя і назвалі яго Бруна, імем гішпанскага князя-музыкі. Ці то ён быў падобны на музыку, ці то музыка гішпанец на гэтага мядзведзя, не разбярэш. Бруна вырас, стаў небывала вялікі, моцны, і вельмі да Квозы прывык. І чаму толькі цыганяня ні навучыла яго: і ў трубу дзьме, і талеркі на стол нясе, і скача, і чартоў праганяе, у бубен б'е, на калясе катаецца,— усяго, куме, не пераказаш. Дзе бываюць, а дзе і не, але заўсёды ўдвух — цыган Квоза і мядзведзь Бруна, усё разам, неразлучна.

Прыехаў нядаўна на кані ў Ліду пан капітан Бранілслаў Кружылка. У мундзіры, статны, хоць ужо і немалады, вусы цвёрдыя, блішчаць ад французскага воску, вачамі ўсіх прыгажунь цалуе, і такія агеньчыкі ў вачах гэтага пана гараць, што, здаецца, яшчэ міг, куме,— і пажар будзе! А ўсмешкай на панну Анэлю Пазнячанку, што ў карэце сядзела, усё асобна цэліцца. Ну, усмешка лепей за новую шапку твар красіць і нічога не каштуе.

Тым часам Квоза са сваім мядзведзем Брунам ідзе па горадзе Лідзе. Вочы яго ласыя, куды ні павернецца — паненкам і паням выскаляецца. А ўжо прыгажосць цыганская!

Схіляе пан Кружылка галаву перад шляхцянкай, шапку з пяром райскай птушкі здымае, прыгожыя словы на французскі лад вымаўляе, як сарока, хвастом круціць: свой прыцэл мае. Пазнячанцы пасля смерці бацькі немалая куча залатых дукатаў дасталася, маёнтак у Дукштах, не закладзены. Але бачыць ён, што панна Анэля ўжо не ўхмыляецца, а смяецца на ўвесь рот, кончыкамі далікатных паль-

чыкаў пацалунак шле... Весела ёй, аж заходзіцца ад смеху. Капітан уланаў Кружылка цягнецца да панніных ручак беленькіх, каб пацалаваць, млее ад шчасця...

Але што такое шчасце, куме? Гэта вада на далоні, якую стараешся з усяе сілы ўтрымаць, а яна ўсё адно сцякае. Дык вось, знянацку павярнуўшы галаву ўбок, капітан бачыць: усмешка і весялосць панны прызначаны не яму, а цыганчуку Квозу. І руку сваю праз дзверцы гэтаму прыгажуну падае. Матка боска! Калі капітан ад злосці не рассыпаўся на тысячу дробных кавалкаў, дык няхай дзякуе за гэта свайму панцыру — ён жа ехаў у парадкай форме: сабраўся ў сваты да панны Анэлі Пазнячанкі. Шляхцянка не паспела цыгану і слова вымавіць, а ўз'юшаны пан Кружылка плёткаю як сцебануў Квозу ўздоўж спіны.

— Так, так, куме, каму не вязе, таму і камень з сэрца проста на мазоль упадзе,— уздыхнуў другі.— Дык кажаш, плёткаю па спіне ўрэзаў?

— Плёткаю. Як гадзюкай уджалены, закрычаў Квоза. Панна ў сваёй карэце ад'ехала як найдалей. Цыганскі хлопец замахнуўся кінжалам, але не паспеў ударыць. Мядзведзь Бруна лапаю так бацнуў пану Кружылку па карку, што той зляцеў з сядла і ткнуўся носам у лужыну. А спуджаны капітанаў конь панёсся чортведама куды.

Квоза разлютаваны, зубамі, як воўк, ляскае, кінжалам у ляжачага капітана цэліцца. «Заб'ю!» — крычыць. А лязо ў кінжале — цыганскае: тонкае і вострае. Але знайшлося шчасце і пану Кружылку. Яго ад немінучай смерці ўратаваў Бруна. Бачыш, мядзведзь з ровам напаў на яго, наваліўся і так міжволі прыкрыў яго ад кінжала.

Прыбегла варта, абараніла ледзь жывога пана Кружылку ад мядзведзя. Квоза адразу сышоў з Лі-

ды ў Смаргонь. Неўзабаве там, злосны, з'явіўся і капітан. З'явіўшыся, паскардзіўся намесніку найсвятлейшага князя, вяльможнаму пану Малакоўскаму, што цыган Квоза сапраўдны валацуга, у Лідзе не толькі нацкаваў на яго дзікага звера, але і каня ў яго ўкраў. Ледзьве ён, капітан, не загінуў ад кінжала паскуднага канакрада.

Намеснік, пан Малакоўскі, і так не выносіў дзівацтва князя Радзівіла — мядзведзяў і цыганоў у Смаргоні. Таму, не задумваючыся вельмі, загадаў злавіць Квозу і судзіць. Мядзведзя прадаць мадзьярам, а ўтаргаванымі грашыма заплаціць капітану за каня. Каня, куме, ужо назаўтра ўланы знайшлі і вярнулі пану Кружылку, але ён пра тое Малакоўскаму не пахваліўся.

Дазнаўшыся, што задумана на яго, Квоза забраў з сабою Бруну са Смаргоні і прапаў. Але ці доўга, вандруючы з мядзведзем, можна хавацца ад людскіх вачэй? Таму, паблукаўшы пару дзён, Квоза пацалаваў мядзведзя проста ў мызу, зняў з яго шыі аброжак і — пусціў на волю. Сам ён не паспеў схавацца, дагналі цыганка ўланы, злавілі, збіўшы, звязалі і па загадзе пана Кружылкі кінулі ў звярыную клетку.

Бруна, застаўшыся адзін, усюды блукаў, шукаў Квозу. Зглададаўшыся, заходзіў у вёску, палохаючы людзей, лапай стукаў у вокны, каб пусцілі ў хату. Умеў сам адчыняць дзверы і, паказаўшыся ў хаце, ківаў галавой, як жабрак, вымольваючы ежу. Злавілі Бруну далёка ад Смаргоні. Прыкавалі ланцугом у хляве, і калі вяскоўцы збегліся паглядзець на яго, нейкі блазнюк пачаў дражніць мядзведзя. І што ты, куме, думаеш? Касалапы, раззлаваўшыся, выдраў са сцяны бервяно, сціснуў лапамі, размахнуўся і кінуў проста ў рагатуна. Добра, што паспеў прыгнуцца, і так убярогся ад смерці. Звер ёсць звер.

Тады ўланы, торкаючы нагрэтымі жалезнымі прэнтамі, загналі мядзведзя ў клетку. Побач, як вуж, выгінаўся звязаны Квоза, а паміж імі пасадзілі яны злога воўка. Так Кружылка прыдумаў. Сягоння, куме, вяртаючыся назад у Смаргонь, завіталі ў ваша слаўнае мястэчка. Пасадзіўшы цыгана ў клетку, пан капітан паехаў да нейкага свайго сябра. Каб толькі Квоза больш мучыўся, звязаны. Жорсткае яго ўланскае сэрца, ох жорсткае.

— Так, так, куме, з добрага жалеза не куюць цвікоў, а добрых людзей не наймаюць у войска,— паківаў галавою возчыкаў субяседнік.

— Калі пан капітан паехаў, мы асмеліліся і выпілі збанок мёду. Адзін, трэці... А пасля шрамаваты выйшаў на двор і — прыбег, усіх чартоў клянучы. «Бяда! — з пенай на губах, аж захлынаючыся.— Клетка адчыненая, праклятага цыгана як вадою змыла!»

Ускочылі ўланы на коней, да пана капітана паляцелі. Можа, злы дух дапамог Квозу вырвацца?

— А мядзведзь, куме, дзе?

— Мядзведзь? Мядзведзь як ашалелы ў клетцы кідаецца.

Вазак устаў, пацягнуўся, пачухаў за вухам і дадаў:

— Заседзеліся мы. Можа, яшчэ па збанку, куме? І з'есці б чаго не шкодзіла. Магчыма, ноччу давядзецца ехаць.

І, смокчучы люлькі, уваліліся ў карчму.

Дык вось якія навіны пачуў я, хаваючыся за бэзавым кустом. Можа, і непрыстойна шляхціцу падслухоўваць, але я ведаў: плёткамі ўсе нібы пагарджаюць, але іх з ахвотаю слухаюць... Я пазяхнуў. Пара ісці да Ёшкі на начлег. З галавы яшчэ не выветрыўся званароў пачастунак. Але я адчуваў сябе амаль героем, што дапамог Квозу, што я чалавек, у

якога ўсё ладзіцца і якому будзе шэнціць і далей. Таму, відаць, як толькі ўвайшоў у карчму, знарок, нібы здаўна так прывык, кінуў карчмару:

— Рандару! Панскую вячэру! І няхай пакаёўка сцеле пасцель.

Мне здалося, што мой худзенькі кашалёк з талерамі, збаяўшыся такіх неабдуманых слоў, зусім зморшчыўся. Але забраць іх назад ужо не выпадала. З душнага, накуранага агульнага пакоя ў карчме я, як той вялікі пан, завярнуў у бакоўку. Ёшка пільна паглядаў на мяне. З запаленай свечкай услед за мною з'явілася служанка Волька. Што я еў, не памятаю, але мёд, хоць барадаты Ёшка, можа, трохі і разбавіў яго вадзіцай з калодзежа, здалося мне, быў моцны і смачны.

Я ўжо драмаў, калі праз сон пачуў іржанне коней і грукатанне колаў. Зірнуў у акно карчомнага пакойчыка, мяне асляпілі два яркія ліхтары з карэты. Пажылы фурман, нацягнуўшы лейцы, стрымліваў буланых коней. Поплеч з ім сядзеў невысокі лёкай. Як толькі буланыя, фыркаючы, сцішыліся, з козлаў саскочыў слуга і подбегам, на дыбачках падаспеў да карэтных дзверцаў. Прачыніўшы іх, ён лоўка спусціў маленькую лесвічку, па якой адразу сышла важная пані.

Цікаўнасць выштурхнула мяне з пакоя.

Праз некалькі хвілін у карчме пачалася беганіна. У гасцёўні лёкай рассцілаў на падлозе квяцісты дарагі дыван, прывезены ў карэце, уносіў валізы [1]. Рандар Ёшка, кланяючыся на кожным кроку, вітаў найсвятлейшую пані, без канца і краю выхваляючыся сваёю карчмою. Праплыўшы міма, заезная пані нібы незнарок глянула на мяне. У святле свечак вясёлкавыя барвы яе вачэй бліснулі на мяне каменьчы-

---

[1] Валіза — чамадан *(польск.)*.

камі рачнога жвіру. У яе завушніцах гайдаліся беленькія жамчужынкі. Я падняўся з лаўкі і пакланіўся ёй. Пані адказала прыгожым кіўком галавы. На яе шыкоўным капялюшыку заківаўся цэлы шаўковы кветнік. На парозе свайго пакоя яна раптам спынілася.

— Хто ты такі? — спыталася яна.— Ты шляхціц?

Ад нечаканасці я пачырванеў як рак.

— Габрэлюс Твірбутас, з Варніне, цалую ручкі найсвятлейшай пані,— адказаў я, зняўшы капялюш і непрыкметна выпростваючы пакамечанае пер'е.

Яна капрызліва прыкусіла сваю маленькую губу.

— Шляхціц... Думаю, прыстойны чалавек,— сказала яна звонкім голасам.— Я тут адна жанчына, падарожная... Можа, ты згадзіўся б, калі спатрэбіцца, быць маім рыцарам і абаронцам?..

Я пакланіўся ёй, як каралеве:

— Буду лічыць гэта за вялікі гонар, цалую ручкі.

— Калі не пярэчыш, пане, будзем вячэраць разам.

Я ізноў пакланіўся ёй як мага грацыёзна.

Ёшка, хітра прыплюшчыўшы вока, узважваў і мераў мяне. Яго нос, як крук, варочаўся то на адзін, то на другі бок. Сон мой канчаткова развеяўся, я нецярпліва чакаў, пакуль пані прыбярэцца, і ўсё стараўся адгадаць, з якога краю прыбыла такая ганарліўка.

— Пане рандару,— ціхенечка сказаў я карчмару,— будзь ласкавы, што ты ведаеш пра прыезджую паню.

— Чаму не сказаць, магу ўсё сказаць. А гэта ж,— ён выцер нос рукавом,— панна Анэля Пазнячанка з Ліды.

Панна Пазнячанка! Які сюрпрыз! Я ўспомніў Квозавы прыгоды... Дык па гэтай красуні ўздыхае цыган.

Сэрца адчула прыемную цеплыню: гэта ж я сёння нечакана адкрыў у іх жыцці нейкую наканаваную часцінку.

Прысеўшы да стала панны Анэлі, застаўленага стравамі і вінамі, я пачаў асцярожна, здаля рабіць намёкі. Я думаў, панна Анэля мучыцца з-за бяды, што спасцігла Квозу, аж яна, на маё здзіўленне, з апетытам узялася за вячэру: вялікімі глыткамі выпіла кубак віна, па-мужчынску распраўлялася з вэнджаным гусем. «Ага,— здагадаўся я,— відаць, яна ўжо ведае, што Квоза ўцёк». Прыгледзеўшыся добра, я вырашыў, што панне Анэлі ўжо блізка, калі не болей, да сарака гадкоў. Магчыма, Квоза — апошняе яе каханне?!

Пасля трэцяга кубка я зусім ап'янеў, а ў грудзях усё з большым замілаваннем стукоча сэрца. Стараючыся, каб мой язык, які ўжо ледзьве варушыўся, гаварыў танчэй і далікатней, я сказаў:

— Тсс! Гэта вы, ласкавая панна, ужо ведаеце, што вашаму Квозу нішто не пагражае?

Яна наставіла на мяне свае прыгожыя вочы:

— Квозу?

— Квозу. Нішто не пагражае,— паўтарыў я.

— Не пагражае?

— Клянуся! — грукнуў сабе кулаком у грудзі і, не сцярпеўшы, дадаў: — Уцёк!

— Квоза ўцёк?

— Уцёк. Пан Кружылка, ха-ха-ха, ашалее ад злосці, рассыплецца попелам... І ім пасыпле сабе галаву, ха-ха-ха!

Панна Анэля збялела як палатно:

— Пан Кружылка?

— Пан Кружылка. Вы не смейцеся: ён тады ў Лідзе хацеў пасватацца да панны.

Яе ноздры раздзьмуліся, шчокі наліліся чырванню.

— Да мяне сватацца хацеў? О, божа! — крыкнула яна.— Пан Кружылка?!

— Так, так, ласкавая панна, але Квоза якраз перашкодзіў. Тады ж і ўзнялася бойка. У злосці Квоза ледзь не закалоў капітана.

Як злоўленая птушка, Пазнячанка, калоцячыся, схапіла мяне за руку. Я чуў, як трапечацца яе сэрца.

— Не закалоў?

— Не закалоў, але пан да яго не быў літасцівы.

Пакуль я з захапленнем расказваў пачутую ад возчыка гісторыю, яна аж да крыві пакусала свае губы.

— Падумай толькі, пан Габрэлюс! Кружылка мерыўся да мяне сватацца...— І, усхваляваная, залпам выпіла яшчэ кубак венгерскага. Заахвочаны ёю, зрабіў тое і я.

У мяне кружылася галава, я моцна абхапіў яе рукамі, і тады адразу ўся карчма пайшла ходырам. Я балбатаў безупынна, стараўся гаварыць як мага басавітым голасам. Я адчуваў незвычайную прыўзнятасць, прысягаў быць яе вечным абаронцам, кідаўся цалаваць яе белыя ручкі. І зусім не заўважыў, што на парозе стаіць, нібы з-пад зямлі вырас, капітан уланаў пан Кружылка. Я ўбачыў яго як скрозь туман. Працёр вочы: так, капітан! На пальцы ў яго блішчаў пярсцёнак з вялікім рубінам. Стаіць капітан і сцізорыкам бесклапотна абразае свае ногці. О, маім сточаным ножыкам! Закіпела кроў, стукнула мне ў галаву, я крыкнуў не зусім паслухмяным мне языком:

— Прывітанне, пане! Прывітанне... Вам шле яго нябожчыца Шымалюнчанка.

Капітан наставіў вушы, зморшчыў лоб.

Я плёў далей:

— А жывым, пане, давядзецца вярнуць іх дабро. Чуеш, капітан? Аддай мне нож.

Я пакланіўся Анэлі, якая нічога не разумела:

— Няхай даруе ласкавая пані, але гэты нож мой.

Пан Кружылка свіснуў і ступіў у пакой.

— Гэй, калючыя ружы, бычыныя рогі! — крыкнуў ён, трасучы мяне за плечы.— Дык гэта ўласнасць вашай мосці?!

У яго на далоні ляжаў стары сцізорык са зрэзаным лязом.

— Мой,— адказаў я і працягнуў руку да яго.— Мой ножык, з белымі тронкамі. Падарунак хроснага бацькі пана Мельхіёраса.

— А-а,— зашыпеў капітан.— Ножык з белымі тронкамі, кажаш... Знайшлі мы яго каля клеткі, з якой нейкі нягоднік выпусціў злачынцу.

Я прыкусіў язык, але ўжо было позна — нож выкрыў яго гаспадара.

Пан ганарыста азірнуўся і спахапіўся, што зусім пакінуў без увагі даму.

— Калючыя ружы, бычыныя рогі! — ізноў гучна прамовіў капітан Кружылка, які зусім не спадзяваўся сустрэць тут панну Анэлю.— Каго я бачу! Міласлівую панну! Маё шанаванне, абдымаю ножкі панны Анэлі!

Пазнячанка нахмурыла чорныя вузкія бровы.

— Проша пана! Проша пана,— прыязна ўсміхнулася Анэля.— Сядайце з намі. А гэта мой кавалер, кавалер і абаронца,— неяк соладка забуркатала, як галубачка, знаёмячы мяне з панам Кружылкам.

Нос у капітана выцягнуўся і пасінеў, як у раззлаванага індыка. Ён тупнуў нагой, аж дзвынкнулі шпоры, і з'едліва зарагатаў:

— Віншую панну з такім кавалерам! Ён злачынец, выпусціў арыштанта. Я...

Капітан шматзначна забразгаў мячом.

Я раззлаваўся незвычайна — малады быў, гара-

чы. Не разумеў тады простай рэчы: упадаючы ў сляпую злосць, сам сабе сцелеш пасцель з крапівы.

— Брэшаш, як сабака, пане паляўнічы, на пасаг! — выгукнуў я нейкім пісклявым галаском і пагрозліва ўхапіўся за свой меч, махнуўшы рукой: — Ідзі адсюль!

Панна Анэля зусім спакойна стаяла і глядзела на нас. У краёчках яе вуснаў я заўважыў нешта падобнае на схаваную ўхмылку.

Пан Кружылка загаварыў да міласлівай панны:

— Прашу прабачэння, прашу прабачэння, што ў прысутнасці дамы так непрыстойна сябе паводзіў, але зразумейце маю вымушаную разлютаванасць.

І, жадаючы канчаткова прынізіць мяне, павярнуўся ў мой бок і загукаў:

— Гэй, кукарэка, не махай рукамі! Няхай табе будзе вядома, што хоць у пеўня ёсць крылы, але ён ніколі не ўзнімецца ў неба.

Маёй галаве, у якой яшчэ клекатала выпітае віно, гэта было ўжо занадта. Я не пасаромеўся выплюхнуць усё, што назбіралася ў маёй жоўці. У вушах ізноў пачуўся крык Зосі, пакрыўджанай уланам у Варніне, прыгадаў таксама пёрка на маім капелюшы, збітае бізуном, стогны Квозы...

Пачуўшы шумную сварку, прыбег рандар Ёсель, за яго плячыма стоўпіліся разявакі, якія пацяшаліся з такое сцэны.

— Ён п'яны, пане капітане,— сказаў Ёшка.— Няхай ідзе спаць.

— Відаць, што не прывык да віна,— літасціва пацвердзіла панна Анэля. І дадала: — Jnventus ventus, маладосць — блазнота.

— А паночак жа сапраўды п'янюсенькі зусім,— захіхікала касавокая Волька.

— Слухай, панок,— ізноў уціснуў сваё слова

карчмар.— Калі ўтрох кажуць, што ты п'яны, то ідзі і лажыся!

— Сто чартоў! — крыкнуў я.— Я... я...— язык ужо не слухаўся мяне, а чамусьці захацелася выказацца на латыні.— Homo... hono-no-nor...[1]

— Ты homo, але толькі трошачкі sapiens[2]! — зашыпеў капітан.

Ён зачапіў мой гонар, і я з усёй сілай стукнуў кулаком па стале, але пахіснуўся і трапіў па краі міскі. Тлустая поліўка фантанам пырснула ўгору, плюхнула капітану на галаву, абліла яго сабаліную шапку, запэцкала твар, заляпіла вочы і малайцавата закручаныя вусы.

— Ха-ха-ха! — замест прабачэння я зарагатаў. Ужо вельмі смешная стала яго мыза.

Капітан аж закіпеў ад злосці. Міг, і заблішчалі ў паветры мячы. Ага, вось калі я здолею на справе ўжыць навуку дзядзькі Мельхіёраса сячыся на мячах, якую ён мне выкладаў у апошнія гады! Скрыжавалася, зазвінела высакародная сталь. Я не паспеў замахнуцца другі раз, як раптам здранцвела правая рука,— выбітая з яе зброя са свістам адскочыла ў кут.

— Ах, гэтак! — мяне аж затрэсла.

Страціўшы меч, я не здаўся, лоўка замяніўшы яго на збан мёду, які трапіў пад руку. Схапіў і шухнуў у пана Кружылку. Пасыпаліся чарапкі, па сценах пацякла ліпкая вадкасць. Удар кулака паваліў мяне на падлогу. Удары сыпаліся на мяне, як лядовы град з хмары: капітан, цяжка наваліўшыся на мяне, тоўк з асалодаю.

Ахоплены бяссільнай злосцю, я выгінаўся на падлозе і крычаў як зарэзаны:

---

[1] Горды чалавек *(лац.)*.
[2] Разумны *(лац.)*.

— Езус Мар'я! Панове! Выцягніце мяне з-пад нізу, бо я магу яго забіць!

У галаве маёй загрымеў гарматны залп: ад моцнага ўдару мне зрабілася неяк вельмі кепска, і я надоўга самлеў.

Так скончылася casus belli[1] ў Ёшкавай карчме.

Я прагна знішчаў смажаніну, але, успомніўшы пра ўчарашняе, мяне зноў агарнула лютасць: я быў пры ўсіх зганьбаваны, зняважаны і... пераможаны. І гэта ўсё таму, што капітан скарыстаў маю неспрактыкаванасць і маё захмяленне ад пачастунку панны Анэлі і таго зладзеяватага званара. Я мушу адпомсціць, адпомсціць капітану Кружылку! Ён ва ўсім вінны: пакрыўдзіў Зосю, першы мяне зачапіў. Я зусім не хацеў прызнацца, што і сам не без грэху. Нездарма кажуць: пакаянне — самы вялікі грэх.

Пазней, шмат чаго ў жыцці зведаўшы, я зразумеў, што той, хто зробіць недарэчнасць і думае, што ён выканаў свой абавязак,— сапраўдны дурань.

Справіўшыся са смажанінай, я выпрастаўся на ложку. Наладаваны страўнік — найлепшы бальзам ад гузоў і сінякоў. І ад злосці. Калупаючы ў зубах, я разважаў, як усё пойдзе далей. Крыўдна было, што, ледзьве ступіўшы нагою з дому, ужо ўкляпаўся ў дурную бойку. А мая рэпутацыя, як папярэджваў ксёндз Мацеюс, павінна быць чыстая, не заплямленая ніякімі авантурамі. Капітан жа абвінаваціў мяне ў парушэнні прававога статуса. Я сам сябе падвёў.

Прыляцеў цэлы рой думак: чаму Кружылка пакінуў мяне тут, у гэтай бакоўцы, аплеценай павуціннем?.. Можа, ён падумаў, што, стоўчаны яго моцнымі кулакамі, я ўжо сам аддаў богу душу? А мо-

[1] Ваеннае становішча.

жа, спадзяецца на сваіх уланаў, што топчуцца на двары і схопяць мяне, як толькі крыху ачуняю? Страшэнна занепакоены, я, нягледзячы на боль ва ўсім целе, саскочыў з ложка. Наперадзе яшчэ немалое падарожжа, трэба найхутчэй дайсці да пана пісара. І незаўважана знікнуць з негасціннай Ёселевай карчмы.

Рандар, убачыўшы, што паспешна сходжу па рыпучай лесвіцы, нямала здзівіўся:

— Вэй, вэй! Ласкавы пан спусціўся сам адзін...— Ёшка спачувальна паківаў галавой.— Угору мы цягнулі паночка ўчатырох. Добра, што паночак сам варушыцца.

Прыклаўшы да кончыка свайго носа палец, ён маргнуў:

— Паночка, няхай бароніць яго бог, ужо чакаюць.

Я анямеў:

— Хто? Уланы чакаюць?

— Адна асоба. Каля капліцы за мястэчкам.

Больш ён нічога ўжо не гаварыў мне, толькі, чухаючы пэйсы, загінаў пальцы і ўголас лічыў:

— За тлусценькую курыцу, за начлег — я спадзяюся, паночак добра спаў,— міласлівая панна ласкава сама заплаціла...

На сэрцы ў мяне палягчэла: талеры, мае даражэнькія талеры... Я ж бедны, як касцельная мыш.

Але рандар не спыніўся на гэтым, лічыў далей:

— Ваша мосць, тут мне трошачкі належыць за ўчарашні абед. Яшчэ паўкватэркі гарэлкі, яшчэ кварту мёду... Яшчэ...

Я ашаломлена глядзеў, як вырастае слупок лічбаў. Карчмар зіркнуў на мяне:

— Такі маладзенькі панічок. Прыемна было б ведаць, як чуецца ваша мамуся. Колькі мае гадкоў?

Я адказаў. Нашто яму спатрэбіліся гады маёй пані маці?

— Ага, ага. Трыццаць сем... Яшчэ разбіты збан з мёдам...

Запісваючы мёд, Ёсель спытаўся, ці доўга на свеце жыве мой дзядзька Мельхіёрас, колькі гадоў мне самому. Так, балбочучы, скончыў ён падлічваць мой доўг.

— Няхай ніхто не гаворыць, што Ёсель абдзірае каго. Як ад вас, паночку, якога я частаваў, дык усяго адзін талер.

Пакуль я з балючым сэрцам павольна даставаў манету, карчмар прынёс мой меч і іншыя мае рэчы. Палаючы ад сораму, я засунуў меч у ножны, прамармытаў нешта на развітанне і хутка шухнуў у дзверы. Сышоўшы з ганка, я хацеў паперку з лічбамі кінуць, але, глянуўшы ў яе, аж прысеў: як жа мяне карчмар абдурыў! Я зразумеў, для чаго ён пытаўся пра гады мае маці, дзядзькі Мельхіёраса і мае. Усе нашы гады былі акуратна падлічаны разам з коштам мёду і начлегу. Добрая навука маладому падарожніку, які не бачыў яшчэ махлярства.

Я плюнуў і пакіраваўся далей. Праходзячы паўз касцёл, прыгадаў вясёлага званара Тамаша. Мінуў скасабочаную Блышыную карчму. У дзверы высунула сваю худую шыю старая Гунэфа. У яе вачах, як магільныя свечкі, бліснулі злосныя агеньчыкі. Зашамацела яе шырокая спадніца.

— Хі, хі, хі! Добры дзень, добры дзень! — не тоячы злосці, разявіла яна свой бяззубы рот.— Не казала я — не хадзі да Ёселя? Уперылі добра? Хі, хі, хі!..

Схіліўшы галаву, мусіў прызнаць яе праўду: veni victus sum, evasi...[1]

---

[1] Прыйшоў, быў пераможаны, уцёк... *(лац.)*

# Бакалаўр Данііл

Капліца святога Ізідара, апекуна ратаяў, стаяла на ўскрайку мястэчка, адкуль гасцінец разыходзіўся на дзве дарогі. Сонца пасоўвалася на поўдзень і зноў смаліла, як агнём. Я пачаў углядацца, але нікога не ўбачыў, толькі ў кусце шыпшыны, млявая ад спёкі, разявіўшы дзюбку, драмала шэрая птушачка, якую мы пяшчотна завём салоўкам. Я прысеў на прыступцы капліцы, у засені. Неўзабаве на дарозе паказаўся коннік. Ён накіраваўся галопам проста на мяне.

— Дзякую тваёй мосці, што меў ласку затрымацца тут дзеля мяне,— прамовіў коннік, лоўка саскочыўшы з каня.

Вось калі я сапраўды анямеў: гэта быў Квоза! Той самы шэльма Квоза, які, як я думаў, недзе за тысячу міль адсюль. Калі б не сінякі на твары і расшчэпленая губа, цяжка было б пазнаць учарашняга вязня. Вясёлы, жвавы, умыты — нібы нічога з ім не адбылося. І нават на добрым скакуне!

Квоза кінуўся цалаваць мне рукі:

— Няхай блаславіць цябе, паночак, найміласцівы гасподзь бог за тваё добрае сэрца!

Я ледзь не патануў у патоку яго слоў удзячнасці. Ратуючыся, я заткнуў свае вушы:

— Квоза, кінь! Што за глупства!

Ён супакоіўся, толькі яшчэ разоў з дзесяць перад груба выразанай драўлянай статуяй Ізідара прысягаў мне ў вернасці да нябеснай брамы. А там бог ужо вырашыць, каму з нас у рай, а каму ў пекла тэпаць. Без асаблівага здзіўлення агледзеў ён маё падбітае вока і ўспухлы, падвоены нос.

— Як ты тут апынуўся? — спытаўся я ў непакоі.— Не баішся, што...

Ён паправіў сядло, пагладзіў грыву ў каня і сказаў:

— Давай паскачам, золатца маё, тады пагаворым. Не будзем траціць часу.

Крэхчучы, узабраўся я на сядло. Лоўка, нават не закрануўшы стрэмя, успырхнуў і ўладкаваўся за маёй спінай на шырокім крыжы каня цыган.

— Паедзем удвох, паночак,— дыхаючы мне ў патыліцу, сказаў Квоза.— Толькі калі вёска ці падарожны які трапіцца, я злезу і пайду побач.

— Чаму? — здзівіўся я.

— А што ж людзі падумаюць, убачыўшы такую дзіўную пару: радавітага шляхціца і цыгана?

Прыйшлося пагадзіцца з Квозам: сапраўды такое сяброўства здалося б нечуваным.

— Паварочвай налева, налева, паночку! — крыкнуў Квоза.

Я паслухаўся, зусім даверыўся яму, абы хутчэй расказаў пра свае прыгоды, пра якія мне так карцела даведацца. Таму я зноў запытаўся:

— Квоза, як ты тут апынуўся? І дзе ты гэтага каня ўзяў?

Цыганок, моцна абняўшы мяне за плечы, ціха засмяяўся:

— На дне ракі злавіў, мой ты паночак.

— Не вярзі абы-чаго! Расказвай, Квоза, усё па парадку.

Больш Квозу прасіць не давялося, ён пачаў расказваць:

— Учора, калі ты, добры чалавек, вызваліў мяне са звярынай клеткі, я далёка не ўцёк. Я хацеў забраць Бруну, але здарылася няшчасце: калі я рэзаў пруты, выслізнуў з рук твой нож. А ў той час пачуліся галасы жаўнераў. Я памчаўся з двара. Ты ўжо прабач...

— Не бядуй! — я ўсміхнуўся і паказаў нож здзіўленаму цыгану.— Знайшоўся.

— Ох! — крыкнуў ён.— Адкуль?

Я каротка расказаў і нецярпліва папрасіў яго:

— Расказвай далей.

— Добра,— згадзіўся ён.— Дык слухай. Я праз кусты дабраўся да хлява Ёшкавай карчмы і пратырчаў там да золку.

— Хо! — я нават свіснуў, захапляючыся яго спрытам.— А ўланы, шукаючы цябе, відаць,ператрэслі ўсё на свеце.

— Уланы ёлупні,— каротка сказаў Квоза.— Раніцай на двор з карчмы выйшла Волька. Старая знаёмая. Я ціха гукнуў яе і расказаў, што са мной здарылася. Папрасіў яе памагчы. Волька нажа не знайшла, але прынесла мне есці і расказала пра тваю, паночак, бойку ў карчме.

Квоза далікатна змоўк.

— Гм... Гм... Ну, а далей, далей што? — падганяў я яго, трохі засмучаны.

— А далей, паночку, я ўбачыў, як Кружылка так далікатна віўся, што вуж, каля панны Анэлі Пазнячанкі, праводзіў яе да карэты, потым селі разам, трымаючыся за ручкі, і паехалі.

Я анямеў другі раз у гэтую раніцу.

— Разам? — я не паверыў.

— Разам.

— У адной карэце?

— У карэце панны Анэлі.

— Оля-ля! Як гэта магло здарыцца? Кружылка і панна Анэля...

— А проста, пан Габрэлюс. Волька мне ўсё расказала, як там было. Як толькі ўчора, панічок, ты пайшоў спаць...

— Гм... Гм...

— Капітан, цалуючы яе ручкі, пачаў прасіць

прабачэння за бойку. Сказаў, што рабіў гэта ад вялікага кахання, што палае ў яго грудзях да найсвятлейшай панны. Паспавядаўшыся так, Кружылка, каб ён счарнеў, атрымаў міласцівае дараванне. Павячэраўшы разам, ён паваліўся на калені і папрасіў рукі ў панны Пазнячанкі.

— І яна... згадзілася?!

— Умомант, золата маё.

— А можа, капітан яе прымусіў, пагражаў?

— Што ты, сэрцайка! Панна Анэля абняла капітана за шыю, як вяроўкай абматала.

— Цяпер яны... возьмуць шлюб?

— Як мага хутчэй паедуць пад вянец, мой паночку залаценькі. У капітана вецер свішча ў кішэнях. А панна Анэля, якая столькі гадоў берагла свой руцвяны вяночак, аж захлынулася ад радасці. Кружылку засталося толькі здабыць згоду яе апекуна, найсвятлейшага князя.

Нечаканая мне была гэтая навіна. Ах, як жа яму сцярпець, ашуканаму Квозу!.. Скакалі мы на кані па бальшаку пад пякучым сонцам.

— Гаротнік ты,— прашаптаў.— Спачуваю табе ад усёй душы.

— Чаму спачуваеш, ласкавы пане? — зусім абыякава спытаўся Квоза.

Я расказаў яму, што чуў пра сцэну рэўнасці пана Кружылкі і пра ўдар бізуном у Лідзе. І з абурэннем сказаў:

— Як панна Анэля магла так цябе ашукаць?

За маёй спінай пачуўся рогат. Квоза аж тросся, так рагатаў:

— Ну і жартаўнік ты, паночак! Квоза ніколі не быў ні закаханым, ні каханкам панны Пазнячанкі. Гэта Кружылка ўсё дрыжыць, каб хто іншы не ўхапіў залатыя дукаты панны Анэлі, таму, як сабака, кідаецца на ўсіх. А ў той дзень у Лідзе яна

ладзіла баль і хацела пацешыць гасцей славутым штукарствам Квозы і яго вучонага мядзведзя. Вось як усё гэта было, мой паночку. Ха-ха-ха!

Цяпер я ўспомніў, як з горыччу скрывіла свае губкі панна Анэля, калі пачула ад мяне гісторыю з панам Кружылкам: «Як, да мяне сватацца прыехаў? О, божа!.. Пан Кружылка!» Аказваецца, гэта былі словы шкадавання, а не абурэння.

Конь павярнуў сваю каштанавую галаву і са здзіўленнем глянуў на нас: ці не з'ехалі мы з глузду? Наш дружны рогат разлягаўся па палях і лугах. Цяпер я зразумеў, чаму, хоць бы і часова, капітан забыўся на мяне. Калі мы сцішыліся, я расказаў Квозу сваю гісторыю і дзеля чаго я пусціўся ў вандроўку.

— Ах, сэрцайка, паночак! — пляснуў Квоза рукамі.— Табе ж не ў Нясвіж, а ў Смаргонь трэба! Туды якраз найсвятлейшы князь кіруецца на мядзведзяў паглядзець. Мусіць, і пісар прыедзе са светлым князем.

Я падумаў, што Квоза мае рацыю. Тым больш што мы на кані, можам і напрасткі. Але конь спатыкнуўся, раптам здрыгануўся, і я ледзьве не зляцеў на зямлю. Дарэчы, адкуль у цыгана ўзяўся конь?

— Квоза, скажы, адкуль гэты конь? — мяне не пакідала падазрэнне.

Цыган за маёй спінай пачаў круціцца, як чорт перад хмарай.

— З ракі, паночак, выцягнуў,— нарэшце выціснуў ён адказ.

— Квоза! — мяне ўзялі дрыжыкі.— Гэтага каня... ці не ўкраў ты?

Квоза загадкава засмяяўся:

— Няўжо не ведаеш, паночку Габрэлюс, што цыганы коней не крадуць?

Што ён чаўпе?

— Цыганы, паночку Габрэлюс, коней пазычаюць,— ціхмяна растлумачыў Квоза.— Сёння ўранні, паночак мой, я папрасіў служанку Вольку, каб яна праз карчмара сказала — няхай твая мосць прыйдзе да капліцы. Ёшка мне не вораг, ён не выдасць. Чакаючы тваю мосць, я падышоў да рэчкі. Аж бачу — там валоў паілі, ёсць сляды іх капытоў і след воза. Зрабілася мне шкада майго мядзведзя, хоць я ведаю — у Смаргоні сустрэнемся. З той жаласці слязу выціраю. Выціраю і чую нейчы голас:

— Што за прыпадак здарыўся з табою, цыганочак? Чаго слёзы льеш?

Я азірнуўся: аканом двара Глінна пан Мяшкоўскі едзе міма на кані.

— Я прыйшоў памыцца, і ўвалілася ў рэчку срэбная табакерка,— кажу яму.— Дарунак князеў. На самае дно пляснулася. А вады я баюся. Табакерка срэбная, абсаджаная дыяментамі.

— Ого,— насцярожыўся пан аканом Мяшкоўскі, а вочы яго радуюцца.— Цыганы заўсёды абмінаюць споведзі і ваду. Дзе ўпала?

— А вось тут,— паказаў пальцам на белыя гарлачыкі ў рэчцы.

Аканом скок з каня, кінуўся ў ваду і пачаў вобмацкам шукаць. Пакуль ён абмацваў тое дно, я на яго кані езджу каля берага. Тут конь, во гэты самы, на якім мы едзем з табою, спудзіўся крата і панёс мяне чортведама куды...

— Квоза, вар'ят! — крыкнуў я з жудасцю.— І ты мне, Твірбутасу, падсунуў крадзенага каня! Дзе цяпер пан Мяшкоўскі?

— Не бойся, паночак,— спакойна сказаў Квоза,— не зловіць нас... Няма пана Мяшкоўскага.

— Як гэта няма, шалапут ты? Дзе ён?

— Паночку, ты ж ведаеш, там, дзе белыя гарлачыкі, заўсёды глыбака і на дне шмат глею. Пан аканом ныраe ў ваду някепска, але не пашанцавала яму вынырнуць...

У мяне валасы сталі дыбам.

— Квоза! Ты наклічаш на мяне няшчасце.

Цыган не хваляваўся:

— Што зробіш, панок! Мой мудры тата Якуб кажа: шчасце аднаго трымаецца на няшчасці іншага.

Я спыніў каня, саскочыў з яго, не стрымліваючы лютасці, кінуў павады:

— Квоза, ты можаш выкапаць мне магілу.

— Магу. Скажы толькі, які ў цябе рост, панок.

І бліснуў сваімі белымі, як фарфор, зубамі мой няшчасны спадарожнік. Але нарэшце ўбачыўшы, што яго жартачкі могуць далёка завесці, Квоза сур'ёзна сказаў:

— Не хвалюйся, даражэнькі Габрэлюс, гэтага каня я ўзяў у карчмара Ёшкі. За твой, панок, талер, ха, ха!

— За мой талер?

— Сказаў Ёсель — талера хопіць.

Я ўспомніў карчмароў падрахунак і ўсё зразумеў: пажартаваў рандар з зялёнага блазнюка. А я падумаў, што ён змахляваў.

Пад'ехаўшы да возера, мы спыніліся, каб напаіць каня. Потым разлегліся на траўцы на беразе. Чароўна пах аер. Непадалёку плавалі лебедзі.

— А ці ведаеш ты, панічыку,— трымаючы ў зубах сцяблінку травы, сказаў Квоза, прыглядаючыся да іх,— што нараджае лебедзя? Вада. Без вады быў бы не лебедзь, а простая гусь...

Бачыш, які гэты Квоза...

— А ці праўда, Квоза, што князь у Нясвіжы плодзіць розных дзівосных птушак? У яго ёсць на-

ват вялізная курыца з пустыні, якую завуць страусам.— Я перапыніў яго.— А яна надта саромеецца, кажуць. Калі чаго-небудзь засаромеецца, дык адразу хавае сваю галаву ў пясок.

— Хавае ў зямлю галаву, затое высока падымае зад,— засмяяўся цыганчук.

На беразе возера я ўбачыў сваё адлюстраванне ў вадзе. Я спахмурнеў: сам я збіты, жупан разадраны, выгляд такі, нібы мяне выцягнулі з мядзведжай пашчы. Не ставала мне матчыных рук. Хто падновіць маю адзежыну? Не магу ж я паказацца так на вочы пісару. Уздыхнуў і падумаў з зайздрасцю: ёсць жа на свеце такія франты, што амаль на кожны дзень маюць асобныя строі. І ўхмыльнуўся, прыгадаўшы, што ксёндз Мацеюс называў фарсуноў пустагаловымі людзьмі. Ён заўсёды гаварыў адно: «Жанчыне патрэбна ўбранне, каб прыкрыць пустату розуму, але ці схаваеш пад ім дурасць мужчыны?»

Асвяжыліся каля возера, селі на каня і скакалі да паўдня.

— Спыні, паночак, каня,— дакрануўся да майго пляча Квоза.

Ён саскочыў і пайшоў побач з канём. Блізка чарнелі хаты Бурлянаў.

— Тут, шаноўны Габрэлюс, аддадзім каня карчмару Бэрку,— сказаў цыган.

На пляцы перад карчмою, як ва ўсіх мястэчках, стаялі вазы, мітусіліся людзі. Пакуль мы агледзеліся, пачулі гукі дудкі, і людзі пачалі тоўпіцца на тым месцы. Падышлі і мы і ўбачылі цыгана, які іграў на дудцы і прымушаў бурага мядзведзя скакаць пад яе. Мядзведзь прытопваў і прытанцоўваў на задніх лапах. Меднае кальцо было прадзета ў яго ў носе. Цыган трымаў па каленях бубен, у які падалі дробныя манеткі, і весела ўсміхаўся: здава-

лася, бляск дробнай медзі рабіў яго на нейкі момант шчаслівым. Заўтра, паслязаўтра і век — ізноў бадзянне, нястача, галеча...

Мая ганарыстая матуля ўбіла мне ў галаву: беднасць — не загана! Бо любы шляхціц шаноўнага роду, не страціўшы свайго гонару, мае ўсе мажлівасці ўзвысіцца і зноў зрабіцца багатым. А вось брацца за непрыстойную працу або працягваць руку па міласціну — шляхецкай велічы зусім нягожая справа. Пра тое, што ў такім разе застаецца толькі адзін прывілей паволі памерці з голаду, маці замоўчвала. Такія чорныя думкі ўзніклі ў мяне ад кухонных пахаў, якія сачыліся з Бэркавай карчмы і выклікалі звярыны апетыт.

— Паночку, залаценькі! — торкнуў мяне ў бок, аднекуль з'явіўшыся, Квоза.

— А, гэта ты.— Я нібы прачнуўся ад цяжкага сну.

— Там, сэрцайка залатое, з мядзведзем Грышкам — мой стрыечны брат Баўтрук. Я даведаўся ад яго, што князь сапраўды прыбывае ў Смаргонь. Будуць страляць з гарматаў. Цыганам паны падсыплюць грошыкаў.

Я не паспяваў уцяміць усяго, пра што ён расказваў.

— Пастой, пастой! Чаго будуць страляць з гарматаў? Чаму паны будуць цыганам грошы сыпаць?

— Ха, ха, ха! Золатца залатое, наймілейшы пан прыязджае. Наймілейшага пана, князя Радзівіла страчаем! Кажу я табе, панічок добры.

Ён спрытна павярнуўся на пятцы:

— Я мушу спяшацца. Каб Кружылкавы ўланчыкі не прыкончылі Бруна. Пан, якога нацкуе капітан, не даруе, што я выслізнуў з яго рук. Мой мудры бацька Якуб Тамарэвіч, дзякуй нябесным анёлам, знаходзіцца пад апекай найсвятлейшага князя.

Трэба мне абмеркаваць з татам свае справы. А ты, дарагі, лепш пабудзь тут да заўтра. Пераначуй у карчме ў Бэркі. Адсюль да Смаргоні дарога не доўгая. Заўтра я цябе, добры мой, там стрэну. Напэўна, будзе там і твой апякун, пан пісар.

Квоза ўжо ўзвёў пана Матусевіча ў мае апякуны! Падумаўшы, я кіўнуў яму: дзякуй, Квоза, можа, і добра раіш.

— Дарэчы, сонейка маё, карчму тут арандуе брат Ёселеў Бэрка. А ў яго дачка красуня. Папрасі яе, дык яна зацыруе твой жупан. Да заўтра, панічок!

Квоза паспешліва пайшоў, махнуў мне рукой і пранізліва свіснуў. Гэта быў знак цыгану Баўтруку, які быў з мядзведзем. Скора яны павялі з сабою вучонага звера, завярнулі на бальшак, які вёў на Смаргонь. На карчомным двары прагна даставаў авёс з аброчнай торбы Ёшкаў конь. Мне падумалася: чатырохногі скакун есць не авёс, а разжоўвае мой бедны талер.

Праз колькі хвілін прыгожая чарнавокая дзяўчына, дачка карчмара Бэркі, Рахіль руплівa раздзімала гарачае вуголле ў прасе, торкала іголкай: яна ладзіла і латала падраны ўчора жупан слаўнага роду Твірбутасаў. У той час карчмар ганяўся па двары за пеўнем, каб сасмажыць яго на абед.

Часу для роздуму ў мяне было больш чым трэба. Ад думак пра туманны заўтрашні дзень мяне пачало трэсці, як у гарачцы. Каб акрыяць неяк, я адчыніў патрэсканае акно ў карчме. І адразу пачуў рэзкія словы незадаволенасці:

— Зачыні! Тут пану не Афрыка!

Так смачна крыкнуў нехта, што сядзеў са мной за сталом. Я ўбачыў барадатага абадранага чалавека ў лапцях. Твар яго быў бледны, як у мерцвяка, вочы глыбока запалыя. Ці не гэта здань глядзела

на мяне праз акенца ў капліцы на могілках? Ён бурчаў:

— Праветрыцца хлопчык захацеў, прахалоды сваім чырвоным шчочкам шукае. А ў мяне косці ад ветру і холаду скруціла ў вузел.

— Я, пане, не заўважыў вашых вузлаватых касцей,— спрабаваў пажартаваць я.— Маё жаданне...

Ён без цырымоній перабіў мяне:

— Жаданне — усяго пачатак, хлопчык.

— Хто ты такі? — ускочыў я, пакрыўджаны.

— Хто я? Хо! Я, як і ўсё чалавецтва, плод першага граху,— у яго ў роце пагрозліва агаліліся чорныя выкрышаныя зубы.

Без запрашэння ён пасунуўся бліжэй да мяне. П'яны смурод патыхаў ад яго. Я міжволі адвярнуў нос убок.

— Цябе, хлопча, лупцавалі,— сказаў ён, уважліва агледзеўшы мяне,— таму ты такі злосны.

Гэты тып занадта многа сабе дазваляе.

— Адчапіся, стары!

— Не падабаюся я табе, хлопча,— ён брыдка хіхікнуў.— Занадта хутка мяркуеш пра людзей. Не бойся, што пасудзіна ўкрылася пылам, глядзі, якое віно там выспявае,— павучальна ўзняў ён палец.— Паслухай старога філёзафа, якому руку пацiскалі найлепшыя розумы Еўропы: колішняя знешняя наша прыгажосць паволі пераносіцца ўсярэдзіну.

Ён выразна ткнуў сабе пальцам у жывот.

Я не стрымаўся, каб не ўсміхнуцца. Стары валацуга не пакінуў гэта без увагі:

— Добра смяяцца, калі малады, бо ведаеш, што будучыня належыць маладосці. Але з адной умовай, хлопчык, што яна не пастарэе. Я, хлопча,— выхваляючыся, сказаў ён,— бачу наскрозь увесь свет! Я бакалаўр рыторыкі.

Карчмар Бэрка, які на ўсе вушы ўслухоўваўся ў нашую размову, маргнуў мне і сказаў бакалаўру:

— Ой, пане Данііл, калі ў цябе такія зоркія вочы і ты бачыш увесь свет, дык пакажы беднаму Бэрку той зацішны куток, дзе схавана залатоўка, якую ты мне вінен.

Аднак п'яніца, якога карчмар паважна называў панам Даніілам, нават і брывом не павёў на ранбдара. Ён не спыняў гамонкі, а яго красамоўства было такое моцнае, што міжволі мусіў слухаць.

— Васпане! Ты не думай, што гаспадзь бог узяў да сябе на неба толькі добрых, а на зямлі пакінуў адных паганых, вось, скажам, як гэтага жмінду Бэрку... Хлопча! Ты мне падабаешся. Я цябе частую, а ты плоціш. Што скажаш, а? Ну? Audiatur et altera pars [1].

Стары хітрун умольна паглядзеў на мяне, што маё сэрца ўраз памякчэла, і я, намацаўшы талер, даў знак Бэрку:

— Пане Бэрка! Корчык горкай пану бакалаўру, будзьце ласкавыя!

Бэрка заўпарціўся:

— Ой, не звязвайцеся, паночак, з ім. Нявартае гэта сяброўства.

— Заткніся, шынкар,— злосна гаркнуў Данііл.— Ведай, хто не шукае сяброў, той сам сабе вораг. Не глядзі, паніч, на мой выгляд бедны, цяпер у мяне такі modus vivendi [2], разумееш?

Ухапіўшы прынесены карэц з гарэлкай, пан Данііл, шырока разявіўшыся, пачаў глытаць па даўнім звычаі — да дна. Вочы яго ажывіліся — даўно ніхто не частаваў. Потым закаціў вочы, утаропіўся ў столь і пачаў, як зачараваны, сам з сабою лапа-

---

[1] Дазвольце выслухаць і другі бок *(лац.)*.

[2] Лад жыцця.

тэць: «Гм... бутэлька бутэлькуе, гм... карчма карчмаруе, гм... конь канюе, чалавек чалавечыць, вось так ды сяк».

— Ну, wie gehts es, Alter [1],— раптам падскочыў і схапіў мяне за руку сваімі ўчэпістымі пальцамі.

Я здрыгануўся.

— Ха, ха, ха, па-нямецку не разумееш? А я вучыўся. Ох, колькі гадоў быў жакам [2], многа чаму навучыўся, пазнанню неба таксама. А як мы зубрылі цэлую восень, зіму сцюдзёную, вясну белую «Жаніха дзявочага»!

Ляпаючы далоняю па стале, ён заспяваў хрыплым голасам нудную, што ідзе яшчэ ад сярэднявечча, песню, прызначаную тупагаловым жакам,— аснову іх навучання. І я сам, калі вучыў лічэнне, неаднойчы выкрыкваў пад кіраваннем матулі:

Ой ты, жак-жачак,
Настаўнік усіх жакоў,
Чытальнік свяшчэннага пісання,
Скажы, што ёсць адзін?
    Адзін ёсць бог на небе
    І той, што царуе на зямлі.

Ой ты, жак-жачак,
Скажы, што ёсць два?
    Дзве ёсць скрыжалі Майжашовы [3],
    Адзін ёсць бог на небе
    І той, што царуе на зямлі.

Ой ты, жак-жачак,
Скажы, што ёсць тры?..

Спяваў ён так да дванаццаці, а потым паціху выспеўваў у адваротным кірунку:

---

[1] Як жывеш, стары? *(ням.)*

[2] Жак — вучань *(польск.)*. Жакамі на Беларусі называлі таксама дзяцей, якія хадзілі на каталіцкі вялікдзень па хатах з віншаваннямі.

[3] Майсеевы.

Дванаццаць апосталаў,
Адзінаццаць на імшы ксяндзоў,
Дзесяць запаветаў божых,
Дзевяць хароў анёльскіх,
Восем лілеяў пад нагамі ў Марыі,
Сем сакрамантаў [1],
Шэсць свечак на алтары,
Пяць ранаў Езусавых,
Чатыры евангелісты,
Тры патрыярхі,
Два сведкі божыя,
Адзін сын дзевы, збавіцель неба і зямлі...

Язык у яго ўсё болей заплятаўся. Мне стала жудасна, гледзячы на гэтага апушчанага чалавека.

— Што сталася з табой, чалавеча? — спытаўся я ў яго з вялікім жалем.

Ён схапіўся за галаву, горка ўсміхнуўся:

— Я быў пан Данііл, жак, цяпер — Данііл нішто, нікчэмнасць,— яго вочы напоўніліся слязьмі.— Я чалавек, які некалі хацеў быць святым, усімі паважаным пакутнікам. Таму я пайшоў у Турцыю. І толькі я туды дабраўся, адзін вучоны турак запытаўся, чаго я жадаю ад іх. «Я прыйшоў, о, нехрысцьтурак, у вашу краіну,— кажу я,— каб тут, прапаведуючы святую веру хрысціянскую, пакутнікам зрабіцца». Турак здзіўлена паківаў галавою: «Чаго, неразумны, сюды прыйшоў? Вяртайся на радзіму і гавары ў вочы праўду свайму каралю і яго слугам, тады сапраўды пакутнікам станеш!» Паслухаўся я яго — вярнуўся. Кат мяне катаваў, але ніхто мяне не ўслаўляў...

Скрозь губы, апечаныя гарэлкай, цадзілася гісторыя яго жыцця: бацькі аддалі яго, малога, у школу Нясвіжскага дамініканскага манастыра. Там манахі ўпіхвалі ў дзіцячыя галовы, як кашу ў гусь, мудрасці латыні, матэматыкі, фізікі, рыторыкі...

[1] Сакраманты — культавыя дзеянні ў хрысціянстве.

— Для таго каб мы былі асвечаныя,— ого-го-го — і падобныя на сваіх слаўных айцоў. А я кажу, я сцвярджаю,— пан Данііл стукнуў кулаком па ліпкім стале, над якім гудзеў рой мух,— што дзеці ніколі не падобныя на сваіх бацькоў, яны падобныя на той час, у якім яны жывуць.

Бэрка, каб не слухаць болей абрыдлай п'янай балбатні, выйшаў на ганак паглядзець на прахожых. Рахіль спакойна падшывала і прасавала мой жупан. У карчме гулі мухі. Пан Данііл, як бы ўключыўшыся ў іх хор, ліў свае слёзы.

— Што ты цяміш у рыторыцы, паночак мой? Разумееш, як баран у кантычцы. А рыторыка паланіць сэрцы, прасвятляе розумы. Паслухай слова бакалаўра рыторыкі.

Ён узняў тры пальцы.

— Рыторыка ведае тры віды словавыяўлення — гэта stylo simplici, stylo laconica — стыль просты, сціслы, stylo medicesi — стыль сярэдні і stylo sublimi — стыль высокі, напышлівы. Для казані, панегірыка прыдатны трэці стыль. У ім можаш ныраць, плаваць колькі хочаш і як хочаш. У звычайнай размове трэба скарыстаць сярэдні стыль, каб не надакучыць нікому. А дзелавой гутарцы патрэбны stylum laconicum. Вось, васпане, узяўшы яго, можаш сказаць: «Бэрка, нясі пану бакалаўру кварту гарэлкі!»

Ёсць у мяне, мілы панічык, і гістарычны класічны прыклад. Прыйшоў аднойчы да нашага караля Станіслава пан Лакніцкі з Дуброўкі і просіць у яго вялікасці аўдыенцыі. «О божа! Паны шляхціцы загубяць нас гэтымі аўдыенцыямі! Балабоняць пустасловы, аж вушы павуціннем могуць зарасці! — крычыць кароль.— Няхай прыйдзе і ў трох словах выкажа сваю просьбу». Дык пан Лакніцкі зайшоў і адным трохслоўем пераказаў сваю справу: «Rex

pecuniam des» [1]. Гэта завецца лаканічная рыторыка.

А мы, малады імасць, не толькі рыторыкай мазгі набівалі. Клалі ў макаўку прамовы слаўных настаўнікаў айцоў дамініканцаў пра незвычайныя нашыя здольнасці, пра шчаснае наша заўтра. Якімі вялікімі людзьмі зробімся, скончыўшы навуку! Галовамі дзяржаў, папамі рымскімі, біскупамі... Дзе вы цяпер, мае сябры па вучэнні? Жыццё — гэта найцяжэйшая проба. Дзе вялікая будучыня, якую нам абяцалі? Ёсць толькі ўбогае, сабачае існаванне. Вазьмі хоць цяперашняга падлізніка нясвіжскага князя — прыдворнага Яна Канопку! Талент з талентаў, гонар нашай школы і скрыня мудрасці, судзіна, поўная высакароднасці. А вялікую сваю будучыню аддаў магнату за мізэрны набытак надзённы. А Маркуцкі, які сніў адных толькі волатаў, які горда лунаў на магутных крылах, цяпер поўзае на карачках па каралеўскім двары... А пяшчотны Піліп Дымша з Камянаў, якому наканавана было стаць паэтам, роўным з боскім Дантэ, піша хвалебныя оды прыдворным дамам. Іншы бачыўся нашым светлым настаўнікам магутным валадаром, а ён ужо ледзьве падымае свой трыбух, толькі палюе, п'е, забаўляецца з мядзведзямі, палюбіўшы прывідны бляск грошай больш за гонар, радзіму гаротную...

Ён зарагатаў і па-змоўніцку кіўнуў мне пальцам.

— Нахіліся бліжэй, бліжэй. Я раскрыю табе тайну: за грошы ўсё можна купіць, усё. Толькі віляння сабачага хваста не купіш за грошы. Золатам выкуплена маё жыццё, калі я быў асуджаны на смерць. Маці мая ўсё прадала... І золата выратавала. Інакш мая галава гайдалася б у пятлі. Калі кат накідае пятлю на шыю, вельмі козытна, я не цярплю, калі мяне казычуць. Пакуль я адседзеў у астрозе, мая

---

[1] Кароль, дай грошы *(лац.)*.

маці памерла з голаду. Каму цяпер патрэбна мая галава, каму? І я патануў у гарэлцы.

Злавесным голасам бакалаўр пачаў чытаць жудасную страфу з «Эпітафіі» Віёна:

Нас выпралі і вымылі дажджы,
А сонца выпетрыла і счарніла,
І выдзеўблі нам вочы груганы,
Бароды й бровы саскублі.
Нідзе нам і ніколі не прысесці,
Як захоча вецер, наляціць знянацку,
Для пацехі зачне нас трэсці,
Надзяўбаных ужо, нібы напарсткі...[1]

Так, вучачыся на жывых жыццёвых здарэннях і разважаннях, бавіў я свой час у местачковай карчме. Сытны абед запіў квасам — учарашні ўрок, набыты ў Еселя, надоўга запомніцца мне. Чароўная Рахіль падала мне папраўлены жупан, і я ўзрадаваўся, убачыўшы, што на ім амаль не засталося слядоў бойкі. Горача падзякаваўшы чарнавокай, пакінуўшы на ганку Бэрку, я надумаўся пахадзіць па палях.

Недалёка ад мястэчка шумеў бярозавы гай. Тут я зручна і ўтульна разлёгся ў прыемнай засені і даў адпачын сваім суставам. А зялёны сухаваты мох, духмяны да ап'янення чабор выцягваў, высмоктваў з майго збітага цела боль і сум...

## Сустрэча з Іосіфам Агасферам

Прачнуўся я позна: сонца над лесам схілялася на захад. Глыбокая цішыня ахутала мяне ў беразняку. Думкамі я блукаў па родных мясцінах, быў

[1] Villon François, Oeuvres.— Pavis, 1962.— С. 153.— (Пераклад мой.— *М. Г.).*

разам з любымі мне людзьмі, паходжваў з імі па знаёмых сцежках Варніне. Але доўга аддавацца сваім марам і ўспамінам не выпадала. Устаў з мохавай пасцелі і павярнуў на Бурляны.

Каля дзвярэй у карчму ляжаў, як мёртвы, філасаф, горкі п'янчуга Данііл. Зусім блізка ад яго, рохкаючы, рыла лычом гразь худая свіння, каля яе папіскваліі пярэстыя парасяткі. Адно з іх торкалася ў іржавыя ножны мяча, якія пан бакалаўр прычапіў як адзнаку свайго шляхецтва. Яны былі пустыя і пагнутыя.

Я абмінуў бяздольнага вучонага мужа і зайшоў у карчму. Мяне адразу аглушыў зычны знаёмы голас:

— Пякельныя мукі! Такая спякота, усюды ўсё паўсыхала, не знойдзеш кропелькі, каб прамачыць горла. Унь райджунаўскі плябан нават касцёл зачыніў, каб парафіяне свянцонай вады не выпілі.

Я не памыліўся, так грымеў манах-квестар, брат Рафаілаў, з якім мне ўжо давялося бачыцца каля Ёшкавай карчмы.

— Гэй, Бэрка, нехрысць ты, нясі збан!

— Бэрка, кум свінні! Сюды!

Карчма гула, як пчаліны вулей, было поўна гасцей, найбольш далёкіх падарожных, купцоў. Баючыся начных здарэнняў, якіх нямала было на бальшаках, яны спыняліся ў корчмах, распрагалі коней, заставаліся начаваць, адпачыць, падсілкавацца, выпіць, пагуляць у косці або ў карты.Ваўчком круціўся сярод іх тоўсты манах. У адной кампаніі сербане з каўша, у другой — выкленчыць курыную лапку. Аднак многія пазіралі не на манаха, а на яго хаўрусніка — хударлявага барадатага чалавека, босага, у плашчы нязвыклага крою. Той мужчына, якога я тады бачыў разам з манахам, ізноў ні на хві-

ліну не супыняўся — усё хадзіў і хадзіў з кута ў кут.

— Пахвалёны Езус, брат Рафаіл,— павітаўся я.

— А, а, амінь! Гэта ты, хлопча,— манах пазнаў мяне.

У адной руцэ ён трымаў бутэльку з мутным піт-вом, у другой — кавалак мяса і лусту хлеба. Падаў схудаламу чалавеку. Той схапіў гэта і пачаў пра-гавіта есці і піць і ўсё на хаду.

— Браце манах! — крыкнуў мужчына з вогнен-на-рыжымі валасамі ў купецкім каптане.— Чаго гэ-та твой сябрук усё тупае, як жарабец у стайні? Мусіць, не з нашага краю?

Брат Рафаіл таямніча прыжмурыўся. Усе па-глядзелі на дзівака-хадуна, які еў і піў ходзячы, ні на кога не зважаючы.

Раптам басаногі, адарваўшыся ад бутэлькі, вы-маві адно незразумелае слова:

— Бак бук! [1]

На лобе ў брата Рафаіла пазначыліся мар-шчынкі.

Барадаты, не спыняючы хады, падаў яму бу-тэльку.

— Тогу...— глуха прамовіў ён абы-што, па-казваючы, што бутэлька пустая.

Усе прыслухаліся, разявілі раты. А карчмар на-ват прысвіснуў і так утаропіўся ў незнаёмца, што здавалася — ніхто не скране Бэрку з месца.

— Шолам! [2] — нарэшце крыкнуў хадуну, нібы ачуняўшы, Бэрка.

— Шолам,— адказаў незнаёмы з насмешкай.

— Божа, што яны там гергечуць па-яўрэйску? — зацікавіліся карчомнікі.

---

[1] Бутэлька *(іўрыт.)*.
[2] Мір, спакой *(яўр.)*.

— Не па-яўрэйску, а па-гебрэйску [1],— паправіў манах.

І брат Рафаіл па-змоўніцку ўрачыста прыклаў палец да вуснаў:

— Тсс! Гэта вялікі сакрэт. Але хіба ўтоіш ад вас, панове братове, гэту дзіўную сустрэчу? Мілыя хрысціяне, толькі не прагаварыцеся пра гэта нікому! Гэта... гэта... Вечны вандроўнік Іосіф Агасфер [2].

— Агасфер? — нехта, зблядкеўшы, перажагнаўся.— Божа мой!

— Гэтакае імя ў яго,— падкрэслена горда адказаў брат Рафаіл.

Пачуўшы імя Агасфера, басаногі занерваваўся і дапытліва глянуў на манаха. Рафаіл, ідучы следам за ім, пагладзіў яго па спіне. У карчме, у якой нядаўна яшчэ было чутно, як пралятае муха, цяпер можна было аглухнуць: усхваляваныя, стараючыся перакрычаць адзін аднаго, людзі засыпалі самымі неверагоднымі пытаннямі манаха Рафаіла.

Іншыя апанавалі Бэрку:

— Рандару, а рандару! Што ты там яму сказаў?

Бэрка, сам не менш устрывожаны, тлумачыў, што ён яму сказаў па-гебрэйску:

— Ласкавыя панове, шаноўныя панове! Дадушы, клянуся айцом Аўраамам! — божкаўся карчмар.— Больш пяці слоў па-гебрэйску не ведаю.

Барадач у дзівацкім плашчы зноў выкрыкнуў нейкае выдуманае слова. Бэрка аж расчырванеўся. Гэта праглядалася нават праз густую бараду, якой аброс увесь яго твар.

---

[1] На старажытнаяўрэйскай мове.

[2] Сярэдневяковы легендарны вобраз Агасфера, нібы асуджанага на вечнае бадзянне за правіннасць перад Хрыстом.

Агасфер без слоў, але зусім зразумела паказаў на пустую бутэльку.

Да смерці напалоханы карчмар адразу замяніў яе і поўную падаў Вечнаму вандроўніку. Брат Рафаіл таксама падсунуў Бэрку пустую кварту. Прыбедніўшыся, манах скарыстаў агульнае ўзрушэнне, зняў з пляча абшарпаную, але яшчэ трывалую скураную торбу, развязаў і раскрыў яе і, нізка кланяючыся кожнаму, пачаў вымольваць ахвяраванні.

— Імем Хрыстуса...— гугнявіў ён.— Дапамажэце ўбогім, здабудзеце царства нябеснае!

Шчодра бразгалі манеты, а Агасфер, ад якога не адрывалі вачэй, раўнадушна шлёпаў босымі нагамі па карчме.

— Ахвяруй, пане браце, Езус Хрыстус за цябе смерць прыняў,— спрабаваў расчуліць шляхціца тоўсты манах.

— Хрыстос памёр за мяне, а я б хацеў уваскрэснуць за яго,— пажартаваў ахмялелы панок, кінуўшы залатоўку ў бяздонную манахаву торбу.

Не вельмі верачы ў гэтага Агасфера, падарожны з заечай губой хітра міргнуў вокам брату Рафаілу.

— Але спрытнюга ты, манах! — шапнуў так, што ўсе пачулі.— Прыдумаў жа, як састрыгчы з авечак залатую воўну.

Манах выпнуў свой тоўсты жывот:

— Маўчы, бязбожнік! Мэканне дурнога барана не навядзе на след залатой авечкі.

Нечакана загрымела, бліснулі ў вячэрніх прыцемках маланкі. І ў іх водбліску твар Агасфера і мне здаўся містычным. За акном хвастаў дождж, у коміне выў вецер. Гром грозна калаціў, трос увесь свет, палохаў людзей. І ўявіце сабе самі — на дварэ навальніца, а ў карчме неверагодны, таямнічы чалавек, Іосіф Агасфер, які больш семнацца-

ці стагоддзяў безупынна блукае па зямлі... Праклятыя ён, але ў дзень вялікіх пакут бачыў самога сына божага, Ісуса Хрыста. Не толькі бачыў, але і гаварыў з самім богам! Не іначай, відаць, як для напамінання пра бога на двара грозна грукацеў гром. Жагналіся мы ўсе. Толькі манах не палохаўся маланкі, з кожным яе паблісківаннем яшчэ больш заўзята падсоўваў кожнаму сваю скураную торбу, у якую дзякуючы грымотам пачаў ліць сапраўдны дождж. Тоўсты манастырскі квестар свяціўся, як навюткі залаты дукат, і дагодліва ўгаворваў не шкадаваць дарункаў богу, бо ў магілу золата не забярэш, а жыццё чалавечае кароткае.

Нават сам карчмар, нехрысць Бэрка, паддаўшыся агульнаму настрою, ужо хацеў быў укінуць мядзяк у ненажэрную манахаву торбу, і невядома, чым бы скончылася гэтае ўсеагульнае шаленства, але пасля чарговага ўдару грому адчыніліся дзверы і на парозе з'явіўся раскудлачаны, прамоклы на дажджы прывід...

Гэта быў бакалаўр Данііл. Лівень працверазіў яго, а грымоты паднялі з лужыны, у якой ён саладка спаў.

— Давайце вып'ем! — гыркнуў бакалаўр, стараючыся перакрычаць грукат грому; з яго мокрай адзежы на падлогу сцякала брудная вада.

У такі момант з'яўленне п'яніцы падалося ўсім асабліва кашчунным. Нават Агасфер павярнуў галаву. Абадранец паказаў на недапіты кубак гарэлкі, некім пакінуты на стале.

— Ex hoc in hoc [1],— узрадавана ўсклікнуў ён. І ўбачыў брата Рафаіла.

Манах глядзеў на бакалаўра з неймавернай

---

[1] Адсюль — сюды (з кубка — у горла) *(лац.)*.

злосцю — яго з'яўленне перабіла срэбны дождж. П'яніца зарагатаў, паляпаўшы па пустых сагнутых ножнах ад мяча.

— O lacrime Christi! [1] — курчыўся ад смеху.— І ты тут, абжора! Каварны і прагны чалавек! Са сваёй дзіравай торбай для манастыра, вогненным пеклам для палахлівых і вечным раем для дурняў! Дурні дурнеюць, махляры махлююць. Гэй, ты! — пстрыкнуў бруднымі пальцамі пад носам у манаха і ўрачыста прачытаў уголас:

Ці ты шулер, ці ігрок у косці,
Індульгенцыямі ты гандлюеш,
А ці, можа, падрабляеш грошы?
Табе гарэць — што клятву не шануеш,
Веру страціўшы ўшчэнт.
Няхай ты злодзей, рабаўнік, матляр,—
Куды дабро, здабыча падзяецца?
Усё корчмам, дзеўкам дастаецца [2].

Манах Рафаіл стаяў аслупянелы, ашаломлены, разгублены.

Нечакана Агасфер схапіў адною рукою раз'юшанага абадранца за каўнер і лёгка, як кацяня, шпурнуў праз дзверы на двор. Няшчасны бакалаўр некалькі разоў перакуліўся і нерухома застаўся ляжаць у гразі. Апусціўшы галаву, Агасфер вярнуўся на сваё месца і зноў пачаў сваю хаду па крузе. Незвычайную сілу паказаў гэты высахлы бадзяга. Яго погляд рэзаў усіх, як востры нож. Валасы даўгія, зблытаныя, цвёрдыя, як грыва ў ільва.

Плашч яго расхінуўся, і ўсе ўбачылі, што няма на ім амаль ніякай адзежы, толькі пашматаныя кароткія штаны, што ледзьве прыкрывалі вострыя ка-

---

[1] О слёзы Хрыстовы! *(лац.)*

[2] Villon François. Oeuvres, тамсама. С. 104.— (Пераклад мой.— *М. Г.).*

лені, і была нейкая камізэлька. Праходзячы міма старога пазелянелага гадзінніка, які заводзіўся цяжкімі меднымі гірамі і стаяў у кутку ў карчме, ён падагнаў гадзінную стрэлку ўперад. Напэўна, хацеў прыспешыць час. Але гадзіннік не ішоў, і Агасфер, цяжка ўздыхнуўшы, усё хадзіў і хадзіў.

Брат Рафаіл, нібы нічога не здарылася з бакалаўрам, трымаючы ў руцэ вялікі збан з півам, пачаў расказваць гісторыю Агасфера, і вакол яго адразу сабраліся цікаўныя слухачы.

— Іосіф Агасфер — шавец з Еруэалема...

— Таму і ходзіць босы,— перабіў нехта.

Скоса глянуўшы праз акно на нерухомага, змакрэлага пад дажджом беднага Данііла, які ўткнуўся галавой у гразь, манах прадаўжаў:

— У той дзень, калі вялі Хрыста, каб распяць на крыжы, Агасфер апынуўся ў натоўпе і крычаў разам з усімі: «Распяць яго! Раскрыжаваць!» Але і гэтага Агасферу было мала. Ён, нягоднік, прыбег дадому, сабраў усю сваю сям'ю і загадаў здзекавацца з сына божага, гэтага ягняці, што знішчае грахі свету... Хрыстос, які нёс цяжкі крыж, вядома, стаміўся... Прыхіліўся бедалага да дзвярэй дома Агасфера, каб аддыхацца хвіліну, дык ён адпіхнуў Езусеньку...— брат Рафаіл паказаў пальцам на Агасфера.

Той, нібы гаворка ішла не пра яго, мармычучы нешта сабе пад нос, утаропіўся ў адну кропку і ўсё кружыўся, кружыўся вакол стала.

— Гэты Агасфер,— крычаў манах, усё больш распальваючыся,— сына божага адзінага адпіхнуў, усякімі паскуднымі словамі лаяў і прагнаў яго прэч, пакрыкваючы: «Хутчэй, хутчэй ідзі на Галгофу!» [1]

[1] Узгорак каля Ерусаліма, на якім нібыта быў распяты Хрыстос.

Езус Хрыстус боскім вокам глянуў на Іосіфа Агасфера і кажа: «Я ішоў і стомлены спыніўся адпачыць каля парога твайго дома. Папраўдзе, папраўдзе кажу табе: ты пойдзеш без спачыну! Пойдзеш і пойдзеш, пакуль я зноў сюды ў дзень страшнага суда не вярнуся».

Пасля гэтых слоў, гнаны нейкай нечалавечай сілай, Агасфер паклаў каля дзвярэй сваё малое дзіця, што трымаў на руках, і пайшоў. Ідзе, ідзе ерузалемскі шавец і ніяк не можа спыніцца. Многа краін ён абышоў, няраз клікаў на сябе смерць як уратаванне, але сын божы, як бачыце, слоў на вецер не кідае...

За акном карчмы ізноў загрымела, вецер завыў у коміне. Усе здрыгануліся. Агасфер уладна зірнуў на брата Рафаіла і паказаў пальцам у столь. Манах, дапіўшы кварту піва, знайшоў Бэрку і зашаптаўся нечага з ім. Карчмар кіўнуў галавой.

— Рохелэ, дачушка мая! — паклікаў ён, з трывогай паглядаючы на Агасфера, які тупаў па карчме.— Пакажы... гэтаму... пакойчык на шальцы.

Рахіль узяла запаленую свечку і пацягнула ерузалемскага шаўца за плашч. Скора яна вярнулася, а зверху пачуліся мерныя крокі: гэта свае хады не спыняў вечны вандроўнік. Мы з палёгкай уздыхнулі — гэта асоба нас прыгнятала і палохала.

Брат Рафаіл, зручна ўмясціўшыся на лаве, жагнаючыся з кожным бліскам маланкі, казаў далей:

— Так каля двухсот гадоў таму назад, у тысяча пяцьсот сорак другім годзе, узімку, вечнага вандроўніка ўбачылі босага ў горадзе Гамбурзе. Біскупу Шлезвіга Раўлю Эйцану прызнаўся, што ён Іосіф Агасфер. Расказаў, што калі праз тысячу гадоў вярнуўся ў Ерузалем, дык убачыў яго зруйнаваным. Ён можа гаварыць на ўсіх мовах свету, але рэдка да яго вяртаецца мова. Бачыў Агасфер Англію, Шат-

ландыю, Італьянскае каралеўства, быў у венграў, вандраваў па гарадах Польшчы, ішоў праз Маскву, перайшоў Фінляндыю, Швецыю, потым дабраўся да Даніі, Эстландыі, трапіў у Персію і іншыя краіны, а ў Літве гасцяваў двойчы...

Іосіф Агасфер мне сказаў: калі я прыйду сюды трэці раз,— у жудаснай цішыні скончыў сваё апавяданне манах,— дык вечны снег укрые ваш край.

Брат Рафаіл змоўк. Дрыжыкі ўзялі нас ад такога прароцтва.

Было так ціха, што мы чулі, як у сценах у карчме варушацца прусакі. Рахіль узяла запаленую лучыну і пачала абыякава падпякаць іх у шчылінах. Некаторыя госці з цікавасцю пазіралі на гэтую экзекуцыю, іншыя зноў узяліся за гульню ў косці ці тасавалі карты. Я сціпла ўладкаваўся ў кутку, папрасіў на вячэру паранага бобу і карэц піва. Зусім сцямнела. Над галавою чулася Агасферава хада. У карчме зрабілася душна, бо, хаваючыся ад буры, набілася поўна людзей. Бэрка радаваўся, а госці грызліся: занадта цесна зрабілася, не было як павярнуцца. Стомлены манах скурчыўся на лаўцы побач са мною, паклаў мех з ахвярамі пад бок, а скураную кайстру з грашыма сунуў пад галаву, накруціўшы раменьчык яе сабе на руку.

— Божа мой,— адбіваючыся ад клапоў, уздыхнуў атлусцелы купец.— Колькі ўсякай жыўнасці расплодзілася на свеце.

Брат Рафаіл расплюшчыў вока:

— Не гані бога ў лес, браце ў Хрысце. Няхай твая мосць уявіць сабе, што было б, калі б, ратуючыся ад патопу, Ной узяў у свой каўчэг не па адной, а па дзве пары божых стварэнняў.

Хоць было поўна людзей, я адчуваў тужлівую адзіноту. Я няраз пераконваўся: адзінота цісне больш увечары. Таму, каб развеяцца, я далікатна

загаварыў з братам Рафаілам, які пачаў ужо было засынаць:

— Пане браце, бачу — яшчэ не спіш.

— Гм... гм... Яшчэ анёл не дакрануўся сваім нябесным крылом да маіх вейкаў,— пазяхаючы, адказаў ён.— А што скажаш?

Я нясмела спытаўся:

— Дзе ты, браце, знайшоў Агасфера?

— У манастыры. Зайшоў ён туды па божай волі. Айцец гвардыян загадаў вандраваць разам. Сказаў: «Убачыўшы сведку Езусавых пакут, хрысціяне шырэй раскрыюць кашалькі і сэрцы».

— Браце Рафаіле, толькі ты не сярдуй,— шапнуў я яму.— А ты верыш у Агасфера?

Манах зажмурыўся, закрыў далонямі твар. Я пачуў скрозь пальцы ледзьве ўлоўны шэпт:

— Мілы... Калі будзеш імкнуцца ва ўсё верыць, можна стаміць свой розум, твае мазгі так размякчэюць, што не здолееш зразумець найпрасцейшай ісціны. Сэрцам адчувай божую міласць.

Ухіліўся, хітрун. Але я не здаўся.

— Вось, браце Рафаіле, у свяшчэнным пісанні сказана: не збірай зямнога багацця. А ты ўсё просіш ахвяраваць больш, усё збіраеш грошы. І, як жаніх абдымае сваю нявесту дарагую, туліш да сябе. Я дагэтуль думаў, браце, што манахі павінны глядзець на грошы пагардліва.

Брат Рафаіл павярнуў да мяне шырокую спіну, падцягнуў голыя ногі ад куслівых мух пад свой закарэлы балахон і прабурчаў:

— На грошы глядзі звысоку, дзіця маё... Але не спушчай іх з вока.

І, засынаючы, пачаў ціха сапці.

Мяне сон не браў, хацелася падурэць — пабудзіць манаха і запытацца: а як Агасфер, што безупынна ходзіць дзень і ноч, надзявае штаны...

Надышла глыбокая ноч. Храп, сапенне, пыханне сонных падарожных не давалі мне заснуць, дый было душна. На двор з карчмы не выйдзеш, бо Бэрка, каб госці не разбегліся раніцаю не расплаціўшыся, замкнуў дзверы звонку на замок. Гэта была старая завядзёнка, і ніхто за гэта не крыўдаваў. У цемры мільганула постаць чалавека... Ён прачнуўся, пачухаў спіну, ціха-ціха дайшоў да парога, туды, дзе праглядалася ў дзвярах шчыліна. Я пазнаў брата Рафаіла. Крыху счакаўшы, пачулася цурчанне. Нейчыя санлівыя галасы пыталіся: «О халера, што, што там?» Дрыжачым старэчым голасам адзін пабажыўся, што во тут каля дзвярэй бачыў чорта.

Слухаючы гэтую мітусню, я шчыпаў свае рукі і ногі, каб не зарагатаць.

Нарэшце ў дрымотную карчму зноў прыйшоў спакой. Манах, цярпліва счакаўшы, пакуль усе пазасыналі, пратырчаў каля дзвярэй, на дыбачках вярнуўся назад, лёг на лаўку і адразу соладка захроп.

Тады пачалі зліпацца і ў мяне вочы... Я паклаў галаву на стол, але не паспеў заснуць, як зноў пачуліся ціхія мышыныя крокі, і я нібы ў смузе бачыў нейкі даўгі чорны цень, які нахіліўся да брата Рафаіла... Аднак сон перамог і авалодаў усім маім целам.

Пабудзіў мяне раніцаю крык. Густым голасам, увесь бледны, роў брат Рафаіл:

— Святы божа! Антоні святы! Абакралі! Святатацтва, грэх смяротны ўчынілі! Пякельныя сабакі будуць грызці гэтага нягодніка!

Адны паўскоквалі на ногі, іншыя праціралі вочы, абмацваючы свае кашалькі.

— Каго абакралі, браце? — пытаўся растлусцелы купец.

— Госпада бога! Манастыр! — манах паказаў

заматаны на руцэ раменьчык, з якога была зрэзана кайстра з серабром. Ён шнырыў, абшукваў усю карчму, але грошы не знайшліся. Бэрка стаяў белы, як мярцвяк. Па законе ён адказваў за маёмасць і жыццё падарожных.

— А дзе ж Агасфер? — запытаўся адзін з падарожнікаў.— Я не чую яго крокаў.

Брат Рафаіл схапіўся за галаву, адным скачком дасягнуў лесвіцы, лоўка, як кошка, прабег па ёй, расчыніў дзверы і знямеў — шалька была пустая, ад Агасфера не засталося і звання.

Пакуль адны адхайвалі непрытомнага брата Рафаіла, другія абмяркоўвалі начное здарэнне.

— Мусіць, вылецеў праз комін,— гаварыў стары.— Я сам, панове братове, чуў уночы ў коміне нейкае шыпенне.

З кухні прыбегла прыгажуня Рахіль і выліла манаху на галаву збан халоднай вады.

— Праз гэтае акно жулік, праз гэтае акно з грашыма вылез. Езус Мар'я! Вось падлюга! Што цяпер будзе? — ачуняўшы, ізноў закрычаў манах і ад адчаю рваў сваю бараду і біўся галавою аб вушак.

— Але нашто Агасферу грошы? — здзівіўся тоўсты купец.

— Якому Агасферу? Агасферу! — плюнуў са злосцю манах.— Ён, панове братове, такі Агасфер, як я папа рымскі! Гэта распуснік, п'янчуга — былы артыст, махляр. Прыдумаў наш гвардыян усё гэта, каб людзі больш ахвяраванняў давалі на манастыр.

Прыкусіў язык пан Рафаіл, але позна. Так прагаварыўся, і яго няшчасце раптам ператварылася ў вясёлую камедыю — карчму страсянуў нястрымны смех.

— Ну, братка Рафаілка,— заходзіўся ад смеху і ляпаў яму па плячы тоўсты купец.— Лоўка ты нас

абдурыў з гэтым Агасферам! Усцешыў, расчуліў, а грошыкі сыпаліся. А ён цябе насуха вымыў.

Манах маўчаў, цяжка ўздыхаў, кусаў губы. Адказу мы не дачакаліся. А тым часам на дварэ праз расчыненыя дзверы пачуўся ўсхваляваны голас:

— Гляньце, людзі!

Мы высыпаліся на двор. У гразі ляжала нерухомае цела.

— Вечная памяць! Пан Даніл пайшоў на другі свет,— уздыхнуў адзін.

— Добра зрабіў, што сам пайшоў. Кату не давядзецца брудзіць сякеры,— сказаў другі і адвярнуўся.

Толькі і ўсяго спачування, спагады і жальбы дачакаўся вучоны муж, вучань нясвіжскіх дамініканаў, студыёзус, што некалі падаваў вялікія надзеі. Над яго застылым целам, у гразі, молячыся за яго душу, укленчыў брат Рафаіл.

Больш затрымлівацца тут я не захацеў. Падзякаваўшы чарнавокай Рахілі і разлічыўшыся з карчмаром, я выйшаў на ўмыты дажджом і бліскучы ад лужын смаргонскі шлях.

Я пераждагнаўся. Пачаў хаду з правай нагі, каб падарожжа было шчаслівае.

Дык наперад! Смялей, Габрэлюс Твірбутас!

## Другая гадзіна ночы, узнімаецца туман

Змоўкла гамана, важданіна на вуліцах. Жанкі, як квахтухі, склікалі дзяцей спаць. І тыя скора сунялiся. Толькі начны вартаўнік адлічваў нетаропкія начныя гадзіны. Бразгатала яго драўляная калатушка, і гучаў яго голас:

— Другая гадзіна ночы. Спакойна, спакойна... Нізкія хмары навіслі над касцёлам. Збіраецца на дождж. Другая гадзіна ночы. Спакойна, усюды спакойна...

Нуднае выкрыкванне начной варты аддалялася і знікала недзе ў завулку.

Заснуць я не мог. Трапіў, як у пастку. Праўда, было адно выйсце — дзверы ў сенцах. Але за імі — брама з чыгунным кольцам, прасунутым у разяўленую медную пашчу зверу. Брама гэта ў вялікім доме на два паверхі. Чатырохвугольны двор выбрукаваны і абгароджаны жалезным плотам. Тынк дома звонку ў многіх месцах адваліўся. З дома глядзяць на кожнага прышлага чалавека запыленыя і са слядамі дажджу круглыя акенцы.

Яшчэ няшмат дзён мінула, як я трапіў у Смаргонь, як упершыню прайшоў міма меднай звярынай пашчы. Нясмела тады падымаўся па драўлянай лесвіцы, вышараванай мноствам ног. На яе пляцоўках стаялі фігуры кентаўраў. Баязліва ішоў я па доўгіх калідорах з закуранымі патрэсканымі сценамі, якія блішчалі ад салетры і сырасці.

У начной цішыні выразна пачуўся конскі тупат. Замахаў крыламі і закукарэкаў ранні певень, а калі скрозь прасвет паміж хмарамі паказаўся месяц, пазначылася акно майго пакоя. Паклаўшы галаву на гару падушак, я зразумеў, што больш мне ўжо не заснуць. На крэсле каля стала было складзена маё адзенне, дарэчы, зусім новае і адпрасаванае. Яго шыў такі майстар, пра якога беларуская прымаўка кажа: «Шэўчыкі, крэўчыкі — добрыя людзі: не ўкраўшы шматочка, жыці не будзе». Але ён добра ведаў даўнюю лацінскую мудрасць: Qualis vestis erit, talia corda qerit — якая будзе адзежа, такія сэрцы прывабіць.

Адзенне дык яно новае, але ці збавіўся я ад хваробы святога Франца — ад беднасці?

Дык вось дапяў я да Смаргоні, славутай смачнымі абаранкамі, цыганамі і вучонымі мядзведзямі. Калі я ўваходзіў у горад, мяне ахапіла дзіўная цікаўнасць, бо ўсюды, дзе б ні быў, гаварылі — хто не бачыў у Смаргоні князя Радзівіла, той нічога не бачыў.

Я стаў і пачаў аглядаць, прагна паглынаючы вачыма нябачаныя будынкі, заезджых купцоў у рознакаляровым убранні, венграў са скрыпкамі, цыганоў, яўрэяў, што зазывалі ў свае крамкі, лагодных тутэйшых мяшчан-беларусаў. У іх хатах весела паляскваді кросны, пастуквалі малаткамі шаўцы, пакрэктвалі падхмеленыя рымары... Шумела вада ў валюшні, лязгалі чаны ў паперні...

Пратарахцела карэта. Каля карчмы на базарнай плошчы загрукалі ў барабан, загулі трубы: гэта вярнуліся з абходу мядзведнікі, расхвальвалі свой тавар піражнікі, шапачнікі...

Міма мяне няроўнаю ступою прайшоў нехта ў кудлатым футры. За ім цікавала невялікая купка хлапчукоў. Яны весела крычалі: «Пецька ідзе! Дарогу Пецьку! Дайце Пецьку чарку!» Я працёр вочы: гэта ў кажуху мядзведзь кандыбае. Ён кіраваўся проста да карчмы. Каля дзвярэй Пецька пачаў ківаць галавой, потым, высалапіўшы язык, з мальбою падрыгваць лапамі. Нарэшце з карчмы нехта вынес мядзведзю конаўку з гарэлкай. Пецька асцярожна ўзяў яе лапамі і адразу выпіў.

Тое, што я ўбачыў упершыню, у Смаргоні нікога не здзівіла: тут ахмялелыя мядзведзі калашмацілі адзін аднаго не горш за засцянковую шляхту. Я чуў, як тутэйшыя беларусы гаварылі: мужык з калом на дварэ, а шляхціц у карчме.

Мядзведзь, задаволены пачастункам, пад галёканне дзяцей вяртаўся, цяжка сапучы, ізноў міма мяне. Праз колькі крокаў ён расцягнуўся побач з нейкім барадатым дзядзькам на краі канавы і заснуў. Як я зразумеў, гэты дзядзька быў Пецькавым павадыром і гаспадаром. Я яшчэ стаяў і думаў, якой жа мне дарогаю падацца, як пачуў за спінаю:

— Як мяне цыганом бачыце! Панічык дарагі прыйшоў.

Я павярнуўся. Усміхаючыся, стаяў Квоза. Вясёлы, у квяцістым цыганскім адзенні. Яго акружалі трое чорнавалосых смуглявых дзіцянятак, якія нясмела зіркалі спадылба.

— Добры дзень, Квоза,— павесялеўшы, сказаў я.— Я рады цябе бачыць.

Відаць, і ён быў рады.

— Мілы панічык Габрэлюс,— пачаў ён прасіць,— зрабі мне такую ласку, будзь госцем у маёй хаце. Марыюлю, жонку сваю, пакажу.

— Жонку? — я нават разявіў рот.— Ты ўжо жанаты?

Квозу рассмяшыла маё здзіўленне, і ён зарагатаў.

— А вось, панічык добры, і мае дзеткі,— паказаў ён на тройку цыганянят.

Ну і Квоза!

— Хадзем,— з ахвотаю сказаў я.— Пайшлі, Квоза, я хачу ўбачыць тваю прыгожую жонку.

На краі плошчы каля калодзежа невялікая купка цыганчукоў кулялася, скакала цераз гарачую дугу, абтыканую па краях нажамі, проста забаўлялася з малымі медзведзянятамі, прымушаючы іх тупаць то на задніх, то на пярэдніх лапах. Квоза з яго выводкам нават і не глянуў на гэтыя забавы: у Смаргоні такія дзеі на вуліцах не ў навіну. З ма-

ленства цыганы вучыліся рамяству мядзведніка, скамароха або катляра, каваля, так рыхтавалі сябе да нялёгкага жыцця іх бацькі і бацькі іх бацькоў.

Пакуль я гаварыў з Квозам, гляджу — цераз плошчу верхам на кані едзе Анэля.

— Вось дык дзіва! — усклікнуў я.— Найсвятлейшая панна!

Я павітаўся, нізка пакланіўся. Яна пяшчотна гладзіла галаву каня. Чырвань доўгай аксамітнай амазонкі пасавала да яе ярка пафарбаваных шчок: паненка ўдзень выглядала даволі завяла... Кіўнуўшы мне, яна паволі праехала міма, а лоб яе зморшчыўся, як смаржок: Анэля ўбачыла Квозу і яго цыганянят. Конь з паннай віхрам памчаўся ўдаляючынь, аксамітная сукня яе надзімалася ад ветру.

— Чаго яна тут? — занепакоіўся я, успомніўшы капітана.

— У намесніка князя, пана Малакоўскага гасцюе,— адказаў Квоза.— Яна блізкая сваячка яго.

— А... Кружылка?

— Кружылка цяпер у Нясвіжы. З уланамі павінен праводзіць сюды князя. У Смаргоні будзе вялікае гулянне. З-за панны Анэлі капітан будзе спяшацца ў Смаргонь, бо страшэнна баіцца, каб хто не ўхапіў нявесту разам з яе залатымі дукатамі, ха, ха, ха!..

— Адкуль ты ведаеш?

— Квоза, панічык дарагі, усё ведае.

Мы падышлі да невялікага пабеленага дамка.

— Марыюля, жонка! Прымай госця! — гукнуў Квоза яшчэ на парозе.

Пачулася хуткая лёгкая хада. На нас глянуў смуглявы прыгожы тварык, які свяціўся добраю ўсмешкаю. Яго аздаблялі вялікія залатыя завушніцы.

— Пане, пане... Няхай будзе доўгі ваш век,— пачціва кланялася Марыюля.— Заходзьце, калі ласка.

Так я, шляхціц Габрэлюс Твірбутас, пераступіў парог цыганскага дома. Шчыра кажучы, яго хата намнога лепей убрана і багацейшая за ўбогае жыллё ашмянскай дробнай шляхты.

Паласаваўшыся варэнікамі, што згатавала гасцінная Марыюля, я запытаўся:

— Квоза, а дзе мядзведзь, дзе Бруна?

Малады Тамарэвіч паклаў лыжку на стол.

— Бруна есць кашу ўжо ў майго бацькі. У княжацкай мядзведжай акадэміі. Пан Малакоўскі, даведаўшыся, што прыбывае найсвятлейшы князь, загадаў завесці Бруну туды. Мой бацька тут — «прафесар» мядзведзяў, Бруна — кароль мядзведзяў.

Вочы ў Квозы загарэліся ганарыстымі агеньчыкамі.

— А я, панічык мілы,— першы вучань у бацькі.

Я нагадаў гісторыю, якую пачуў ад паганятага валоў Амброса, і запытаўся ў Квозы пра тое, што мне даўно карцела даведацца:

— А Кружылка ўжо ведае, што ты вярнуўся ў Смаргонь?

Квоза крыва ўхмыльнуўся:

— Ведае, каб яго пярун ясны забіў! І вельмі гневаецца. Пагражаў нават шыбеніцай. Адно шчасце, што майго мудрага тату апякае сам найсвятлейшы. Пакуль суд ды справа, бацька пайшоў да Малакоўскага і кажа: «Пан дарагі, цыганская кроў церпіць крыўды». Таму, маўляў, ён і ўсе мядзведнікі-цыганы сягоння пакідаюць Смаргонь. Пану князю будзе паведамлена пра падкопы Кружылкі, пра ўчыненыя ім крыўды і шкоду. Няхай лепей не патурае яму ягамосць пан намеснік.

Пан Малакоўскі спалохаўся: з Якубам Тамарэвічам кепскія жарты, адзін хіба Люцыпар ведае, што бацькавы цыганы могуць натварыць! Гэтага пан ваявода яму не даруе. Заклапочаны Малакоўскі ўсё расказаў капітану. Кружылка, хоць і вельмі раззлаваны, паддаўся і абяцаў не чапаць Квозу.

Цыган весела бліснуў белымі зубамі, моцна ляснуў пугай па халяве:

— Ха! Пан Кружылка абяцаў суддзю Малакоўскаму мяне не чапаць. Але я, панічык, ты маё сонейка яснае, ім нічога не абяцаў.

Малады цыган заскрыгатаў зубамі.

Я зразумеў яго затоеную задуму.

— Ваўка зубы кормяць,— счакаўшы, сказаў Квоза.— Ні на пазногаць не веру слову капітана. Калі князь паедзе, ён будзе шукаць, як мне горла перагрызці.

Я разважаў: а што мне прынясе сустрэча з гэтым нахабнікам капітанам? Я яшчэ не забыўся на бойку ў карчме. Як і Квоза, я не магу даравань крыўды, што прычыніў мне капітан. Квозу і мяне гэта звязала ў адно.

Так я разважаў, седзячы за цыганскім сталом. Я не меў прытулку і быў бяднейшы за валацугаў цыганоў. Аднак гонар не даваў мне апусціцца да поўнай чорнай безнадзейнасці, падтрымліваў маё імкненне наперад.

Квоза бачыў, што я патануў у сваіх думках, і далікатна маўчаў. У сенцах дурэлі яго малыя дзеці, і іх суцішала Марыюля.

Прайшло колькі часу ў гасцях у Квозы, аж загрукатала за акном брычка і пастукалі ў дзверы. Не чакаючы запрашэння, у хату ўваліліся двое мужчын. Квоза ўсхапіўся як апараны:

— Клянуся мядзведжай шкурай! Самы шаноў-

ны пан возны [1]! Якім ветрам прынесла? Гэта вы на брычцы прыехалі?

Возны, пажылы ўжо чалавек, павольна прыгладзіў свае вусы і, хітравата ўсміхаючыся, сказаў:

— Квоза! Адзін генерал так запытаўся ў пана Замойскага [2], калі ён прыбыў у Варшаву: «То вы, пан, прыехалі?» На што Замойскі адказаў: «Я быў бы апошнім дурнем, калі б ішоў пеша, маючы коней і карэту».

Квоза засмяяўся. Ухмыльнуўся і чалавек, адзеты гайдуком [3], з шабляй на поясе, што прыехаў разам з возным. Возны пільна глянуў на мяне і рэзка спытаўся:

— То, ягамосць, ты і ёсць той Твірбутас, які ўшанаваў нас сваім прыбыццём з Варніне?

Я стаяў здзіўлены, вылупіўшы вочы, як дурны баран: адкуль ён ведае маё прозвішча? І што align="">возному ад мяне трэба?

— Чым я мог бы пану паслужыць? — спытаўся я.

— У адпаведнасці са сваімі службовымі абавязкамі я жадаў бы, каб пан ехаў з намі,— ён ветліва паказаў рукою на дзверы.

Я стаяў на месцы як слуп: што тут дзеецца? Можа, Кружылка, паабяцаўшы не чапаць Квозы, знайшоў усё-такі спосаб за ўцёкі цыгана пакараць мяне?

Возны яшчэ больш ласкава забуркатаў:

— Ксяндзы нас вучаць, што паўторная малітва лепш даходзіць да вушэй божых. Таму яшчэ раз пра-

---

[1] Службовы чын у судзе.

[2] Анджэй Замойскі — каронны канцлер (1764—1767) у Рэчы Паспалітай.

[3] Узброены панаў слуга.

шу, каб ты пайшоў з намі. Усё ж наша жыццё не што іншае, як вечная дарога.

— Куды я павінен ісці? Навошта? — насцярожыўся я.

Квоза таксама занепакоіўся:

— Залаценькі, мілы пан Жыткевіч, куды панічок мусіць ісці?

— Так! Па якім законе вы збіраецеся павезці мяне з сабою? — натапырыўся я.— Па якім праве?

Пан Жыткевіч, так звалі гэтага дужа прыветлівага пана, пагладзіў свае вусы:

— Што такое закон, мой пане? Што лекі пры хваробе, то закон у судовай справе. Нябожчыку Андрэю Скабейку, лідскаму суддзю, адзін суцяжнік падараваў воз, а яго праціўнік — пару коней. Зразумела, суддзя ўзяў бок таго, хто прывёў яму коней. Пасля суду суцяжнік, што прайграў, заныў: «Пан суддзя, чаму так кепска мой воз накіраваў?» А суддзя, пан Скабейка, яму адказаў: «Не здзіўляйся, дружа! Гэта не я, а коні твой воз накіравалі. Куды яны пацягнулі, туды ён паехаў».

Пан возны з разуменнем глянуў на гайдука:

— Нашы коні, панове мілыя, на гэты раз пацягнуць каламажку да пана суддзі, да пана намесніка Малакоўскага. Проста і без адхіленняў.

Квоза маўчаў. Я зразумеў, што мушу падпарадкавацца. Рашуча надзеў капялюш з пяром, абламаным Кружылкавым бізуном.

— Добра. Іду.

Квоза, нешта памеркаваўшы, сказаў:

— Пакінь тут, пане Габрэлюс, свае рэчы. Калі спатрэбіцца што-небудзь — я прынясу. Пан не пярэчыць?

— Не, не пярэчу,— адказаў той і дадаў: — Не таі, паніч, злосці на вознага. Я толькі сваю службу выконваю. Самаму дзівоснаму, самаму ўладарнаму

князю служу. Ці чуў ты такое: скажы, каму ты служыш, я скажу, чаго ты варты.

Затлумленыя няспынным лапатаннем пана Жыткевіча, мы ўсселіся на брычку. Зараз жа яна прагрукатала па смаргонскай вуліцы...

— Шаноўны пане,— як толькі змог далікатна загаварыў я да вознага.— Быў надзвычай рады сустрэць вашу мосць.

— Гм... гм...

— Самага цудоўнага чалавека.

— Гм... гм...

— Хацеў бы нешта запытаць у вас.

— Гм... гм...

Глядзі: пан возны анямеў!

— Можа, вы, ласкавы пане, скажаце: хто паведаміў пану суддзю, што я прыбыў?

— Гм... гм... Сакрэту няма,— адказаў пан Жыткевіч.— Гэта пляменніца пана Малакоўскага Анэля сказала яму, што шляхціц знатнага роду прыстаў да падарожных цыганоў. Гэтая вестка зацікавіла не так самога пана Малакоўскага, як яго госця. Той і загадаў...

— Госць? Які госць, пане Жыткевіч? — я аж падскочыў на сядзенні ў брычцы.

— Тпрру!.. Вось і прыехалі! — нібы не пачуў пытання возны і паказаў на вялікі прыгожы будынак. Ён быў абгароджаны высокім парканам і шырокімі зялёнымі елкамі.

— У такім палацы — суд? — здзівіўся я.

— Не, мілы пане. Тут палац пана намесніка Малакоўскага. Зрабіце ласку, высаджвайцеся.

Злез з брычкі, паглядзеў на сябе, на пышны палац. Невядома, якую кашу заварыла мне панна Анэля, а я ў пыле, у брудных ботах. Пан Жыткевіч, стары ліс, вельмі добра разумеў маё адчуванне.

— Усё глупства,— ухмыльнуўся.— Усё, хлопча, дробязь. Трэба, каб было толькі адно...

— А што? — запытаўся я з надзеяй.

— А тое! Асенняй ноччу ўлезлі ў блюджайскі касцёл зладзеі. Старэйшы ў брудных ботах узабраўся на алтар і пачаў рабаваць серабро. А той маладзейшы, што стаяў унізе, кажа: «Ай, ай, ты ж сваімі ботамі забрудзіў такія прыгожыя божыя абрусы». Той, што на алтары, кажа: «Боўдзіла ты, боўдзіла! Госпаду богу трэба, каб у цябе было адно — чыстае сэрца, а не ногі».

Так, так. Пан Жыткевіч параўнанняў ні ў кішэнях, ні за сваім шырокім сінім поясам не шукаў.

Я пясмела прамовіў:

— Мне папраўдзе прыдалася б адна рэч.

— Гм... А якая?

— Шчотка, пане маралісце, звычайная шчотка.

Возны пальцам прыгладзіў вусы, гайдук паслужліва адчыніў прыгожыя каваныя варотцы.

— Не марудзьце, пан Твірбутас,— прыспешыў Жыткевіч.— Паны гэтыя вельмі занятыя. І ведайце — яблык саладзейшы, калі ён сарваны пры вялікай небяспецы, як сказаў адзін цыган, якога злавілі ў чужым садзе і добра адлупцавалі.

Я абцягнуў вопратку, абабіў збольшага пыл і з дрыжачым сэрцам, але са спакойным тварам накіраваўся ў палац пана Малакоўскага.

Лёкай увёў мяне ў багаты пакой з дарагою мяккаю мэбляю, якой нідзе яшчэ я не бачыў. Карціны ў залатых рамах на сценах, зручныя крэслы, засланыя заморскімі тканінамі, шырокія вокны ашаламілі мяне. Апамятаўшыся, я ўбачыў двух паноў. Адзін — высокі, таўставаты — стаяў і курыў доўгую люльку, другі — сівы з маршчыністым тварам — сядзеў каля стала ў халаце вішнёвага колеру. У руцэ ён трымаў зграбны фарфоравы кубачак

і час ад часу падносіў яго да губ. У вялікім люстры я ўбачыў даўганогага, як бусел, загарэлага, абветранага і дзіўна адзетага хлопца з вельмі разгубленым тварам. Гэта быў я...

— Добры дзень, ягамосці! Цалую рукі шаноўным панам. Чым я магу быць карысны?

Маё пытанне, відаць, прагучала напышліва і развесяліла паважаных паноў. Пан высокі, поўны, што курыў люльку, нахмурыў бровы. Уважліва змераўшы і ўзважыўшы мяне, ён запытаўся:

— Ты — малады Твірбутас? Габрэлюс Твірбутас з Варніне?

Я пакланіўся, пацвярджаючы.

Ён зноў насупіўся, глянуў на сівага, які больш цікавіўся кубачкам, чым мною.

— Гэта пра тваю мосць піша ксёндз Мацей Карыбутас?

Ён узяў з пазалочанага, на гнутых ножках століка паперу і пачаў чытаць уголас:

— «Мой дарагі, вельмі шаноўны дружа! Ваш пакорны слуга мае гонар звярнуцца да міласцівага пана, молячы...»

Я не паверыў сваім вушам. Гэта быў ліст-просьба ксяндза Мацеюса да пісара віленскага ваяводы пана Матусевіча. У лісце паведамлялася пра драматычныя падзеі ў Варніне, гаротнае становішча калісьці знатных Твірбутасаў, нарэшце, расхвальваліся мае здольнасці і г. д. і г. д. Мае вочы, як у савы, усё больш акругляліся. Забыўшыся на ўсе прыстойныя манеры, я схапіўся за кішэню ў жупане. Яна была пустая. Пісьмо дайшло сюды раней за мяне...

— Пане, пане! — крыкнуў я, абураны.— Прабачце, я не ведаю, як вашу мосць пазываць, я...

Пан выразным жэстам махнуў люлькай, як маршалак жазлом.

— Твірбутас,— нейк дзіўна ўсміхнуўся высокі.— Заві так, як называе мяне твой дабрадзей Мацей Карыбутас: пан пісар.

— Або вашэць, шаноўны пан Матусевіч,— празвінеў ві́склівы голас з крэсла, у якім сядзеў сівы.

Я ўцяміў, што стары са зморшчаным тварам — гэта суддзя і намеснік князя ў Смаргоні. І зусім збіўся з панталыку.

— Пане, пане! — я захлынуўся словамі.— Пане пісар, як толькі я пачуў ваша шаноўнае найменне, у мяне закалацілася сэрца. Ад радасці, што дасягнуў мэты свайго вандравання.— Я апусціў галаву.— І ад прыкрасці, што ліст добрага ксяндза невядома якім чынам, можа, і не вельмі прыстойным для мяне, трапіў у вашы рукі.

Пан пісар слухаў мяне. У яго на скронях і белых, пялегаваных, хударлявых руках былі відаць сінія жылкі.

— Сышоўся з валацугамі цыганамі! Біўся ў корчмах! А яшчэ дамагаешся прызнання за ім нейкіх шляхетных паводзін! — заскрыпела крэсла, і Малакоўскі, пакланіўшыся пісару, пайшоў.

Засталіся мы ўдвух. Забягаючы крыху наперад, скажу: мой ліст, якіываліўся ў час бойкі ў карчме, знайшла панна Анэля. І не аддала мне. Можа, забылася, а можа... Адзін бог зразумее жанчын. Убачыўшы мяне ў Смаргоні з цыганом, яна расказала пра гэта свайму сваяку і перадала яму згублены ліст. Ліст прызначаўся шаноўнаму Матусевічу, дык пісар і распячатаў яго. Так панна Анэля паскорыла спатканне з чалавекам, які цяпер трымаў у сваіх руках не толькі гэты ліст, але і далейшы мой лёс...

Апяклі мяне намеснікавы словы: «Сышоўся з валацугамі цыганамі...» Таму я і падбег да пана пісара і горача загаварыў:

— Пане! Выслухайце мяне!

Матусевіч сціснуў у зубах люльку, таргануў брывамі і, сеўшы ў крэсла, даволі сурова сказаў:

— Добра! Расказвай, але nota bene [1], бо я ўжо добра зведаў, хлопча, што запал ляціць, пацехі бягуць, а розум ідзе... Таму мяне не дзівіць, што ён, асабліва ў твае гады, позніцца. Дарэчы, садзіся.

Праваліўшыся ў мяккім крэсле, я адкрыў пану пісару свае сэрца, усё шчыра расказаў, нічога не ўтаіў — ні бойкі з Кружылкам у Ёшкі, ні абставін вызвалення Квозы (ці чалавечна было б не вызваліць чалавека з клеткі?), ні здарэння з Агасферам і манахам Рафаілам, ні Даніілавай смерці...

Трагічная смерць бакалаўра асабліва ўсхвалявала пана Матусевіча. Ён доўга распытваў, як гэта здарылася, прасіў яшчэ раз расказаць гэтую гісторыю. Каб я ведаў ці хоць прадчуваў, як засмуціць пана пісара смерць бакалаўра! Нарэшце я выдыхнуўся і змоўк. Чакаў, што скажа пан пісар.

Паклаўшы патухлую люльку, ён пранікліва паглядзеў мне ў вочы:

— Відаць, ты чэсны хлопец. Калі б ты няпраўду сказаў, я б адразу цябе злавіў. Але другі раз, калі апынешся ў вясёлай кампаніі, ведай: чым чарка глыбейшая, тым галоўка дурнейшая.

Пад канец пан пісар нават пажартаваў:

— Што ж, у маладых прывілея — рабіць памылкі. Але ў іх яшчэ стане часу, каб памылкі выправіць.

Я зразумеў: мае грахі дараваны.

Пан Матусевіч дакляраваў мне пасаду ў князевай канцылярыі. У ёй служылі сыны небагатай шляхты, якія, як ён казаў, мелі добрыя галовы і працавітыя рукі.

---

[1] Запомні добра *(лац.)*.

— Тут мой сябра піша,— ён тыцнуў пальцам у ліст ксяндза Мацеюса,— што добра валодаеш пяром, ведаеш латынь, крыху нямецкую і французскую мовы...

Я кіўнуў галавою.

— Цяпер мы ўчыняем рэвізію маёнткаў, мануфактур яснавяльможнага князя. Заўтра ў восем прыйдзеш у маю канцылярыю. Там вырашым, што будзеш рабіць.

Мяне ён адпусціў далікатным узмахам рукі. Я пакланіўся і пайшоў. Нібы ап'янелы, я спускаўся па каменнай лесвіцы ў палацы. Раптам я адчуў на сваім плячы руку: мне шырока ўхмыляўся пан возны.

— Цудоўна! — гучна крыкнуў ён.— Бачу, ты знайшоў нябеснае шчасце! Не чуеш пад нагамі зямлі, як троцкі пан Чырка... Ён усе свае балі вальсуе, наступаючы на дамскія туфелькі.

— Трошкі супакоіўся. Спакайней стала, пане,— сказаў я яму.

— Спакайней? Што такое спакой? — возны не даў мне адказаць.— Спакой — гэта атрута такім непаседам, як твая мосць. Толькі не спяшайся. Пачакай тут трошачкі. Пан пісар дасць яшчэ ўказанні.

Праз хвіліну ён вярнуўся разам з гайдуком.

— Ягамосць, мілы Твірбутас, вось Міколу даручана паказаць пакой, у якім ты будзеш жыць. А тут,— возны асабліва выразна пагладзіў свае вусы, дастаў скураную торбачку і пабразгаў ёю каля самага майго вуха,— пан Матусевіч перадае табе гэтыя манеты... Пакуль прызначаць, колькі ты заслужыш у канцылярыі.

Ён усунуў мне ў руку грошы і сказаў:

— Запомні: bis dat, qui cito dat [1]. Аднак надта

---

[1] Удвайне дае той, хто хутка дае *(лац.)*.

не спадзявайся на сардэчную дабрыню вяльможных паноў.

Але я ўжо не слухаў яго. Мяне агарнулі зусім іншыя думкі. Заўважыўшы гэта, Жыткевіч махнуў рукой.

— Мікола, пакажы панічу, дзе ён будзе жыць, і зараз жа вядзі яго да краўца Сімановіча.

Як у сне, я грукацеў у брычцы з гайдуком Міколам па Смаргоні. Даведаўшыся, што мяне прыслаў сам Матусевіч, гарбун кравец разгарнуў сукны, зняў мерку. Пасля гэтага мы пад'ехалі да вялікага дома. У браме, у медных ноздрах звера, вісела чыгуннае кольца.

Потым я знайшоў Квозу, забраў свае рэчы, доўга паціскаў яму руку і зычыў яго чэснай душы вечнага шчасця. Стаміўшыся ад безлічы ўражанняў, я вярнуўся ў сваё новае жыллё. Падымаўся па драўляных усходах, якія сцераглі два кентаўры. Гэта быў палац і адміністрацыя князя Радзівіла. У адным крыле знаходзілася канцылярыя, размясціліся ўланы, драбанты[1], слугі, захоўваліся запасы. Сам палац быў прызначаны для баляў і прыёму гасцей. А там далей, за дваром, абгароджаныя высокай жалезнай загародай, жылі выхаванцы мядзведжай «акадэміі» і іх «прафесары». Старшы сярод іх быў Якуб Тамарэвіч, Квозаў бацька.

Першы тыдзень прабег хутка. Работа ў канцылярыі не была цяжкая, але патрабавала стараннасці і ўседлівасці. Пан Матусевіч, распарадчык усіх спраў і князеў дарадчык, меў вялікую сілу і шмат абавязкаў. Цяпер ён пільна рэвізаваў, правяраў, як вядзецца і кіруецца ўся складаная гаспадарка Радзівіла. Перада мною ляжалі кнігі, у якія чытэльным почыр-

---

[1] Жаўнеры, якія стаялі на варце ў палацы і замку.

кам запісваліся прыгонныя павіннасці хлопаў, хто якую і ў які дзень павінен рабіць паншчыну. Селянін мусіў князю дарма араць зямлю, касіць, жаць і малаціць, сеяць, рабіць многа чаго іншага, патрэбнага пану. Трэба было плесці кашы, збіраць ягады, грыбы, арэхі, шаткаваць капусту, вазіць і сячы дровы, чысціць каміны, стрыгчы авечак, прасці, віць вяроўкі, дапамагаць на кухні, насіць ваду, скубці пер'е і пух на панскія пярыны... Усяго не злічыць.

Работы і пісарам хапала: князева маёмасць незлічоная, тысячы вёсак, гарадоў, мястэчак належалі яго светласці.

Аднойчы пад вечар, вяртаючыся з канцылярыі, я абдумваў пісьмо, якое мерыўся паслаць у Варніне. Падняўшы вочы, убачыў каля заезнага двара пад расшчэпленым маланкай дубам знаёмую карэту. Праз прачыненае акенца выглядала панна Анэля. Нашы позіркі сустрэліся. Разгублены, я пакланіўся: я ж павінен быць ёй па-свойму ўдзячны.

— Добры вечар, шаноўная панна! — я прыклаў сваю руку да сэрца.— Я буду маліцца добрай фартуне, што яна падаравала мне шчасце ўбачыць вас.

Выслухаўшы маё вітанне, яна дастала маленькую сярэбраную табакерку, узяла трыма пальчыкамі тытуню і паднесла сабе к носу. Потым табакерку далікатна прапанавала мне. Я падзякаваў — табакі не нюхаў.

Казаў далей:

— Міласцівая панна, дазвольце мне яшчэ раз сардэчна падзякаваць вам...

— Attendez [1],— перабіла мяне панна Анэля, зардзеўшыся, і шапнула: — Mon flis, prenne garde [2].

Яе позірк слізгануў міма майго пляча.

---

[1] Пачакайце *(франц.)*.
[2] Дзіцятка, сцеражыся! *(франц.)*

Я павярнуўся: за маёй спінай, пакусваючы свой вус і ўзяўшыся ў бокі, стаяў пан Кружылка.

Я сумеўся, але тут жа схамянуўся і спакойна сказаў яму:

— Шаноўны, ці вы чулі, што кажа дама?

Капітан бліснуў вачыма, а панна Анэля, здзіўленая маёй дзёрзкасцю, зарагатала:

— Пан Твірбутас! Pour l'amour de dieu[1]. Капітан зусім не разумее па-французску.

Кружылка паварушыў вушамі, як конь каля пустога цэбра. Панна Анэля падала яму руку.

— Даўно чакаю цябе, мой мілы.

З хвіліну стаяла цішыня. Капітан, кусаючы губу, прайшоў міма мяне, як скрозь дзірку ў плоце, і сеў у карэту. Вазак пацягнуў лейцы, калёсы загрукаталі. Толькі тады пачуўся злосны голас капітана:

— Калючыя ружы, бычыныя рогі! Ізноў блытаецца пад нагамі гэты блазнюк.

Я адчуў, як кроў стукнула мне не толькі ў галаву, але і ў кончыкі пальцаў.

У той самы вечар я ўбачыў капітана ў двары мядзведжай школы. Пан Кружылка з мядзведнікамі стаяў побач з намеснікам Малакоўскім, нешта абмяркоўвалі і, памахваючы рукамі, спрачаліся.

Час ад часу чуўся смех гайдукоў. У жалезнай загарадзі паходжваў мядзведзь. Панюхваў вялікую, круглую, як барабан, драўляную шпулю з жалезнымі шыпамі. Яна была намазана мёдам. Хочучы лізнуць мёд, мядзведзь уколваў сабе мызу. Раззлаваўшыся, ляскаў па драўлянай шпулі лапаю, але яшчэ болей уколваўся. Тады раз'юшаны мядзведзь пачаў кідацца, раўці, біць шпулю, з кожным разам усё больш колючыся аб вострыя шыпы, і проста шалеў. Калі з лап пачала сачыцца кроў, цыганы крукамі вы-

---

[1] Богам прашу *(франц.)*.

кацілі шпулю з загарадзі. Так мядзведзя прывучалі да крывавай схваткі з воўкам.

Павярнуўшы галаву, капітан убачыў мяне ў акне ў маім пакоі. Мне здалося, што ён прыдумаў нейкі падкоп, бо злосна ўхмыльнуўся. Я прадчуваў нешта благое. Побач са мною жылі не толькі панскія канцылярысты, але і княжацкія ўланы.

Лёг спаць я рана, бо мерыўся ўстаць на золку: трэба было дапісаць ліст у Варніне. Не памятаю, што я сніў, але пабудзіла мяне страшэннае храпенне. Я ўскочыў з ложка, і мяне ахапіў жах: шырока разявіўшы страшную пашчу, выцягваючы свае драпежныя лапы, на мяне, куляючыся, ішоў мядзведзь. Яго вочы ў бляклым святле месяца бліскацелі, як у пякельнай здані. У страшыдла цякла з пашчы крывавая сліна: гэта быў той самы мядзведзь, які надвечар шалеў у двары за загарадкаю ад вострых шыпоў на шпулі.

Я акамянеў ад страху і нерухома сядзеў на краі ложка, і гэта мяне ўратавала. Мядзведзь грозна засоп... Блізка стаяў столік, а на ім важкі падсвечнік. Я схапіў яго і з усёй сілы сунуў крывалапаму ў пашчу. Звер на момант аслупянеў. Я добра памятаю: лапамі, зусім як чалавек, схапіўся за сваю калматую галаву. Я падбег да адчыненага акна і вельмі здзівіўся: да акна былі прыстаўлены драбінкі. Адкінуўшы іх, я скокнуў уніз. Нямоцна стукнуўся ў густой траве і, дзякуй богу, застаўся жывы.

Паваліўшыся, я адчуў слабы пах мёду. У мяне каля ног ляжалі драбінкі; пах ішоў ад іх. Значыць, нехта знарок прыставіў да майго акна драбінкі, намазаўшы іх мёдам. Па іх, аблізваючы мёд, і залез да мяне мядзведзь. Хто прыдумаў такую подласць?..

Не паспеў я знайсці адказу на сваё пытанне, як мае чуйныя вушы ўхапілі шолах — уздоўж сцяны

нехта прамільгнуў, пабег, скурчыўшыся, і знік на бакавой лесвіцы, што вяла да пакоя ўланаў.

Я стаяў на двары босы, у адной кашулі. Начная прахалода пранізвала мяне наскрозь.

Раптам пачуўся пагрозлівы роў звера, ажно страх узяў мяне.

Месяц ярка асвяціў акно майго пакоя, а ў яго праёме на поўны рост стаяў мядзведзь, гатовы да скачка. Яго крыважэрныя маленькія вочкі ўпіліся ў мяне...

## Мядзведжая акадэмія

«...я дачуўся, міласцівы пане, што ва ўсе часы каралі, магнаты для сваёй пацехі любілі трымаць дзікіх звяроў, нават небяспечных драпежнікаў.

Некаторых з іх,— утаймаваных, прыручаных,— скарыстоўвалі нават для патрэб двара. Вось у Швецыі пры Карле IX каралеўскія ганцы ездзілі на ласях. Дэрпцкі магістрат [1] забараніў ездзіць на ласях у запрэжцы і верхам, бо іх пудзяцца коні. Кацярына II забараніла ў Расіі язду на ласях, каб зладзеі і разбойнікі не змаглі ўцячы ад пагоні: ласі бягуць хутчэй за самых быстрых коней, ім не страшныя ні хваёвыя лясы, ні балоты.

За Жыгімонтам Аўгустам [2] у Вільні ў шыкоўным палацы, у якім наладжваліся навуковыя і літаратурныя дыспуты, ставіліся оперы і балеты, паказвалі

---

[1] Горад Дэрпт — цяперашні Тарту ў Эстоніі.
[2] Вялікі князь Вялікага княства Літоўскага (1544—1572) і кароль Польшчы (1548—1572).

сваё мастацтва акцёры, музыкі, спевакі і камедыянты, для экзатычнасці па залах прагульваліся пяць вучоных мядзведзяў і львоў, а ў каралеўскіх стайнях разам з конямі найлепшых парод трымалі дзесяць вярблюдаў.

У часы Станіслава Аўгуста[1] ў Варшаве пасадзілі англійскі парк, які называўся фоксалам. У ім забаўляліся варшавякі. Аднойчы ўдзень там паказалася карэта, у якую былі запрэжаны чатыры вялізныя мядзведзі. У карэце ехаў віленскі ваявода князь Караль Радзівіл. З фоксала на мядзведзях ён накіраваўся проста ў Варшаўскі замак у госці да караля. З'яўленне небывалай запрэжкі на варшаўскіх вуліцах не на жарт напалохала людзей. Узнялася штурханіна, якая прычыніла нямала страт у горадзе. Для іх аплаты Радзівіл раскашэліўся больш як на мільён польскіх злотых, таму перапуд і роспач ператварыліся ў вялікую весялосць,— варшавякі такога залатога дажджу яшчэ ніколі не бачылі...»

Я паклаў на стол пяро, яно прытупілася, і на паперу клаліся тоўстыя літары, але ліст скончыў. Перачытаў апошнія радкі:

«...Міласцівы пане! Цалую руку. Нізка кланяюся панне Софіі, перадаючы вам абаім самыя любыя зычэнні і пачуцці, якія сабраліся ў маім сэрцы пасля расставання з вамі, паняй матуляй, хросным бацькам панам Мельхіёрасам. Я шмат разоў і горача дзякую вам за ўсё, што я атрымаў з вашай ласкі ад пана пісара. Пра ўсе яго дабрадзействы я раскажу наступны раз.

Яшчэ раз кланяюся самым пакорным чынам, Габрэлюс Твірбутас, у месце Смаргоні».

---

[1] Станіслаў Аўгуст (1732—1798), польскі магнат, у 1764—1795 — польскі кароль.

На лісце прыгожа напісаў адрас: «Яго праасвяшчэнству, шаноўнаму ксяндзу пробашчу, пану Мацеюсу Карыбутасу, у Варніне, у яго рукі».

Гэтыя радкі я пішу ўночы, у час спакойнай перадышкі, калі пасля вялікай падзеі ў Смаргоні, урачыстай сустрэчы яго светласці князя, усе спяць, як снапы. Толькі хрыпаты голас начнога вартаўніка без стомы выкрыквае начныя гадзіны. У пакоі душна ад запаленых свечак, але акно трымаю наглуха зачыненае: мяне навучыла начная праява, візіт дзікага раз'юшанага мядзведзя. Ад лап мядзведзя мяне ўратаваў шчаслівы выпадак: якраз у той час вярнулася спаць змена начных драбантаў. Убачыўшы мядзведзя ў акне і мяне ў адной кашулі на дварэ, вартаўнікі выставілі свае коп'і, а я пабудзіў мядзведнікаў. Прыбегшы з рагацінамі, яны выперлі страшыдла з пакоя і загналі яго ў жалезную клетку.

Усю гэтую нізкую подласць, як пранюхаў спрытны Квоза, прыдумаў Кружылка.

Гэта скора стала вядома ўсім і, як я чуў, гонару капітану не прынесла. Маўчаў, нібы нічога не ведаў, пан намеснік Малакоўскі, таму ні пра што не распытваў у мяне і пан пісар. Смаргонскі возны, сустрэўшы мяне ў горадзе, гэтых двух паноў абмаляваў у сваёй манеры:

— Нямала большых хітруноў, як пан суддзя і пан пісар. Першы хваліцца: «Я ўсё ведаю!» А нічога не ведае. Другі кажа: «Панове, я нічога не разумею!» А ўсё, шэльма, разумее.

Ён пагладзіў свае вусы, стаў на дыбачкі і ціха зашаптаў мне ў вуха:

— Малады пане, паслухай чалавека, які бачыў дно свету.— Вочы ў furnaga зрабіліся сур'ёзныя.— Сустрэнешся з панам Кружылкам, глядзіце адзін на аднаго спінамі.

Жарам загарэліся мае шчокі.

— Не палохай мяне, пане! Я яшчэ прымушу капітана зямлю грызці! — крыкнуў я, зусім не падумаўшы, што помста — гэта такая страва, якую заўсёды варта есці халодную.

Пан Жыткевіч заткнуў свае вушы:

— Нічога не хачу слухаць! Магу толькі сказаць, што ў сейме, калі ўзнікла сварка, адзін бедны шляхціц, скрыгочучы зубамі, закрычаў: «Лепш памру на месцы, чым дапушчу гэта!» Кароль Ян [1], пачуўшы, як шалее той крыкун, засмяяўся і спакойна прамовіў: «Reguiecat in pace...» [2]

Мяне гэта не развесяліла — я добра зразумеў, што пад гэтай балбатнёй таілася перасцярога. Ізноў прыгладзіўшы вусы, возны развітаўся і сказаў, што шляхецкі гонар занадта далікатная рэч, каб мне не здавалася, што ён ухіліўся ад далейшай размовы, як кажуць, выкруціўся перавяслам з сена. Не, не, ён не совае носа ў чужы інтарэс, ён бяжыць па пільных справах.

— Пачакай, паважаны пане, пачакай! — я затрымаў за рукаў гэтага заўзятага гаваруна.— Растлумач, будзь ласкавы, што значыць «выкруціўся перавяслам з сена».

Бліснулі вочы ў пана Жыткевіча: усе ведалі — не дай вознаму есці-піці, а дай яму пагаманіці.

— Было так,— пагладзіў ён свае вусы.— Сустрэлі ў Вільні жартаўлівага, але скупога пана Ругалевіча яго сябрукі і зацягнулі ў карчму. А загадзя псюхі тыя змовіліся: нап'ёмся, смачна паямо ды змыемся, няхай расплачваецца адзін Ругалевіч. Але ў таго панка быў добры нюх, ён учуў, чым пачостка пахне. Папрасіў карчмара, каб той занёс усё ў склеп: там,

---

[1] Ян II Казімір, польскі кароль (1648—1668).
[2] «Спачывай у міры...» *(лац.)*

маўляў, прахалода. Нанесла служанка ў склеп пітва і яды, паслала сена, каб усесціся. Пілі, елі прайдзісветы ўвесь дзень, а пад вечар пан Ругалевіч устаў, пацягнуўся і, скручваючы, як воўну, сена, кажа: «Панове братове! Я магу звіць з сена вяроўку і ёю ўсіх вас выцягнуць адсюль». Сябрукі весела зарагаталі. «Што, не верыце? Дык пойдзем у заклад». П'яныя галовы ахвотна згадзіліся на заклад. Ва ўсіх на вачах Ругалевіч пачаў круціць перавясла з сена і, нешта мармычучы пад нос, кіравацца да дзвярэй. Скруціў жмут сена, сам — у дзверы, а там спрытна сунуў тое перавясла ў рукі служанцы, скочыў на каня і — бывай здароў! Так той пан уцёр насы круцялям. Пра гэтую фацэцію даведаліся людзі, і паплыла прымаўка: «Выкруціўся перавяслам з сена».

Пан Жыткевіч паківаў галавою.

— Дарэчы, не ўсім суджана віць вяроўкі з сена. Некаторым само жыццё скручвае пяньковыя. У нас, пане, кажуць: і выпушчанага злодзея трэба трымаць на такой доўгай вяроўцы, каб хапіла павесіцца.

Мяне ўзяла жудасць: я ўспомніў, што ласкавы возны пры патрэбе выконвае пасаду і смаргонскага кáта — лупцуе, вешае, сякерай аддзяляе тулава ад галавы...

У гэты момант недзе на ўскраіне горада пальнула гармата. Пан возны схапіўся за галаву — ай, пазнюся! За крысо свайго жупана і — як вецер, памчаўся цераз плошчу. Гарматны стрэл азначаў, што важны госць ужо ў дарозе, недалёка. Скора пачалося нечуванае і нябачанае: здавалася, што ўвесь гарадок ашалеў. Вялізныя вайсковыя барабаны няспынна білі, аглушаючы вуліцы. Уланы-трубачы, аж да пасінення распіраючы шчокі, вылупіўшы вочы і задыхаючыся ад старання, дзьмулі ў свае трубы. На званіцы ў касцёле гучна загулі званы.

Па шляху да гарадской плошчы паставілі некалькі ганаровых брамаў з упрыгожаннямі і напісанымі віншаваннямі на ўшанаванне яснавяльможнага князя. Пад гул званоў па абодва бакі дарогі папешна выстройвалася прыбраная ахова князя. Збіралася, тоўпілася мясцовая шляхта, уланы, наперадзе ў якіх гарцаваў падцягнуты капітан Кружылка. У святочным адзенні спяшаліся, каб не прапусціць цікавага відовішча, мяшчане, рамеснікі, цыганы. Начапурыліся дзяўчаты, абуліся ў прыгожыя чаравікі, прасцей выглядалі замужнія жанчыны. Асобна стаяла, чакаючы з'яўлення князя, самае ганаровае панства на чале з Малакоўскім. Сярод іх я бачыў і пана пісара, некалькі радавітых паняў, смаргонскага каноніка Баткевіча. Пан Малакоўскі трымаў у руцэ напісаную віншавальную рацэю. Вось-вось павінен паказацца самы знакаміты пан Вялікага княства Літоўскага — князь Радзівіл.

Каля мяне стаяў млявы панок, які, ледзь не абміраючы ад захаплення, пляткарыў са сваім суседам.

— Ты толькі падумай, вашэць, шлях перад нашым вяльможным Панам Каханкам [1] ад самага нараджэння быў усыпаны ружамі. Толькі яму мінула пяць гадоў,— ён ужо атрымаў ад пфальцкага курфюста ордэн святога Губерта. У трынаццаць гадоў быў ужо маршалкам віленскага сейміка. Праз год выбіраецца ад Ашмянскага павета ў сейм. Шаснаццацігадовы Караль Радзівіл — член трыбунала. Палкоўнік — у семнаццаць гадоў. Пане, пане... Васемнаццацігадовы князь Караль — ужо падчашы [2], а праз пару месяцаў — мечнік [3]. Га?

---

[1] Мянушка князя Караля Радзівіла, якую ён атрымаў ад звароту, што сам часта любіў ужываць.
[2] Службовая асоба вялікакняжацкага двара.
[3] Вайсковая пасада з судовымі функцыямі.

Ізноў грымнула сігнальная гармата. Бэнцнула яна два разы.

Натоўп зашумеў: «Едзе!» А панок той усё яшчэ мянціў языком, як завадны:

— У дваццаць адзін год Пане Каханку быў ужо маршалкам трыбунала. А ў тысячу семсот шэсцьдзесят другім годзе, калі памёр яго бацька, гетман, ён — тады яму было дваццаць восем гадоў — стаў віленскім ваяводам — першым сенатарам княства.

— У сенатара жывот поўны, а галава пустая,— не вытрымаўшы, буркнуў другі і дадаў: — Як кажуць, pecuniae obediunt omnia [1].

Спахапіўшыся, ён прыкусіў губу, скоса глянуў на балбатуна і з палёгкай уздыхнуў: млявы панок не пачуў яго, бо якраз трэці раз бухнулі гарматы.

Я зразумеў зайздрасць шляхціцаў — багаццю князя не было, як кажуць, ні канца ні краю: апроч неабсяжных Нясвіжскай і Алыкскай ардынацый [2] і ўладанняў у Міры, Радзівіл атрымаў у спадчыну ад сваякоў многа маёнткаў і староստваў [3]. Яшчэ князю належалі пяць тысяч вёсак, мноства гарадоў і мястэчак... Князеў прыбытак складалі ад сарака да двухсот мільёнаў злотых у год.

А я быў рады таму, што ў мяне за поясам схаваны дзесяць злотых — гэта было ўсё маё багацце — і дарагі мне шляхецкі меч. Я стаяў і думаў: як павінен адчуваць сябе такі магнат, якога ведае ўся Еўропа, каралі і цары, якому кланяюцца тысячы залежных ад яго шляхціцаў, незлічоныя натоўпы падлізнікаў. Збіраючы абʼедкі з яго стала, розныя панкі носяць яго на руках, абагаўляюць. А князь любіў па-

---

[1] Грашам усё падначальваецца *(лац.)*.

[2] Ардынацыя — уладанне, якое непадзельна пераходзіла ў спадчыну старэйшаму сыну або старэйшаму ў родзе.

[3] Адміністрацыйная адзінка.

казаць сваю веліч, бліснуць шматлікай шыкоўнай світай, засланіць усіх сваёй асобай.

Не раз я чуў пра тое, колькі збіраецца ў яго гасцей, як без меры гуляе, п'е з суседняй шляхтай. Нярэдка такія гулянкі заканчваліся бойкай, у якой Пане Каханку сам з задавальненнем памахваў кулакамі. А назаўтра за гузакі і сінякі шчодра ўзнагароджваў. Таму здаралася, што які-небудзь збяднелы шляхцюк знарок лез пад руку князю, што разышоўся, каб пасля атрымаць сатысфакцыю [1] залатой манетай.

— Разбітыя гаршкі, пане каханку, найлепш склейвае залаты клей,— працвярэзіўшыся, звычайна гаварыў князь, адорваючы пакалашмачанага шляхціца дукатамі ці талерамі, гледзячы, які жаль абуджаў яго збіты твар.

Яшчэ ямчэй забілі ў барабан. На конях праехалі ўланы ў чырвоных жупанах, падняўшы слуп бурага пылу. Серабром на сонцы блішчалі аголеныя шаблі, на канцах доўгіх пік трапяталіся каляровыя трохвугольныя флажкі. Кіраваліся коннікі ў бок Вільні, пакідаючы пах конскага поту і ахканне зачараваных паненак.

Загрымелі, салютуючы, гарматы. Непадалёк паказаліся ўжо карэты.

— Едзе! Едзе! — пракаціўся гул.

— Віват! Віват! — вырывалася з разяўленых ратоў.

— Сто лят! — раўлі з натоўпу, бухалі гарматы, грукалі мушкеты, ляцелі ўгору шапкі, кветкі.

Карэта, у якую былі запрэжаны васемнаццаць коней у яблыкі, спынілася ў самым асяродку Смаргоні. З карэты высунуў галаву яшчэ параўнаўча малады мужчына. Паказаўся высокі лысы лоб, амаль

---

[1] Адплата за знявагу.

па-татарску прыжмураныя вочы, паўнаваты твар гуллякі з падбароддзем і даволі вялікім носам. На пажадлівых яго губах віліся загнутыя ўверх вусы, якія сваёю ручкаю па французскай модзе ў Парыжы падстрыгла княгіня Тафілія Сапега. Гэта і быў князь Караль Радзівіл. Ён ухмыльнуўся і ляніва, але грацыёзна памахаў рукой, пальцы якой зіхацелі пярсцёнкамі з каштоўнымі камянямі.

Натоўп ізноў пачаў вітаць князя. Сыпалі кветкі, гаварылі рацэі, чыталі оды, што ўслаўлялі князя. Тут, прабраўшыся скрозь узброеную ахову, да карэты падскочыў смуглявы сіваваты чалавек. Скінуў з галавы шапку, схапіў князеву руку, пацалаваў яе і голасна прамовіў:

— О, будзь блаславёны! О наш пан і ўладар!

Князь задаволена ўсміхнуўся і сказаў:

— Гэта ты, Якуб? Буду чакаць цябе ў палацы.

Акружаны ўланамі, князь паехаў у сваю рэзідэнцыю.

У гарадку пачалася ўсеагульная гульба: людзі, забыўшыся на ўсё на свеце, кінуліся да сталоў, расстаўленых пад адкрытым небам, а князевы слугі частавалі ўсіх смажанай дзічынаю і напіткамі, кідалі дзецям, што тоўпіліся тут і шумелі, і жанчынам свежыя, яшчэ цёплыя смаргонскія абаранкі. Пачаўся звычайны ў смаргонцаў і навакольнай дробнай шляхты ў час прыезду князя разгул. Пан Караль Радзівіл не шкадаваў грошай на такое частаванне, зарабляючы сабе гэтым танную хвалу ад мяшчан. Сам гасцінны князь пагардліва пазіраў на гэтую ап'янелую драбноту, ад'язджаў у свой палац, дзе яго чакаў пышны і шумны баль.

Сабраныя з усяго наваколля на багатую прынаду музыкі весела ігралі, пацяшаючы натоўп не горш, чым прывезены самім князем яго нясвіжскі аркестр.

— Чаго зажурыўся і не п'еш, Якуб? Чаму чаркі не бярэш? — весела торкнуў у бок цыгану, абдоранаму князеваю ласкаю, нейкі шляхціц.

— Ой, не магу, пане,— уздыхнуў цыган.— Княжацкіх студэнтаў у кажухах скора трэба рыхтаваць да відовішча. Найсвятлейшы пан, дай яму бог тысячу гадоў, мусіць жа, захоча паглядзець на сваіх артыстаў.

Цыган устаў. У адным вуху ў яго целяпалася вялікая залатая завушніца. Адзеты ён быў франтавата — у адзенне з турэцкага шоўку і ліёнскага аксаміту, падпяразаны шырокім ярка-сінім поясам, з-пад якога тырчала рукаятка сярэбранага кінжала.

Шляхціц зайздросна ўздыхнуў. І шанцуе ж гэтым цыганам, у моцным дубе іх апора! Хто апіраецца на добрае дрэва, таго і засень добрая хавае.

Якубу Тамарэвічу, славутаму «прафесару» мядзведжай акадэміі, усе саступалі дарогу. Я азіраўся, шукаючы Квозу, але нідзе яго не бачыў, напэўна, ён быў з мядзведнікамі.

Увечары, калі гулянне ў палацы было ў самым разгары, калі ў начным небе пырснулі каляровыя агні феерверку, Якуба Тамарэвіча і Квозу паклікалі на галерэю палаца і загадалі ім чакаць там, пакуль яны не спатрэбяцца князю. На галерэю пусцілі і мяне. Адтуль добра былі відаць усе госці, туды ж даходзіў пах вытанчаных страў і заморскіх вінаў, якімі ласаваліся прошаныя госці. Слугі ў ліўрэях, кошт якіх мог бы спалохаць не аднаго віленскага ці кракаўскага багатыра, шнырылі з залы ў кухню і назад, падносячы ўсё новыя і ўсё больш мудрагелістыя патравы і графіны.

Пра князеву кухню ішла слава па многіх краінах. Яна не толькі цешыла самыя тонкія густы гурманаў, але павінна была здзівіць гасцей, ашаламіць прысутных на балі незвычайнай раскошай і выдумкай.

Князь Радзівіл умеў бліснуць сваёй веліччу і жыў куды пышней, чым сам польскі кароль.

Зусім былі ашаломлены і разгублены госці, калі кухары паклалі на стол птушку. З усімі прыправамі, гарнірам. Але як дастаць? Перапёлка... у бутлі. Не было канца здзіўленню і меркаванням: як птушка туды трапіла? А князь задаволена ўсміхаўся. Здабылі перапёлку ласуны толькі тады, як разбілі бутлю.

А слугі ўсё прыносілі на стол самыя фантастычныя стравы: сечанае птушынае мяса ў выглядзе рыбы, вынаходлівыя кухары здолелі прыладзіць да яе плаўнікі, нават луску. Потым наадварот: з рыбы змайстравалі птушак, ім былі дароблены крылы, нават пеўневыя грабеньчыкі і шпоры, панатыкана пярэстае пер'е. Не хаваючы свайго здзіўлення, я глядзеў на нябачаных жывёлін: смажанаму парасяці была прыстаўлена заечая галава, ззаду — прышпілены цецерукоў хвост, а стаяла парася на казуліных нагах...

Чарадзей оберкухмісцер Ганс Бахпульвер здзівіў усіх сапраўднай феерыяй пірагоў, тартоў і цястак [1]. Тарты ўзвышаліся над сталамі дзівоснымі замкамі або велічнымі трыумфальнымі брамамі. У вачах мітусілася ад фарбаў... У гурце падгулялых гасцей Караль Радзівіл гучна рагатаў, слухаючы фрывольныя анекдоты, якія расказваў нізкарослы таўстун, добра падпіты ашмянскі канонік Уладзіслаў Вашкевіч. Зусім сп'янелыя, спявалі або драмалі амаль усе госці, але князь выглядаў бадзёра, нібы зусім не захмялелы. Пан пісар сядзеў у канцы стала таксама цвярозы, гатовы да выканання любога князевага загаду.

За спінай у Радзівіла стаяў слуга Войцех, які доўгі час суправаджаў Пана Каханку ў яго падарожжах па Еўропе. Вось цяпер князь нешта шапнуў яму.

---

[1] Цястка *(польск.)* — піражнае.

Войцех пайшоў. Неўзабаве пачуўся гучны і старанны тупат ног. У залу ўбегла цэлая ватага гайдукоў. Князь крыкнуў ім:

— Лазню! Лазню сюды! Хутчэй, каб вас чэрці пабралі!

Гайдукі добра ведалі нораў свайго пана, калі ён разгуляецца. Праз некалькі хвілін у залу ўкацілі два вялізныя, вышэйшыя за чалавека, цэбры. У іх вёдрамі і збанамі гайдукі спешна сталі наліваць халодную ваду. Калі яны сталі поўныя, па знаку князя гайдукі хапалі знямоżанага або заснулага пад сталом п'янага госця і, як ёсць, у адзежы, апускалі ў цэбар. У зале доўга чуліся князеў рогат, лаянка п'яных, маленне аб літасці, плюханне ў вадзе, конскае фырканне, іканне, чханне. Трапіўшы ў нечаканыя купальні, госці крычалі, з мокрых валасоў і адзежы ручаямі сцякала вада. Прыбраныя паны выглядалі аскубанымі курыцамі, жаласліва лыпалі вачыма, збянтэжаныя, азіраліся па баках, яшчэ добра не сцяміўшы, што здарылася.

Да выкупаных гасцей спяшаліся слугі з кубкамі гарачага чырвонага віна, каб, крый божа, паны не прастудзіліся. «Лазня» дапамагала: у зале ізноў наступіла ўсеагульная весялосць, бо ніхто не адважваўся паказаць князю сваю крыўду ці незадаволенасць.

Раптам князь перастаў смяяцца, азірнуўся.

— Дзе пан Пісецкі? Пісецкі дзе? — крыкнуў нецярпліва, бразнуўшы сярэбраны кубак на падлогу.— Хто заспявае мае любыя песні?

Заварушыліся слугі і госці, але гервяцкага пана, суседа і заўсёднага князевага сабутэльніка ні пад сталом, ні ў іншым месцы не знайшлі. Тады да князя падбег пабялелы пан Малакоўскі.

— Панове! — спалохана ўзняў рукі.— Вашэці! А ў цэбры зазірнулі?

Папытацца проста ў князя Малакоўскі не асмеліўся.

Паны ахнулі, падскочылі да цэбраў: забыты Тадэвуш Пісецкі, як камень, ляжаў скурчаны на дне ў адным цэбры. Пад усеагульны лямант і памінальныя модлы выцягнулі з вады герывяцкага шляхціца. Пакладзены на дыван, малюсенькі пасінелы Пісецкі з кашчавай, выпнутай наперад ніжняй скіўіцай быў як вымаклае ў вадзе пудзіла.

— Патануў, бедалага,— уздыхнуў Нясякайла і выціснуў п'яную слязу.

— Гэта як жа так, панове? — ікнуў нехта.

Радзівіл грыз вус. Потым тупнуў ботам і загрымеў:

— Пане каханку! Каб вас чэрці праглынулі жывўцом! Паставіць пана Пісецкага на галаву! Хутчэй! Хапайце за ногі!

Паслужлівыя рукі схапілі пана Пісецкага за галёнкі і пачалі трэсці. Павіслая ўніз галава ківалася на доўгай, тонкай, як у гуся, шыі. Праз нос, праз рот лінулася вада.

— Яшчэ, яшчэ! — крычаў князь.— Адкачайце яго, пане каханку!

Я анямеў ад здзіўлення: з-за пояса, з кішэняў у пана Тадэвуша Пісецкага пасыпаліся не толькі залатыя грошы, але сярэбраны кубак, залатая табакерка Радзівіла. Усе разгубіліся, а князь прысеў і, узяўшыся за бокі, зарагатаў:

— Брава, бравісіма! Во спрытнюга! За маім сталом суседзі дарма часу не трацяць.

Хітра гледзячы на некаторых пачырванелых гасцей, князь дадаў:

— Ну, чаго гледзіце? Яшчэ раз трасяніце пана Пісецкага, суседа майго самага мілага! Ногі ўгору, угору. Можа, знойдзецца вышыты золатам прускі

рэмень, яшчэ такая-сякая дробязь, якую я нядаўна шукаў.

Госці хавалі ад гаспадара вочы.

На шчасце, пачуўся аслабелы голас:

— Войцех, Войцех! Вой, кубак бургундскага... Вой, смага пячэ...

Гэта нарэшце ачуняў тапелец, пан Пісецкі. Князь Радзівіл аж заляскаў у ладкі:

— Пане каханку! Во гэта шляхціц — адразу пазнаеш пароду. Увесь цэбар выпіў пан Пісецкі, і яшчэ яго сушыць. Войцех, хутчэй! Самага старога, самага лепшага віна са склепа суседу! Заслужыў...

І, не спускаючы вачэй з тапельца, падганяў:

— Загарніце яго ў цёплыя мядзведжыя шкуры! Няхай сагрэецца. Як маешся, бравы Пісецкі?

— О, міласцівы князь, найсвятлейшы пан,— загаварыў ён,— здароўе пасяродку: сэрца ўжо ў раўнавазе з галавой.

Госці — хоць многія ад таго купання дрыжалі, як у трасцы,— убачыўшы, што князь забыўся на зніклыя каштоўнасці, ізноў узяліся баляваць. Кубкі з гарачым віном яшчэ і яшчэ хадзілі кругом стала.

— А цяпер, панове мілыя, парайце, што далей рабіць нам? — пан уладарна глянуў на ўсіх.— Ага, успомніў! Дзе цыган, гэты мядзведжы магістр?

— Я тут, вяльможны пан! — нібы з зямлі вырас, доўга чакаўшы гэтай хвіліны, Якуб Тамарэвіч. І ён пачціва пакланіўся князю і яго гасцям.

У той час у гасцёўні з'явіўся ўсхваляваны пан Малакоўскі, адпіхнуў цыгана, падскочыў да князя і сказаў:

— Найсвятлейшы міласцівы пан! Прыбыў хадок ад караля, граф Крысціян Сясіцкі.

Настала поўная здзіўленая цішыня: усе ведалі пра напружаныя адносіны князя з каралём Станісла-

вам Аўгустам, з-за чаго князь вымушаны быў гады знаходзіцца ў выгнанні.

— Добра,— насупіў бровы Караль Радзівіл.— За просьбай пана Сясіцкага, госцем будзе... І...

Намеснік пакланіўся, каб пайсці, але князь затрымаў яго:

— Пастой, куды цябе чэрці панеслі!

Пан Малакоўскі здрыгануўся і спыніўся паблядчелы. Князь грозна паказаў на Якуба Тамарэвіча:

— І, пане каханку, не смей больш штурхаць майго цыгана!

— Не... Я спяшаўся... Пасол самога караля,— прыніжана мурркнуў Малакоўскі.

Радзівіл стукнуў кулаком па стале, ажно счырванеў:

— А хоць бы і сам папа рымскі! Ідзі! А ты, цыган, пастой.

У гасцёўню ўкаціўся тоўсценькі, з чырвонымі шчочкамі, напышлівы пасол караля граф Сясіцкі. Ён велічна павітаўся з Радзівілам.

— Salve, domine comes ilustrissime! [1] — весела азваўся князь.— Пане каханку, калі ласка, далучыцеся да нашай сціплай кампаніі. У вашай уласнасці гэты палац, слугі і скляпы!

Усе напружана прыслухаліся: якую навіну прывёз граф з Варшавы? Аказваецца, калі кароль паедзе ў Гродню на сейм, то жадае спыніцца ў князя, каб пагасцяваць у Нясвіжы. Такі гонар, нечаканая каралеўская ўвага ўзрадавала князя. Ён папрасіў, каб граф перадаў яго каралеўскай вялікасці, што ён бясконца прагне як найхутчэй бачыць яго ў сябе. Госці зааплядзіравалі і закрычалі: «Віват!» Баль разгараўся з новай сілай, пакуль граф Сясіцкі, стомлены ад падарожжа і шчодрага частавання, не стрымлі-

---

[1] Вітаю, найсвятлейшы граф! *(лац.)*

ваючы дрымоты, папрасіў у князя прабачэння: ён хоча адпачыць.

— Пане каханку, граф! Тваё здароўе! — князь устаў і падняў кубак, ён быў зусім цвярозы.— Няхай сняцца табе добрыя сны!

Графу князь зрабіў незвычайнае ў гэтым палацы выключэнне: дазволіў яму пакінуць баль на сваіх нагах. Абавязак гасціннага гаспадара — здолець спаіць гасцей. Сапраўднай гасціннасцю славіўся той пан, з дома якога не мог пайсці без дапамогі слуг ніводзін госць.

Пасля кожнага балю князь сам распытваў у гайдукоў, хто з гасцей зваліўся са сходак, хто расквасіў сабе нюхаўку, хто зламаў нагу ці ляжыць распасцёрты перад палацам.

Пана Сясіцкага праводзілі ў выдзеленыя яму апартаменты, а ў гасцёўні пад наглядам прыдворнага камердынера на сталах не меншала закусі і пітва. Да Малакоўскага валюхаючыся падышоў добра захмялелы Кружылка. Непадалёку ў невялікім гуртку дам, памахваючы веерам, стаяла панна Анэля, абстрэльваючы вачамі капітана.

Цікаўны натоўп сабраўся на дварэ і прагна лавіў пахі і гукі балю, што несліся з палаца. Я ўвесь час быў, як мне загадаў пан пісар, на галерэі. Нарэшце надарыўся зручны момант, пісар нахіліўся да Радзівіла і нешта яму сказаў. Князь кіўнуў галавою. Тады Матусевіч даў мне знак, каб я падышоў да яго. Я пачціва пакланіўся. Ён змераў мяне вачамі:

— Пане каханку! Як вырас гэты экземпляр роду Твірбутасаў! Наліце яму кубак! Я думаў, што гэтая старая, славутай крыві парода шляхты ўжо звялася... Чым хочаш служыць мне — зброяй ці розумам?

Уявіце сабе толькі: князь бачыў ува мне не дробнага шляхцюка, а знакамітага шляхціца!

Праўда, я некалі чуў, што ў князя слабасць — за-

вострапая ўвага да геральдыкі і ўсяго таго, што датычыць шляхецтва. Ён любіў паўтараць: «З пана хлоп можа атрымацца, але з хлопа пана не зробіш». Часам такія яго разважанні выклікалі ўсмешкі.

Пан ваявода аднойчы ледзь не патануў у возеры, каб не ашмянскі прыгонны мужык Ян Буяк: ён выцягнуў з вады князя за валасы. Апрытомнеўшы, пан страшэнна абурыўся: як гэта хам пасмеў цягнуць яго за валасы. Загадаў за гэта ўляпіць яму пятнаццаць бізуноў. Але, каб ніхто не сказаў, што найяснейшы пан няўдзячны, дараваў Буяку волю і даў цэлую валоку добрай зямлі. «Але пра бізуны,— казаў ён,— няхай не забывае! Няхай не смее хам дакранацца да ганаровага пана!»

Дык вось, князь Радзівіл пытаўся, чым я буду служыць яму: зброяй ці розумам? Трэба было хутка адказаць. У галаву ўраз прыйшла дзёрзкая думка. Я паказаў на наёмнага ваяку пана Кружылку, які блукаў па зале, павярнуўшыся да князя спінай.

— У мяне няма, вяльможны пан, такіх адгадаваных вусоў, і я не ўмею выстаўляць спіну перад вашай светласцю, як гэты ўлан. Такім чынам, я ў жаўнеры не здатны.

Князь, выслухаўшы мой адказ, засмяяўся. Пан пісар ухмыльнуўся, а чуйны на вуха Малакоўскі хацеў на ўсю моц бегчы да Кружылкі, каб папярэдзіць — не стой да князя спінаю!

Аднак князь спыніў свайго завельмі стараннага намесніка:

— Не руш яго, пане каханку! Ззаду Кружылка няйначай прывабнейшы, чым спераду.

Гэты князеў дасціп адразу абляцеў гасцёўню, пачуўся смех, хіхіканне. Пан Кружылка адразу працверазеў і стаяў чырвоны, як бурак. Вось і надарыўся мне выпадак расплаціцца за начны візіт мядзведзя.

— Добра,— сказаў Караль Радзівіл.— Што да

тваіх вусоў, дык пачакаем, пан Твірбутас, пакуль вырастуць, а розум скарыстаем... Цяпер садзіся з гасцямі і весяліся.

Я пацалаваў руку яснавяльможнаму пану, падзякаваў яму за міласць, пакланіўся пану пісару.

Пасля поўначы ў гасцёўні ізноў пачаліся танцы: паны кружыліся, высока падкідвалі ногі, прысядалі, як надзьмутыя пеўні, дамы плаўна паходжвалі, як зграбныя лебедзі, але князь, які не любіў танцаваць, засумаваў. Я чуў, як ён казаў, гледзячы на ўспацелыя пары:

— Танцы! Што такое танец? Гм... Гэта круціць галаву нагамі.

Цьмяны яго погляд блукаў па зале, пакуль раптам не заўважыў цыгана, які цярпліва стаяў каля сцяны.

— Пане каханку! — узрадаваўся Радзівіл, убачыўшы Якуба Тамарэвіча.— А я ламаў галаву і ўсё думаў, як развесяліць графа Сясіцкага.

І ён, падняўшыся, пapляскаў у ладкі:

— Малакоўскага да мяне! Войцех! Цыган, і ты таксама!

Паводле князевага загаду Войцех пабудзіў графа, што ляжаў на шырокім ложку пад балдахінам, і кланяўся каралеўскаму ганцу:

— Тысяча перапрошванняў! Князь наказаў міласціва прабачыць. Князь моліць пана графа, каб ён адзеўся. Скора пачнецца каранацыя.

Граф Сясіцкі, здзіўлены і спалоханы, сеў на ложку:

— Езус Мар'я! Каранацыя... Якая каранацыя?

— Мой найсвятлейшы пан будзе вянчаць караля,— пачціва паведаміў Войцех.

— Mon dieu[1] ,— заенчыў каралеўскі пасол.— Як ён смее!

[1] Мой бог *(франц.)*.

Дрыжачымі рукамі граф сам, без дапамогі слуг, адзеўся, прывязаў меч і выйшаў услед за Войцехам. У канцы калідора, на адкрытым балконе ўжо стаялі госці.

— Дзе ж князь? — раздражнена спытаўся граф.

— Тут, пане каханку, тут! — радасна азваўся Радзівіл.

На двары зайграла музыка, замільгацелі ліхтары. Каралеўскі пасол стаў поруч з Радзівілам і запляскаў ад захаплення: яго зачаравала відовішча. Людзі, упрыгожаныя каляровымі стужкамі, у квяцістым убранні скакалі і спявалі на плошчы. Бухалі мушкеты і марціры, агні феерверкаў успыхвалі ў небе і рассыпаліся яркімі агеньчыкамі. З паўгадзіны чаргаваліся вогненныя карціны.

Неба на ўсходзе паружавела. Пачало світаць. Князь узняў руку, ускінуў угору хустку. Загучалі трубы, забілі барабаны, загрымелі гарматы. Страшэнны грукат трываў некалькі хвілін.

Раптам усё змоўкла. Натоўп застыў, усе павярнуліся да двухпавярховага будынка. Там, у варотах мядзведжай «акадэміі», замігалі агні паходняў. З'явілася працэсія, якая пад гукі скрыпак і труб рухалася да палаца.

— Mon dieu,— прашаптаў граф.— Ваша светласць, гэта ж звяры! Гэта страшныя лясныя мядзведзі!

Радзівіл ціха засмяяўся і кіўнуў галавой:

— Самыя сапраўдныя мядзведзі, пане каханку.

Мядзведзі ішлі, стоячы на задніх лапах, у некалькі радоў. Усе яны былі абуты ў высокія боты, халявы пафарбаваны ў чырвоны і сіні колеры. На галовах у мядзведзяў красаваліся жоўтыя высокія турэцкія шапкі, падвязаныя раменьчыкамі са званочкамі пад шыяй. У лапах у мядзведзяў свяціліся паходні. Не верачы сваім вачам, граф нерухома сачыў,

як мядзведзі паслухмяна выконваюць каманды сваіх павадыроў. Над шэсцем звяроў пагойдваліся невялікія шаўковыя балдахіны, якія з абодвух бакоў неслі гайдукі.

— Фантастычна, князь! — не таячы свайго захаплення, сказаў пан Сясіцкі.

Натоўп зааплядзіраваў мядзведнікам, голасна вітаў іх. Сціхла пяшчотная мелодыя скрыпак. За апошнім балдахінам паказаўся пабляднелы ад хвалявання твар Квозавага бацькі Якуба Тамарэвіча. Зайгралі горны, сустракаючы ўсход сонца. Цяпер Тамарэвіч зайграў на скрыпцы і наблізіўся да балкона. Радзівіл ізноў узняў руку. Натоўп сціх. Толькі вурчалі мядзведзі, утаймаваныя мядзведнікамі. Князь узяў з падноса, што трымаў Войцех, круглую сярэбраную карону. Пасол караля Станіслава Аўгуста, разгублены, кусаў свае губы.

Князь махнуў рукою на Тамарэвіча:

— Хадзі сюды, цыган!

Трымаючы ў адной руцэ скрыпку са смыкам, у другой — шапку, цыган хутка падняўся на балкон. Радзівіл загадаў:

— Стань на калені!

Цыган укленчыў. Князь не спяшаючыся ўсклаў яму на галаву карону.

— Якуб Тамарэвіч, рэктар мядзведзяў! Ад гэтага дня абвяшчаю цябе каралём цыганоў і мядзведнікаў!

Сонца ўзышло, заспявалі жаваранкі.

Князь, усміхаючыся, павярнуўся да натоўпу:

— Няхай жыве кароль цыганоў і мядзведнікаў!

Людзі задаволена загаманілі. Ізноў затрашчалі мушкеты, неба расквецілася яркім феерверкам, загулі трубы, панскія слугі прабівалі дніпчы ў бочках, паліўся мёд у карцы. Мядзведнікі падхапілі свайго новаспечанага караля Якуба Першага і пачалі пад-

кідаць угору, заводзіць песні. Я ўбачыў паміж мядзведнікаў Квозу, цяпер ужо — цыганскага прынца. Шчасліва выскаляючыся, ён трымаў за повад свайго мядзведзя Бруну. Цыганскі кароль ямчэй замацаваў на галаве карону, на якой былі выразаны словы «Мядзведзь і Мішка — абодва гэтакія», і зноў вярнуўся на балкон да паноў. Нізка пакланіўшыся, укленчыў, пацалаваў князю рукі і самымі ласкавымі словамі дзякаваў яму за такое яго ўзвышэнне і за прыязнасць да цыганскага роду.

— О найсвятлейшы, высакародны, вялікі князь! Дзякуй, дзякуй табе! Мы табе адданыя, мы верныя слугі тваёй княжацкай велічы. А штукарства сваіх бацькоў, дзядоў і прашчураў кладзём да тваіх ног.

Сказаўшы сваю рацэю, смаргонскі кароль цыганоў Якуб Першы ўзняў смык — даў знак. Пяцьдзесят чарнабровых цыганоў, усе ў аднолькавым убранні, выйшлі наперад са скрыпкамі ў руках і зайгралі разам свае палымяныя, з надрывам песні, аддаючы падзяку князю. З балкона сыпануў сапраўдны залаты дождж — Караль Радзівіл кідаў у натоўп грошы. Усчалася нечуваная штурханіна. Прагнасцю загарэліся вочы ў шляхціцаў, але гонар не даваў ім разам з хамуламі кідацца на залатоўкі, хоць не адзін з іх тайком прыцісиуў падэшвай манетку, якая дакацілася да яго.

Мядзведнікі затрубілі, узнялі над каралём цыганоў балдахін і пад гукі музыкі і роў мядзведзяў павярнулі назад.

Граф Сясіцкі, зразумеўшы, што каранацыя была толькі вясёлым фарсам, з палёгкай уздыхнуў. І ўсё-такі, бачачы перад сабою шэсце мядзведзяў, ледзьве мог паверыць, што ён гэта не сніць. А тым часам князь ветліва запрасіў графа і іншых гасцей паглядзець мядзведжую школу. Тут усіх ужо чака-

лі мядзведнікі на чале з каралём Якубам, а поруч з ім стаяў Квоза. Мядзведнікі віталі Радзівіла і яго застольнікаў, нізка кланяючыся ім. Князь узяў пад руку каралеўскага пасланца, паказаў на ўтаймавальнікаў мядзведзяў і сказаў:

— Твая светласць, вось і прафесары маёй смаргонскай «акадэміі».

— О дарагі князь,— з душой сказаў граф,— ніколі не забуду гэтай незвычайнай і, напэўна, адзінай на свеце школы навучання мядзведзяў.

— Так, пане каханку,— горда пацвердзіў Радзівіл.— Зрабіцца ўмелым мядзведнікам або камедыянтам не лягчэй, чым стаць ксяндзом ці лекарам.

Госці, аглядаючы таямнічую «акадэмію», дзе адукоўваюць мядзведзяў, не пераставалі ахаць ад здзіўлення. Яны даведаліся, што тут мядзведзяў, як маладых шляхціцаў, вучаць лічыць, танцаваць, далікатна сябе паводзіць. Якуб Тамарэвіч паказаў, як праводзяцца першыя ўрокі навучання мядзведзяў. У невялікім флігелі ў пакой, адгароджаны рашоткай, увялі маладога мядзведзя. Той вурчаў, шкрабаў кіпцямі, але два здаровыя цыганы трымалі яго на ланцугу. Ланцуг замацавалі да жалезнага кольца ў сцяне. Тады адзін цыган схапіў мядзведзя за заднюю лапу, а другі лоўка надзеў на яе драўляны чаравік. Тое ж зрабілі і з другою лапаю. Абуты мядзведзь няёмка таптаўся, спрабаваў, пацягваючыся і хапаючы пярэднімі лапамі, скінуць чаравікі. Але яму гэта не ўдавалася — чаравікі былі зашпілены жалезнымі спражкамі. Нарэшце мядзведнікі пакінулі мядзведзя.

— А цяпер, шаноўнае панства, увага! — сказаў Якуб.

Мядзведзь паспрабаваў стаць на ўсе чатыры лапы, але адразу, як бы хто джыгнуў яго, падскочыў і стаў на заднія лапы ў чаравіках. Зайграла вясёлая

музыка: труба, скрыпкі і бубен з бразготкамі. Здавалася, мядзведзь прысядае пад музыку. Музыка змоўкла, і мядзведзь перастаў тупаць, стаміўся.

Што за чарадзейства?

— Тайна, пане каханку, тут невялікая,— сказаў князь.— Ну, Якубе, ты сам растлумач панам.

Цыганскі кароль пакланіўся Радзівілу, загадаў вывесці мядзведзя, а замест яго запрасіў гасцей. Зацікаўленыя, усе ўваліліся ў пакой.

— Чорт ведае што, дарагі князь! — крыкнуў граф, падымаючы, як мядзведзь, свае ногі.— Мае падэшвы скварацца!

— Вось у гэтым уся тайна, найсвятлейшы пан,— весела засмяяўся Тамарэвіч.— Гэта быў першы ўрок нашаму кудлатаму школяру. Гляньце, падлога жалезная.

— Праўда!

— Да д'ябла!

— Знізу мы награваем падлогу. Надзяём на заднія лапы зверу драўляныя чаравікі. Раз не можа дакрануцца пярэднімі лапамі да моцна нагрэтай падлогі, хочаш не хочаш, а мусіш вытанцоўваць на задніх. Скача пад нашу музыку.

— Зразумела! Напачатку мядзведзі вельмі дзівяцца: маеш чатыры, а мусіш скакаць на дзвюх лапах,— зарагатаў Пане Каханку.— А потым варта калматаму ў любым месцы пачуць знаёмую музыку — адразу ідзе ў скокі. На жаль, не пра ўсіх маіх падданых гэта скажаш.

Здзіўлялі гасцей і іншыя дзівосы смаргонскай «акадэміі»: мядзведзіца ў жаночым адзенні калыхала ў калысцы малое медзведзяня; у доўгіх вылдзеўбаных ночвах большыя медзведзяняты вучыліся куляцца цераз галаву... У другім канцы будынка рыкалі мядзведзі, запрэжаныя ў вазы. Адзін мядзведзь, лежачы на спіне, пад наглядам мядзвед-

ніка-беларуса жангліраваў — на лапах вярцеў бочку. Два старыя мядзведзі, адзетыя драбантамі, біліся вызубленымі мячамі.

Надышла пара снедаць, дык мядзведзь падышоў да вяроўкі, што звісала ад звана, і пачаў тузаць яе. Пяць разоў ударыў звон.

Князь Караль Радзівіл у той час пільна аглядаў Бруна, якога прывёў Квоза. Па камандах Квозы Бруна лоўка вытвараў рознае штукарства. Але паны ўгледзелі на твары ў Радзівіла сінія плямы, якія раптам выступілі ад хвалявання, у вачах у яго паплылі слёзы. Князь махнуў рукою:

— Забяры яго, цыганок! Твой мядзведзь крануў маё сэрца, нагадаў мне Баруту...

Квоза, збянтэжаны і разгублены, павёў Бруну.

А гісторыя з Барутам была многім вядомая. Ах! Быў у князя Радзівіла ў Нясвіжы мядзведзь — над усімі мядзведзямі мядзведзь. Гэтага яго пестуна нездарма ў Польшчы чортам празвалі. З малых гадоў Барута быў спешчаны горш, чым якое хлапчанё-адзіначка. Знаў ён усіх людзей у наваколлі, свабодна разгульваў па гарадку, утвараў розныя штукі з усімі карчмарамі і гандлярамі. Уявіце сабе толькі гэтага нягодніка! Ён разумеў, чаго варты яго жартачкі. Разявіўшы сваю пашчу і ківаючы кудлатаю галавою, ён паспытае то адзін, то другі гасцінец, якія яму хуценька падавалі, барані бог бяды,— мяса, мёд, лізаў галовы цукру. Гэты Барута падыходзіў да кожнага, хто толькі пакліча яго па імі. Ён танцаваў, як прыдворны кавалер, здымаў шапкі ў князевых гасцей, прыслужваў каля стала: умеў памяняць талерку. Асабліва ахвотна ён мяняў тыя талеркі, на якіх яшчэ было поўна яды,— гэта ён адразу з'ядаў са смакам.

Гэтага веселуна ў кажуху вельмі ўпадабаў пан

Тызенгаўз[1], які неяк наведаў Нясвіж. Зачараваны Барутам, ён захацеў скарыстаць яго ў сваім прыдворным балеце.

Пане Каханку, калі Тызенгаўз папрасіў аддаць яму Баруту, рэзка сказаў:

— Найсвятлейшы пан! Аддаць Баруту? Не! Лепш аддам табе староства, чым прадам мядзведзя мядзведзяў.

Дарэмна прысылаў паслоў, прасіў. Не крануў князя і такі аргумент — італьянец Пецінеці, натхнёны расказамі Тызенгаўза, прыдумаў Баруту балетныя сцэны. Радзівіл не аддаў мядзведзя. У балеце, што паставіў Пецінеці, ролю мядзведзя выканаў прыгонны хлопчык, адзеты ў мядзведжую шкуру.

Аднаго рання Нясвіж спахапіўся, што не відаць Баруты, які так свабодна шпацыраваў па горадзе. Можа, яго спакусіла якая маладая мядзведзіца, можа, зашыўся ў лясную нетру на зімовы сон, можа... Хто ж, нарэшце, ведае. Вялікія грошы даваў князь Радзівіл таму, хто знойдзе Баруту, але нічога з таго не выйшла. Не знайшлі мядзведнікі нават сярэбранага ашыйніка мядзведзя з гербам Радзівіла. Даляцела чутка, што нібы і Тызенгаўз паслаў сваіх людзей на пошукі Баруты. І казалі, што яго асочніку[2] Канонку ўдалося натрапіць на Баруту і перадаць мядзведзя Тызенгаўзу. «Але не ўзяў за руку, не кажы — злодзей. Так, так, панове мілыя,— сказаў князь, дазнаўшыся пра такія чуткі. І ўздыхнуў: розныя людзі мелюць языком, не ведаеш, каму верыць. Ёсць такія, што і з мухі слана зробяць, але пан Тызенгаўз любіць са слана муху зрабіць».

---

[1] Антоній Тызенгаўз (1733—1785) кіраваў каралеўскімі эканоміямі на Беларусі і ў Літве, заснаваў у Гродне тэатр.
[2] Асочнік — панскі лясны наглядчык.

Па калідорах мядзведжай «акадэміі» прагучала пяць удараў: мядзведзь другі раз біў у звон. Князь загадаў Войцеху прачыніць яшчэ адны дзверы, і госці ўбачылі невялікую залу. Вакол сталоў і каля сцен стаялі мядзведнікі, камердынеры, брамнікі, гайдукі, вазакі і іншыя слугі. Кухты [1] ў высокіх белых каўпаках падносілі місы з гарачым духмяным крупнікам. На сталах ужо была расстаўлена розная закусь, у кубкі наліта віно.

Князь Радзівіл падышоў да аднаго стала, узяў кубак віна:

— Гэтыя сталы, мілыя панове, застаўлены маім верным слугам і мядзведнікам. Я трымаюся старой мудрасці — хто не есць, той не робіць. І сапраўды, пане каханку, хіба можа добра служыць слуга, які здыхае з голаду?

Слугі тройчы пракрычалі князю «Віват!». Радзівіл дакрануўся губамі да кубка і прамовіў:

— Вада жывым! Віно мёртвым!

Усе яўна разгубіліся, пачалі шаптацца: князь пераблытаў, павінен быў сказаць наадварот. Тады князь паказаў на стол, на якім была смажаная рыба.

— Пане каханку! Як вам убіць у галаву, што мёртвыя рыбкі любяць плаваць у віне?

Задаволены сваім жартам, нясвіжскі магнат пакінуў сваіх слуг і ласкава запрасіў гасцей вярнуцца ў палац: сама пара яшчэ раз пакланіцца святому Бахусу.

А на гарадской плошчы княжацкія слугі выбівалі сякерамі днішчы ў новых бочках. Ізноў пачалося ігрышча, агульная весялосць. Блукаючы па плошчы, я ў натоўпе сустрэў пана вознага, за ім ішлі стомленыя драбанты. Пан Жыткевіч гучна па-

---

[1] Кухта — памочнік кухара.

зяхаў, далоняю прыкрываючы рот. Пагладзіўшы вусы, ён ціха мне пакланіўся і пайшоў, ледзьве валочачы ногі.

У Смаргоні бушуе свята... Ах, што тут дзеецца! Увесь гарадок бурліць, кіпіць, свет развальваецца на кавалкі,— з воклічамі тупаюць танцоры ботамі па бруку, вушы глухнуць ад флейтаў, цымбалаў і барабанаў... «Нех жые князь! Нех жые!..»

Пад старымі ліпамі каля касцёла тоўпяцца людзі, звініць смех. Мільганула цёмная Квозава постаць. Але, гэта ён. На доўгай скуранай вяроўцы, якія так прыгожа ўмеюць плесці смаргонскія рымары, прывязаны Бруна. У яго на шыі новы бліскучы нашыйнік. Мядзведзь пацяшае людзей, Квоза задаволены, любоўна паляпвае свайму выхаванцу па калматай спіне. Я яму памахаў рукою, ён усміхнуўся, паказаўшы свае белыя зубы.

Убачыў я тут і пана Кружылку. Ён, відаць, выйшаў на вуліцу асвяжыцца. Паказваю на яго Квозу, вочы ў цыгана заблішчалі. Але хутка ён, нібы нічога не бачыў, адвярнуўся і звонкім голасам пачаў выкрыкваць:

— А зараз, паважаныя, панічы дарагія, вы ўбачыце новае ўмельства наймудрэйшага Бруна! Бліжэй, даражэнькія мае, бліжэй, каб усе бачылі і чулі!

Цікаўныя стоўпіліся, выцягнуўшы шыі, штурхаючы адзін аднаго. Між імі праціснуўся і пан Кружылка.

Квоза самым пачцівым чынам пакланіўся мядзведзю, як чалавеку, створанаму самім богам, і запытаўся ў яго:

— Бруначка, ці пакажаш ты шаноўным гасцям, як ашмянскі канонік Вашкевіч вячэрню правіць?

Мядзведзь устаў, выпнуў зад, шырока развёў паднятыя лапы і зароў нізкім басам.

Які смех пачуўся!

Скоса глянуўшы на капітана, Квоза запытаўся ў мядзведзя:

— Бруна, кароль мядзведзяў! Ці пакажаш ты, як за трыдзевяццю морамі харужы пан Жылка золата грабе?

Людзі пераглянуліся між сабою, вочы ва ўсіх павярнуліся да пана Кружылкі.

Мядзведзь засоп, прысеў і пачаў грэбці пад сябе зямлю.

Усе захіхікалі, пачалі падштурхваць адзін аднаго локцямі, а пан капітан аж збялееў ад злосці.

Нібы не зважаючы на смех, Квоза яшчэ ямчэй падаваў каманды Бруну:

— Мілы мой! А цяпер пакажы, як едзе на вайну яго сын, адважны пан Жылка!

Мядзведзь да яшчэ большай пацехі натоўпу ўхапіўся за жывот і падаўся задам да кустоў.

Грымнуў шалёны рогат, і яго перакрычаў раз'юшаны голас пана Кружылкі:

— Калючыя ружы, бычыныя рогі! Як ты, брудны паганец, пасмеў кпіць з касцёла і шляхты! Заб'ю, насмерць заб'ю!

Людзі жахнуліся: на сонцы бліснула вострае лязо капітанавага мяча.

## Гульня лёсу

Калі раз'ятраны пан Кружылка выхапіў меч, людзі адхінуліся ад яго, цесна скупіліся, каб заслапіць цыгана, Квоза мігам скарыстаў гэта: толькі пяткі яго залескаталі за цвінтаром касцёла, а следам за ім, рыкаючы і валюхаючыся, уцёк і мядз-

ведзь. Пану Кружылку заставалася толькі смачна вылаяцца, усунуць меч у ножны і паспяшацца ў палац.

Як толькі ён знік, людзі адразу павесялелі. Як марскія хвалі, забурліў смех, пасыпаліся жарты... А калі з-за каменнай сцяны касцёла блІснулі чорныя хітрыя Квозавы вочы, людзі радасна закрычалі, пачалі падкідаць угору шапкі. І мой, што некалі пакамячыў капітан, капялюш таксама паляцеў аж да вяршыні ліпы. Квоза Тамарэвіч спрытна адпомсціў Кружылку; яго кепікі доўга будуць успамінаць і дзяды, і іх унукі.

Не дасягнулі Квозавы жарты толькі да вушэй князя, які стаміўся ад банкетавання. Урачыстымі стрэламі з гармат праводзілі графа ў Вільню, а сам князь са світай і гасцямі — парывістым пісарам, яго светласцю Пацам і лідскім маршалкам Нарбутам назаўтра шумна таксама пакінуў Смаргонь, накіраваўшыся ў Відзы на паляванне. На іх ад'езд таксама грымелі гарматы, гулі званы і трубы, людзі беглі ўслед за карэтамі, а ў дарожны пыл сыпаліся залатоўкі.

Развітваючыся, Радзівілу нізка кланяўся цыганскі кароль Якуб, узвышаны і шчодра ўзнагароджаны мядзведнік. Стары Тамарэвіч горача махаў рукою не толькі князю: у канцы княжацкай світы ехаў Квоза. На возе сядзелі яго чарнявыя дзеці і прыгажуня жонка Марыюля. Паводле загаду Радзівіла Квоза з Брунам пераязджаў у Нясвіж.

«Сын з Якубавым вучнем будзе добрым гаспадаром мядзведзяў у маім маёнтку,— гаварыў князь і запытаўся ў караля цыганоў: — А што рабіў твой Квоза раней, пакуль не стаў мядзведнікам?» — «Нічога такога, твая светласць,— адказаў Тамарэвіч.— Дапамагаў мне — прычэсваў злоўленых мядзведзяў і чысціў ім, каб аж блішчалі, анучкаю зубы».

Сярод дворных, што суправаджалі князя на паляванні, быў і пан пісар. Ён даручыў апекаваць мяне ганароваму намесніку Малакоўскаму і панне Анэлі, ды загадаў, пакуль вернецца ў Смаргонь, каб былі ўпарадкаваны рэвізійныя вопісы маёнткаў. Работы было цераз галаву, і час бег хутка; каб не ўспаміны пра Варніне, я быў бы нават шчаслівы. Але трэба было жыць, як набяжыць.

Аднойчы раніцай з акна канцылярыі ўбачыў я воз, запрэжаны валамі, што стаяў непадалёку. Адразу пазнаў — той самы, з клеткаю, у якой везлі звязанага Квозу. Разам з Амбросам сядзеў возны пан Жыткевіч. У клетцы брахалі сабакі ўсялякай масці і ўсялякага росту. Здзіўлены, я глядзеў на іх. Возны заўважыў мяне і саскочыў з калёсаў:

— Клянуся капытамі чорта, гэта пан Твірбутас!

Спрабаваў пагладзіць свае вусы, але рукі дрыжалі.

— Дзень добры, пан возны! Куды кіруецеся з такой гаваркой кампаніяй?

Пан Жыткевіч журботна паківаў галавою. Адзін вус тужліва звіснуў.

— Не смейся з сабак, пане! Ведай, што сабака сабаку не чалавек. Ён чалавеку большы друг, чым нават родная жонка. Жонка, пачуўшы ў доме разбойніка, ад перапуду маўчыць і лезе пад ложак, а сабака брэша і кідаецца на яго.

Такая сабачая філасофія мяне пацешыла, і я падумаў: часам кемлівы розум месціцца пад шапкаю жартаўніка. Возны павёў рукой па вусе, сабакі гаўкалі ў клетцы, вазак павольна пасмоктваў люльку, валы хвастамі адганялі дакучлівых мух.

— Дык куды падаліся, пан возны?

Жыткевіч незадаволена зрабіў крывую міну.

— Я сёння не возны, а кат, пане! — рэзка адказаў, працягваючы руку да другога вуса.— Я толькі

што з экзекуцыі: павесіў княжацкага сабакара, бедака Урбана. А цяпер еду, каб высцебаць сабаку Трызора.

Я здрыгануўся: тут не жартачкі. Запахла пяньковай вяроўкай. Пан Жыткевіч збянтэжана пачухаў падбародак:

— Уся бяда ў тым, што я не маю пэўнасці — ці правільна я ўсё выканаў. Можа, трэба было зрабіць наадварот: сабаку павесіць, а Урбана адлупцаваць.

Я не зразумеў, ці жартуе гэты пан, ці пра жахлівае расказвае. Нарэшце яму ўдалося як след направіць вусы. Закруціўшы ўгору іх канцы, ён, паламаўшыся трохі, пачаў расказваць:

— Не думай, што я з тых, якія, калі што добрае,— дык гонар мне, а калі што ліхое,— то гэта не я. У Відзах, як табе вядома, яго светласць наладзіў паляванне. А захацеў ён пахваліцца перад гасцямі сваімі жартамі, дык загадаў выпусціць з лесу наўмысна прывезенага дзеля гэтага зайца. А ў зайца на спіне сядзеў мужык. Не, не жывы,— з паперы зроблены. Тады князь загадаў таму Урбану, каб услед за зайцам пусціў харта Трызора. На спіне ў сабакі, твая мосць, быў улан кардонавы з пікаю... Заяц з мужыком як ашалелы бег ад сабакі з уланам. Во смешна было! Усе пляскалі ў ладкі. Але скора князь нешта наморшчыў лоб: сабака, нязвыклы насіць хоць што на сваёй спіне, не столькі зайца даганяў, колькі прыладжваўся, адварочваўся, каб як-небудзь ухапіць зубамі і скінуць улана са сваёй спіны. Так дурань і згубіў з вачэй таго зайца.

Возны ўздыхнуў і ціха, нібы сам сабе, прамармытаў:

— Кажуць людзі: сабачае шчасце. А сабачае шчасце ў тым, што ён не ведае натуры свайго гаспадара. Бывае, сабака толькі вільне хвастом, а ўжо бяда...

У мяне не хапіла цярплівасці дачакацца канца гісторыі, і я запытаўся:

— Дык што зрабіў князь, калі сабака згубіў зайца?

Пагладзіў свае вусы пан Жыткевіч, ізноў пачухаў падбародак:

— Заяц уцёк і, прысеўшы за карчом, так смяўся, пакуль у яго губа не разарвалася. Князя, зразумела, узяла злосць. Вытрашчыўшы свае вочы, ён крыкнуў: «Вознага! Жыткевіча да мяне!» Я прыбег, умакрэлы ад поту, пакланіўся, чакаю. «Сабакара і сабаку пакараць! Аднаго павесіць, другога адсцябаць! Сто бізуноў! Такі сорам, пане каханку!» — «Каго, ваша мосць, павесіць, каго сцябаць?» — пытаюся я, а сэрца калоціцца: ненавіджу я гэтых цырымоній, ох як ненавіджу. «У цябе самога, пане каханку, ёсць галава!» — крыкнуў князь, прышпорыў каня і памчаўся ў поле.

Павесіў Урбана, бо хорт у князя вельмі дарагі. Трэба вешаць — нічога не зробіш. У князя ёсць на тое права — jus qladii [1].

— Бывай, пане возны! — сказаў я.— Жахлівыя твае словы.

Возны пацісnуў плячыма, пагладзіў свае вусы, але вочы апусціў.

— Сесці верхам на мядзведзя, пане Твірбутас, лягчэй, чым злезці з яго. Бывай!

Мы паднялі ветразі і паплылі кожны сваім курсам.

Так мне здавалася. Відаць, я дагэтуль кепска ведаў вознага. Мой ветразь неўзабаве павіснуў, сплюшчыўся — я пачуў, як кліча мяне пан Жыткевіч:

---

[1] Права феадала забіць прыгоннага *(лац.)*.

— Пане Твірбутас! Во дурная мая галава! Гэта ж дурная мая галава. Забыўся на самае галоўнае, як сказаў аднаму пану ксёндз пасля шлюбу: расплаціцца за вянчанне! Ах, пане Твірбутас! Сабака загубіў не толькі сабакара Урбана. На паляванні загінуў і знакаміты віленскі пан Пац. Зваліўся на зямлю, як дубовая шафа, і не ўстаў. Цяпер у жалобе і тузе па ім вялікія паны.

Навіна сумная і нечаканая. А няшчасце з панам Пацам здарылася ўсё з-за дзікіх штук мітуслівага князя.

Як зайшло сонца, Пане Каханку з усяе сілы пачаў дзьмуць у свой паляўнічы рог, падаючы знак: скончыць стральбу і сабраць здабычу.

Потым паляўнічых чакаў багаты стол з княжацкім частаваннем.

Галодныя госці, сабраўшыся ў раскошным паляўнічым замку, адразу зазыркалі па сталах. Прыбыўшы разам з прыдворным абозам і слугамі, княжацкі оберкухмісцер выдумшчык Ганс Бахпульвер і на гэты раз паказаў сябе. Нельга было абыякава глядзець, як вымуштраваныя гайдукі пачалі несці і ставіць на сталы нябачаныя стравы. Спярша паставілі вялікія місы, падобныя на арліныя гнёзды. Госці пачалі глытаць сліну: у гнёздах ляжалі вялізныя яйцы. Гэта адна з кухаравых фантазій: з некалькіх дзесяткаў яец ён узяў і зляпіў жаўткі ў адно вялізнае яйцо. Потым гэты камяк зварыў у пухіры, а зверху абліў бялком, натоўк шкарлупіны, размачыў яе ў воцаце і тою кашкаю пэндзлем абмазаў яйцо. Колерам яно было як сапраўднае. Госці ўсё стараліся выведаць сакрэт, як яно робіцца. А востры на язык відзаўскі панок сказаў:

— Панове! Лепш не дапытвайцеся таго рэцэпта. Хто гэта захоча падаваць гасцям такія вялікія яйцы?

Не кажыце, многія з нашай шляхты хутчэй хацелі б адным простым курыным яйцом участаваць аж траіх гасцей.

Смех перарываўся новаю кухарскаю выдумкаю. На стол паставілі кошык, аздоблены сярэбранымі ружамі. З яго выскачыў карлік у раскошных строях і пачаў кідаць гасцям заморскія цукеркі. Ён горда разгульваў па стале між міскамі і талеркамі, далікатна кланяўся панам, пасылаў пацалункі.

Калі застольнікі перасталі ўжо цікавіцца ім, карлік узяў паляўнічы нож, замахнуўся і ўсадзіў яго ў яйцо, якое было большае за самога карліка.

— Я прагаладаўся! З'еў бы чаго,— запішчаў чалавечак галаском мышаняці.

Гэта сцэнка ўсім спадабалася, грымнулі воплескі. І да князя, змучанага падарожжам і паляваннем, вярнуўся гумор. Зазвінелі кубкі, палілося віно...

У добрым настроі князь Караль Радзівіл зноў разгарэўся і, як заўсёды, пачаў хваліцца Пацу сваімі незвычайнымі прыгодамі.

Госці пачалі прыслухоўвацца: князь расказваў пра прыгоды на сваіх паляваннях. Час ад часу ён таргаў локцем пісара Літвы, які ўжо падрэмваў, або дакранаўся да яго калена:

— Пане каханку, Пац! Ці чуеш ты мяне?

— Чую, пане браце! Маю гонар слухаць. Мялі далей.

Князь, уехаўшы ў каляіну, не спыняўся на паўдарозе:

— Дык вось, пане каханку! Прыкладна чатыры гады таму назад было так. Я паляваў увесь дзень. Настраляў звяроў усялякіх. Стаміўся. Іду, іду сабе і сваім вачам не веру — такі прыгажун алень перада мною стаіць. А мая парахаўніца пустая. А ні драбінкі. Хоць воўкам вый: такі шанц страціць!

— Pauvre prince! [1] — лісліва ўздыхнуў адзін з гасцей.— Мы разумеем стан тваёй міласці...

— Я ўспомніў — Бахпульвер паклаў мне вішань. Добра дапамагаюць ад млосці. Набіў костачкамі стрэльбу і, прыцэліўшыся, стрэліў. Трапіў прыгажуну аленю проста ў лоб. Алень захістаўся, але хутка ачуняў і ўцёк.

— Ах, ах, уцёк! Такі алень уцёк...— спачувальна загаманілі навокал.

— Бачыш, уцёк. А я думаў, што ад вішнёвай костачкі скапыціўся адразу на месцы,— прамармытаў Пац, не выпушчаючы з рук кубак.

— Уцёк, пане каханку,— вельмі сур'ёзна паўтарыў князь.— Доўга той алень трывожыў маё сэрца. А потым, як ведаеце, дзякуючы каралю, я паехаў у далёкі свет [2]. Пабыў у Нямеччыне, Францыі, Венгрыі, Італіі, на англійскай зямлі. Праз колькі гадоў вярнуўся назад. Выбраўся на паляванне ў гэтых краях. Сігаю па даўно вядомых паляўнічых сцежках, і — о святы Губерт! [3] — ізноў перада мной выскоквае прыгажун алень. Я праціраю вочы — той самы!

— Пан мілы,— памахаў галавою раздражнены Пац,— мані, але не цераз меру! Мы ж усе тут мысліўцы [4]. Як ты мог пазнаць, што гэта той самы алень?

— Пане каханку! — весела пацёр рукі князь.— Зусім лёгка. На лбе ў таго аленя, паміж велічных рагоў, расла прыгожая вішня, а на яе галінах было

[1] Бедны князь! *(франц.)*
[2] Князь Караль Радзівіл быў у выгнанні і тры гады ездзіў па розных краінах Еўропы.
[3] Святы Губерт лічыўся апекуном палявання.
[4] Паляўнічыя.

поўна спелых вішань. Памятаеш, вішнёвай костачкай я ў яго тады стрэліў? [1]

— Божухна! — ухапіў сябе за галаву пан пісар Літвы.— Толькі не кажы, князь, што зараз пададуць кампот, згатаваны з гэтых вішань.

Усе ўзяліся за жываты, рагаталі да слёз.

— Ты, святы ойча,— загаварыў пан Пац да святара, які сядзеў насупроць,— як толькі пан гетман ізноў пачне расказваць незямную гісторыю, будзь ласкаў, пражагнай яго.

— Езус Хрыстус! — пужліва азваўся канонік.— А ці не здарыцца тады так, як з мужам Лукашавічовай?

Князь, пачуўшы словы каноніка, зацікавіўся:

— А што там, пане каханку, адбылося з тым мужам?

Канонік пачаў перабіраць сваімі кароткімі ножкамі:

— А нічога асаблівага, княжа. Праводзячы свайго мужа ў дарогу, маладзіца, каб шчасціла яму, узяла ды пражагнала яго...

Усім захацелася паслухаць, што было далей.

— Ну, ну? І што там здарылася? — загаманілі з усіх куткоў.

— А тое, што ўмомант ад пана Лукашэвіча засталася толькі жменька попелу. А на сядзенні ў брычцы — заручальны пярсцёнак.

— Чаму пярсцёнак застаўся, калі ўсё згарэла?

Ашмянскі канонік здзівіўся:

— Дабрадзей! Пярсцёнак жа пасвянціў ксёндз у касцёле, вянчаючы.

---

[1] Гэтую гісторыю пачуў пазней барон Карл Фрыдрых Еранім фон Мюнхаўзен, які падарожнічаў па Літве, і пераказаў яе як сваю. А трэба заўважыць, што барон Мюнхаўзен сціпласцю не вызначаўся, а шмат незвычайных прыгод і «Пане Каханку» прысвоіў сабе.

— Ну і язычок у цябе, праасвяшчэнства, пане Вашкевіч! — аж свіснуў Горбат з Вайчунаў.

— Не бойся, не такі, як у тваёй мосці,— адрэзаў, моцна хістаючыся, праасвяшчэнства.— Ці не табе сказалі на тым балі: «Мой мілы, калі ясі, асцерагайся, не прыкусі сабе язык».

Усе весела засмяяліся, а пан Гінтаўт абяцаў каноніку не забыць гэтага.

— Дык не забудзь жа і другое,— усміхнуўся, задаволены сваёй перамогай, канонік.

— Пра што не забыць? — кінуўся Горбат.

— Што я магу і цябе перахрысціць...

Радзівіл цешыўся разам з усімі, але відаць было, што яго больш забаўлялі свае жарты-кепікі. Ён павольна выпіў кубак віна і зірнуў на найбольшага манюку ў ваяводстве — на пана Лявона Бароўскага. Той заўсёды не толькі падтакваў усяму, што навыдумляў яго светласць, але яшчэ мог і дабавіць.

— Княжа! — усхапіўся Бароўскі.— Можа б, ты расказаў пану Пацу пра новы спосаб паляваць на мядзведзяў?

Панок Бароўскі паказаў рукою на сцены ў зале, якія асвятлялі кандэлябры. Сцены былі застаўлены і ўвешаны чучаламі звяроў, драпежных птахаў. Глядзелі шклянымі вачыма нежывыя кудлатыя галовы ласёў, аленяў, ваўкоў, якія высунулі скрозь іклы свае крывава-чырвоныя языкі. Уражанне падгравалася яшчэ фігурамі пярэваратняў. Мядзведзі з выгляду як жывыя, лісы неслі курэй, арлы распасцерлі свае магутныя крылы.

Пан Лявон Бароўскі пакорліва загаварыў да князя:

— Твая светласць, раскажы хоць у двух словах, як злавілі гэтае страшыдла.

Любімец віленскага ваяводы паказаў на чучала мядзведзя, якое яшчэ і цяпер магло напалохаць чалавека.

— Што ж,— як сыты кот, замуркаў князь.— Было, было... Мой спосаб зусім просты. Я загадаў стальмахам зрабіць некалькі двухколак з вострымі, бляхаю абабітымі аглаблямі. Няхай, думаю, за гэта возьмуць колькі хочуць, а будзе дзёшава. Двухколкі паставіў у лесе паўкругам, а аглоблі змазаў мёдам. Ласуны мядзведзі, не стрымаўшыся, прыходзілі палізаць мёду. Стараліся дастаць языком мёду як мага больш, а вострая і слізкая аглобля ўсё далей уторквалася ў мядзведзя, пакуль яе канец не вылазіў праз яго зад. Вось тады схаваныя да часу мужыкі падхоплівалі абодва канцы аглоблі і выносілі мядзведзя. Потым на двухколках прывозілі іх у палац і там здзіралі шкуры. Нават у той дажджлівы год, калі пчолы далі малавата мёду, і то з дзве тысячы мядзведзяў я злавіў.

— Прабач, ты памыліўся. Дзве тысячы і аднаго, княжа,— далікатна паправіў ваяводу Бароўскі.

— Пане каханку! — нават адкінуўся ў крэсле Радзівіл.— Я і забыўся, праўду ты кажаш. Апошні — вось гэты волат! Я загадаў яго чучала паставіць вось тут. Можаце рукою яго памацаць, шаноўны госцейка пане Пац... За ваша дарагое здароўе!

Пан Пац паставіў свой апарожнены кубак і стаў чухаць валасы на галаве.

— Пане, пане...— госць ледзьве вымаўляў словы.— Ну і доўгі твой язык... Але я спадзяюся, што не траплю ў рэестр твайго камедыянта. Ды там ужо, відаць, няма і месца.

— Міласцівы пан Бароўскі! Што яго светласць меў на ўвазе, згадаўшы спытак камедыянта? — запытаўся канонік.

Паўглядаўшыся на салодкія лікёры, настойкі, мёд, гарэлку, што ліліся ракой і ўліваліся ў тоўстыя жываты, на сківіцы, што няспынна малолі, і на языкі, якія распусціліся, як цыганскія пугі, пан Бароўскі крыва ўсміхнуўся.

— Блазен пана ваяводы Вінцусь на ўцеху пану складае спіс. У тоўстым, абцягнутым валоваю скураю сшытку ён вельмі старанна запісвае глупства князевых прыяцеляў, разумных паноў. Мілы князь перагортвае гэты спіс і смяецца ад душы. Аднойчы князь сустрэў у Вільні мадзьярскага купца, даў яму грошай, каб той прывёз яму з Венгрыі дзесяць бочак віна і сотню коней. Выканаўшы гэту вялікую і цяжкую работу, мілы князь вырашыў адпачыць, паклікаў да сябе блазна і пацікавіўся: «Хто апошнім часам трапіў у твой знакаміты рэестр?» — «О! — весела пацёр рукі камедыянт.— Сёння ў маім венцеры вельмі вялікая рыба! Такой яшчэ не было».— «Ну? — пытаецца мілы пан.— Хто ж?» — «А твая светласць!» — «Як гэта так»,— аж падскочыў ваявода. «А так,— адказаў Вінцусь.— Ніхто не мог прыдумаць большай дурноты, чым твая мосць».— «Якой дурноты?» — «Такой, што паслаў у чужы край валацугу мадзьяра з вялікаю кучаю грошай».— «Маўчы, пустабрэх! Венгру я веру! — узлаваўся князь.— Пабачыш, ён вернецца, усё зрабіўшы сумленна. Таму хутчэй выкрэслівай мяне з рэестра, доўбня ты!» — «О пане,— адказаў шэльма-блазен.— Я пачакаю, пакуль мадзьяр той вернецца. Тады закрэслю ў рэестры тваю светласць, а ўпішу яго!»

Госці, паслухаўшы вясёлую сварку, паднялі чаркі за здароўе абедзвюх светласцей. Пан Лявон Бароўскі не сцярпеў — укінуў і свае тры грошы:

— З-за гэтых мядзведжых шкур светлы пан Ка-

раль ледзь не загінуў, хай бог крые! Мала хто пра гэта ведае. Наладавалі мы карабель мядзведжымі шкурамі і морам мерыліся давезці іх да Капенгагена і там прадаць. Але раніцаю ўзнялася страшэнная бура. Хвалі высозныя, вецер вые, канец свету. Вось карабель наш прыбіла да каменнай скалы, што навісла над морам. Мы зразумелі: амін! Укленчылі, каб прамовіць малітву перад сконам, адзін толькі князь не разгубіўся. Лаючыся па-італьянску і па-турэцку, ён падскочыў да мачты і моцнымі сваімі плячыма прыціснуў яе да скалы. Трымаў ён так карабель, пакуль бура не аціхла.

Пачуліся воплескі.

— Але якія страты я меў, пане каханку, якія страты! — падзякаваўшы гасцям за вітанні, забедаваў князь.— Шкуры прамоклі, трэцюю іх частку мусіў выкінуць у акіян. Так яшчэ ніколі не было.

— Яшчэ не было так, каб не было як! Не правядзеш мяне, пане! — ускіпеў Пац: ён быў перакананы, што ўсе гісторыі расказваюцца для таго, каб абдурыць яго.

Тады князь, жагнаючыся, расказаў, што ў Венецыі ён ажаніўся з зялёнай сірэнай Аквіляй.

Пан Пац хацеў заткнуць вушы. Яму перашкодзіў прыяцель князеў Бароўскі:

— Помню, помню! Гулялі мы вяселле ў Венецыі цэлы месяц. Магу пакляцціся,— запэўніваў шляхціц.— Пашэнціла князю з тым шлюбам. Не шкадую і я,— ён сціпла апусціў вочы.— Усіх нашчадкаў, якіх князь дачакаўся ад сірэны панны Аквілі, падараваў мне. Гэта было, шаноўны пан Пац, болей за сотню тысяч селядцоў. Я ўтаргаваў за іх шмат грошай. Купіў сабе карэту і рысака, на якім сёння на паляванне прыскакаў.

Пан Пац падскочыў з крэсла. Яго азызлыя сінебардовыя шчокі трэсліся.

— Езус Хрыстус! Што тут павінны выцерпець мае вушы! Як кажуць: глухі чуў, як нямы гаварыў, што сляпы бачыў, як бязногі пабег. Я сябе, вельмі шаноўны князь, каб цябе сабакі з'елі, лічыць дурнем не маю гонару!

Ніхто не паспеў войкнуць, як пан Пац схапіў з міскі вялікае яйцо, узняў высока і трахнуў ім па галаве пану Лявону Бароўскаму. Той адразу пляснуўся пад стол. Бразнулі кубкі, затрашчала бітая пасуда.

— Княжа! — усё больш вар'яцеў Пац.— Я патрабую сатысфакцыі! Выклікаю цябе на дуэль, бо ты адказваеш за словы сваіх слуг.

Ваявода павольна глынуў віна:

— Ганаровы пан! Кажуць: nolite tanqere christos meos! [1] А ягамосць да смерці аглушыў майго паверанага. Ды яшчэ разбіў вазу, якую мне падаравала царыца Кацярына! Трыбунал...

Узняўся вэрхал.

— Э, пане! Ніякі трыбунал, княжа, не паверыць, што столькі шкоды нарабіла адно яйцо,— рагочучы на ўсё горла, сказаў Забела.— Тут, як гавораць юрысты, два белыя, а трэці як снег. Лепш, пановебратове, давайце вып'ем за мір і спакой. Або зробім так — пойдзем адсюль.

Многія згадзіліся з ім.

— Пане Забела! — заіранізаваў, стараючыся перакрычаць усіх, раззлаваны Пац.— Ты смелы, як леў,— равеш і ўцякаеш. Дзе ты быў, калі цябе не было? Не ўтыкайся, не спяшайся падлізацца да найсвятлейшага гаспадара: festina leute! [2] Бачыш гэты кулак?

---

[1] Не дакранайцеся да маіх памазаных! *(лац.)*
[2] Паспяшайся павольна! *(лац.)*

Пац павярнуўся спінай да Забелы, які зардзеўся і ўвесь неяк скурчыўся. Ён хоць і насіў доўгі меч, але быў бедны і не меў улады. А, як вядома, вольны толькі той, хто пануе.

Пане Каханку закусіў губу, прыслухоўваўся да сваркі і аб нечым думаў.

— Шаноўны пане! — загаварыў зноў да князя Пац, захлынаючыся ад злосці.— Што выбіраеце: пісталет ці меч?

Князь не спяшаючыся пакалупаў сабе ў вуху.

— Меч, пане каханку,— адказаў ляніва.— Сёння я ўжо досыць надыхаўся горкага парахавога дыму. Помніш, пане: была вялікая забава — знішчэнне чацвераногіх звяроў. А цяпер давядзецца яшчэ з двухногім звязацца.

Госць кінуў цьмяны позірк на гаспадара. Выпіў кубак і цяжка ўстаў.

— Каб доўга жыць, трэба навучыцца забіваць, пане,— адыходзячы, пакланіўся ваяводзе Пац.— Да раніцы, пане!

Дайсці да пакоя дапамаглі яму слугі.

Не затрымаўся і Радзівіл. Пакінуўшы замест сябе Бароўскага, князь пайшоў. Гасцям ён нічога не сказаў, але ўсе бачылі па яго зморшчаным лобе — Пане Каханку нешта надумаў.

Баль віраваў усю ноч.

Уранні слуга пабудзіў пана Паца. Трэба было доўга адліваць яго вадою і віном, растлумачваць госцю, які ніяк не мог уцяміць, чаго ад яго хочуць, што надышоў час біцца з князем. Нарэшце ён адзеўся, успамінаючы, як скрозь туман, вячэру і сварку, прывязаў свой меч і выйшаў.

Раптам ён спыніўся, аслупянелы: у калідоры з'явіўся Пане Каханку. Ішоў ён у чорных лёгкіх пантофлях нябожчыка, у белым пахавальным саване. Перад ім тоўсты босы манах нёс крыж, з або-

двух бакоў два белыя сабакі з паходнямі ў зубах асвятлялі дарогу.

Адзеты па-турэцку хлопчык-мурын Бо-Бо нёс на падушачцы чэрап і аголены княжацкі меч.

Да месца дуэлі князя праводзілі ксёндз і я, кат, адзеты ва ўсё чырвонае. Абодва мы моцна плакалі.

Жудасная працэсія спынілася перад панам Пацам. Сабакі з паходнямі сталі на заднія лапы. Манах нізка пакланіўся і працягнуў яму глыбокую залатую талерку, у якой плаваў сярэбраны селядзец.

Князь Радзівіл глядзеў на Паца і ўціраў насоўкаю вочы.

— Што гэта? — закрычаў, занепакоіўшыся, пан Пац.— Чары смерці?

— Не, найсвятлейшы пан,— адказаў манах.— Гэта самы малады выпладак сірэны Аквілі. Прапануем выбар — ці згадзіцца быць яго хросным бацькам ці бацьказабойцам.

Ізноў пачуўся горкі плач.

Пан Пац ужо дастаткова працверазеў, таму адразу ўцяміў жарт ашуканства.

— Inter incudem et mallum sum! [1] — прамовіў, засмяяўшыся, Пац і выставіў абедзве рукі.— А ці няма трэцяга выйсця?

— Ёсць, пане каханку,— весела азваўся князь.— Яно вядзе проста ў залу, за стол.

Скора разнесліся чуткі пра новыя выбрыкі Радзівіла. А галоўнае, што абодва паны памірыліся і зноў пабраталіся.

Не выспаўшыся, п'яныя, з распухлымі вачамі, але прагныя да відовішчаў і пачастункаў, госці зноў паселі за багаты стол.

Князь, нават не зняўшы пахавальнага ўбрання,

---

[1] Знаходжуся між молатам і кавадлам! *(лац.)*

абняў за плечы Паца, пастукаў кубкам па збане і ўсклікнуў:

— Hic bibitur! [1]

— Sicut terra sine aqua [2], так чалавек без віна! — весела прыняў яго выклік Пац.

Пачалося шумнае банкетаванне ў гонар прымірэння. Князь няспынна ўсіх спойваў, частаваў, выдумляў усё новыя забавы, але асабліва ўважлівы быў да свайго госця-пабраціма: самыя саладзейшыя, самыя смачнейшыя і тлустыя кавалкі падсоўваў свайму міламу сябру, пану Пацу. Той, з павагі да гаспадара, прымаў усё — і яду, і пітво. Баляванне цягнулася без супыну дзень і ноч...

Калі зачаўся чацвёрты дзень, яно раптам перарвалася. Як сцвярджаюць тыя, што бачылі, мёртвы паваліўся пад стол пан Пац. Адразу, як падбіты зубр.

Дворны лекар доўга стараўся над нябожчыкам — марна, нічога не дапамагло.

— Не вытрымала яго добрае сэрца,— сказаў нарэшце.— Разарвалася, поўнае кахання да пана ваяводы і яго гасцей...— і перажагнаўся.

Усе зрабілі тое самае.

Толькі не ўсе пачулі, што сказаў блазан Вінцусь. А ён сказаў так:

— Не поўнае кахання сэрца разарвалася, а завельмі напханае Пацава чэрава лопнула: казулю і кабана, стог пірагоў не зварыць нават страўнік у кіта. Пра бочку мёду, пра тарты я ўжо маўчу, маўчу...

Здзіўленая, напалоханая панская кампанія, якая ледзьве трымалася на нагах, паплыла да капліцы. Каля алтара, хістаючыся, льючы слёзы, канонік

---

[1] Тут п'юць! *(лац.)*

[2] Як зямля без вады *(лац.)*.

Вашкевіч правіў ужо жалобную імшу. З прыступкаў алтара ён з плачам клікаў усіх маліцца за спакой высакароднай душы нябожчыка пана Паца.

На гэты раз, выстаяўшы жалобную імшу, я назаўсёды развітаўся з балбатлівым возным.

А праз некалькі дзён я атрымаў загад пана пісара выехаць у Нясвіж.

## Квоза — мядзведжы магістр

Аднойчы ўвечары прыйшоў я ў свой пакой у Нясвіжы, які я яшчэ не прывык лічыць сваім, і адчыніў акно. Канчалася лета, пачынала жоўкнуць трава. Вераб'і атлусцелі, каты — абленаваліся. Пачулася журботная песня, з якою вярталіся з панскага поля жанкі, прыгонныя сялянкі. Я слухаў яе, падпёршы галаву рукамі. Углядаўся ў чужую даль і адчуваў сябе тут зусім самотным. Непакоіўся, што даўно не было лістоў з Варніне. Прайшло ўжо парадкам часу, а ніводнай вестачкі, хоць бы азваўся які грак адтуль... Толькі раз пан Матусевіч, праходзячы міма, прамовіў:

— A propos [1]. Прыяцель мой ксёндз Мацеюс шле табе паклон.

Я дагнаў шаноўнага пана каля дзвярэй княжацкай бібліятэкі.

— Шчыра дзякую, пане пісар! — Я згараў ад нецярплівасці, якая перамагла маю сарамлівасць і разгубленасць.— Я адважуся запытацца. Вельмі прашу пана. Як там маюцца ўсе астатнія? Ці жывыя-здаровыя?

---

[1] Між іншым *(франц.)*.

8 Зак. 757

Я меў на ўвазе панну Зосю.

— Дзякуй богу, здаровыя. Ксёндз здаровы, маці твая здаровая. Усе здаровыя, нашто ім хварэць.

У палацавых залах і ў замкавай гары забілі звонкія гадзіннікі. Пан Матусевіч спешна адчыніў дзверы і знік. У палацы кіпела работа: ліхаманкава ішла ўборка ўсіх залаў і пакояў. Князь загадаў як найлепш рыхтавацца да ўрачыстай і пышнай сустрэчы караля Станіслава Панятоўскага.

У вячэрняй цішыні зазвінеў звон: запрашэнне да вячэры. Але не яда мяне цяпер цікавіла. Не давала спакою адно нядаўняе здарэнне.

А было так. Праводзіў я пана пісара, які ад'язджаў па справах, і раптам з плошчы пачулася сварка і бойка.

— О, вось дзе бог звёў нас! Цяпер не выкруцішся, нягоднік, злодзей! Дзе манастырскія грошы?

Гэта крычаў стары босы манах. Той квестар, брат Рафаіл. Схапіўшы за пабляклы плашч доўгага худога чалавека, манах трос яго, не перастаючы крычаць:

— Грошы, грошы, дзе манастырскія грошы?!

Другога, хоць ён цяпер быў без барады і досыць прыстойна адзеты, я адразу пазнаў: Агасфер... Вечны вандроўнік.

— Чаго прычапіўся, чаго? Пу-у-сці хутчэй. А не, дык усё раскажу людзям... Пра машэнства гвар-дыяна... Няхай усе пачу-юць! Хочаш? Як вы абдурваеце, падманваеце... Бо-бога зневажаеце... Во, во... бачу, бачу пана пісара з са-са-кратаром... Упь стаяць.

Пан Матусевіч сапраўды спыніўся на гарадской плошчы і з цікавасцю глядзеў на бамбізу і тоўстага манаха. Тут брат Рафаіл спахапіўся і шапнуў.

— Тасе! [1]

[1] Маўчы! *(лац.)*

— Erho tace! [1] — адрэзаў фальшывы Агасфер.

— Не табе затыкаць рот слузе божаму! — Манах выпусціў яго рукаў, але ўсё пагрозліва падымаў палку.— Па волі божай можаш назаўсёды застацца качацца на гэтым пляцы.

— А ты, браце трыбухач, канечне, хочаш, каб адзін з нас застаўся на гэтым пляцы? — усміхнуўся выпетраны.

— Ага, хачу!

— Ну, дык і заставайся!

Нечакана штурхануўшы і паваліўшы вобземлю манаха, худы пабег, як маланка. Брат Рафаіл, ляжачы на зямлі, іменамі ўсіх святых слаў праклёны на галаву прайдзісвету, грымеў, як сам гасподзь бог на Сінайскай гары. Калі ён, увесь у пыле, устаў, пан Матусевіч падышоў да яго:

— Дзень добры, брат! Чаго так крычыш, не даеш спакою святым на небе? Ці не дамысліўся, што ад такой малітвы святыя адно пляваецца будуць.

Манах ушанаваў пана Езуса, а разам з тым скоса зірнуў на мяне, а я стаяў побач з пісарам: пазнаў.

— Праўду кажучы, квестар, у мяне такая справа.— Пісар падаў брату Рафаілу паўталера.— Я чуў, што ты нядаўна сустрэў бакалаўра Данілу.

Манах ізноў скасавурыўся на мяне.

— Давялося сустрэць і вочы яго закрыць...— нехаця выціскаў ён словы.

— Можа, брат, завітаеш да мяне. А ты, Твірбутас, ідзі, куды мы ішлі, адзін.

Здзіўлены, я пакінуў іх, пана пісара і манаха, што сустрэліся, як старыя знаёмыя. Іншым гэта зусім нязначнае здарэнне, доўга не выходзіла з маёй галавы: чаму пан Матусевіч зацікавіўся тым ня-

---

[1] Сам маўчы! *(лац.)*

шчасна памерлым абадранцам Даніілам? Чаго пан пісар хоча ад манаха? Дзіўныя тут людзі, дзіўны горад Нясвіж, і нечым страшыць мяне княжацкі палац...

Незабыўныя ўражанні засталіся ў мяне ад прыбыцця ў Нясвіж, як толькі, едучы са Смаргоні, перабраўся цераз раку Ушу[1]. Пра гэты горад — як пра фенікс, што паўстаў з попелу,— я ўжо раней чуў многа... Шведскі кароль Карл XII аблажыў крэпасць і ўсё знішчыў дашчэнту, апрача манастыра і касцёлаў.

Пасля вайны Нясвіж ізноў узняўся з руінаў, горад і замак нанава акружыла абарончая сцяна, касцёлы набылі ранейшы бляск. За чвэрць мілі ад горада на невялікім узвышшы езуіты пабудавалі манастыр з касцёлам святога Рафаіла. Пры бацьку князя Караля Радзівіла манахі-бернардзіны разбудавалі пасад, дзе наладзілі выраб грубашэрснага сукна на свае сутаны. У горадзе ізноў пасяліліся рамеснікі, купцы, гандляры. А Пане Каханку доўжыў абнаўленне Нясвіжа, аздобіў тэатр, адбудаваў друкарню, мануфактуры, пасадзіў паркі і сады, заснаваў артылерыйскую школу, у якой на яго ўтрыманні вучыліся дзеці збяднелай шляхты.

Князь, ад дзівацтваў якога ахала і охала ўся Еўропа, любіў, калі яго горад называлі Малой Варшавай. Трыста гадоў Нясвіжскі ардынат з'яўляецца гняздом Радзівілавага роду.

Сонца асвятліла замак. Васьмівугольная вежа ўзвышалася над галоўнымі варотамі, а далей грувасціліся прыбудаваныя ў розны час чатырохкутныя бастыёны. Вежу ўвенчваў герб Радзівілаў. Супроць

---

[1] Уша — левы прыток Нёмана, цячэ ў межах Нясвіжскага раёна Мінскай вобласці і Карэліцкага раёна Гродзенскай вобласці.

варотаў — гатычны франтон замка з галоўным уваходам і лесвіцай, якая вядзе ў прасторныя залы палаца.

Залы ашаламілі мяне сваёй раскошай. У лабірынце палаца дванаццаць такіх залаў, сцены іх укрыты дарагімі шпалерамі. Многа карцін, партрэтаў продкаў і родзічаў Радзівілаў з самых даўніх часоў. Але, можа, самая дзівосная была мармуровая зала. Незвычайна багатая бібліятэка і архіў, які захоўваў сведчанні пра падзеі даўніны. Яны займалі некалькі асобных апартаментаў.

Тут былі і канцылярыі распарадчыка княжацкімі справамі пісара пана Матусевіча. Непадалёк ад іх у невялікім пакоі пасяліўся і я, Габрэлюс Твірбутас.

Праз некалькі дзён, калі я ўжо, як кажуць, паспеў сагрэць свае ногі, пасля абеду спыніўся ў зялёным круглым вестыбюлі. Я быў адзін і з вялікай цікавасцю аглядаў сябе ў вялізным люстры — раней я такога ніколі не бачыў.

— Го! Го! — нечакана пачуўся смех.— Калі чалавек закаханы сам у сябе, дык па сутнасці канкурэнтаў у яго няма.

Я, як працяты шпагай, павярнуўся: у люстры ва ўсёй красе глядзела на мяне нахабная фізіяномія пана Кружылкі.

— О! Пан паляўнічы па пасаг! — Я ўзяўся ў бокі.

— Калючыя ружы, бычыныя рогі! — вылаяўся капітан.— Я цябе правучу. Сцеражыся!

— А я заўсёды сцерагуся дурняў, якія намываюцца іншых павучыць,— адрэзаў я гэтаму пану.

Капітан як ашалелы з рыкам напаў на мяне. Я паспеў выцягнуць свой меч і адбіць яго ўдар. Школа старога задзіры, майго хроснага бацькі пана

Мельхіёраса згадзілася: я абараняўся і нападаў як роўны праціўнік. Капітан памыліўся, калі думаў, што расправіцца са мною так лёгка, як мінулы раз у Вашчунах, у карчме, дзе я, падхмелены па хлапечай сваёй нявопытнасці, не ўстаяў на нагах.

Зазвінела сталь, пасыпаліся іскры.

— Зараз укладу табе розуму! — перад маімі вачыма заблішчаў востры канец капітанавага мяча.

Я адбіў удар.

— Розум усім патрэбен. Але важна, каб яго было не завельмі многа, капітан! Інакш з глузду з'едзеш.

У гэты момант я канцом мяча скінуў з яго галавы сабалёвую шапку: гэта была адплата за паламанае пер'е на маім капелюшы.

Мячы бразгаталі, пошчак стальных удараў разносіўся па вестыбюлі. Пан Кружылка ўраз прысеў, а потым імгненна падскочыў і з усяе сілы ўдарыў знізу. Але я гэты спосаб ведаў — ухіліўся ад яго па ўсіх правілах і, адбіўшы ўдар, сам імкліва напаў. Капітан кінуўся ўбок, але няўдала: паслізнуўся на збітай сабалёвай шапцы. Меч з грукатам пакаціўся па бліскучым навошчаным паркеце.

Я адразу прыставіў свой меч да яго горла.

— Хутчэй, капітан! — загадаў я.

Я чартоўскі ганарыўся сваёю перамогай.

— А куды мне спяшацца? — не зразумеў пабляднелы Кружылка.

— Здацца, пане! Здацца!

— А як здамся, калі трымаеш жалеза на глотцы? — прахрыпеў капітан.

Я не ведаў, што рабіць далей...

— Перапрашайце! — сказаў я, крыху разгубіўшыся.

— Даруйце,— ціха прамовіў ён.

Тады я адняў ад горла меч.

Капітан устаў, падняў свой меч і шапку і, як пабіты воўк, пракульгаў некалькі крокаў — відаць, калі паслізнуўся, выцяў калена. Крывёю налітымі вачыма ён глянуў на мяне, губы скрывіліся ў жорсткай ухмылцы:

— Я думаю, ты добра разумееш, што твая перамога выпадковая, блазнюк! Што наша размова не скончана...— Ён нервова ўткнуў меч у ножны.— Я табе... пакуль жывы...

Капітан раптам асекся і змоўк, яго вочы спалохана застылі. Пачціва падцягнуўся. Я азірнуўся: у вестыбюлі за маёй спінай стаяў князь. Яго суправаджаў адзеты ва ўсё чырвонае паж, маленькае мурыняня Бо-Бо, прывезены Радзівілам з далёкіх краёў. Відаць, іх прывабіў сюды шум.

— Пане каханку! — строга глянуў найсвятлейшы князь.— Можа, будзе ваша ласка растлумачыць, што тут за відовішча?

Я маўчаў, анямеўшы.

Мурыняня Бо-Бо трымала ў руцэ прыгожы, срэбрам аплецены кошычак з кнігамі, на яго чорным твары насмешліва ззялі вялікія бялкі вачэй і белыя зубы. Капітан пакорліва пакланіўся князю.

— Высакародны князь, ваша светласць! Я гэтаму маладому шляхціцу, як ён прасіў мяне пра гэта, паказаў некалькі ўдараў у нападзе і абароне.

Пан Радзівіл пранікліва глянуў на мяне.

— Ну, і як, Твірбутас? Задаволены ты ўрокам?

— Вельмі задаволены, высакародны пан,— адказаў я з усёй сціпласцю, якая пасуе майму стану.

Я быў прыемна здзіўлены: князь пазнаў мяне.

— Гм... Гм...— усміхнуўся, пайшоўшы, вялікі пан.— Дык кажаце, што вучыцеся тут наскокваць і бараніцца? Гм... Гм... Ці так гэта? Туркі гавораць: у сабакі, якога збіраешся забіць, заўсёды знойдзеш блох.

Пакпіўшы, князь горда пайшоў далей, а за ім бязгучна патупаў чорненькі Бо-Бо.

Мы з панам Кружылкам глянулі адзін на аднаго з несхаванай нянавісцю і ціха разышліся ў розныя бакі. Сэрца казала: новая сутычка з разлютаваным капітанам немінучая. Чым яна скончыцца — адзін пан бог ведае. Мяне скаланула: здалося, што ў змрочным калідоры нехта ўпотайкі цаляе ў маю спіну.

Аднойчы пасля абеду, калі я канчаў перапісваць чарговы стары дакумент, у канцылярыю зайшоў княжацкі лёкай і паведаміў пану пісару, што яго выклікае да сябе яго светласць. Пан Матусевіч падняўся і, нічога не сказаўшы, пайшоў. Заставўшыся адны, мы, як звычайна, адчулі сябе вальней. Адпіхнуўшы ад сябе пергаменты, пачалі гаварыць пра ўсякую дробязь. Але скора за вокнамі пачуўся тупат, загучалі нецярплівыя галасы, зарыкалі мядзведзі. Высунуўшыся ў адчыненае акно, я ўбачыў Квозу — прыбранага, у ліўрэі, вышытай княжацкімі гербамі. Апошнім часам даволі рэдка даводзілася з ім страчацца: Квоза цэлымі днямі бегаў як апантаны. Бо князь чакаў прыбыцця ў Нясвіж караля і разам з іншымі забавамі задумаў паказаць і мядзведжы тэатр.

Значыць, я ўбачыў Квозу. Ён крычаў, аддаваў каманды, выстройваў на лесвіцы ў палацы... мядзведзяў. Мы дазналіся, што князя павінен праведаць госць, прыяцель нашага прыдворнага лекара Бізі, вядомы італьянскі доктар Тучы, з якім яго светласць, падарожнічаючы па Еўропе, пазнаёміўся ў Венецыі. Гэты італьянец прыбываў у наш край, як ён быў пераканаты, у край дзікуноў, упершыню. Дык Пане Каханку вырашыў наладзіць сабе і сваім прыбліжаным невялікую пацеху. А заадно ўжо і

праверыць перад прыбыццём караля, на што здольны новы галоўны мядзведнік Квоза Тамарэвіч.

Таму некалькі хвілін таму назад слугі і прыдворныя, як загадаў ім князь, пахаваліся; усё сціхла ў палацы, нібы па нейкім чарадзействе.

У нязвыклай цішыні і поўным бязлюддзі да замкавай брамы пад'ехала ўкрытая пылам карэта. Доктар Тучы, стары тоўсты сеньёр, высунуў з карэты галаву ў белым парыку, каб агледзецца.

Пачакаўшы, пакуль слуга апусціў лескі, Тучы сышоў і, выпнуўшы свой жывот, ступіў у бок замка. Раптам ён замёр як укопаны, не паверыўшы сваім вачам: у варотах стаялі два вялізныя мядзведзі. Як каралеўскія грэнадзёры, яны трымалі ў лапах мушкеты. Цмокаючы губамі, італьянец падышоў бліжэй і, прыпадняўшы руку, нешта сказаў мядзведзям. Ён думаў, што, так эксцэнтрычна адзетыя, стаяць вартавыя замка.

Адзін мядзведзь забурчаў, паказаўшы сваю чырвоную ікластую ляпу. Сеньёр Тучы схапіўся за сэрца, паражагнаўся і з шалёнай імклівасцю памчаўся назад да карэты. Крыклівым голасам ён пачаў падганяць фурмана, штурхануў яго ў спіну і замахаў рукамі, каб хутчэй ехаў далей. Але коні, ступіўшы некалькі крокаў, сталі на дыбкі: мядзведзі ў варотах зараўлі, паднялі стрэльбы ўгору. Сеньёр Тучы ледзь не самлеў ад страху. Але тут з парадных дзвярэй замка выйшаў сам князь з самым спакойным і сур'ёзным тварам.

— Сеньёр! Сеньёр Тучы! Дзе вы? — паклікаў як мага ямчэй князь.

Доктар, пачуўшы яго голас, бледны, трасучыся ад перажытага хвалявання, высунуў з адчыненых дзверцаў нос. Убачыў князя, памахаў рукой, вітаючыся здаля, і ледзьве выціснуў застылую ўхмылку.

А за вокнамі ў палацы, за парцьерамі трэсліся ціхім смехам дворныя.

— Сеньёр, пане каханку! Проша! — ветліва запрашае князь італьянца.

Госць з сонечнага краю апельсінаў падымаецца па шырокай мармуровай лесвіцы, жагнаецца... І зноў — грозныя мядзведзі! У памяці доктара Тучы ўсплываюць пачутыя некалі фантастычныя расказы пра гэтых звяроў у далёкай паўночнай краіне. О мадонна! У вестыбюлі выстраіўся цэлы тузін гэтых страшыдлаў, яны трымаюць у лапах падносы са збанамі. Наперадзе ў іх стаіць самы вялізны мядзведзь, шырока раскінуўшы лапы, нібы хоча абняць дарагога госця.

Апрытомнеў сеньёр Тучы толькі ў зале. Хустку, змочаную ў халоднай вадзе, прыкладваў да яго галавы сам Радзівіл.

— Пане каханку, мілы сеньёр! — ламаў рукі князь.— Божа мой, што з табой? Прабач, але слуг у мяне няма. Замест іх у нашай варварскай краіне ўсё робяць мядзведзі. Служаць яны мне ў палацы, а калі ёсць патрэба, дык і езджу на іх у госці.

Раздурэўшыся, князь ніколі не ведаў меры, таму без усякага сораму пацяшаўся далей. Бедны доктар Тучы ачуўся толькі пасля кубка добрага віна, і Радзівіл запрасіў яго да стала. Пан ваявода ласкава пасадзіў яго поплеч з сабою. За першаю стравою ён далікатна прапанаваў сеньёру памяняць талерку. Узяўшы яе ў рукі, госць павярнуўся і аж ускрыкнуў:

— О мадонна!

За крэслам стаяў мядзведзь, якога князь назваў сваім слугой Брунам, і трымаў пад пахаю чыстую талерку. Вялізны мядзведзь нахіліўся да яго, і доктар ізноў надоўга абамлеў.

Бедны сеньёр Тучы пагасцяваў дзён пару ў мядзведзяў і канчаткова ачуняў толькі ў Празе. Адтуль ён прыслаў князю доўгі ліст: «Высакародны княжа! Я дзякую богу, што ваша светласць не мае ўладанняў у гарачай Афрыцы, і не будуць там абслугоўваць гасцей львы. Я трачу прытомнасць, убачыўшы іх на малюнках. Прыміце сардэчныя вітанні. Ваш пакорлівы слуга Джузепе Тучы».

Доўга яшчэ палац калаціла ад выбухаў смеху. Вясёлыя чуткі пра гэтае здарэнне разнесліся па некалькіх каралеўствах. Адзін дворны лекар Бізі, калі вярнуўся з Вільні і дазнаўся пра тое, якую камедыю састроіў князь яго сябру, так абурыўся, што хацеў пакінуць замак. Толькі багата абдораны, памірыўся з яго светласцю.

Больш за ўсіх быў рады гэтаму князеваму штукарству цыганскі «прынц» — Квоза Тамарэвіч. Ён добра вытрымаў экзамен, і за гэта князь не толькі надаў яму тытул мядзведжага майстра, але і адмераў пару добрых жменяў бліскучых залатых дукатаў. Квоза станавіўся важнай асобай у нясвіжскім мядзведжым флігелі, а калі пачалі падзынкваць і грошыкі ў кішэнях, дык і таго болей — аб'явілася і зайздрасць. Грошы, як вядома, адчыняюць вароты і на неба, і ў пекла.

Праўду кажучы, золата ў той час з княжацкай скарбонкі плыло ракою, цурчала ручаінамі, бо пан ваявода рыхтаваў сустрэчу караля Станіслава Панятоўскага. Крамы поўніліся ўсялякімі дарагімі таварамі, у горад прыбыло і пасялілася многа ўмелых рамеснікаў, майстроў, цесляроў, муляраў, фокуснікаў... Каго толькі не сустрэнеш у Нясвіжы! На паштовай станцыі, у заездах, корчмах можна было ўбачыць і раздзьмутага ад піва немца, і чарнавусага франта мадзьяра, гаваркога француза, ашчаднага італьянца... У адным гурце разам з беларусамі шум-

на гаманілі палякі, яўрэі, літоўцы... У стракатым натоўпе былі і жабракі, і ксяндзы, і папы, і манахі, і рабіны... Яго не маглі ўмясціць пяць касцёлаў, тры манастыры, некалькі цэркваў, сінагогі...

— Дарогу, дарогу! — пачуў я аднойчы ў той штурханіне.

Я ледзьве паспеў адскочыць ад пыльнай парадконнай карэты, якая, нягледзячы на хрыплыя воклічы фурмана, павольна сунулася па плошчы. У карэце важна сядзеў даўгалыгі сухі стары. Праніклівыя маленькія яго вочкі на адно імгненне сустрэліся з маімі. Стары пан сядзеў проста: нібы праглынуў палку. Мне здалося, што я недзе ўжо бачыў яго.

Цікаўныя барадатыя купцы адразу ж крыкнулі хлапчуку, які, выціраючы пыл з вачэй, сядзеў спінай да карэты:

— Чый ты, малойчык? Хто слаўны твой пан?

Панская карэта заўсёды абяцала прыбытак, здабычу.

— А гэта ж пан харунжы. Я панаў Кружылкаў,— неяк збянтэжана адказаў слуга.

Значыць, гэты пан — капітанаў бацька, вядомы скнара харужы Дамінік Кружылка... Гэта пра яго прыдумаў гісторыю з вяроўкай, седзячы ў клетцы, помслівы Квоза. Чаго ён цяпер прыехаў сюды...

Пад грукат карэты я пачуў, як разява слуга проста расказваў:

— А прыехалі, каб згуляць вяселле. Жэніцца ж малады пан.

Мяне ўзяў смех: успомніў панну Анэлю, нявесту маладога Кружылкі. Жаніх быў варты сваёй нарачонай, якая, як мне здавалася, была ненамнога маладзейшая за старую Вільню.

Значыць, вяселле пана капітана ўжо зусім хутка.

Я нават не мог падумаць, што ад гэтага часу лёс яшчэ раз перапляце нашы пуцявіны так, што часам будзе здавацца — і сам чорт іх не разблытае...

## Гром з яснага неба

Аднойчы надвячоркам, вярнуўшыся з канцылярыі пана пісара ў свой сціплы пакойчык, я пачаў убірацца як мага лепш. Шляхціц Ян Купілка, з князевай світы, амаль мой аднагодак, з якім паспеў пасябраваць, запрасіў мяне ў госці.

— Мілы Габрэлюс! — шапнуў, сустрэўшы мяне ў калідоры.— Я атрымаў гасцінец [illegible] дому. Зайдзі. Спадзяюся, што ўвечары ты знойдзеш хвілінку.

Паспыталі гасцінца, што прыслалі Купілку з роднае хаты да дня нараджэння, а раніцаю ад болю ў нас трашчалі галовы: была ў тым гасцінцы немалая бочачка мёду. Прачнуўся я, калі ўжо днела, і чую — нехта настойліва стукае ў мае дзверы. Не лёгка было падняць з падушкі галаву, не прызвычаеную да моцнага пітва; не каштаваў я яго ад таго часу, як быў у Ёшкі. Але адразу галаву працяла думка: святы божа! Што я скажу шаноўнаму Матусевічу? Крывым позіркам сустракаў пан пісар хлопцаў, што любяць чарку. А пан Радзівіл хоць і набыў сабе славутасць сваімі гулянкамі і беспрасыпным банкетаваннем, але гэта быў пан Радзівіл. Князь толькі баляваў, але, крый божа, не п'янстваваў. Каралі, магнаты ніколі не п'янствуюць! Яны толькі частуюцца і частуюць сваіх гасцей. Каралі ніколі не напіваюцца: яны могуць быць вясёлыя або стомленыя ад непасільных сваіх клопатаў.

У дзверы зноў пастукалі. Я хутка адзеўся, прычасаў валасы і прачыніў дзверы. Ах, каб вы ведалі,

як я разгубіўся і ўзрадаваўся: за дзвярыма стаяў не хто іншы, а сам варнінеўскі пастыр, ксёндз Мацеюс.

Павітаўшыся і прыняўшы яго блаславенне, пачаў перапрашаць за свой непрывабны выгляд: я быў у адчаі, што мой настаўнік убачыў мяне такога. Пасля першых гарачых запытанняў пра пані матулю, Варніне мой госць чамусьці адразу на іх не адказаў, а пачаў неяк здалёку.

— Мой хлопчык Габрэлюс,— сказаў ён.— Я ўсцешаны вельмі, што табе ўдалося добра ўладкавацца.

Але ў яго голасе чуўся смутак.

— Я спадзяюся,— дадаў ён,— што і ў далейшым, Габрэлюс, у цябе таксама ўсё будзе добра.

І сваёй маленькай рукой ксёндз правёў па сваіх сівых валасах.

У яго ў вачах я заўважыў непакой.

— Я думаю, што і Софіі... сяброўцы твайго маленства, дапаможа бог. Не пашкадуе сваёй міласці.

— Амін! — шчыра згадзіўся я.

Мяне прыемна супакоіла пачутае імя Зосі.

— Як чуецца міласцівая панна? — з дрыжачым сэрцам запытаўся я.

Ксёндз Мацеюс варухнуў брывамі:

— Пра гэта, Габрэлюс, ты мог у яе запытацца ўчора.

— Чаму ўчора? — я аж падскочыў з крэсла.

— Бо Софія, мой хлопчык, учора сюды прыехала.

Я зусім сумеўся.

— І ты толькі цяпер, ксёнжа, мне гэта кажаш,— папракнуў я яго.

— А калі я раней мог сказаць? Учора тут мы цябе не знайшлі.

Я праклінаў няшчасную бочачку Яна Купількі.

— Дзе, дзе цяпер панна Зося? — раптам, нешта прадчуваючы, папытаўся я хрыплым голасам.

Здавалася, што і ў ксяндза засела нешта ў горле, так павольна і неахвотна ён зноў загаварыў:

— Панна Софія... Тут... Да свайго дзядзькі заехала.

— У дзядзькі?! — Я зусім здзеравянеў.— Якога дзядзькі, ксёнжа?

— У свайго сапраўднага дзядзькі, Габрэлюс, у твайго дабрадзея пана Матусевіча.

— Пан пісар,— я не верыў сваім вушам,— дзядзька паннін Зосін?

Ксёндз кіўнуў галавою:

— Пан Матусевіч — стрыечны брат Соф'інай маці.

Я яшчэ больш здзівіўся.

— Так, мілы Габрэлюс...— невялікая постаць ксяндза яшчэ больш змізарнела.— Я Софіі не дзядзька. Я толькі апекаваў яе з двух гадоў, пасля смерці яе маці... па просьбе майго шаноўнага прыяцеля пана Матусевіча.

— А чаму ж бацька паннін Зосін аддаў яе на выхаванне чужым? — канчаткова заблытаўшыся ў гэтым складаным перапляценні чалавечых лёсаў, запытаўся я.

Ксёндз адказаў не адразу:

— Мы хавалі ад Софіі і ад людзей ганьбу яе бацькі і трагедыю яе маці... Ты, Габрэлюс, ведаў Соф'інага бацьку...

— Я?! Ведаў?

— Ты. Ведаў... Успомні аднаго няшчаснага... Бакалаўра Данііла.

У памяці ўсплылі тая навальнічная ноч, брудная лужына перад карчмою, у якую вечны вандроўнік бязлітасна шпурнуў абадранца... За мерцвяка потым памаліўся адзін чалавек — манах Рафаіл.

Я хацеў нешта сказаць...

— Не расказвай пра яго смерць, Габрэлюс, не трэба,— спыніў мяне ксёндз Мацеюс.— Якраз ад цябе і даведаўся пра яе пан Матусевіч. Пацвердзіў твой расказ і манах Рафаіл. Тады і напісаў мне пан пісар, што ён вырашыў запрасіць ужо дарослую сваю пляменніцу да сябе.— Ксёндз зноў запнуўся.— У князевым маёнтку, маўляў, яна зробіцца элегантнаю свецкаю паненкаю... У Нясвіжы больш мажлівасцей дабраць Софіі прыстойную пару...— Яго вочы пачалі вільгатнець.— Цяпер я ў Варніне застаюся адзін, Габрэлюс. Буду чакаць, пакуль гаспод бог міласціва прыбярэ мяне да сябе.

Ксёндз раптам павярнуўся да мяне спінай і падышоў да акна. Вузкія яго плечы ўздрыгвалі. Яго словы мяне зусім засмуцілі. З намаганнем стрымліваў сваё хваляванне.

— Так, так...— да крыві скусаў свае губы.— Дык яе збіраюцца аддаць замуж, ксёнжа?

— За прыстойнага чалавека, Габрэлюс,— падкрэсліў, вярнуўшыся да стала, яго праасвяшчэнства.— Соф'інаму мужу дастанецца добры пасаг, спадчына яе маці. Хоць найвялікшае багацце — сама Софія. Ціхая, добрая, чэсная, разумная і прыгожая, як сонейка.

Мы памаўчалі, кожны заняты сваімі думкамі. Потым [redacted] вуснаў варнінеўскага ксяндза Мацеюса Карыбутаса слова за словам, як важкія камяні з калодзежа, я выцягваў Зосіну гісторыю, правільней, яе бацькоў. Гісторыя гэта была доўгая, сумная і нешчаслівая. Зосіна маці — адзіная дачка свянцянскага шляхціца Юрыя Матусевіча, Ванда, закахалася ў зграбнага, дасціпнага юнака, Данііла Клемета. Быў гэта вясёлы, спрытны шляхцюк са світы маладога князя. Сам малады князь Караль Радзівіл, які больш за ўсіх сваіх дворных любіў Данііла, і сватаў

яго. Але дружба з князем не прынесла дабра... Неўзабаве пасля вяселля Ванда раскрыла страшэнную загану ў пана Данііла: ён любіў карты. Азартна. За іх гатоў быў аддаць душу д'яблу. За сто міляў ездзіў, калі толькі дачуецца, што там ёсць стол з зялёным сукном і калода картаў. Пані Ванда маліла, прасіла, каб ён кінуў карты, плакала дзень і ноч, кляла сваю долю. Усю Даніілаву маёмасць выманцачылі шулеры і гульцы, якім ішла карта ў рукі,— былі шчаслівейшыя за яго ў гульні. Тады пані Ванда папрасіла ў свайго дваюраднага брата Матусевіча рады, як уратаваць дачку Зосю ад жабрацтва. Матусевіч дапамог Вандзе перапісаць на дачку спадчыну, якая дасталася ёй ад бацькоў, а сябе ён аформіў апекуном дзяўчынкі. І гэта было зроблена якраз у час: Клемет, дабраўшыся да Вільні, так уцягнуўся ў тыя карты, што астаўся без нічога, нават ганебна прагуляў меч.

І аднойчы грымнуў гром: выявілася, што, прагуляўшы ў карты, пан Данііл не толькі страціў багацце, але і гонар свой. Ад яго адвярнуліся і былыя сябры, і ворагі. Гэты таленавіты юнак, ад якога так многа чакалі ў маладыя гады, ублытаўся ў змову. Трапіў у астрог і, мала таго, запляміў сябе, за грошы здрадзіўшы сваім сябрам, якія рыхтавалі змову супроць караля. Дый тыя юдавы сярэбранікі скора прагуляў у карты. Зрабіўся п'яніцам, валацугам, што бадзяўся з карчмы ў карчму.

Няшчасная Ванда не вытрывала сораму і налажыла рукі на сябе. Засталася маленькая Зося, якую гадаваць і выхоўваць халасты дзядзька і апякун папрасіў вернага свайго сябра Мацеюса. Ксёндз Мацеюс ведаў і тую злыбеду, бакалаўра Данііла — яны ўтрох разам вучыліся.

Вось як усё было, а канец сумнай бакалаўравай гісторыі ўжо вядомы. Праўда, брат Рафаіл расказаў

пісару, чаму Даніл перад смерцю з'явіўся ў нашым краі. Ён прачуў пра карчмарку Гунэфу з Вашчунаў. Дурні ж малолі языкамі, што нібы яна, хай бароніць яе бог, трымае ў бутэльцы чорта, свайго чартоўскага зяця Кібарта, і што яна нібы здае яго ў наймы карцёжнікам. Страціўшы ўсякую надзею і яснасць розуму, Даніл, як тапелец за саломіну, ухапіўся за гэтую выдумку. Ішоў шукаць апошні ратунак у Гунэфы. Аднак не паспеў — смерць у дарозе злітавалася над небаракам.

— Ксёндз пераксагнаўся, прачытаў кароткую малітву на памін душы.

— Вось так,— жаласна ўсміхнуўся ксёндз Мацеюс,— да ўчарашняга дня я быў бацькам, апекуном, выхавальнікам сіраты Софіі. Я думаў, што і канца жыцця дачакаюся пры ёй. Я спадзяваўся, Габрэлюс, што калі-небудзь злучу вас абаіх святым таінствам шлюбу, цябе і Зосю... Але, выходзіць, воля божая іншая...

Ён закрыў сваімі маленькімі далонямі твар: мне здалося... Не, не здалося: ксёндз Мацеюс сапраўды плакаў.

Няхай мяне парэжуць на дробныя кавалкі, калі зразумеў, што гэта значыць! Аднак благое прадчуванне сціснула маё сэрца. Я не мог нават устаць і прайсціся па пакоі — нібы адняліся ў мяне ногі. Я схапіў за руку ксяндза, пацалаваў яе і прыклаў да сваёй шчакі.

— Ойча, ксёнжа! — закрычаў я, нібы ахоплены полымем.— Чуе маё сэрца няшчасце. Дзе панна Зося?! Вы нешта ўтойваеце. Што здарылася з Зосяй?

Тужліва глянуў некуды ўгору варнінеўскі пастыр.

— Будзь мужны, мой хлопчык! — сказаў ён нарэшце.

— Я да ўсяго гатовы, айцец,— адказаў я, але гэта была няпраўда.

— Калі так, слухай. Твая Зося выходзіць замуж.

Падлога захісталася пада мною...

— Выходзіць замуж панна Зося? Ты жартуеш, ксёнжа? З кім яна бярэ шлюб?

Нібы здалёк пачуў, што сказаў Мацеюс Карыбутас, але яго словы прагрымелі, як гарматны залп:

— З капітанам Браніславам Кружылкам...

## Вяселле пана Браніслава Кружылкі

Толькі к вечару, калі варнінеўскі пастыр пайшоў ад мяне начаваць да свайго знаёмага бернардынскага ксяндза, я змог спакайней абдумаць усё, што пачуў. Так ашаламіла мяне вестка пра заручыны Браніслава Кружылкі з паннаю Зосяю. Пазней я даведаўся, што не менш узрушаны і сам стары кавалер, пан капітан. Пра Софію няма чаго і казаць.

Усё вырашыла недарэчная выпадковасць. А лёс яшчэ раз бязлітасна пажартаваў з мяне.

Учора пан пісар пазнаёміў князя з гасцямі, якія прыехалі ў Нясвіж. Гэтымі гасцямі і былі паважаны варнінеўскі пастыр Мацеюс Карыбутас і панна Софія. Рассеяна выслухаў Пане Каханку трагічную гісторыю Зосінага бацькі, усміхнуўшыся, успомніў пра Данііла — свайго саўдзельніка хмельных пасядзелак і выбрыкаў маладых гадоў. Выказаўшы спачуванне Зосі, ён уладарным сваім жэстам і разам з тым паблажліва і далікатна паляпаў сваёю далоняю па расчырванелых яе

шчочках, агледзеў з галавы да ног сарамлівую дзяўчыну і, засмяяўшыся, сказаў:

— Пане каханку! А ягада ж зусім паспела.

Панна Зося збянтэжылася і яшчэ больш пачырванела. Пісар, відаць, ухваліў князя, а ксёндз Мацеюс схіліў галаву.

У той момант увайшоў слуга і апавясціў:

— Найсвятлейшы пане! Харунжы пан Дамінік Кружылка просіць, каб вы прынялі яго разам з сынам.

Князь абыякава махнуў рукою:

— Няхай зойдзе. Я даўно не чуў голасу харунжага. Прасі іх.

Пан пісар і яго госці сабраліся развітацца з яснавяльможным панам, але той загадаў застацца. Даўжэзны высахлы стары і капітан з'явіліся ў дзвярах кабінета. Яны нізка і пачціва пакланіліся князю.

— Я маю гонар, найсвятлейшы пан, я маю самы вялікі гонар... Пакорна кланяюся,— пачаў вітацца харунжы.

Ваявода перапыніў старога:

— Пане каханку! Нашто прыяцелям такія цырымоніі. Не грошай жа прыехаў пазычыць.

Пачуўшы пра грошы, стары Кружылка нахмурыўся. А князь жартаваў далей:

— Бліжэй, бліжэй, пане каханку! Далей ад дзвярэй, бліжэй да крэслаў.

Абодва Кружылкі, заўважыўшы, што яны не адны ў князя, паважна павіталіся з яго гасцямі, тыя ветліва пакланіліся. Капітан так доўга і пільна пазіраў на панну Зосю, што ваявода не стрымаў свайго смеху. Софія апусціла вочы: яна адразу пазнала нахабнага ўлана, ад якога баранілася ў Варніне. А капітан ухмыляўся. Стары ж Кружылка канфузіўся: пры чужых не хацелася пачынаць

гаворку пра далікатную справу — трэба было прасіць князевага дазволу на сынава вяселле. Харунжы наогул быў рады, што нарэшце яго шэльма пан Бронюсь уціхаміраўся, набярэцца розуму... Павінна быць неблагая партыя, хоча ажаніць сына з падапечнай пана ваяводы, паннай Анэляй Пазняччанкай. Не дужа маладая, затое паненка з пасагам.

Пасадзіўшы гасцей, князь пацягнуў шаўковую стужку. На званок хутка з'явіўся лёкай. Князь загадаў падаць віна і садавіны. Але думкі яго былі недзе далёка. Адзіны клопат віленскага ваяводы быў цяпер — урачыстая сустрэча караля ў Нясвіжы.

Госці цярпліва і моўчкі чакалі, пакуль князь зробіць ласку загаварыць з імі.

— Ага, дык я слухаю, пане каханку! Чым усцешыш, шаноўны харунжы? — схамянуўшыся, запытаўся князь.

Стары бачыў, што найсвятлейшы князь нечым заклапочаны і паказвае нецярплівасць, а таму не стаў марудзіць: шмат спраў у яго ў Нясвіжы, нездарма выбраўся ў такі далёкі свет. Глянуў Дамінік Кружылка на гасцей і адкашляўся:

— Сыну пара жаніцца, ваша светласць, даўно ўжо...

Панна Софія мімаволі фыркнула. Капітан, сустрэўшы яе насмешлівы позірк, ці не ўпершыню ў жыцці пачырванеў. Князь вылупіў вочы, пацёр рукі.

— Кажаш, пара жаніцца? Го-го-го! А ты праўду кажаш, пан харунжы. Ужо выгадаваны бычок, го-го-го!

Выпіў кубак віна і зусім павесялеў, паляпаў Дамініку Кружылку па калене:

— Пане каханку! А ўлан, калі ты выпрастаеш на

лаве свае цыбатыя ногі, будзе багаты жаніх. Ён дык зможа праветрыць у корчмах твае заселянелыя талеры.

Ваявода, як звычайна, не падбіраў слоў, плёў усё, што ўздумаецца. І пан харунжы, ганарысты шляхціц, адчуваў сябе няёмка, кусаў свае губы, ледзь стрымліваў сябе, каб не адказаць чым-небудзь рэзкім. Усе добра ведалі, і гэта не было сакрэтам: сынава марнатраўства і бестурботнасць даўно непакоілі бацьку. Таму іх узаемаадносіны былі даволі напружаныя. Людзі гаварылі, што паніч Браніслаў пакінуў родны дом праз бацькаву скупасць. Праўду кажучы, стары Кружылка быў, можа, больш ашчадлівы і разважлівы. А вядома ж, аматары пачасаць языкі знойдуць за што ўчапіцца. Вось і малолі пра цвёрдасць яго нораву, пра ўпартасць.

Князь адчуў, што ён крыху перасаліў, азірнуўся, убачыў Зосю і весела ўскочыў з крэсла. Падбег да пана Матусевіча, схапіў яго за руку:

— Эўрыка! Пане каханку! Нашто мы трацім дарма дарагі час? Я спяшаюся, мілыя панове, мушу выехаць. Мяне чакаюць надакучлівыя заморскія майстры. Перад тым як увайшоў пан харунжы, мы, пане Матусевіч, здаецца, гаварылі пра вашу пляменніцу,— ён весела маргнуў Зосі.— У палацы знойдзецца ласуноў на спелыя ягады... Го-го-го! Прыгожая шляхцянка, з пасагам. А тут сам бог паслаў: чым кепскі жаніх мой капітан? Пан харунжы якраз шукае нявесту яму.

Радзівіл узяў бутэльку віна, нацэліў ёю, як стрэльбаю:

— Ну, што скажаш, пан Матусевіч? Рукі ўгору! — загарэўшыся сваёй ідэяй, зачаў нецярпліва сватаць князь.— Я са свайго боку яшчэ павялічу пасаг нявесце.

Як кажуць, чым глыбей укопваешся ў зямлю, тым вышэй неба.

Пан Матусевіч адразу добра сцяміў неспадзеўкі кінутую князеву прапанову. Таму, па звычцы, пазбягаючы спрэчак з магутным уладаром, ён толькі пачціва павёў плячыма: ведаў, чаго варты ўлан Кружылка, але ці будзеш працівіцца новаму фортэлю гэтага спешчанага і раздуранага ваяводы. Зажураны бедны ксёндз з Варніне не меў тут ніякага голасу, а згоды сіраты ніхто не ўздумаў нават запытацца, дастаткова было згоды яе апекуна.

Стары вымуштраваны дворны служака вельмі хутка адолеў кароткую разгубленасць.

— Гм... Што я скажу, князь?! Жаніх застаецца жаніхом. Ён адданы вашай светласці. Калі пан харунжы прыбыў ужо, каб ажаніць сыночка... Дык...— ікнуў апякун і дзядзька панны Зосі,— няхай жэніць. Пара ўжо Кружылкам пра патомства паклапаціцца,— паддаўся волі вялікага пана.

Бедны ксёндз Мацеюс, не паспяваючы за такім шпаркім бегам падзей, толькі жагнаўся. Кружылкі, бацька з перарослым сынам, імгненна глянулі адзін на аднаго: яны зразумелі, што тут пра сватанне да Анэлі нічога не ведаюць. Панна Зося, ні жывая ні мёртвая, бледная як палатно, сядзела ў мяккім крэсле пад вялікім алеандрам з чырвонымі кветкамі.

Князь, палічыўшы, што справа канчаткова ўладжана, паглядваў на вялікі гадзіннік і з нагоды нечаканых заручын загадаў наліць у келіхі. Прапанаваў усім выпіць. Абцёр свае губы, гарэзліва тупнуў венгерскім гамашам па падлозе:

— Пане каханку! Дык чаго мы стаім? Давайце спяём ad multos annos [1]. Паненачка, я буду за сва-

---

[1] Доўгія гады *(лац.)*.

та — патраплю? Праўда, што скажа малады? — Князь зноў глянуў на гадзіннік, потым на капітана.— Толькі хутчэй, паверце — няма часу.

Кружылкі зноў шматзначна пераглянуліся. Харунжы кіўнуў сыну галавой. Яго вочы гаварылі: гэта партыя намнога лепшая, сыне! Той і ўхапіў быка за рогі — стаў на адно калена, прыпаў да рукі пана ваяводы:

— Я згодны, найсвятлейшы князь! Рады выканаць волю свайго пана. Гатоў аддаць за вас сваю сілу і сваё жыццё. Маё сэрца поўнае бязмежнай любасці і адданасці...

Князь сачыў за стрэлкай гадзінніка.

— Любоў і адданасць пакінь жонцы, пане каханку. А ты, харунжы, што скажаш?

Пан Дамінік хітра ўхмыльнуўся:

— Тое самае, што і сын, высакародны пане.

І пакланіўся князю.

— А ты, шаноўная паненачка-ягадка? — запытаўся ваявода ў Софіі, у той жа час даючы лёкаю знак прынесці яго шапку і кунтуш.

Панна Зося, збітая з панталыку нечаканым і маланкавым паваротам падзей, сядзела, не могучы вымавіць слова. Князь, не дачакаўшыся адказу, зірнуў на гадзіннік, махнуў рукой і развітаўся з усімі.

На парозе яшчэ павярнуўся і сказаў:

— Маўчанне, паненачка, гэта знак згоды, не даць ніякага адказу — таксама адказ. Ах, гэтыя маладыя паненкі!..

Крокі ваяводы патанулі ў мяккім ворсе дывана, які засцілаў калідор. Капітан, не марудзячы, прыпаў да рукі Софіі і, пачціва цалуючы яе, з падкрэсленым захапленнем зашаптаў:

— Я шчаслівы, міласцівая панна! Лёс, як ба-

чыш, нас зноў звёў. Я ўдзячны богу, што ён падараваў мне такую чароўную нявесту.

І, павярнуўшыся да ксяндза Мацеюса, які намерыўся нешта сказаць, ашчэрыўся, як воўк, гатовы к нападу, і папярэдзіў яго:

— Мы з паннай Софіяй звязаны мацней, чым ксяндзоўскаю стулаю[1]: князь свайго слова не зменіць.

Як нежывая мармуровая статуя, сядзела нерухома Софія: здавалася, яна зусім не разумее, што навокал дзеецца. Ксёндз Мацеюс як заведзены шаптаў малітвы. А пан пісар задаволена ўсміхаўся і нешта паспешліва абдумваў: замужжа пляменніцы ўдалае, Кружылкі — старадаўні багаты род. Чаго больш трэба сіраціне? Не адрываў вачэй ад будучай нявесткі і стары харунжы. А капітан ласкава і галантна дакрануўся да рукі панны Зосі:

— Прымі, сэрцайка, гэты пярсцёнак.

І надзеў ёй на палец залаты пярсцёнак з рубінам, прызначаны Анэле Пазнячанцы.

Так была заручана панна Зося...

Я кідаўся ў пакоі, як птушка ў клетцы, у поўным адчаі, глыбока зняважаны. Я папракаў Софію — чаму яна маўчала, не працівілася, не плакала, не кусалася... Чаму ксёндз Мацеюс адно толькі маліўся: князя малітвамі не пераканаеш, а Кружылкі свянцонай вады не баяцца. А гэтая мумія, да ўсяго абыякавы пан пісар! Гэты па-рабску паслухмяны ваяводаў паслугач! Напэўна, задаволены, радуецца: скончыліся апякунскія турботы, якія трывожылі яго некалькі дзён... Сваячку неспадзявана і выгадна аддаў замуж: у маёнтку старога Дамініка Кружылкі багацця — не злічыць. Багацця... Але хто Зосю будзе так любіць, як я?

---

[1] Стула — ксяндзоўская абвязка.

А з другога боку, ні Радзівіл, ні пісар не ведалі ж, што мы кахаем адно аднаго. А які прытулак, якую апору і апеку я магу даць Зосі?..

Дзень быў хмарны. За тоўстымі сценамі замка панавала халодная цішыня. Я адчуваў сябе адзінокім як ніколі. Як страшна аднаму! Можаш смачна есці і прыгожа адзявацца, жыць у раскошы, захапляцца шэдэўрамі найлепшых майстроў мастацтва, але калі побач няма блізкага чалавека, няма з кім падзяліцца радасцю і смуткам, усё траціць сваю вартасць. Чалавек самотны, як дрэва без вецця. Гадзіннік на спічастай вежы ў палацы прабіў восем гадзін вечара. Я строіў самыя смелыя, самыя дзёрзкія, нязбытныя планы, пакуль не адчуў, што галава мая палае агнём.

Я выйшаў у засень саду. Замкавыя вежы панура ўтыкаліся ў цёмнае вячэрняе неба. Калі я пераканаўся, што сёння нічога талковага не надумаюся, вырашыў дачакацца раніцы, калі галава мусіць пасвятлець. Пачаў намацваць дзверы ў сваім пакоі і раптам адчуў нечую руку на плячы. Я здрыгануўся ад нечаканасці.

— Панічык Габрэлюс, золатка маё, я вельмі рады цябе сустрэць,— пачуў я ціхі голас мядзведжага магістра Квозы.

— Гэта ты, Квоза? — сказаў я зусім безуважна. У калідоры было цёмна, таму не мог разгледзець яго твару, каб здагадацца, якую навіну ён мне прынёс.

— Дык чаго ж мы стаім тут,— нарэшце апамятаўся я.— Заходзь, зараз я запалю агонь.

— Не трэба, панічыку, святла,— шапнуў цыган.— Лепей пойдзем падыхаем свежым паветрам.

— А я ж толькі што з саду.

І я глыбока ўздыхнуў. Але паслухаў яго, і мы зноў выйшлі ў цемру саду.

Квоза ні з таго ні з сяго сказаў:

— Мая красуня Марыюля, панічык Габрэлюс, сёння варажыла на картах...

— Што мне, Квоза, ад тае варажбы?.. Я вельмі няшчасны.

— Варажыла Марыюля на брунетку панну. Кідала на шчасце і на светла-русую,— нібы нічога не чуючы, гаварыў цыган.

— Ну,— я нецярпліва забурчаў,— я ні светла-русая, ні брунетка...

Квоза не адступаўся:

— Марыюля наваражыла брунетцы, што яе чакае спатканне з крыжовым каралём.

Я адчуваў, што Квоза ўсміхаецца ў цемры.

— Крыжовы кароль — гэта твая мосць, панічык мой Габрэлюс.

У мяне сэрца ёкнула: нездарма Квоза расказвае пра варажбу.

— Хто гэтая брунетка, Квоза?

— Брунетка... Гэта наша дарагая панна Анэля, панічык мілы.

— Панна Анэля, брунетка... І ты прыйшоў, Квоза, каб паведаміць мне гэтую навіну?

Цыган адчуў, што я гарачуся, і паволі, але цвёрда пацісну́ў маё плячо:

— У мяне ёсць і іншыя навіны. Але самая важная, сэрцайка, што брунетка чакае цябе. Хадзем.

Ясна, Квоза запрашае не так сабе. Я паслухаўся яго, і неўзабаве мы ўжо ішлі па вуліцы. Я ішоў і ламаў галаву: што ад мяне спатрэбілася лідскай паненцы.

Яна сапраўды чакала нас у невялікім пакойчыку заезнага двара. Здалося мне, яна вельмі няшчасная, амаль такая самая, як і я. Ветла адказала на вітанне.

— А цяпер пакінь нас, Квоза,— сказала яна цыгану.— Пакінь на хвіліну нас адных.

Квоза паслухмяна выйшаў. Панна Анэля папрасіла мяне сесці.

— Мы без сведкаў, пане Габрэлюс.

— Я слухаю вас, міласцівая панна.

— Будзем гаварыць пра пана Кружылку.

Я здрыгануўся, пачуўшы імя гэтага ненавіснага мне чалавека.

— Пане Габрэлюс! — У яе акамянелы твар: гаварылі, здавалася, адны зубы. Вочы былі цьмяныя, вусны змярцвелыя.— Не буду таіць, я ашуканая... О пане! З мяне насмяяліся. Я ўсё зраблю, каб гэта вяселле ніколі не адбылося.

Я зразумеў: калі стану заадно з Анэляй — здабуду сілу.

У глыбіні маёй душы заварушылася надзея. Я прагна чакаў, што яна скажа далей.

Яна нервова кусала насоўку.

— Калі я ўжо зусім страціла галаву, пане Габрэлюс, нечакана прыйшла цыганка Марыюля. Варажыла мне на картах. Ад Марыюлі я дазналася пра тваю гісторыю кахання, пане Габрэлюс. І мне прыйшла ў галаву думка. Гэтаму Кружылкаваму вяселлю не бываць! — закрычала яна.

На сцяне вісеў даволі пацямнелы партрэт нейкага волата. Суровы барадаты ваяка, выцягнуты да палавіны з ножнаў меч гаварыў: за крыўду не адпомсціў. Пагрозліва зморшчаны лоб, горка скрыўленыя губы нагадвалі аблічча панны Анэлі.

Што ж прапанавала мне ваяўнічая Анэля? А тое (няхай благаславіць свента Мар'я яе жыццёвыя пуцявіны і сцежкі!), што, не чакаючы ніводнага дня, я павінен украсці Зосю і — да д'ябла! — павянчацца з ёю. Цяпер гэта ў модзе, я не першы такі буду.

Чакаючы майго адказу, нецярпліва дастала сваю табакерку і пачала нюхаць цёмна-жоўтую табаку.

Я пацёр свой распалены, як печ, лоб.

— А панна Зося? — сказаў я з растучай надзеяй.— Каб толькі панна Зося згадзілася.

Пазнячанка пляснула рукамі:

— Панна Софія згодзіцца, згодзіцца! Толькі не трэба марудзіць. Квоза! Заходзь.

Тамарэвіч зайшоў.

— Квоза, пану Твірбутасу не церпіцца,— вочы ў панны Анэлі свяціліся.

— Панічык, мядочак ты мой, я гатоў,— з разуменнем сказаў цыган.

Куды ён гатоў?

Квоза міргнуў па-змоўніцку.

— Падзякуй панне Анэлі, мілы Габрэлюс. Яна папрасіла, каб Марыюля паваражыла і панне Софіі. Марыюля нядаўна і паваражыла...

— Што паваражыла? Скажы, Квоза, хутчэй!

— Марыюля знайшла панну Зосю ў пакоі адну. Яна смутная была, пан Габрэлюс.

— Не муч, Квоза,— усклікнуў я,— карацей!

— Шаноўная паненачка,— сказала ёй Марыюля,— я на гэтых картах табе шчасце раскладу. Усю праўду пазнаеш. Добрае і благое. Не бойся пазнаць нядобрыя весці, бо самы горшы вораг той, у каго на губах мёд, а ў сэрцы лёд...

І Софія даведалася, што Марыюлін муж, цыган Квоза — удзячны і пакорлівы слуга пана Габрэлюса. Расказала ёй Марыюля і пра нашы з ім прыгоды.

Выйшла так, што Квоза пачуў навіну пра заручыны, якая разнеслася па ўсім палацы, і адразу паведаміў пра гэта Пазнячанцы. Тая, не марудзячы ні хвіліны, пачала дзейнічаць, а Квоза ўзяўся ёй памагаць. Знайшоў ласкавую панну Зосю і пачаў

угаворваць яе ўцячы з Нясвіжа і павянчацца са мною. Нямала намаганняў давялося прыкласці паненцы Анэлі, пакуль перараканала ксяндза Мацеюса, пакуль усё з ім абмеркавала. Засталася толькі драбніца — знайсці і ўгаварыць на гэты рызыкоўны ход мяне. Панна Зося цяпер моліцца ў касцёле бернардынаў.

Пачуўшы пра гэта, я схапіў шапку, падвязаў да пояса меч і, выходзячы, пацалаваў руку шаноўнай панне Пазнячанцы, падманутай нявесце. Яна падбадзёрыла мяне, усміхнулася і, развітваючыся са мною, сказала:

— Фартуна, пан Габрэлюс, наравістая. Аднаму яна толькі ўсміхнецца, а другому дык зарагоча.

Я выйшаў на вуліцу з радаснай надзеяй у сэрцы і поўны неспакойнага хвалявання. Ведама, лідская паненка Пазнячанка не адмовілася ад сваёй задумы. Яна спадзявалася, што, страціўшы Зосю, пан Кружылка зноў упадзе ёй у ногі і будзе маліць даравання. А для мяне гэтая авантура, прыдуманая помслівым і хітрым жаночым розумам, можа скончыцца вельмі сумна, якія б ні былі ў мяне добрыя адносіны з вясёлым смаргонскім катам панам Жыткевічам. Жартачкі: такое дзёрзкае супраціўленне князевай волі!..

Але што значыць боязь у параўнанні з тым, што Зося будзе мая! Мая!

Спусціўшыся з Квозам да падножжа гары, па вузкай і цёмнай вулачцы, задыхаючыся, дабраліся да касцельнай брамы.

Зося збялелая стаяла на каленях перад абразом маткі боскай. Угледзеўшы мяне, яна яшчэ больш пабляднела. Ах, якая гожая цяпер была чароўная мая Софія!.. Я ледзь стрымліваў свае пачуцці. Змушана спакойна пакланіўся ёй, і яна адразу ўстала. Я прайшоў услед за ёю міма жанчын, што малілі-

ся, і мы спыніліся на вуліцы ў цёмнай засені кас-цёла. Месяц, як ліхтар, асвяціў нас — на твары яе дрыжалі цені лістоты.

Я абняў яе, адчуў, як яна ўся дрыжала. На не-басхіле відаць быў водбліск асветленага палаца. Што я тады гаварыў, што сказаў, і сам добра не па-мятаю. Ахоплены моцным парывам, я прыціскаў любую да сваіх грудзей.

Помню толькі астатнія яе словы:

— Габрэлюс, каханы мой...

— Софія...

Гэтым было выказана больш, чым сказала б най-даўжэйшая тырада любасці.

Пачулі далікатнае пакашліванне, і мы спехам пайшлі за добрым Квозам. Ішлі моўчкі. Без слоў разумелі адно аднаго — нашы сэрцы, душы былі поўныя адных думак, летуценняў. Аднолькава біўся ў нас пульс.

Над галовамі з кігіканнем праляцеў начны птах, чуліся галасы начной варты, тупалі па бруку капы-ты коней, нехта заспяваў, нехта вылаяўся, але ўсё гэта было вельмі далёка ад нас.

— Прыйшлі,— сказаў Квоза.

Спыніліся каля пакручастых усходаў вежы. Ён запаліў ліхтар. Мы падымаліся ўгору, пакуль цы-ган не пастукаў у замкнутыя дубовыя дзверы ў кап-ліцу бернардзінаў. Калі дзверы са скрыпам адчы-ніліся, мы ўбачылі маленькую фігурку ксяндза Ма-цеюса. Цішыня: падышоў вырашальны час. Софія глядзела на мяне, я не адрываў вачэй ад яе. Зага-варыў яго праасвяшчэнства, задаваў нам пытанні, але адказ быў у нас адзін: што б там ні было, мы адважыліся так зрабіць.

— Дзеці мае,— нарэшце сказаў ксёндз дрыжа-чым голасам і выцягнуў уперад свае рукі.— Ці са-праўды гатовыя вы да свайго ўрачыстага моманту?

Босы тоўсты манах (далібог, сам брат Рафаіл!) запальваў свечкі на алтары.

— Ведама,— адказаў я.

— Гатовыя, айцец мой,— сказала Зося.

Свечкі патрэсквалі, на вуліцы за высокімі вітражамі шумна падалі кроплі дажджу.

Мы наблізіліся да алтара. Ксёндз Мацеюс паклаў стулу на нашы дрыжачыя сашчэпленыя рукі. Памяняліся пярсцёнкамі. Цырымонія скончылася.

— Ну, нарэшце,— уздыхнуў Квоза.— Галубочкаў-буркатунчыкаў павянчалі. Бедны пан Кружылка!

— Нарэшце ты мая,— сказаў я, цалуючы каля алтара ў капліцы сваю жонку.

— Габрэлюс, скажы, ці не сон гэта? — прашаптала Зося.

— А цяпер, мой айцец,— ап'янелы ад шчасця, усклікнуў я,— пачынаецца ў мяне...

— А цяпер, сын мой,— перапыніў мяне ксёндз, не зняўшы яшчэ з сябе ні стулы, ні комжы[1],— ведай: я думаю, што Кружылкі і князь не даруюць ні вам, ні мне. Я магу пазбавіцца парафіі. Або трапіць у манастыр. Воля божая неспазнаная.

І ён адважна махнуў рукою.

«Неяк жа будзе,— падумаў я,— не загінем».

Я трымаў у руцэ метрыку аб шлюбе. Такую самую ўбачыў і ў Квозы.

— А табе яна нашто, Квоза? — здзівіўся я.

— Не мне, а Пазнячанцы. Яна гэты метрычны запіс ужо здолее падсунуць капітану Кружылку.

«Ну і характар у гэтай панны,— падумалася мне.— Ведае, як адпомсціць улану».

— Дзеці мае,— уздыхнуў ксёндз Мацеюс,—

[1] Комжа — белае літургічнае ксяндзова адзенне.

марудзіць небяспечна. Вось вам на дарогу. Гэта амаль усё маё зберажэнне. Ну, Габрэлюс, fuge, late, tace! [1]

Не прымаючы падзякі, ён сунуў мне ў рукі кашалёк з грашыма.

— Бывайце, бывайце! У вас наперадзе нялёгкая дарога. А ў мяне сустрэча са старым сябрам, мажліва, ужо былым... З панам Матусевічам. Я не адразу асмеліўся на такі ўчынак, але цяпер не шкадую. Софія, дачка мая,— ён з замілаваннем паглядзеў на маю жонку,—паважай Габрэлюса, і, як касцёл вучыць: жонка няхай збаіцца свайго мужа.

— Ого! — нечакана зычна засмяялася Зося.— Калі я была маленькая, ты не раз гаварыў, каб я баялася чорта. А цяпер ужо загадваеш баяцца мужа. Не хвалюйся, ойчанька, я не прападу.

Ксёндз толькі ўздыхнуў, узняў вочы да неба, паківаў сівою галавою.

Квоза, ад няма чаго рабіць любуючыся сваімі шырокімі сінімі цыганскімі шараварамі і чырвона-жоўтаю вышытаю камізэлькаю, не сцярпеў і ціха сказаў:

— Мой бацька стары цыган Якуб кажа, што яму вельмі падабаецца слухаць, як людзі расказваюць пра сябе: пачуеш адно добрае, даведаешся пра незвычайныя прыгоды... Габрэлюс, сонейка маё, помні, што ў адзін час не толькі ўцякаюць, але і даганяюць...

Гэта была перасцярога сур'ёзная. Развітанне з ксяндзом Мацеюсам не было доўгае. Пры святле Квозавага ліхтара мы спускаліся па той самай пакручастай вузкай лесвіцы, пакуль не апынуліся ў густой цемры ночы.

На вуліцы церусіў дождж.

---

[1] Бяжы, хавайся, маўчы! *(лац.)*

— Пане Габрэлюс! Вось і ваш воз,— з пачной гушчыні пачуўся Квозаў голас.

Мы з Зосяй селі ў брычку, я ўзяў у рукі лейцы.

— Мілы Квоза!..— развітваючыся, я абняў яго.— Мілы Квоза!..

У мяне не хапіла слоў.

— У добры час, залатыя мае! — выпраўляў нас Квоза.

Зося прытулілася да мяне.

— Квоза! — гукнуў я.— А чый гэта конь, чыя брычка?

— Едзь сабе спакойна, пане Габрэлюс. Няўжо ты не ведаеш: цыганы коней не крадуць, цыганы коней пазычаюць... Ха-ха-ха! Не бойцеся,— тут залатое сэрца панны Анэлі. Яна ўсё абдумала да драбніцы. Дай бог кожнаму такую хітрулю жонку, панічык. Панна коней пазычае вам, каб толькі хутчэй пакінулі гэты край.

Я тузануў лейцы, брычка пакацілася. У глухую ноч мы рушылі ў дарогу, але спадзяваліся на светлую раніцу, поўную сонца. Ціха, пазбягаючы сустрэч з драбантамі, кружнымі вулкамі мы пакідалі агорнуты глыбокім сном горад князёў Радзівілаў — Нясвіж. Усе мае і Зосіны рэчы засталіся тут. Але хто пра іх думаў?

Мы вярталіся на папялішча майго бацькоўскага дома, у старое гняздо Твірбутасаў. Выбралі мы яго не без падстаў: паводле Статуту, які дзейнічае ў Вялікім княстве Літоўскім, радавітага шляхціца можна арыштаваць толькі схапіўшы яго за руку на месцы злачынства або праз дваццаць чатыры гадзіны пасля зробленага злачынства, калі ён не вярнуўся дамоў. На месцы яго жыхарства, на сваёй зямлі шляхціц з'яўляецца недатыкальным.

Таму цяпер трэба было як найхутчэй дабрацца да Варніне.

Дождж усё ліў. Я сцебануў каня пугай:

— Но-о!

Мой твар, ахалоджаны ветрам і дажджом, раптам абпалілі гарачыя Зосіны губы...

## Сустрэча з чортам Кібартам і Кружылкамі

Мы ехалі ўсю ноч на брычцы. Неба перад світаннем трошкі праяснілася, але каня зусім заездзілі, і ён з натугаю валачыўся ступою. Пена валілася з яго камякамі, а пара ўздымалася ўгору, як з кіпучага катла. Мы адолелі яшчэ некалькі вёрст, і конь зусім стаў, павярнуў галаву і жаласліва глядзеў на мяне. Зразумела, трэба было зрабіць папаску, даць яму аддыхнуць, пакарміць аўсом, напаіць.

На маё плячо даверліва схіліла сваю галоўку Софія. Яна падрэмвала, стаміўшыся ад усіх трывог. Усю дарогу мы прагаварылі, марылі пра будучыню, прыгадвалі нядаўняе мінулае. Софія расказала пра новыя дзіўныя здарэнні ў Варніне. Колькі ў іх было праўды, цяжка сказаць, бо сама Софія пачула пра тое перад выездам у Нясвіж.

Зноў ажыла амаль забытая гісторыя пра пярэваратняў: казалі, аднойчы раніцай дзядзька Пранцішак знайшоў на магіле Ёзапатаса нежывую ваўчыцу з белай плямай пад горлам. Пакваліўшыся на шкуру, чалавек той прывалок ваўчыцу дадому і пачаў яе лупіць. Хто мог апісаць жах, які ахапіў Пранцішка, калі пад шкураю ўбачыў мёртвую пажылую жанчыну. Яна была ў вэлюме маладой, на шыі — бурштынавыя пацеркі, на руцэ — заручальны пярсцёнак з чырвоным каменьчыкам. Падумалі,

ці не была гэта некалішняя Ёзапатасава нявеста, а можа, і жонка, хто ведае. Можа, прыйшла сюды памерці, можа, выліць сваё гора. Не першы выпадак, людзі ведаюць мноства расказаў, калі пад шкурай воўка знаходзілі пярэваратняў у адзежы. Тую самую, што насілі перад тым, як абярнуліся ў гэтыя страшыдлы.

Пакуль Софія расказвала, неба зноў пацямнела, невялікае азерца каля дарогі зрабілася чорнае, узняўся вецер і кідаў у вочы ўсё, што траплялася яму па дарозе. Загрымела, набліжалася навальніца. Мы не спалохаліся нябеснага гневу, бо паказаліся ўжо Вашчуны. Я пачаў падганяць каня — няхай пастараецца, будзе перадых і добрая торба аброку. Не залішне і нам падсілкавацца.

— У Вашчунах адпачнём. Тут дзве карчмы,— сказаў я Зосі.

Софія спрасоння кіўнула галавой: яна была зусім зняможаная. Перада мною адкрылася ўжо знаёмая карціна — касцёл, пахілыя хаты, лужыны з свіннямі ў іх, вазы, корчмы. Ёшкаву карчму я мінаваў не толькі праз тыя беды, што напаткалі мяне там, але і таму, што ў ёй зашмат цікаўных вачэй і настаўленых вушэй, гатовых улавіць усё, хто што збрэша. Таму са сваім змораным канём я пад'ехаў да меншай, амаль ужо аселай карчомкі. На ганку, хоць не зусім яшчэ ўднела, адразу вырасла старая Гунэфа. Яна трохі пастаяла, шырока разявіўшы свой бяззубы рот, потым, пазнаўшы мяне, задаволена засмяялася.

— Божухна! — узняла рукі.— Які нечаканы, які дарагі госць! І зусім не збаяўся разбойнікаў, везучы гэтакую жамчужыну.

Апошнія слоўцы былі сказаны маёй Софіі. Старая хітра ўхмылялася, і яе вочкі, як мышкі, шнырылі з-пад апухлых павекаў.

— Проша,— павяла, як палкай, высахлаю рукою.— Заходзьце, пані дарагая, у гасцёўню. Ваш конь будзе дагледжаны.

Гасцёўня была невялікая: з лавамі, засланымі посцілкамі, на вокнах былі фіранкі, сталы, падлога чыстыя. Мая апаска наконт скочак аказалася дарэмнаю. Усё было зусім не так, як страшыў тоўсты манах.

Лінуў дождж. Яго шум закалыхваў. Аднак перш за ўсё я папрасіў есці і піць. Горда паляпаў па кішэні: «Нясіце, маўляў, усё, што ёсць самае лепшае, самае смачнае!» Я глянуў на Зосю, яна на мяне. У абаіх з'явілася адна думка: гэта ж наша вяселле!

З кухні быў чуцён энергічны голас старой Гунэфы. А за акном бліснуў такі вогненны вуж, што ад грому здрыгануліся сцены. З падносам у руцэ ўвайшоў высокі кашчавы чалавек, аблічча якога здалося нібы знаёмым. Ён моўчкі паставіў на стол смажаніну і выйшаў. Дзе я яго бачыў?.. Далібог, гэта Агасфер, Вечны вандроўнік!

— Зяцейка! — зноў пачуўся Гунэфін голас.

— Што з табой, Габрэлюс? — спалохалася Зося.

Нічога не адказаўшы, я закрычаў:

— Цётка Гунэфа! Хадзі сюды!

Старая закашляла.

— Што спатрэбілася тваёй мосці? — прывалаклася карчмарка.

— Хто такі, што прынёс нам сюды есці?

На вуліцы яшчэ мацней грымнула, на стале забразгала пасуда.

— Мой зяць, пане,— адказала Гунэфа.

Гліняны збан вываліўся з маіх рук. Пеністае піва разлілося па падлозе.

— Твой зяць? Божа! — крыкнуў я.— Зосечка, нам прынёс смажаніну чорт Кібарт! Я бачыў яго ра-

ней, калі ён прыкінуўся Агасферам. А цяпер Гунэфа зноў выпусціла яго з бутэлькі.

Маланкі спляліся, грымнула над самай карчмой, разарваўся гнеўны шар нябеснага агню...

Старая завішчала, як дзікая кошка:

— Ці не брыдка вам, паночку? Калі скончацца гэтыя дурныя выдумкі? То ж Франін муж, маёй меншанькай. З месяц назад вяселле згулялі. Пакахаў яе, калі яшчэ бадзяўся з манахам Рафаілам,— няхай згніе яго язык паганы! — а перастаў валачыцца па свеце, ажаніўся. Пасля мяне застанецца ім карчма.

Я сядзеў за сталом чырвоны ад сораму, а Зося так заходзілася ад смеху, што старая Гунэфа скора памякчэла.

Застаўшыся сам-насам са сваёй мілай Зосяй, я забыўся на гром, навальніцу, валацугаў-манахаў і чартоў Кібартаў.

Пад вечар неба праяснілася, у мястэчку зазвінелі дзіцячыя галасы. Мы былі ў добрым настроі. У Нясвіжы калі хто і заўважыў, што нас няма, дык толькі цяпер, а мы ўжо блізка да Варніне. Але ўсё ж трэба спяшацца — занадта мы тут заседзеліся. Я сказаў Гунэфе, каб хутчэй запрагалі каня.

У гэты ж момант на двары загрукацела і спынілася невядома чыя карэта, коні тупалі па размоклай зямлі.

— Гэтыя ехалі ў дождж, а спыніліся, калі выглянула сонца,— з'едліва сказаў я, прыціскаючы лоб да маленькага патрэсканага акенца. Падышоўшы да мяне, зірнула ў акно і Зося.

Але скора мы пераканаліся, што нельга ісці наперад усміхаючыся, калі ў чаравік трапіў каменьчык... Свет, які здаваўся поўны нашым шчасцем, у адно імгненне паляцеў кулём. Не паспелі мы адысціся ад акна — з карэты ўтаропіўся ў нас капітан Кружылка.

Зося, стрымліваючы выкрык адчаю, прыкрыла далоняю рот.

Абодва Кружылкі, капітан і харунжы, убеглі са скрыўленымі тварамі ў карчму. За імі я ўбачыў вернага капітану ўлана са шрамам, Ігната. Я выхапіў свой меч, а Софію засланіў сабою. Каб я яе аддаў капітану?!

У жыцці чалавека здараюцца моманты, калі ён адчувае, што можа выстаяць адзін супраць некалькіх праціўнікаў. Я лоўка схапіў са стала важкі збан. Ён трапіў капітану ў лоб, які адразу ўпрыгожыўся гузам з добрае яйцо.

Але я адразу атрымаў ладны ўдар у патыліцу і расцягнуўся на падлозе на ўвесь рост. Калі я адкрыў вочы, дык перш за ўсё падумаў, што пачаўся другі сусветны патоп: гэта мяне адхайвала мілая Зося, адлівала вадою. Я ляжаў на падлозе ў карчме ў разадранай кашулі. На маіх аголеных грудзях матляўся на ланцужку медальён.

На медальён раптам звярнуў увагу даўганосы стары Кружылка. Ён бесцырымонна рвануў ланцужок, і медальён адразу ж апынуўся ў яго кашчавай руцэ.

— Гм... Гм...— як у пугача на світанні, усё больш расшыраліся зрэнкі ў старога харунжага.— Бронюсь, сыне, глядзі! — закрычаў ён у вялікім хваляванні.— Гэта ж медальён маёй Альжбеты, тваёй нябожчыцы маці. Паміраючы, яна табе на шыю павесіла яго.

Капітан з цікавасцю пакруціў медальён у руках.

— Дзіўна. Сапраўды мой. Але ён даўно ў мяне прапаў. А! — вочы ў яго злосна заблішчалі.— Можа, гэты паніч украў яго?

Мяне як бы аблілі варам.

— Ты паклёпнік! — я ўскочыў узʼюшаны.— Адбрэшаш, сабакам адбрэшаш гэтыя словы!

Схапіў капітана за горла, і ён пачаў ужо хрыпець, але ўлан са шрамам ударам кулака ззаду збіў мяне з ног. Праз імгненне ўлан паваліўся побач са мной: Зося стукнула яму глінянаю міскаю па галаве.

— Паклёпнікі вы! — закрычаў я.— Гэта медальён маёй маці. Яна, калі я адыходзіў з Варніне, мне гэты медальён падаравала. Як памяць пра бацьку.

Пачуўшы гэта, капітан Браніслаў Кружылка збляднеў, пахіснуўся, як п'яны, і сеў на лаўку: ён нешта ўспомніў. А стары, усё яшчэ ўзлаваны, падскочыў да мяне і, трасучы перад маімі вачамі медальёнам, крычаў:

— Ты, ты... Табе маці яго падаравала! Дык хто ж твой бацька? Хто твая маці?

Халодны вецер зашумеў у маёй галаве. Пан харунжы дакрануўся да балючай раны: хто мой бацька... Я ўспомніў, як развітваўся з матуляй на бальшаку. «Пані маці! Пані маці... Прабачце... Я хачу ведаць — хто мой бацька?» Маці дрыжачымі рукамі засланяе свой твар і кажа: «Быў, дарагое маё дзіцятка... Быў такі прыгажун улан... Аднойчы ён ехаў на кані паўз наша Варніне. Ехаў, спыніўся і ў нашым маленькім маёнтку заначаваў...»

Усё гэта як у сне прашаптаў харунжаму.

Аслабелымі рукамі я падтрымліваў сваю галаву, якая нібы лунала ў паветры. «Быў такі прыгажун улан...» Усё ямчэй і ямчэй, як звон, звінелі ў галаве гэтыя матуліны словы. Не лепш адчуваў сябе і капітан: белы, як мярцвяк, сядзеў на лаве і пагладжваў гуз на лобе. Гуз, які ён зарабіў ад свайго ворага, саперніка... І, як памалу праяснялася, ад рукі свайго сына.

— Калючыя ружы, бычыныя рогі! — шаптаў ён.

Я аказаўся сынам. Сынам гэтага, гэтага... Ну, гэтага пана капітана. Унукам даўганосага пана Дамініка Кружылкі...

Калі нарэшце мы ўсё гэта высветлілі між сабою, я, ахоплены невыказнай лютасцю, з іроніяй загаварыў да Кружылкі:

— Пане тату, маю гонар! Дазвольце афіцыйна пазнаёміць — вось мая жонка Софія. Ад гэтага дня — ваша нявестка. Ха, ха! Будзьце ласкавыя блаславіць наш шлюб.

Капітан паблядпеў, але скеміў, як праглынуць гэту горкую пілюлю.

— Калючыя ружы, бычыныя рогі! — прагрымеў ён і велічна выпрастаўся.— Благлаўляю вас. Станьце на калені, станьце перада мною.

Харунжы, гледзячы на нас, пачаў заўзята церці свой даўгі нос. «Божа мілы,— я ўзяўся за свой нос,— няўжо і ў мяне, калі пастарэю, будзе такі?»

Расказваць засталося зусім нямнога. Як Кружылкаў сюды занесла? Як толькі даведаліся, што знікла нявеста, стары харунжы, вельмі спахмурнелы, адразу сабраўся дадому, у свой фальварак. Пры князю імя панны Анэлі нават не было вымаўлена. Але потым, жадаючы падлізацца да бацькі і як-небудзь узнавіць сватанне да багатай Анэлі, капітан напрасіўся праводзіць са сваім уланам старога Кружылку. Навальніца застала іх у дарозе, і яны, як і мы, завіталі ў карчму да Гунэфы, каб абсушыцца, перакусіць самім і накарміць коней.

Цяпер мы ўсе сядзелі за сталом, застаўленым ежай і пітвом, а падносіў нам гэта ўсё Гунэфін зяць. Пан харунжы, уладкаваўшыся паміж мною і мілай маёй Зосяй, хрумстаў вышчарбленымі пярэднімі зубамі яблык і, расчырванеўшыся ад выпітага мёду, лапатаў:

— Мой сын Браніслаў цяжка зграшыў... Але і ўнук мой не ўсюды вёў сябе прыстойна...

— Гэта спадчыннасць, пане дзеду,— адрэзаў я.

Вочы ў пана капітана счарнелі ад злосці, але

толькі на адно імгненне,— ён успомніў, што цяпер мы — аднакроўныя.

Дзед урачыста ўстаў.

— Габрэлюс, хлопец, якога мы сёння з ласкі боскай прызналі сынам і ўнукам і які з вачэй, носа і падбародка падобны да майго нябожчыка татуся, павінен будзе насіць чэснае прозвішча Кружылкаў. А пасля маёй смерці я адпісваю яму палову спадчыны.

— Як, бацька? Палову спадчыны? — аж падскочыў мой тата-капітан. І трошкі збянтэжыўся, сустрэўшы Зосін позірк.— І чаму ён будзе звацца Кружылкам? Я ж не збіраюся ажаніцца з яго мацераю.

Мне стала сорамна за душэўнае ўбоства майго бацькі. Я ўжо хацеў нешта адказаць, але стары харунжы так стукнуў кулаком па стале, што са століі пасыпаліся мёртвыя тараканы ў Гунэфінай карчме.

— Або выканаеш маю волю, блудны сын,— закрычаў звар'яцелы харунжы,— або ўся спадчына дастанецца Габрэлюсу! Слова гонару шляхціца!

Я развесіў вушы і, здзіўлены, слухаў.

Капітан замёр.

— А якая твая воля, шаноўны тата?

Харунжы паляпаў мне па плячы, паціснуў руку Зосі, глынуў з кубка.

— Воля мая такая. Ты ажэнішся не з Пазнячанкаю, а з тою, якая мне падаравала і выгадавала ўнука Габрэлюса. Я даўно ўздыхаю, што не маю ўнукаў, а гэты — толькі паглядзі на яго паставу, на нос — сапраўдны нашчадак нашага роду!

Дзед павярнуўся да мяне:

— Гм... Ці прыгожая твая маці, Габрэлюс?

— О, пане! — замест мяне адказала Сафія.— Яна і цяпер яшчэ прыгажуня.

— І найздатнейшая крыкуха,— не сцярпеў я, каб не пакпіць з капітана.

Капітан, пачуўшы, як Зося пахваліла маю матулю, крыху павесялеў. Выпіў кубак горкай, задумаўся, нарэшце даволі бадзёра адказаў свайму ўпартаму бацьку:

— Добра. Згода, бацька! Я жанюся з маткай майго сына. Аднак пры адной умове.

Пан харунжы насцярожыўся:

— З якой яшчэ ўмовай, Бронюсь?

Капітан сказаў цвёрдым голасам:

— Ты адразу аддаеш мне Каранеўшчынскі фальварак. Абрыдлі мне ўжо, тату, аб'едкі з княжацкага стала. А яшчэ больш — гэты мундзір найміта.

— А ты сам і вінаваты, сын мой. Што пайшоў з бацькоўскага дому. Замала, маўляў, даваў табе злотых. Карты, гулянкі, дуэлі... Гэты маёнтак, ты ж ведаеш, я збіраўся пакінуць табе пасля маёй смерці. Ну, але не будзем пра гэта гаварыць, Браніслаў. Каранеўшчына будзе твая, але... пасля вяселля.

За гэта і паднялі кубкі.

Крыху захмялелы ад віна, я сказаў:

— Цяжка мне, пане, назваць тваю мосць бацькам. Язык не паварочваецца, але, можа, прывыкну. Аднаго толькі не ведаю: як разлічымся са старымі даўгамі.

Я паказаў гузы на лобе, патыліцы. Капітан намацаў свае гузы і раптам зарагатаў:

— Трэба было б табе, нягоднік, яшчэ розгаў усыпаць.

Я ўскіпеў:

— Сцеражыся! Сцеражыся, пане! — разануў я са злосцю.— Ніхто не мае права мне, шляхціцу, розгамі пагражаць. Нават сам бог на небе.

Капітан з'едліва адказаў:

— Не гарачыся, сыне, бо пракляну цябе. На гэта

ёсць у мяне цяпер такое права, ха-ха!.. Ведай, бізун катаў не робіць гонару, затое розга бацькава не робіць сораму.

Наставала новая раніца, на вуліцы зрабілася відно, але божышча сну яшчэ спакусліва выстаўляла свае мяккія, пухлыя ручкі, склейвала вейкі, хіліла галовы ўніз. Пан капітан падрэмваў каля стала, падпёршы галаву рукой. Софія ў сваім дарожным куфэрку нешта шукала.

— Пане дзядуня, шаноўны харунжы,— прашаптаў я.— На сэрцы маім неспакойна. Вельмі трывожуся.

— Чаго, унучак? — занепакоіўся стары.

Я адказаў блытана:

— Я... Зося... Сам разумееш, твая мосць. Нас самавольна звянчаў ксёндз Мацеюс. А князь яе іншаму сватаў...

Стары Кружылка пачухаў кончык носа. О божа, я адчуў, што і ў мяне засвярбеў нос.

— Пакінь, Габрэлюс, гэта мне,— паволі адказаў ён.— Заўтра я дабяруся да яго светласці і сцішу яго гнеў.

Софія зачыніла свой куфэрак і падышла да нас, трымаючы нешта ў далоньцы.

— Што мне, пане, рабіць з гэтым? — запыталася ў харунжага.

Асветлены сонцам, на яе далоні бліснуў пярсцёнак з рубінам. У князевым палацы пярсцёнак гэты надзеў ёй на палец пан капітан.

Прыгадаўся мне расказ званара. Матка боская, гэты ж пярсцёнак нябожчыцы.

— Зося,— прашаптаў я, ахоплены страхам,— хутчэй кінь пярсцёнак! Ён — нябожчыцы Шымалюнчанкі.

Нічога не зразумеўшы, Зося глянула на мяне шырока раскрытымі вачамі.

— Якой нябожчыцы? — здзівіўся пан харунжы.

Усхвалявана расказаў яму, што пачуў ад званара Тамаша пра жаніцьбу пана капітана (яшчэ язык не слухаўся, каб назваць яго бацькам) з Шымалюнчанкай.

Даўно я не бачыў чалавека, які б так весела і шчыра смяяўся. Але, нарэшце супакоіўшыся, дзед пагладзіў Зосю па галаве і сказаў:

— Рассмяшыў мяне Габрэлюс. Бранілаў ніколі не быў жанаты. Ён сам выдумаў гэту байку. Гэта, калі прайграецца ў карты, каб за доўг не адабралі ў яго пярсцёнак. Ха-ха-ха!.. Насі, прыгожая мая нявестачка, гэты пярсцёнак з рубінам. Яго насілі мая бабуля і маці, а пазней і Браніслававa маці. Гэта даўняя наша родавая каштоўнасць, і яна цяпер табе дасталася па праве.

Прыйшоў улан са шрамам і адрэзаў:

— Карэта гатовая, панове.

— Выпі, Ігнат,— наліў яму кубак мой бацька-капітан.— За здароўе маладых! Да дна! За майго сына Габрэлюса! Вабіць свая кроў,— зарагатаў.— Гэта ж з першага разу не мог праехаць спакойна міма, памятаеш?

Улан коса глянуў, нібы шукаючы вачамі мой капялюш са збітым пяром.

— А як жа? Яшчэ як помню!..

За акном заспявалі птушкі, павеяла ранішняй свежасцю.

Мы з Зосяю ціха выйшлі на двор. Пасля душнай накуранай карчмы поўнымі грудзьмі ўдыхнулі жыватворнае, поўнае сонца паветра...

## Што сталася далей

І вось з боскай ласкі ў маім жыцці адбыліся вялікія змены. Што ж далей сталася? Перш за ўсё ажаніўся з маёй матуляй пан Браніслаў Кружылка. Праўда, маці доўга ўпарцілася, пакуль мы ўгаварылі яе надзець вэлюм нявесты, але праз гэтае супраціўленне яна, яшчэ захаваўшы водбліск дзявочай прыгажосці, аж падрасла ў вачах капітана. Пасля вяселля пан капітан, ён жа мой бацька Браніслаў Кружылка, скінуў з сябе ўланскае адзенне і пачаў гаспадарыць у маёнтку Каранеўшчына. Дзед Дамінік усё больш уцягвае ў свае гаспадарчыя клопаты і мяне. Але я і Софія вырашылі не кідаць Варніне, а, скарыстаўшы яе пасаг, адбудаваць матчын дом Твірбутасаў. Усё, што згарэла і згніло,— расчысціць, а потым паставіць новыя будынкі, аднавіць флігель з вежай.

Не забыліся мы і на магілу беднага Ёзапатаса. З яго пачалася ўся гэтая гісторыя.

Наш мілы пастыр, ксёндз Мацеюс нас невыказна здзівіў сваім нечаканым рашэннем — застацца ў Нясвіжы, у бернардзінскім манастыры. Невядома, праўда тое ці не, але брат Рафаіл, збіраючы ў Варніне ахвяраванні на манастыр, расказваў, што ксёндз Мацеюс у тую ноч, што нас звянчаў, даў зарок: калі бог нам дапаможа і мы не наклічам на сябе гневу князевага, ён пойдзе ў манахі. У Нясвіжы ксёндз Мацеюс зноў бачыцца са сваім сябрам юначых гадоў панам пісарам, шаноўным Матусевічам, і ўсё гаворыць і гаворыць, успамінаючы пра мяне і Зосю.

Маё месца ў канцылярыі заняў такі самы небагаты шляхцюк. Дарэчы, ён нейкі сваяк пана Жыткевіча. Возны, даведаўшыся пра мае тайныя ўцёкі і што пану Матусевічу патрэбны чалавек, пагладзіў свае вусы і сказаў: «Было б карыта, а свінні заўсёды

знойдуцца». І тут расказаў некалькі павучальных гісторый.

Ксёндз Мацеюс нам піша. Не часта, але доўгія і вельмі падрабязныя лісты.

Самае цікавае ў іх было апісанне падзеі, якая выклікала многа пагалосак, абгавораў і здзіўленняў ва ўсім краі. Гэта прыезд караля Станіслава Аўгуста ў Нясвіж [1].

«...Мы яшчэ не апрытомнелі,— пісаў ксёндз,— ад усяго таго, што бачылі і чулі, ад таго, што здатны нарабіць княжацкія мільёны талераў. Князь Радзівіл паназапрошваў на сустрэчу караля пайбагацейшых паноў з усёй Рэчы Паспалітай і мноства дробнай шляхты. З гэтай нагоды ў Нясвіж перабраліся цэхі, усялякія рамеснікі, прынамсі, з некалькіх гарадоў. Да палявання, якое меліся наладзіць, былі прывезены стральцы з усіх пушчаў. Ад самай граніцы Вялікага княства Літоўскага ўздоўж бальшака круглыя суткі стаялі тысячы прыгонных, мужчын і жанчын, з паходнямі ў руках. А за некалькі міляў ад Нясвіжа дарогу абступіла шляхта і прыбраная Радзівілава стража. Нарэшце, калі ўжо вочы стаміліся, углядаючыся ў даль, паказаўся ў пазалочанай карэце кароль са сваёй шматлікай світай. Грымнулі нясвіжскія гарматы, стрэлы якіх людзі чулі аж у Міры. Званілі ўсе званы ў касцёлах і замку. Прывітальныя воклічы не змаўкалі. Іх вялікасці і каралеўскай свіце князь Радзівіл прыслаў свае шыкоўныя і ўпрыгожаныя карэты. Ён паслаў таксама ў распараджэнне караля сваіх уланаў, выдатна вымуштраваных, і кароль з задавальненнем аглядаў іх манеўры і пастраенні.

Зноў і зноў страляюць гарматы. За паўмілі ад Нясвіжа каранаванага госця сустракае князь, убраў-

[1] Гэта адбылося 16 верасня 1774 г.

шыся ў самыя парадныя шаты з каштоўнымі камянямі, са світай, ад пышнасці якой мітусіцца ў вачах. Каралеўская вялікасць прасіў сустрэць яго сціпла, таму князь пабудаваў толькі тры брамы гонару. Першая брама, на самай большай адлегласці ад Нясвіжа, была зусім простая. На ёй было напісана: «Так кароль жадаў». Недалёка праехаўшы, паказалася другая брама, упрыгожаная ўжо намнога больш. Там было напісана: «Так Радзівіл прывык». Наблізіўшыся да трэцяй брамы, зусім раскошнай, аплеценай каштоўнымі аздобамі, кароль прачытаў: «Так Радзівіл яшчэ можа».

Далей, мае мілыя, стаяў сцяг Нясвіжскай ардынацыі, вышыты чыстым золатам. Вакол тоўпілася дзвесце шляхціцаў у жаўтаватых жупанах і цёмнасініх кунтушах з чорнымі кантамі.

Карэты павольна рухаліся да Нясвіжа. Каля варотаў іх чакалі мяшчане, войт магдэбургскі, прадстаўнікі магістрата, якія ўручылі каралю на залатым падносе ключы ад горада. Пасля гэтага караля зноў шумна віталі гараджане і яўрэі, якія асобна склалі купу дарагіх падарункаў.

Я ўжо не буду расказваць, як кароль ехаў у касцёл, змоўчу пра балі, гулянні, спектаклі ў тэатры (з іх найбольш зачаравала гасцей опера «Агатка», лібрэта якой стварыў князеў сваяк Мацей Радзівіл, а музыку напісаў дырыгент Нясвіжскай капэлы з галяндэрскай зямлі Ян Давід). Здзівілі гасцей таксама ўпершыню ўбачаныя імі мядзведжыя паказы. У іх прынялі ўдзел пяцьдзесят вучоных мядзведзяў, якіх паказаў наш супольны знаёмы цыган Квоза Тамарэвіч.

Вось яшчэ, ледзь не забыўся: у час баляванняў кожны раз, калі паднімалі келіхі, стралялі гарматы, а танцы асвятлялі чатырыста тысяч свечак.

Але ўсе тыя, хто бачыў, у адзін голас гавораць,

што ўсё перасягнула велічнае відовішча — напад на Гібралтар, які быў інсцэніраваны на сажалцы каля замка.

Потым кароль наведаў знакамітую калонію Альба, у якой Пане Каханку сабраў і пасяліў усіх сваіх цёзкаў — Караляў і розных бедных сваякоў. У невялікіх дамках там жывуць адны мужчыны, весялуны і жартаўнікі, і балююць круглы год разам з найсвятлейшым панам. Каралю паказалі князеву скарбніцу, гістарычныя каштоўнасці, залатыя статуі апосталаў. Гледзячы на ўсе гэтыя скарбы, яго вялікасць адчуваў сябе няёмка, як жабрак каля панскага парога.

Удалае было паляванне. У аблаве на ваўкоў, якую падрыхтавалі з вялікім размахам у гонар караля, кароль сам, гавораць, забіў дваццаць звяроў...»

Канчаючы свой ліст, ксёндз Мацеюс прасіў прабачэння за тое, што ўсё апісаць не здолеў, бо ўрачыстасці цягнуліся цэлага паўмесяца. Ад іх разбагацелі купцы і рамеснікі і яшчэ больш згалелі прыгонныя сяляне. Кароль Станіслаў Аўгуст паехаў з Нясвіжа на гродзенскі сейм толькі першага кастрычніка: яго гэтаксама шумна і ўрачыста праводзілі, як і сустрэлі.

«Паны гавораць, што такая шыкознасць і ўрачыстасць дасягаецца дзякуючы іх высокай культурнасці,— іранізуе ксёндз.— Але ўся іх культура, па-мойму, тое, што твораць яны і не робяць малпы...»

У канцы ліста, post scriptum, мы знайшлі яшчэ некалькі радкоў: «Мілыя мае, я забыўся. Неспадзявана мяне праведаў хросны Габрэлюсаў, пан Мельхіёрас. Ён расказаў, што прыгнаў панне Анэлі Пазнячанцы брычку з канём, якую яна табе пазычыла ў той памятны вечар. Праведаў ён мяне разам з памянёнаю дамаю. Падцягнуўся пан Мельхіёрас, неяк памаладзеў. Хоць і нестары: толькі да пяцідзесяці

наблізіўся. Як я даведаўся, ён з паннай Анэляй знаецца з юнацкіх гадоў і амаль равеснікі. Падобна, што амур некалі закрануў іх сваім крылцам. Выйшаўшы з пакоя, я міжвольна пачуў, як пан Мельхіёрас гаварыў шаноўнай Анэлі: «Чаму вы, дарагая, цягнеце, чаму вы адсоўваеце хвіліну, якая гатовая з'яднаць нас вянком шчасця?» Дзіўна, пра якое каханне марыць твой дзядзька, Габрэлюс? Але, як кажуць, ці разбярэшся, якія вусы ў камінара: сівыя ці чорныя. Можа здарыцца так, што ты, Габрэлюс, страціўшы панну Анэлю як мачаху, здабудзеш яе як цётку. Разам з маім лістом вы атрымаеце гасцінец. Яго Квоза пасылае пану Габрэлюсу. Дарунак, як убачыце, невялікі — медзведзянятка. Калі яно крыху падрасце, цыган прыедзе ў госці і навучыць яго рознаму штукарству. А пакуль здавольвайцеся самымі сардэчнымі Квозавымі зычэннямі...»

Дарагі чытач! Расказ закончаны. Я пераказаў гэтую гісторыю ў такім выглядзе, у якім яе напаткаў. Яе захавала і з павагай зберагла адна сям'я ў старадаўнім куфэрку. Старонкі гэтай старой хронікі паспелі ўжо пажаўцець ад часу. Аднак старанна выведзеныя гусіным пяром радкі, што расказваюць пра падзеі двухсотгадовай даўнасці, сумныя і вясёлыя, часам, на нашу думку, дзіўныя, пра звычаі і лад жыцця той эпохі, засталіся дастаткова чытэльныя. З іх мы і даведаліся пра Габрэлюса Твірбутаса з Варніне і пра яго прыгоды.

1977. Вільнюс

## ЯШЧЭ РАЗ НЕКАЛЬКІ СЛОЎ АЎТАРУ

Мінулае — часта даволі дзіўная рэч. Падзеі, прыгоды, якія некалі адбываліся, нібы пластамі адкладваюцца ў памяці. Але час ад часу, абуджаныя фантазіяй пісьменніка, зноў ажываюць абліччы, учынкі, старадаўнія карціны. Іх пачынаеш перажываць то хваравіта, то радасна. Часам мільгане толькі журботная іранічная ўсмешка мінулага як мерка, з якою мы можам параўнаць сучаснае...

Магчыма, напісаныя мною старонкі рамана будуць своеасаблівыя, як і само стракатае жыццё розных сацыяльных асяроддзяў таго далёкага XVIII стагоддзя. Таксама як і звычаі, уяўленні пра годнасць, пра чалавека, неба, добрыя і злыя сілы. У мемуарах, хроніках, разважаннях, гістарычных анекдотах людзі, дзеячы мінулых эпох цяпер нам бачацца нязвыклымі. Такімі паўстаюць перад намі і персанажы прачытанага рамана. Я пазнаёміўся з імі даўно, збіраючы на сваю кнігу матэрыял крупінкамі не адзін год. Я шукаў яго ў народзе і на пылам укрытых паліцах архіваў і кнігасховішчаў. Надышоў час, калі героі рамана і мядзведзі моцна сціснулі мяне ў сваіх абдымках. Я здружыўся з імі, не расстаючыся ні ўдзень, ні ўночы, пакуль усё, што ведаў пра іх, радок за радком, не склалася ў кнігу.

З урыўкамі рукапісу я знаёміў чытачоў рознага веку на сустрэчах з імі. Моладзь трохі дзівіла, што персанажы рамана ў штодзённай размове часта ўжываюць лацінскія выразы, свабодна носяць зброю, спыняюцца ў корчмах, вераць у пярэваратняў, чарадзеяў, нячысцікаў... Даводзілася напамінаць, што дзея разгортвалася дзвесце гадоў таму назад. Латынь у той час глыбока ўкаранілася ў каралеўскіх канцылярыях, у юрыспрудэнцыі, сярод каталіцкага духавенства, між дыпламатамі,

у навучальных установах. У сярэднія вякі мовай пісьменнасці ў многіх краінах Еўропы была лацінская мова, а не мова іх народаў.

А зброя — меч, шабля, шпага — была адзнакай знатнасці, гонарам і прывілеяй шляхціца. Трэба ведаць, што шляхціц заўсёды быў вельмі ганарлівы: не дакраніся да яго, крый божа, не зачапі яго ні позіркам, ні словам... Асабліва балюча было шляхціцу тады, калі хто-небудзь выказваў сумненне ў яго шляхецкім паходжанні. Справа даходзіла да суда. Трэці Літоўскі Статут 1588 года вызначаў такому зневажальніку дваццаць тыдняў астрога. А калі нават якога-небудзь збяднелага, слімазарнага шляхціца зняважыў бязродны, кат не толькі лупцаваў яго на плошчы: асуджаны пасля таго мусіў яшчэ ўзяць назад знявагу, паўтараючы публічна многа разоў: «Я брахаў, як сабака!», «Я брахаў, як сабака», «Я брахаў...».

Пярэваратні, ваўкалакі... Як і легенда пра Агасфера — Вечнага вандроўніка. Гэта створаныя народнай фантазіяй пачвары. У існаванне пярэваратняў верыла ўся Еўропа і нашы блізкія суседзі: беларусы, палякі, латышы, рускія. Уяўленні пра пярэваратняў захаваліся толькі ў помніках фальклору.

Некалькі вусных апавяданняў пра ваўкалакаў я запісаў недалёка ад Гродна, у наваколлі Вільнюса, у Біржайскім раёне, сумежным з Латвіяй; я знайшоў таксама паданні пра дзяцей, якіх выгадавалі ў лясах ваўкі, пра людзей, абернутых у мядзведзяў. Пра іх пісалі ў розны час замежныя падарожнікі па Літве, збіральнікі незвычайных гісторый. Прыгадаем выдатнага французскага пісьменніка XIX ст. Праспера Мерымэ, які напісаў на гэтую тэму «літоўскае» апавяданне «Локіс» («Мядзведзь»). Па ім у ПНР створаны аднайменны фільм. Да вайны ў Літве існаваў тэатр «Вілколакіс» («Ваўкалак»), названы так з мэтай падкрэсліць мастацтва пераўвасаблення.

У XVIII стагоддзі існаваў толькі конны і водны транспарт. Просты люд хадзіў больш пешкі. Каб адпачыць у дарозе, падсілкавацца, пераначаваць, падарожнікі, калі мелі грошы, спыняліся ў корчмах, заезных дварах. Тут дарожныя людзі знаёміліся, абменьваліся навінамі, купцы ўладжвалі свой гешэфт, шпегі падслухоўвалі, ці не рыхтуюцца дзе змовы, завязваліся інтрыгі, п'янчугі весяліліся, сварыліся і біліся. У карчме ў суботнія вечары моладзь наладжвала ігрышчы, у карчме спыняўся пасля вянца вясельны поезд... Адным словам, карчма была адметным атрыбутам тагачаснага побыту людзей розных станаў. Але яна спрыяла і пашырэнню п'янства, віноўнікамі якога былі паны, зацікаўленыя ў як мага большым продажы гарэлкі, што выраблялася на іх броварах...

Не раз мне даводзілася бываць у старой Смаргоні. Таму хочацца некалькі слоў сказаць пра тое, што я там бачыў, якія чуў расказы пра дзіўныя здарэнні, дасціпныя прымаўкі і выслоўі.

Пра закаранелага гультая, пра чалавека, што апусціўся, або някемлівага, тупагаловага там гавораць: «Мядзведзя можна навучыць, а такога не навучыш». Пра няўмеку: «Ён прыдатны толькі мядзведзяў вадзіць», «Студэнт старгонскай «акадэміі».

Поўныя іроніі і такія народныя прымаўкі: «Мядзведзь ды касалапы — абодва такія», «Пайшоўшы за мядзведзя, мядзведзем і парадуешся». Народная мудрасць павучае: «З лысым не біся, з мядзведзем не барукайся», «Мядзведзь, якога крануў жолуд, раве, а якога прыціснула бервяно,— маўчыць».

Ці вось «суцяшэнне» няўдачніку: «Мядзведзь здох, кідай дуды ў мех».

Такія прыказкі і прымаўкі нарадзіліся не без уплыву вядомай смаргонскай «акадэміі», у якой дрэсіравалі мядзведзяў. Смаргонскія «студэнты» ўвайшлі ў кола на-

родных забаў і відовішчаў не толькі жыхароў наваколля, Літвы і Беларусі, але і іншых краін.

Невялікі гарадок Смаргонь зрабіўся цікавым асяродкам своеасаблівага мастацтва. Мядзведжая «школа» ў Смаргоні скончыла сваё існаванне крыху больш ста гадоў назад. Выступленні яе выхаванцаў у той час, дый пазней, карысталіся шырокай папулярнасцю ў шматлікіх гледачоў, гэта была пэўная форма самабытнага вандроўнага тэатра.

Захавалася шмат расказаў пра смаргонскіх мядзведнікаў і іх вучняў. Сама Смаргонь — на паўночна-заходняй ускраіне Савецкай Беларусі, з Вільнюса да яе можна даехаць за гадзіну — мала чым адрознівалася ад іншых старых гарадкоў гэтага краю. Славілася Смаргонь яшчэ і сваімі абаранкамі. Сярод старажылаў горада яшчэ зрэдку можна і цяпер натрапіць на славутага майстра знакамітых смаргонскіх абаранкаў.

Смаргонь вядомая з XV ст. як уласнае мястэчка Зяновічаў, а з першай паловы XVII — князёў Радзівілаў. Каля 1590 года Крыштоф Дэспот-Зяновіч заснаваў у Смаргоні папяровую мануфактуру (паперню), якая выраблялa паперу добрых гатункаў. Ёю карыстаўся і вядомы віленскі друкар Лявон Мамоніч. Найбольш позні дакумент на смаргонскай паперы мае вадзяны знак 1632 года.

Але больш вядомая старая Смаргонь сваёй мядзведжай «акадэміяй». Было і ёсць на свеце многа розных акадэмій, але ўсе яны не выходзяць за межы звычайных. Усе, толькі не смаргонская. Пасля яе засталіся ў Віленскім краі легенды пра тое, як князь Караль Радзівіл раз'язджаў у карэце на мядзведзях[1]. А мядзведзі ж гэтыя былі выхаваны ў Смаргоні.

---

[1] Падобныя паданні запісаны і на Беларусі. Гл.: А. К. Сержпутоўскі. Казкі і апавяданні беларусаў з Слуцкага павета.— Мн.— 1926.— С. 145—148 («Князь Радзівіл Каханка»).

Кажуць, Смаргонь засталася ўвекавечанай дзякуючы сціплай школе мядзведзяў.

Давайце разгорнем некалькі старадаўніх пажоўклых старонак. Вось што пісаў вядомы асветнік жэмайтаў [1] Мацеюс Валаньчус:

«За Вільнюсам знаходзіцца гарадок пад назвай Смаргонь. Там злоўленых у хмызняку медзведзянят вучаць танцаваць і хадзіць на дзвюх лапах...

Мядзведнікі, прывёўшы сваіх жывёлін да гаспадара двара, з яго згоды ігралі на трубе і прымушалі мядзведзяў танцаваць, потым давалі ім у лапы шапкі, каб прасілі ў гаспадара грошай, зерня, хлеба і мяса. Усё гэта зрабіўшы, пераходзілі да іншага гаспадара...

Усе дзеці хадзілі за імі ўслед, а сабакі брахалі мацней адзін за аднаго, але да мядзведзяў набліжацца баяліся...

Сяляне лічылі мядзведнікаў жабракамі, якім кожны павінен даць міласціну. Мядзведнікі ж, наадварот, лічылі сябе панамі. Калі аднойчы сынок старэйшага мядзведніка ў нечым памыліўся, бацька ўголас сказаў: «Табе трэба араць і сеяць, а не панам быць, не мядзведзяў вадзіць».

Вучоныя мядзведзі са сваімі павадырамі з Смаргоні валачыліся не толькі па Літве, Беларусі, Польшчы і Расіі, але і па розных краінах Еўропы, і ўсюды яны весялілі прагных да пацех жыхароў гарадоў і вёсак.

Цяпер Смаргонь — багаты горад, як і ўсе сучасныя савецкія гарады. Цэнтр Смаргонскага раёна Гродзенскай вобласці.

Калі я прыехаў у Смаргонь, завітаў да пенсіянера Станіслава Гайдзевіча, які ведае шмат даўніх гісторый. Яго твар амаль цалкам схаваны пад густой барадой і кусцістымі брывамі. Пакуль мы сядзелі і гаманілі ў

---

[1] Жэмайты — літоўцы, жыхары Жэмайціі, заходняй часткі Літвы.

невялічкім садочку, яго пяцігадовы праўнук, не справіўшыся адчыніць фортку, адламаў драўляную закрутку. Стары Гайдзевіч, лопнуўшы яму па азадку, павучальна сказаў:

— Мядзведзь бярэ сілай, чалавек — розумам.

Калі пакрыўджанае хлапчаня скрывілася і гатовае было ўжо разраўціся, Гайдзевіч засмяяўся і, маргнуўшы яму, супакоіў:

— Не плач. Усё роўна грамчэй за мядзведзя не зараве́ш. Шляхціц і той не перакрычыць мядзведзя.

А трэба сказаць, што ў Смаргоні шляхта ніколі не была ў пашане. Слова гэтае выказвала пагарду. Асабліва непрывабная была дробная шляхта з яе пыхлівасцю і фанабэрыстасцю. З шляхты кпілі, яе ненавідзелі. Пра яе беларусы склалі едкія прымаўкі: «Ні пан, ні хам, а так сабе, чорт ведае што»; «Есць па-мужыцку, чхае папанску»; «Шляхціц ашмянскі: адна калоша ў халяве, другая апушчана». У большасці гэта была, як кажуць, скула на карку народа.

Дробная шляхта з'яўляецца аб'ектам насмешак і ў літоўскіх народных прымаўках: «У Ашмянскім павеце восем шляхціцаў аднаго казла на кірмаш вядуць».

Побач са шляхтай у наваколлі Смаргоні і Ашмянаў жыло нямала цыганоў. Яны жвава канкурыравалі са збяднелымі дробнымі шляхціцамі. Некаторыя зусім даведзеныя да галечы шляхціцы, выракшыся свайго гонару і велічы продкаў, закінуўшы на гарышчы свае заржавелыя мячы, прыкідваліся венграмі або цыганамі, самі вадзілі вучоных мядзведзяў, хадзілі па людзях і зараблялі такім спосабам сабе на хлеб і адзежу.

Смаргонскія цыганы моцна трымаліся сваіх звычаяў, даўніх традыцый. Мелі нават сваіх «каралёў», якіх прызначаў князь Радзівіл або іншыя вяльможныя паны. Апошні «кароль» смаргонскіх цыганоў, унук Якуба Тамарэвіча, таксама Якуб Тамарэвіч, памёр недзе ў канцы мінулага стагоддзя.

У Вялікім княстве Літоўскім колькасць цыганоў надта павялічылася з 1557 г., калі яны вымушаны былі пакінуць Польшчу. Спробы перавесці іх да аселага жыцця не далі станоўчых вынікаў. Таму Статут Вялікага княства Літоўскага 1588 г. дазволіў выселіць цыганоў з княства, а на выяўленых накладаць штраф 12 грошаў. Але і гэта засталося на паперы. І было вырашана паставіць над цыганамі старэйшын. Цыганам Жэмайціі кароль Аўгуст II прызначыў старэйшынам Яна Дзевалтоўскага. У 1780 г. Станіслаў Аўгуст прызначыў над цыганамі старэйшынам наваколля Эйшышкес[1] цыгана Якуба Знаміроўскага, а князь Караль Уладзіслаў Радзівіл у 1788 годзе «паставіў» цыгана Яна Марцінкевіча старэйшынам цыганоў мястэчка Мір, што ў Карэліцкім раёне. Займаючы гэтую пасаду, якая пашырала сваю ўладу на вялікую тэрыторыю, «цыганскі кароль» у Міры вельмі разбагацеў.

Летам цыганы вандравалі, а зімою жылі ў вёсках па некалькі сем'яў. Частка цыганоў усё-такі асела, найболей у гарадах і мястэчках, займаючыся рамяством, яны былі добрымі рымарамі, катлярамі, меднікамі, кавалямі. Славіліся таксама цыганы як добрыя музыкі і танцоры. З іх асяроддзя выйшлі і здольныя, заўзятыя мядзведнікі.

У сваім рамане аўтар не прэтэндаваў на дакументальную гістарычнасць. Захоплены той цікавай эпохай, жыццём і побытам тагачасных людзей розных сацыяльных пластоў, я імкнуўся захаваць каларыт тых часоў, уваскрэсіць некаторыя падзеі і перыпетыі, аддаленыя ад нас на два стагоддзі. Як мне гэта ўдалося, няхай скажа беларускі чытач, прысуду якога я з хваляваннем чакаю.

*Вітаўтас Місявічус*

---

[1] Цяперашні Эйшышскі раён Літоўскай ССР мяжуе з Воранаўскім раёнам Гродзенскай вобласці БССР.

# ТВІРБУТАС ІДЗЕ Ў НЯСВІЖ

Раман вядомага літоўскага празаіка Вітаўтаса Місявічуса «Мядзведжая акадэмія» я чытаў з такой жа самай асалодай, што і гістарычныя аповесці Уладзіміра Караткевіча — скажам, яго «Цыганскага караля». І прычына тут не столькі ў тым, што падзеі абодвух твораў адбываюцца прыкладна ў адзін час — пад канец XVIII стагоддзя, што з іх старонак паўстаюць постаці роднасныя, тыпалагічна блізкія. Усё гэта акалічнасці хутчэй вонкавыя. Падабенства паміж Вітаўтасам Місявічусам і Уладзімірам Караткевічам мае куды больш істотны, унутраны характар. Абодвух пісьменнікаў збліжае аднолькавы спосаб узнаўлення гісторыі: яны не прэтэндуюць на строгую дакументальнасць, а перадаюць дух мінулых часоў. Побач з асобамі рэальнымі тут дзейнічаюць асобы прыдуманыя, але прыдуманыя так, што іх учынкі не супярэчаць гістарычнай праўдзе. Мы не ведаем, ці існавалі рэальныя Габрыэлюс Твірбутас і Міхал Яноўскі (хоць аўтары ў пасляслоўях і запэўніваюць, што гэта сапраўды так), аднак верым, што маглі існаваць, маглі паводзіць сябе якраз так, як расказана ў «Мядзведжай акадэміі» і «Цыганскім каралі». Верым таму, што іх галоўныя героі паказаны на гістарычна дакладным фоне, што іх акружаюць тагачасныя рэаліі — яркія, каларытныя.

Наступная прычына: у абодвух пісьменнікаў — падобны тып мастацкага мыслення. Не ведаю, ці гэта міжвольны вынік, ці, можа, свядомая стылізацыя «пад тую эпоху», але і «Мядзведжая акадэмія» і «Цыганскі кароль» напісаны блізка да тагачаснага стылю барока (прыгадаем, што ў Беларусі і Літве ён доўжыўся, асабліва ў спосабе штодзённага жыцця, аж да васьмідзесятых гадоў XVIII стагоддзя). У абодвух творах мы ўвесь час сутыкаемся з барочнай па-

радаксальнасцю: камічнае цесна пераплятаецца з трагіч-
ным, рэальнае — з неверагодным. Праўдзівыя апісанні по-
быту суседнічаюць з легендамі.

І яшчэ адна агульнасць: раман В. Місявічуса, як і гіс-
тарычныя творы У. Караткевіча, напісаны ў рэчышчы най-
лепшых традыцый еўрапейскай (у тым ліку — барочнай)
прыгодніцкай прозы. Тут і незвычайныя здарэнні, і сямей-
ныя таямніцы, і зусім нечаканая развязка. На пешым шля-
ху з роднага літоўскага фальварка Варніне да беларускага
Нясвіжа, куды ў пошуках кавалка хлеба імкнуліся тады
многія збяднелыя юнакі, галоўнага героя рамана ўсюды
(у Смаргоні, мястэчковай карчме, на могілках) падпільноў-
ваюць нечаканыя прыгоды, незвычайныя людзі — «вечны
вандроўнік» Іосіф Агасфер, бакалаўр рыторыкі Данііл, па-
лонены ў клетцы цыган Квоза Тамарэвіч, зборшчык ахвя-
раванняў Рафаіл... Кожнаму з іх дадзена трапная, дасціп-
ная характарыстыка — то паблажліва-іранічная, то сар-
кастычная. Усе яны — напалову з анекдота, з дасціпнай
фацэціі.

Неадназначны атрымаўся ў рамане і Габрыэлюс Твір-
бутас. Дзіця свайго супярэчлівага часу, выхадзец са збяд-
нелай шляхты, якая матэрыяльна мала рознілася ад пры-
гоннага сялянства (хіба што вазіла гной з шабляй пры боку
і жала ў рукавічках), ён увабраў у сябе і дабрачыннасці, і
заганы свайго саслоўя. З аднаго боку, ён імкнецца да ведаў,
да лепшага жыцця, выступае за справядлівасць (скажам,
з рызыкай для сябе выпускае з клеткі цыгана), з другога —
лёгка ідзе на кампрамісы, са шляхецкаю пыхаю пазірае
на навакольны свет. Яго не вельмі турбуюць пакуты пры-
гоннага сялянства. Гэта яшчэ не асветнік, не змагар з са-
маўладствам і прыгонніцтвам, якія з'явіліся ў Беларусі і
Літве ў канцы XVIII стагоддзя. Аднак у патэнцыі можа
стаць ім... Трэба падкрэсліць, што галоўны герой «Мядз-
веджай акадэміі», тое асяроддзе, з якога ён выйшаў, пака-
заны без ідэалізацыі, гістарычна дакладна. Як і нясвіжскі
магнат Кароль Радзівіл па мянушцы Пане Каханку — жорст-

кі прыгоннік, чалавек разбэшчаны, цяжкі на руку. Без ніякіх згрызотаў сумлення ён загадвае павесіць сабакара, які разладзіў вытанчаную панскую гульню, збіць мужыка, што асмеліўся выратаваць князя з вады, аддаць пад прымусам замуж дзяўчыну. Менавіта такім ведаем мы Пана Каханка па гістарычных дакументах.

Застаецца сказаць яшчэ колькі слоў пра самога аўтара рамана і яго перакладчыка. Вітаўтас Альбертас Місявічус нарадзіўся ў 1924 годзе ў літоўскім гарадку Янішкеліс. Працаваў у рэдакцыях газет і часопісаў. Напісаў нямала нарысаў і апавяданняў пра сацыялістычную перабудову ў вёсцы, барацьбу з фашысцкімі захопнікамі. Вялікую папулярнасць маюць яго дэтэктыўна-прыгодніцкія аповесці «Грэшныя анёлы», «Змова вампіраў», «У царстве ценяў», «Магіла крыжака», «Ноч была цёмная» (апошнія дзве нядаўна перакладзены на рускую мову). А за празаічны зборнік «Жывыя легенды» пісьменнік атрымаў прэмію імя В. Міцкявічуса-Капсукаса. У апошні час В. Місявічус усё часцей звяртаецца да гістарычнага мінулага, у многім агульнага і ў літоўцаў і ў беларусаў. Апрача рамана «Мядзведжая акадэмія» беларуская тэматыка прысутнічае ў яго вострасюжэтнай аповесці «Чычынскас», у прыгодніцкім рамане «Юны язычнік», прысвечаным барацьбе з крыжакамі. Як прызнае сам пісьменнік, цікавасць да беларусаў з'явілася ў яго пад уплывам жонкі, фалькларысткі Ванды Місявічэне, якая даўно і плённа даследуе агульнасць беларускіх і літоўскіх працоўных песень.

А яшчэ Вітаўтас Місявічус — прызнаны гумарыст. Яго сатырычныя творы вядомыя і беларускаму чытачу — яны ўвайшлі ў зборнік «Літоўскі гумар» (Мінск, 1966), у іншыя выданні.

Што ж датычыцца перакладу, то ён зроблены вядомым беларускім этнографам, фалькларыстам і гісторыкам М. Я. Грынблатам (1905—1983). Гэта аўтар або сааўтар многіх прац пра матэрыяльную і духоўную культуру нашага народа. Прафесійным перакладчыкам М. Я. Грынблат не

быў. Аднак ён добра ведаў літоўскую мову, тагачасны побыт і таму змог дакладна перадаць канкрэтныя рэаліі. «Мядзведжая акадэмія» пераўвасоблена на беларускую мову на добрым мастацкім узроўні, хоць і не без прыватных выдаткаў.

Усім тым, хто возьме ў рукі «Мядзведжую акадэмію», хочацца пажадаць: прыемнага, асалоднага чытання!

*Адам Мальдзіс*

## ЗМЕСТ

**Місявічус В.**

М 65 Мядзведжая акадэмія: Раман/Пер. з літоўс. М. Грынблата; Аўт. паслясл. А. Мальдзіс.— Мн.: Маст. літ., 1988 — 262 с.

ISBN 5-340-00143-1

Мисявичюс В. Медвежья академия. Роман.

Раман «Мядзведжая акадэмія» вядомага літоўскага пісьменніка В. Місявічуса (нар. у 1924 г.) выклікае асаблівую цікавасць сярод беларускіх чытачоў. Падзеі адбываюцца на Беларусі ў XVIII стагоддзі (Смаргонь, Нясвіж). Раман напісаны ў стылі традыцый еўрапейскай прыгодніцкай прозы — тут і неверагодныя падзеі, і сямейныя тайны, і зусім нечаканая развязка.

М $\frac{4702360200-091}{М\ 302(03)-88}$ 143—88

ББК 84 Ли 7

Литературно-художественное издание

МИСЯВИЧЮС ВИТАУТАС
Альбертас-Витаутас Казевич Мисявичюс
**Медвежья академия**
Роман

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке



Літаратурна-мастацкае выданне

МІСЯВІЧУС ВІТАЎТАС
Альбертас-Вітаўтас Казевіч Місявічус
**Мядзведжая акадэмія**
Раман

Рэдактар *В. І. Рабкевіч*. Мастак *Г. Г. Малышаў*. Мастацкі рэдактар *А. І. Цароў*. Тэхнічны рэдактар *А. Б. Барадзіна*. Карэктар *Л. Т. Калюжная*.

ІБ № 2849

Здадзена ў набор 26.08.87. Падп. да друку 14.04.88. Фармат $70 \times 100^1/_{32}$. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 10,64. Ум. фарб.-адб. 10,64. Ул.-выд. арк. 11,11. Тыраж 12 000 экз. Зак. 757. Цана 95 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.

